


# XX ГОД ЛЕНІНСКАГА КОМСАМОЛУ

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

**10**

1938

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ



ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ДЗЕСЯТАЯ*



МЕНСК—1938



***В. І. Ленін гутарыць з І. В. Сталіным у кватэры рабочага ў Петраградзе (1917 г.)***

*Малюнак мастака П. Васільева.* Цэнтральны музей В. І. Леніна.


Помните, любите, изучайте Ильича, нашего учителя, нашего вождя.

Боритесь и побеждайте врагов, внутренних и внешних, — по Ильичу.

Стройте новую жизнь, новый быт, новую культуру — по Ильичу.

Никогда не отказывайтесь от малого в работе, ибо из малого строится великое, — в этом один из важных заветов Ильича.

И. Сталин

*Факсіміле пісьма тав.* **І. В.** *Сталіна, змешчанага ў* „**Рабочей газете**“ *ў гадавіну смерці* **В. І.** *Леніна* **(1925 г.)**.

Цэнтральны музей РСЧА.

# ЛЕНІНСКА-СТАЛІНСКАМУ КОМСАМОЛУ 20 ГОД

Вернаму сыну партыі Леніна—Сталіна—ленінска-сталінскаму комсамолу 20 год!

Дваццаць год назад—29 кастрычніка 1918 года ў Маскве сабраўся першы з'езд рэвалюцыйнай рабочай моладзі, які аформіў стварэнне Расійскага Комуністычнага саюза моладзі. Лепшыя прадстаўнікі мужнага маладога пакалення, якое па закліку большэвіцкай партыі змагалася на франтах грамадзянскай вайны і гаспадарчага будаўніцтва—маладыя пролетарыі Масквы, Піцера, прадстаўнікі франтоў і губерній рэспублікі сабраліся на свой першы з'езд.

Большэвіцкая партыя, Ленін і Сталін заўсёды ўдзялялі выключную ўвагу рэвалюцыйнаму выхаванню працоўнай моладзі, згуртаванню яе вакол партыі.

Надзвычай важным дакументам, які адыграў вялікую ролю ў арганізацыі комсамола, з'явіліся рашэнні VI з'езда ВКП(б). З'езд палічыў неабходным, каб „партыйныя арганізацыі на мясцах звярнулі самую сур'ёзную ўвагу на справу арганізацыі моладзі"... („ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. І-я, стар. 268). Гэта было напярэдадні рашаючых баёў за соцыялістычную рэвалюцыю. І ў дні вялікага Кастрычніка, у дні барацьбы за дыктатуру пролетарыята моладзь папоўніла рады Чырвонай Арміі, пайшла за большэвіцкай партыяй.

Дэлегаты першага з'езда прадстаўлялі звыш 22 тысяч чалавек арганізаванай моладзі. А пасля з'езда прыток у комсамол узмацніўся з вялікай сілай. Працоўная моладзь ішла ў рады комуністычнага саюза, каб пад сцягам партыі большэвікоў абараняць родную зямлю рэспублікі, змагацца за квітнеючую будучыню—за соцыялізм.

1919 год... Белагвардзейскія банды і полчышчы інтэрвентаў сціскалі смяротным кальцом нашу радзіму. І, па закліку партыі, свае лепшыя сілы паслаў комсамол супроць Калчака, на ўсходні фронт. Гэта была першая ўсерасійская мабілізацыя комсамольцаў, яна дала фронту тры тысячы байцоў. Дзе найбольш за ўсё наспявала небяспека, туды ішлі атрады мужных байцоў рэвалюцыі—атрады комсамольцаў. 10 тысяч герояў, байцоў паслаў комсамол на паўднёвы фронт па другой усерасійскай мабілізацыі і 3 тысячы на заходні фронт, супроць банд Пілсудскага—па трэцяй мабілізацыі.

Дзе, на якіх толькі франтах ні біліся комсамольцы? Памятае Урал і Сібір, памятае Дон і Украіна, памятае Поўнач і Беларусь, як гераічна змагаліся байцы-комсамольцы. Колькі выдатнейшых

эпізодаў упісалі клінкамі, штыхамі—зброяй і мужнасцю—маладыя байцы ў эпапею грамадзянскай вайны.

Слава, бессмяротная слава іх гераізму!

За выключныя баявыя заслугі на франтах грамадзянскай вайны ленінска-сталінскі комсамол узнагароджан ордэнам Чырвонага Сцягу.

На франтах, у няспынных баях, мужнеў і рос комсамол. Да свайго III з'езда (кастрычнік 1920 г.) ён аб'яднаў ужо 400 тысяч маладых сыноў і дачок нашага народа. Новыя задачы паўсталі перад комсамолам. Іх з выключнай яснасцю акрэсліў вялікі Ленін з трыбуны III з'езда комсамола:

„Задачы моладзі наогул і саюза комуністычнай моладзі і ўсякіх іншых арганізацый у прыватнасці, можна было-б выразіць адным словам: задача заключаецца ў тым, каб вучыцца". (В. І. Ленін, І. В. Сталін „Аб моладзі", стар. 133—134. Партвыдат. 1936 г.)

Уладзімір Ільіч указаў:

„Быць членамі саюза моладзі значыць весці справу так, каб аддаваць сваю работу, свае сілы на агульную справу. Вось у гэтым заключаецца комуністычнае выхаванне. Толькі ў такой рабоце ператвараецца малады чалавек або дзяўчына ў сапраўднага комуніста"... (В. І. Ленін, І. В. Сталін, „Аб моладзі", стар. 148).

Пад кіраўніцтвам партыі рашуча змагаючыся з варожымі контррэволюцыйнымі элементамі, ленінскі комсамол пайшоў на новы фронт,—на фронт індустрыялізацыі краіны, гаспадарчага будаўніцтва.

V з'езд комсамола ў 1922 годзе прыняў надзвычай важныя для арганізацыі рашэнні аб комуністычным выхаванні моладзі ва ўмовах новай эканамічнай палітыкі, аб рабоце ў вёсцы, аб асвеце рабочай моладзі. На гэтым з'ездзе была аформлена арганізацыя юных піонераў і прынята шэфства комсамола над Ваенна-Марскім флотам. Уладзімір Ільіч пісаў з'езду:

„Жадаю работам вашага V з'езда ўсякага поспеху. Упэўнен, што моладзь здолее развівацца так паспяхова, каб к часу наспявання наступнага моманту сусветнай рэволюцыі аказацца ўпаўне на вышыні задачы". (В. І. Ленін, І. В. Сталін „Аб моладзі", стар. 159).

І комсамол верна следваў заветам Ільіча, з'яўляючыся надзейным памочнікам партыі, яе рэзервам і праваднікам комуністычнага ўплыву на ўсю моладзь. Партыя разбіла ўсе спробы подлай трацкісцка-зіноўеўскай зграі, якая імкнулася адарваць комсамол ад партыі, супроцьпаставіць комсамол партыі.

Партыя, вялікі Сталін клапатліва выхоўвалі і загартоўвалі ленінскі комсамол.

У 1928 годзе комсамолу споўнілася дзесяць год. Маладая комсамольская гвардыя налічвала ўжо ў сваіх радах 1960 тысяч членаў. У прывітанні комсамолу таварыш Сталін пісаў:

„Дзесяткі і сотні тысяч лепшых прадстаўнікоў маладога рабоча-сялянскага пакалення выхаваліся ў радах комсамола, атрымалі рэволюцыйную загартоўку і ўліліся ў нашу партыю, у нашы советы, у нашы профсаюзы, у нашу Чырвоную Армію, у наш

Чырвоны флот, у нашу кааперацыю, у нашы культурныя арганізацыі—на змену старой гвардыі бальшэвікоў. Комсамолу ўдавалася гэта цяжкая задача таму, што ён вёў сваю работу пад кіраўніцтвам партыі"... (І. Сталін „Аб комсамоле", стар. 151—152).

У гэтым-жа 1928 годзе таварыш Сталін, выступаючы на VIII з'ездзе комсамола, паставіў новую адказную задачу:

„Авалодаць навукай, выкаваць новыя кадры бальшэвікоў—спецыялістаў ва ўсіх галінах ведаў, вучыцца, вучыцца, вучыцца самым упартым чынам—такая цяпер задача. Паход рэволюцыйнай моладзі ў навуку—вось што нам патрэбна цяпер, таварышы". (В. І. Ленін, І. В. Сталін, „Аб моладзі", стар. 203).

Вырашаючы гэтую пачэсную задачу, ленінска-сталінскі комсамол уступіў у першую пяцігодку.

Партыя разгарнула шырокае наступленне супроць капіталістычных элементаў у горадзе і вёсцы, перамагаючы жорсткае супраціўленне класавага ворага, выкрываючы і громячы подлых здраднікаў—трацкістаў, правых рэстаўратараў капіталізма, стаўшых бандытамі, шкоднікамі, дыверсантамі, шпіёнамі замежных разведак.

Пад кіраўніцтвам партыі комсамол аддае ўсю энергію, свой запал і сілу ажыццяўленню плана першай сталінскай пяцігодкі. Комсамолу належыць пачын соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, якія забяспечылі бліскучае выкананне плана першай пяцігодкі.

За гэтыя вялікія заслугі ў соцыялістычным будаўніцтве савецкі ўрад узнагародзіў комсамол ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцягу.

Не менш яркімі старонкамі ўзбагаціў сваю гісторыю комсамол і ў наступныя гады. Соцыялістычнае спаборніцтва ўзыйшло на новы, вышэйшы этап,—нарадзіўся стаханаўскі рух. І комсамол заняў у ім, у стаханаўскім руху, пачэснае месца. Комсамол з поспехам змагаўся за выкананне плана другой пяцігодкі і з вялікім натхненнем працуе зараз на соцыялістычных франтах трэцяй сталінскай пяцігодкі.

Ленінска-сталінскі комсамол, вядучы за сабой усю савецкую моладзь, кіраваўся і кіруецца ўказаннямі таварыша Сталіна, які паставіў перад комсамолам асноўнай задачай: „вучыцца і яшчэ раз вучыцца ленінізму", авалодаць бальшэвізмам.

Комсамол стаў шматмільённым. Ужо ў 1936 годзе ў яго радах было каля 4 мільёнаў членаў. Надзвычай вялікую ролю ў гісторыі комсамола адыграў X з'езд (1936 год), які прыняў новы статут і праграму ВЛКСМ.

Праграма з выключнай паўнатой акрэсліла сутнасць і задачы комсамола.

„Усесаюзны Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі з'яўляецца масавай беспартыйнай арганізацыяй, якая прымыкае да ВКП(б), яднае ў сваіх радах шырокія слаі перадавой, палітычна граматнай працоўнай моладзі горада і вёскі. ВЛКСМ мае сваёй задачай дапамогу комуністычнай партыі (бальшэвікоў) у справе выхавання моладзі і дзяцей у духу комунізма. Спачуваючы праграме ВКП(б), ВЛКСМ дапамагае партыі бальшэвікоў і савецкаму ўраду ў выка-

нанні вялікай гістарычнай задачы—будаўніцтва комуністычнага грамадства.

ВЛКСМ з'яўляецца памочнікам ВКП(б) і яе рэзервам". („Праграма і статут ВЛКСМ", стар. 19—20).

Ленінска-сталінскі комсамол прайшоў слаўны, гераічны XX-гадовы шлях. Колькі выдатнейшых падзей, надзвычайных перамог соцыялізма звязана з імем комсамола. Радзіма па праву ганарыцца сваімі маладымі сынамі і дачкамі. Гэта яны—прадстаўнікі нашай сталінскай моладзі, слаўнага комсамольскага племені—пачынальнікі стаханаўскага руху, героі соцыялістычнай працы: А. Стаханаў, М. Дземчанка, П. Крыванос, Д. Вінаградава... У радах комсамола выраслі і выдатнейшыя прадстаўнікі культуры і многія Героі Савецкага Саюза і сотні ордэнаносцаў... Яны—на сушы, на вадзе, у паветры гераізмам і мужнасцю, майстэрствам і талентам услаўляюць веліч сваёй маці-радзімы.

Комсамольцы!.. Яны збудавалі ў суровай тайзе горад з імем гордым—Комсамольск. Яны прабівалі тунелі метро ў Маскве—збудавалі лепшае ў свеце метро. У Данбасе і на Урале, у Арктыцы і на Далёкім Усходзе гарыць энтузіязм, кіпіць творчая праца комсамольцаў. Яна—прагная да аволадання ведамі моладзь—запаўняе аудыторыі навучальных установ. Лепшыя прадстаўнікі нашага маладога пакалення—дзяржаўныя дзеячы. У Вярхоўны Совет СССР паслаў савецкі народ 284 маладых дэпутатаў.

Яны—комсамольцы—фізкультурнікі і парашутысты, варашылаўскія стралкі і выдатныя коннікі. Нездарма комсамол—шэф Ваенна-Марскога і Ваенна-Паветранага флота.

Маладыя патрыёты радзімы, як і ўвесь савецкі народ, гатовы стаць на абарону свяшчэннай савецкай зямлі.

Мужнасць і сілу, майстэрства ў авалоданні зброяй, і адданасць радзіме—выдатныя якасці нашай моладзі—добра ведаюць ужо і ворагі. Калі самурайскія банды паспрабавалі ўторгнуцца на савецкую зямлю ў раёне возера Хасан, маладыя байцы Далёкаўсходняга чырвонасцяжнага фронта пайшлі ў атаку з баявым воклічам: „За таварыша Сталіна! За маці-радзіму!"...— далі суровы сакрушальны адпор фашысцкім налётчыкам. І сто тысяч маладых патрыётаў радзімы ў тыя дні падалі заявы аб добраахвотным залічэнні іх у рады Чырвонай Арміі.

Вось яна—наша моладзь, у авангардзе якой ідзе ленінска-сталінскі комсамол.

Пад кіраўніцтвам партыі ленінска-сталінскі комсамол Савецкай Беларусі, як і ўвесь ВЛКСМ, правёўшы велізарную работу па ачышчэнню сваіх радоў ад наймітаў фашызма—трацкісцка-бухарынскіх, нацыянал-фашысцкіх шпіёнаў і дыверсантаў, выкрываючы ўсякае варожае ахвосце, падыходзіць да выдатнага XX-гадовага юбілея, узбагачаны вялікім вопытам барацьбы за соцыялізм, згуртаваны вакол партыі Леніна—Сталіна.

XX-годдзе ленінска-сталінскага комсамола—радаснае, вялікае свята ўсяго нашага савецкага народа. Сваімі маладымі сынамі і дачкамі ганарыцца маці-радзіма. Моладзь, якая не ведае змрочных дзён мінулага, вырасшую пад сонцам соцыялістычнага росквіту,

шчаслівую сталінскую моладзь арганізуе, выхоўвае ў духу комунізма, згуртоўвае вакол партыі ленінска-сталінскі комсамол.

Дух інтэрнацыяналізма заўжды лунае над комсамолам. І ў дні свайго юбілея ленінска-сталінскі комсамол выказвае брацкую салідарнасць гераічнаму комсамолу капіталістычных краін Захаду і Усходу.

У глыбокім падполлі змагаецца комсамол фашысцкіх краін—Германіі, Польшчы, Італіі... Тысячы герояў комсамольцаў аддалі жыццё, пакутуюць у турмах за справу рэволюцыі. Але агонь барацьбы не згасае ні на момант.

Беспрацоўе, галеча, голад, страшэнная эксплаатацыя—вось безрадаснае сёння моладзі фашысцкіх і ўсіх капіталістычных краін.

У літаратуры страшная праўда паднявольнага, бяспраўнага, галоднага існавання моладзі капіталістычных краін, жудасная праўда аб пакутах і адчаю нараджае такія творы, як „Няшчасце быць маладым“, „Калі сціскаюцца кулакі“... Самі назвы гэтых кніг Куцюр‘е, Беланжэ раскрываюць іх тэмы і змест.

А перспектыва, якую адкрывае перад моладдзю фашызм—адна: смерць ад голада, ці смерць у гарніле новай сусветнай, захопніцкай вайны.

Заліта крывёй зямля Іспаніі. Дымяцца руіны гарадоў і сёлаў Кітая. Германія, Італія, Японія чалавечай крывёю распалілі пажар новай вайны. Фашысцкія акулы прагнуць большага, шукаюць новых афяр. Фашызм узняў сякеру над чэхаславацкім народам, топча зямлю чэхаславацкай рэспублікі.

І на перадавых пазіцыях барацьбы супроць фашызма, за мір, за дэмакратыю, у радах адзінага народнага фронта—зарубежны комсамол, рэволюцыйная моладзь. Комсамол адкрывае новую перспектыву прыгнечанай абяздоленай моладзі—перспектыву барацьбы за вызваленне з-пад фашысцкага іга, барацьбы за шчасце працоўных. У першых радах зарубежнага комсамола—гераічны комсамол Іспаніі, комсамольцы—мужныя сыны вялікага кітайскага народа.

Расце і мужнее брацкі зарубежны комсамол—надзейны памочнік компартый, расце яго сіла і воля да барацьбы.

І адзіная, сапраўдная апора ўсіх народаў у барацьбе за мір, супроць фашызма—Савецкі Саюз, бацькаўшчына сусветнага пролетарыята. Таму з такой увагай і сімпатыяй сочыць усё перадавое прагрэсіўнае чалавецтва за нашым соцыялістычным будаўніцтвам. Таму з такой увагай вучыцца зарубежны комсамол на прыкладах барацьбы, на гісторыі ленінска-сталінскага комсамола.

Наша моладзь, наш комсамол выклікае захапленне лепшых прадстаўнікоў культуры Захада.

Ромэн Ралан перад усім светам заявіў: „Моладзь СССР—гэта першы на зямлі расток агульна-чалавечага грамадства, якое не ведае класавага падзелу, расавай нянавісці, нацыянальнай варожасці“.

Леон Фейхтвангер, наведаўшы Савецкі Саюз, усклікнуў: „Так, гэта моладзь распаўсюджвае вакол сябе запаляючае пачуццё сілы і шчасця. Гледзячы на яе, разумееш веру савецкіх грамадзян у сваё будучае“.

Гісторыя маладога пакалення заўсёды была адной з асноўных тэм літаратуры. Лепшыя майстры літаратуры ва ўсе часы аддавалі свой талент стварэнню вобразаў прадстаўнікоў маладога пакалення сваёй эпохі.

І пачэснейшы—пярвейшы абавязак совецкага пісьменніка стварыць ярчайшыя творы пра нашу моладзь, пра ленінска-сталінскі комсамол. Уменню выканаць гэты абавязак перад радзімай трэба вучыцца ў мужнага большэвіка, вырасшага ў комсамоле, любімейшага пісьменніка совецкай моладзі—Нікалая Остроўскага.

Творы пра нашу сучаснасць, пра наш гераічны совецкі народ, пра слаўную моладзь, пра комсамольскае племя, пра радзіму нашу, што квітнее пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі, павінны быць напісаны ў самы бліжэйшы час. Гэтаму совецкія пісьменнікі павінны аддаць усе сілы, увесь талент і майстэрства.

Недаравальна, што ў літаратуры пагранічнай Совецкай Беларусі ёсць толькі адзін твор пра пагранічнікаў—„Большэвікі граніц" Шапавалава.

Пра мужных пагранічнікаў, пра нашу Чырвоную Армію, пра абаронную магутнасць радзімы, чытач патрабуе праўдзівых натхняючых твораў.

Гэта—задача і комсамольцаў пісьменнікаў.

З кожным годам узрастае ядро комсамольцаў пісьменнікаў у нашай літаратуры. Плённа працуюць комсамольцы паэты—Куляшоў, Панчанка, Агняцвет, Калачынскі, Кандрацеля... Рады маладых пісьменнікаў папаўняюць новыя сілы—Бачыла, Нягай, Рагуцкі і інш.

Гэту маладую комсамольскую змену трэба клапатліва расціць і выхоўваць.

Комсамольцы пісьменнікі ў падарунак маці-радзіме да слаўнага XX-гадовага юбілея напісалі новыя творы—калектыўную паэму пра комсамол, падрыхтавалі зборнік, прысвечаны XX-годдзю ВЛКСМ.

XX-гадовы юбілей ленінска-сталінскага комсамола наш совецкі народ святкуе напярэдадні XXI гадавіны вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Пераможна завяршаецца дваццаць першы год соцыялістычнага будаўніцтва—год трэцяй сталінскай пяцігодкі, які ўпісаў новыя перамогі соцыялізма ў гісторыю нашай радзімы.

Дваццаць першую гадавіну вялікага Кастрычніка совецкі народ сустракае магутнай згуртаванасцю вакол партыі Леніна—Сталіна. Пад кіраўніцтвам партыі разгромлены асіныя гнёзды наймітаў фашызма, трацкісцка-бухарынскія нацыянал-фашысцкія банды шпіёнаў і дыверсантаў.

Дваццаць першую гадавіну вялікага Кастрычніка радзіма сустракае пад ясным сонцам Сталінскай Канстытуцыі—сустракае стаханаўскай працай, росквітам культуры.

Дваццаць першую гадавіну вялікага Кастрычніка Совецкі Саюз сустракае ўмацаваннем сваёй абароннай гатоўнасці. Падпальшчыкі вайны ні на хвіліну не спыняюць сваёй крывавай справы і совецкі арод заўсёды памятае ўказанне таварыша Сталіна:

„Трэба ўсямерна ўзмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную армію, Чырвоны флот, Чырвоную авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая „выпадковасць“ і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку“.

У дні слаўнага юбілея—XX-годдзя ленінска-сталінскага камсамола, у дні XXI гадавіны вялікага Кастрычніка, наша шчаслівая сталінская моладзь, увесь наш гераічны савецкі народ перад усім светам дэманструе сваю веліч і непераможнасць, адданасць партыі Леніна—Сталіна, вялікаму правадыру народаў—таварышу Сталіну, справе комунізма.

# ЧЫРВОНАСЦЯЖНЫ КОМСАМОЛ

(Паэма)

I.

На прадпрыемствах, на франтах,
Па дымных хатах бедных сёл—
Твой пачынаўся слаўны шлях,
Чырвонасцяжны комсамол!
Ты помніш гоман барыкад,
Страі рабочых юнакоў...
Стаяў чырвоны Петраград
Са ўсіх абкружаны бакоў
Варожай сілай.
Помніш, той,
На смерць задуманы паход...
Кастрычніку быў блізка год.
За роднай партыяй сваёй
Тады устаў на бой народ
Супроць паноў.
Там голас твой
Нязломны вырас у баях.
Няхай жыве твой слаўны шлях,
Чырвонасцяжны комсамол!
Хай песня мужная вакол
Разносіць славу па палях,
Па акіянах, па марах,
Па буйных, гулкіх гарадах—
Як ты ўзнімаўся, узрастаў,
І ў бой за партыяй хадзіў,
Як мудрасць Леніна пазнаў,
Як думкай Сталіна расцвіў,
Як словы Леніна ты нёс
У сэрцы полымным сваім,
І словам Сталіна узрос
Ты непахісным, баявым,
Як для радзімы маладой
Бранёю стаў ты і красой,
Як нетры выведаў зямлі,
Павёў праз хвалі караблі,

Як пакарау вяршыні гор,
Як пільна ты нясеш дазор,
І ўвысь узняўся, што арол—
Чырвонасцяжны комсамол!

II

Па стэпах зялёных ідуць эшалоны—
Там рокат шрапнельны свінца,
Распісаны фарбай старыя вагоны
Рукой комсамольца-байца.

Ён рос ля задымленых сцен Петраграда,
Дзе трубы ўздымае завод,
Ён зведаў жыццё баявога Кранштадта
І хвалі успененых вод;

Спаткаў рэволюцыю ён на лінкоры—
Было яму дваццаць гадоў.
Валы узнімала Балтыцкае мора
Пад самую чырвань сцягоў.

Калі пад Царыцын, ахутаны дымам,
Зваў моладзь вялікі Ільіч,—
Ішоў комсамолец пад сцяг твой, радзіма,
На ленінска-сталінскі кліч.

Ідуць эшалоны па стэпах зялёных,
Калышацца травамі дол,
Распісаны фарбай старыя вагоны:
„На фронт, малады комсамол!"

Ідуць комсамольцы, рабочая моладзь
З кварталаў фабрычных Масквы,
З лясоў беларускіх, і вёсак, і сёлаў,
На поўдзень, на фронт баявы.

Там Сталін мацуе рэспублікі сілы,
Царыцын—Советаў аплот,
Там слесар луганскі Клімент Варашылаў
Палкі падымае ў паход.

І едзе баец петраградскі чырвоны
На грозны царыцынскі фронт.
Запоўнены цесна платформы, вагоны...
Страчай комсамольцаў, народ!

Шумяць кавылі, і цвітуць медуніцы
Ля чорных яроў, бліндажэй.
Грымяць кананады. І хлебны Царыцын
Склікае на штурмы людзей.

У самай суровай смяртэльнай атацы,
Як пыл па-над стэпам знікаў,
Не стала байца, камандзіра—кранштадца,
Любімца, сябра, мастака.

Грукочуць вагоны ў яго размалёўцы.
Паслаўся высокі кавыль.
На помсту на ворага йдуць комсамольцы
Баку, Петраграда, Масквы.

Ты з партыяй быў—і ў глыбокім падполлі,
У бойках—і ў спеку, і ў золь.
Суровыя песні пяюць аб Трыполлі,
Там слава твая, комсамол.

Бясстрашных герояў сваіх памятае
Царыцын, Уфа і Арол.
Там нашы дзяўчаты шагалі франтамі
Там слава твая, комсамол.

У вяках праграмелі баі Перакопа,
Там ясныя ўзняў ты сцягі,
З пуцёўкамі трэцяга з'езда ў акопы
Ішоў, комсамол дарагі.

Табе комунізма свяцілі зарніцы
І Ленін пуказваў шляхі,
З наказам
вучыцца,
вучыцца,
вучыцца
Ішоў, комсамол дарагі.

Радзіма!
Уславім бясстрашных герояў,
Што палі ў суровым баю.
Жыццё аддавалі яны дарагое
За родную нашу зямлю;

За тое, каб густа рунелі усходы,
Заводы, мартэны раслі,
За тое, каб шчасна спявалі народы,
Пад сталінскім сонцам жылі.

Франты адгрымелі.
Разгромлены вораг.
Па стэпах вятры шалясцяць.
Высока і горда узвіўся ў прасторах
Наш ленінска-сталінскі сцяг.

III

Памёр Ільіч. Мы ўсе сыйшліся
Каля труны яго ў той час,
І словы Сталіна ўзняліся
Магутнай клятвай сярод нас.

Прад схіленым жалобным сцягам
Ён клятву даў за ўвесь народ—
Наперад крочыць верным шляхам
І не баяцца перашкод.

— Клянемся!—грознай клятвы слова
Ішло на шахту, на завод;
— Клянемся!—паўтараў сурова
За партыяй увесь народ.

— Клянемся!—цвёрдай клятвы слова
Ішло да заінеўшых сёл;
— Клянемся!—паўтараў сурова
З народам разам комсамол.

А мы,—што ў нашы дні ўступілі
У комсамольскія рады,—
З чырвоным гальштукам хадзілі
У тыя мужныя гады.

Мы ў кажушках ішлі снягамі,
Быў перад намі белы дол—
І нашы маткі разам з намі
Ішлі да нашых сумных школ.

І клятва нас да слёз праймала,
І мы ёй вернымі былі.
Ад Менска да снягоў Байкала
Па ўсёй зямлі, па ўсёй зямлі.

А сёння пакаленне наша
Выходзіць з песняй баявой,
Усюды мы—на горных пашах
У гулкіх шахтах пад зямлёй.

Мы будаўнічыя брыгады
З чырвонай гвардыі метро
Нам нетры горныя падуладны,
І ў іх схаванае дабро.

Мы чуем полюса дыханне
І гул арктычнае зімы.
Як пахне ў восеньскае ранне
Даспелы яблык—знаем мы.

Ад хваль, што пеняцца вільготна,
На вуснах нашых пыл марскі,
Мы падымаем скарб падводны,
Які на дне ляжаў вякі.

Вядзем камбайны мы ў зажынкі,
Пад гоман здзіўленых дзядоў;
Сухое зерне—без расінкі—
Ссыпаем ў кузаў з бункероў.

І знае ўвесь Саюз вялікі,
Урал, Макееўка, Кузбас,
Што ў нас стаханаўскія рукі—
Што воля сталінская—ў нас.

У нас—надзейная дарога,
Нам мэты ясныя відны,
Мы—нашай партыі падмога,
Мы—нашай партыі сыны.

Як небасхіл зацьміцца дымам,
І кліч прамчыцца аб вайне,
Спытае ў нас тады радзіма:
— Вы не забылі клятву?
— Не!

— Мы помнім клятву!—гэтак скажам
Радзіме любай у адказ,
І з ворагам смяротным нашым
Сустрэнемся ў апошні раз.

Сталёвай лавай танкі хлынуць
На фашыстоўскі дзікі зброд,
І мёртвую пятлю накіне
На горла ворага пілот.

Нястомнай будзе наша сіла
Пад баявым агнём зарніц.
Як Фрунзе, Шчорс і Варашылаў
Радзіму будзем бараніць.

IV

Цішыня. На небе ўсходзяць зоры
І глядзяць у сінія вазёры.
Ноч ідзе праз горы, праз лясы,
Поўная асенняе красы.

Спіць зямля, любімая такая,—
Сніць аб новых, слаўных ураджаях,
Нам багата прынясла яна
Наліўнога, чыстага зярна.

Да краёў напоўненыя клеці,
У збаны крыніца мёду льецца.
Залатыя, спелыя плады
Дораць нам калгасныя сады.

Дзесьці льецца песня маладая,
— Дадзена нам юнасць залатая
— Мы жывем у самы светлы час,
Узрасціў любімы Сталін нас.

Спяць у хатах у прасторных дзеці
Самыя шчаслівыя на свеце,
Мірны сон вам, любыя, й спакой!
Жыць як добра на зямлі такой!

Ноч ідзе праз пушчы і вазёры,
Праз тайгу і сопкі, і праз горы.
Клёны маладыя не шумяць,
Цішыня... А ля граніц не спяць.

У снягах Карэліі суровай,
На халодным возеры Хасан,
Ці за Менскам у лясах сасновых,—
У пургу,
 і холад,
 і туман,—
Берагуць адважныя героі
Гарадоў і ніў спакойных шыр,
Кожны міг гатовыя да бою
За зямлю совецкую,
 за мір!

Ля Кранштадта, дзе сінее мора,
Хваля залівае берагі,—
Там стаяць у сталінскім дазоры
Нашы комсамольцы-маракі.

Над абшарам, над маўклівым полем
Загудзеў вясёла самалёт.
Ярка зоры свецяць.
 Комсамолец
У начны збіраецца палёт.

Скачуць стэпам баявыя коні
Ля шырокага Дняпра—ракі,
Калі трэба,—ўстануць на кардоне
Грозныя казацкія палкі.

Нам бацькі крывёю здабывалі
Кожную жывую пядзь зямлі,
Нам бацькі навечна наказалі,
Каб яе нікому не здалі.

І заўсёды мы шануем строга
Усё, што нам наказвалі яны.
Мы—вялікай партыі падмога,
Сталіна вялікага сыны.

Хай не лезуць гадаўё—бандыты,
Не ўздымаюць брудную руку!
Рубяжы совецкія закрыты
На магутным, на стальным замку.

Шчасце наша, маладосць і славу
Мы жыццём гатовы адстаяць,
Па марах,
у небе,
на заставах
Верныя Міхеевы стаяць.
Твой спакой, радзіма дарагая,
Як зяніцу вока беражом...
Мы цябе грудзьмі абараняем.
Хай жыве наш сталінец Ежоў!

Ноч плыве.
Спяць дзеці у спакоі.
Ясны сон вам, любыя, і мір!
Цішыня... А мы гатовы к бою
За жыццё,
за Сталіна,
за мір!

*Эдзі Агняцвет, Пятрусь Броўка, Міхась Калачынскі, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Александр Шарапаў.*

## *Слава гераіням лётчыцам!*



*В. Грызадубава* *П. Осіпенка* *М. Раскова*

Кербі. Экіпажу самалёта „РОДИНА“

# В. ГРЫЗАДУБАВАЙ, П. ОСІПЕНКА, М. РАСКОВАЙ

**Горача віншуем вас з паспяховым і выдатным завяршэннем беспасадачнага пералёту Масква—Далёкі Ўсход.**

**Ваш гераічны пералёт, пакрыўшы па маршруту 6.450 кілометраў, а па прамой—5.947 кілометраў на працягу 26 гадзін 29 мінут, з'яўляецца міжнародным жаночым рэкордам як па прамой, так і па ломанай лініі.**

**Ваша адвага, хладнакроўе і высокае лётнае майстэрства, праяўленыя ў цяжэйшых умовах шляху і пасадкі, выклікаюць захапленне ўсяго савецкага народа.**

**Ганарымся вамі і ад усёй душы паціскаем вашы рукі.**

*Па даручэнню ЦК ВКП(б) і СНК Саюза ССР*

*Сталін,*
*Молатаў.*

З Кербі. 7 кастрычніка 1938 г.

**МАСКВА, КРЭМЛЬ—**

# *таварышу СТАЛІНУ*

З Вашым імем у сэрцах мы, дочкі вялікай соцыялістычнай радзімы, праляцелі без пасадкі скрозь воблачнасць, туманы, абледзяненні і ноч ад Масквы—сэрца неабсяжнай радзімы—да берагоў Амура. На балоце, у тайзе, сярод сопак мы былі не адзінокімі—з намі ўвесь наш шматмільённы народ, партыя і Вы, таварыш Сталін. За бацькаўскія клопаты дзякуй.

*Грызадубава, Осіпенка, Раскова.*

---

З Кербі. 7 кастрычніка 1938 г.

**МАСКВА, КРЭМЛЬ—**

## *таварышам Сталіну, Молатаву, Кагановічу, Варашылаву, Ежову, Мікаяну, Калініну, Жданаву, Андрэеву.*

Ваша заданне выканана. Беспасадачны пералёт Масква—Далёкі Усход зроблен на самалёце „Родина“ за 26 гадзін 29 мінут. Пасадка зроблена на балоцістае поле ля ракі Амгунь, у ненаселенай мясцовасці. Экіпаж здароў, матэрыяльная частка ў спраўнасці.

Ад усяго сэрца дзякуем за вашы сталінскія клопаты і дапамогу, аказаную нам.

Гатовы выканаць любое заданне партыі і ўрада.

*Грызадубава, Осіпенка, Раскова.*

# УКАЗ

## ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ ЭКІПАЖА САМАЛЁТА „РОДИНА“

За ажыццяўленне гераічнага беспасадачнага дальняга пералёту па маршруту Масква—Далёкі Усход, устанаўленне жаночага міжнароднага рэкорда дальнасці палёта па прамой і за праяўленую пры гэтым выдатную мужнасць і вытрыманасць—

1. Прысвоіць званне Героя Совецкага Саюза з уручэннем ордэна Леніна.

**Грызадубавай** Валенціне Сцяпанаўне—камандзіру экіпажа самалёта „Родина“.

**Осіпенка** Паліне Дзянісаўне—другому пілоту самалёта „Родина“.

**Расковай** Марыне Міхайлаўне — штурману самалёта „Родина“.

2. Выдаць адначасовую грашовую ўзнагароду ўдзельніцам пералёту—т.т. Грызадубавай В. С., Осіпенка П. Д. і Расковай М. М. па 25 тысяч рублёў.

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР*
*М. КАЛІНІН.*

*Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР*
*А. ГОРКІН.*

Масква, Крэмль,
2 лістапада 1938 года.

*Я. Колас*

# БАЕЦ ЧЫРВОНЫ

Шлях мой слаўны і шырокі.
Выпаў гонар мне высокі:
    Я—баец чырвоны.
Я не знаю большай чэсці,
Як святы доўг чэсна несці—
    Стаць на абарону,

Вартаваць свой край, граніцы,
Як вачэй сваіх зяніцы,
    Як наш скарб бясцэнны.
Бо я знаю—землі нашы,
Горы, моры, нівы, пашы
    Для ўсіх нас свяшчэнны.

За іх кроў бацькоў праліта.
Праз гарніла мук здабыта
    Наша доля, воля.
Бо на гэтых землях, нівах
Мой народ жыве шчасліва,
    Як не жыў ніколі.

І я, радасны, вясёлы,
Іду ў Армію—у школу
    Сталінскае складкі.
Я ўсяму народу, краю
Урачыста абяцаю—
    Для радзімы маткі

Сіл сваіх не пашкадую,
Волю ўзброю маладую
    На пачэснай варце.
Каб сам маршал Варашылаў
Мне сказаў з усмешкай мілай:
    „Малайчына, браце!“

5/IX 1938 г.

*Антон Алешка*

# МАЛАДОСЦЬ

(Аповесць)

## Частка першая

### 1

Маладыя ластаўкі-падляткі, адчуваючы як прытка прыбываюць сілы і тужаюць крылы, наперабой шчабечуць перад шчаслівай маткай.

Дзень, другі і каторае стане на край гнязда, гайданецца, расставіўшы крылы, і глядзі—пераляцела на бэльку, альбо на галіну грушы. І хоць цяпер кожнае з іх можа самастойна лятаць, усё-ж збіраюцца яны гуртам у цеснае гняздо і доўга стаіць шчэбет, пералівістае чыліканне. Блакіт неба вабіць іх, праз момант выпырхнуць яны і асірацее гняздо, клапатліва склеенае з вясны.

На маленькай вуліцы невялічкага гарадка было шумна. На лавачцы ўселіся дзяўчаты, каля іх хлопцы. Каму не хапіла месца, тыя ходзяць па вуліцы гурткамі, парамі. Чутна песня, ёй уторыць гітара.

Снуюць сілуэты на вуліцы.

З інтэрната выйшаў хлапец і спытаўся ў студэнта, які стаяў збоку.

— Не бачылі Шуміна?

— Ён тут. Вунь... Шу-у-мін!—крыкнуў ён.

— Я-я,—адклікнулася з вуліцы.

— Цябе чалавек чакае...

Хутка з цемры паказалася постаць.

— Хто клікаў? А-а, Валодзя... Здароў!

Яны моцна пацìснулі рукі. Ішлі паволі, загаварыліся. Валодзя ніжэй ростам, прысадзісты, пазіраў уздоўж вуліцы.

— Я, мусіць, заўтра адсюль паеду. Канец вучобе.

— У мяне яшчэ...

— На поле табе спяшацца не трэба, а тут пабыць не пашкодзіць.

У поцемках хто-небудзь гулка пратопае па тратуары, потым зноў на вуліцы ціха.

Валодзя спыняецца на мосціку.

— Прыязджаў учора з МТС Пятрусевіч. Бачыў я яго, казаў, што нашы жывуць нішто. Ведаеш, там рабочыя затрымалі нейкага валацугу, а калі яго ў пагранатрадзе разглядзелі, дык аказаўся шпіён...

— Дзе гэта было?

— Ішлі, кажа, на работу, бачаць, паплавамі ідзе чалавек. Аклікнулі яго—маўчыць. Тады да яго. Табе куды, чалавеча, трэба,—пытаюцца. Ён кажа: у Старчыцы. Якраз быў старчыцкі чалавек, ён пытацца: да каго-ж хаця? Той пачаў гаварыць, што ў яго там ёсць знаёмая дзяўчына, і што яму абавязкова патрэбна туды. А ў вёсцы ён і не ведае нікога. Бачыш як цікаваў, думаў абы да Старчыц, а там і граніца... Не ўдалося.

— Цяпер поўна лезе ўсякіх. Ловяць іх нібы курапатак за гумном. Лагуцкага летась вунь як усілілі, калі хацеў да паноў уцячы.

— То гэта старога. Малады мусіць уцёк. Папаганяў я яго...

— Кулаччо!..

Прайшлі яшчэ крыху, спыніліся.

— Перад ад'ездам зойдзеш? Глядзі...

— Адсюль трактары пагонім, калі выгрузяць на станцыі. Мяне брыгадзірам ставяць. Папрацуем,—працягла сказаў Валодзя.

Міця не сумняваўся, бо ведаў Валодзю. У адной жа пасцелі выгадаваліся. Сябравалі шчыра, моцна. Бывала, у канец вуліцы грэйма бегла чарада дзяцей з драўлянымі вінтоўкамі. На выгане, каля разваленае хаты, адбывалася бойка. Кідаліся спачатку сухімі грудамі, потым ішлі ў атаку і з крыкам канчалі вайсковыя заняткі. Гуртам кіраваў абшарпаны, загарэлы Валодзя. Дзеці пераймалі ўсё, што рабілі чырвонаармейцы, калі стаялі ў вёсцы, прагнаўшы белапалякаў.

Падрос Валодзя, стаў першым комсамольцам у вёсцы. Раскулачваў багацеяў—тутэйшых шляхцюкоў. Потым стаў трактарыстам. Да апошняга часу не парываў сувязі з камендатураю, дапамагаў пагранічнікам.

Валодзя яшчэ прайшоў крыху, спыніўся.

— Не забавішся... я так і скажу маці... Бывай!

Міця ішоў у інтэрнат і думаў, што хутка прыдзецца закончыць вучобу, тады працаваць. Дзе? Як пачнецца далейшае жыццё, як гляне яно на яго—усё было ў тумане. Па-праўдзе кажучы, яму аб гэтым і думаць не вельмі хацелася, бо што калі адно думаеш, рахуеш, а выходзіць часта інакш. Вабіла і трывожыла блізкае заканчэнне вучобы. Міця спыніўся каля гуртка студэнтаў. З лаўкі адзываўся Толік-хвалько:

— Мне толькі скончыць. Тады я гаспадар свайго палажэння. Што мне там хто? Мо' я ў Менск, ці Маскву хачу. Хто можа нявоціць?..

— Зачым у Менск... там трамвай. Каля мамы спакайней,—уставіў Міця і прысеў на край лаўкі. Гутарка працягвалася.

Міця толькі цяпер заўважыў побач Надзю, бадай самую меншую з дзяўчат выпускнога курса. Калі з ёю загаворыць Міця, яна

апусціць вочы і так прыгожа схіліць маленькую, чорную галоўку маўчыць. На вуснах стыне прывабная ўсмешка і ўся яна здаецца лёгкай, нібы пушынка. Адносіны яе да Міці самыя найлепшыя. З ім яна ўмела падоўгу гутарыць, не зважаючы на тое, што Толік і яго сябры часта гаварылі з усмешкаю: „Міця—стыхія... Яму трэба многа, каб з яго атрымаўся тэхнік. А так... і застанецца неабчэсаным, дарма што ў тэхнікуме сядзеў...“

Пачуўшы гэта, Міця не звярнуў увагі, сказаў:

— Маміны сынкі. Мне з імі не па дарозе. Няхай.

Цяпер Надзя нібы не заўважыла яго. Ён лёгка дакрануўся да яе локця і адразу адняў руку. Сэрца ўстрапянулася, стала прыемна. Ён засароміўся, пасядзеў моўчкі, не ведаючы куды дзець руку, запытаўся:

— Сумуеш?

— А ты?

— Каб я сумаваў!

Надзя пазірае збоку і, хоць змрок вечара скрадвае рысы твару, яна добра ўяўляе Міцю.

Змрок паволі схлынуў у завулкі, суровым палотнішчам распасцерлася вуліца. З-за чорнага даху доміка насупроць палілося мыльнае святло месяца.

Міця і Надзя пайшлі ў канец гарадка. Надзя гаварыла мала.

— Апошні месяц, Надзя, тут жывём. Выпырхнем потым—хто куды.

Бялява-шэрая вуліца рэдка абсаджана ясенем. Яго пупышкі лопнулі і лісце на чорным галлі тапырыцца маленькімі кутасікамі. Вуліца лягла на ўзгорак, крута выбегла ў поле. У мыльным святле—як вокам дастаць—разляглісяпаплавы. Міця пазірае ў туманную далеч, лёгка ўдыхаючы свежасць росных паплавоў. Надзя ступае па леташняй траве на абочыне дарогі.

— Добра было-б паступіць ва універсітэт...

— Праўду кажаш. Для мяне то і гэтага за многа будзе...

— Чаму так?

— Каб ты ведала, як я сюды прыбіўся, пытацца не стала-б...

— У цябе столькі сілы. Вучоба табе лёгка даецца...

У Міці лёгка кружыцца галава ад паху палеткаў. Ён пазірае на маленькую постаць Надзі і думае:

„Добра табе—у цябе маці настаўніца. А ў мяне? Я табе не раўня...“

— Хто да цябе заходзіў сёння?

— Мой брат—трактарыст. Вось, каб ён у тэхнікуме хоць год пабыў—во дзе тэхнік быў-бы! Я ўжо, як кажуць, сярэднюю асвету маю і то ён мяне па жыццёвых пытаннях пабівае...

Надзя задумалася, прыціхла.

— Пойдзем назад,—сказаў Міця.

Над паплавамі плыве воблак туману.

— Эх, Надзя, каб ты зразумела...

— Пачынаю разумець,—сказала яна і сумелася.

З палетку нясе прэлым бульбоўнікам. На акраіне гарадка галасна пераклікаюцца пеўні.

2

Валодзя спяшаецца ў майстэрню. Мінуў пасёлак і, не выходзячы на дарогу, разораю ўзяў нацянькі. Уецца ўперад сцяжынка па палетку азімага жыта. Зялёны аксаміт яго пачынае закрываць груды. Палетак шырокі, як вокам акінуць.

Летась тут Валодзя на новенькім інтэру рваў межы, касаваў векавыя перагародкі шнуроў. Закаціў іх у адзін кавалак, зараз проста не верыцца, што ідзе па сваім палетку. Сонца гарыць у малінавым паднябессі. Горача. Ён расшпіліў каўнер кашулі, брэзентавую куртку закінуў за плячо.

„У чым затрымка—не прыдумаю. Калі сам працаваў, не падводзіў матор, а тут—на табе“,—разважае Валодзя.

Лоб маршчыніцца і ўявіць сабе Валодзя не можа, у чым недахоп. Здаецца ўсё агледзеў, а вось прычыны так і не дайшоў.

„Скажу механіку—няхай сам паглядзіць“,—разважае ён і ўжо галасна дадае:

— Сорамна. Скажа: вучылі, а толку ніякага.

Першы раз здарылася, што трактар сапсаваўся і Валодзя не змог знайсці заганы. Ён больш гадзіны перабіраў часткі, прабаваў усё, але нічога не знайшоў. Парашыў пайсці да механіка парахавацца, бо кожная гадзіна прастою пагражала не ўлажыцца з ворывам у тэрмін.

Валодзя пераскочыў канаву, выйшаў на абочыну дарогі. На ўзмежках зялёнымі стрэлкамі прабіваецца маладая травіца. У копанцы каля вёскі да хрыпаты крычаць жабы. Памахвае з поля ветрык, нясе пах раллі. Валодзя збіў на бок шэрую кепку, спыніўся на загуменні і крыху пастаяў. Яму не хацелася ісці да механіка. Каб час дазволіў, ён сам знайшоў-бы сапсаваную частку, але марудзіць не выпадала.

Ён прыплюшчыў вочы, глянуў на паплавы. Туманная сінь мляўка плавала каля лесу і далёка таўчаным шклом блішчэла ў лужах веснавая вада. На прыгуменні пад нагамі шуршэў леташні ліст. Несла васенням спакоем, пустэчаю і стаяць тут Валодзі стала ніякавата. Ён насунуў на лоб кепку і пайшоў на вуліцу.

Бразнулі дзверы сянец і высокі чалавек паказаўся на ганку. Спыніўся каля плота і стаў развешваць шэрае павуцінне сеткі.

— У рыбу збіраецеся?

Той азірнуўся і на доўгім твары яго расплылася ўсмешка.

— Не... Няхай перасушыцца хаця. У цябе як работа?

— Нічога, працуем...

— Затрымак няма?

— Затым і прышоў, што ёсць,—цішэй сказаў Валодзя і нават здзівіўся, што так лёгка ўдалося сказаць прычыну свайго прыходу.

Механік развесіў сетку, адышоўшы сказаў:

— Прысядзем на прызьбе...

Механік закурыў люльку.

— Кажы, што там...

— Дыміць... Нешта шабуршыць у маторы.

— Свечкі праверыў?

— Нават газу прабавалі, ці гарыць... Прышоў да вас—дапамажэце...
— У адным трактары?
— У адным...
— Трэба з'ездзіць. Ты скокні ў гараж, няхай Пятрусевіч едзе да мяне.
Валодзя выйшаў на вуліцу, рукавом выцер потны лоб і адчуў палёгку. Ён не чакаў, што, з выгляду такі суровы, механік так клапатліва выслухае яго і будзе турбавацца хутчэй знайсці затрымку ў трактары. Стала радасна. Цяпер толькі ўбачыў ён, што на гародчыках вёскі ўтаймаваўся прыгожы веснавы адвячорак.
Каля магазіна клікнуў Пятрусевіч.
— Здароў!—і падышоўшы бліжэй, сказаў з усмешкаю.—Брыгадзіру трактарнага парка прывітанне...
— Я да цябе. Механік сказаў заправіць машыну і ў Чапліцы.
— Што здарылася?
— Затрымка з трактарам. Ты мяне пачакаеш, я дамоў забягу.
— Добра...
Валодзя абышоў мосцік, глянуў на гарод. Там стаяла пахілая старэнькая хатка з разбураным вуглом. Страха аб'ехала, рэбрамі тырчэла пруцце. Падслепаватыя вакенцы пaглядалі чорнымі шыбкамі, напалову застаўленымі цёсам.
„Якая яма“—падумаў Валодзя.
Цяпер ён не жыве тут. Яму сельсовет даў кватэру ў святліцы раскулачанага Лагуцкага. Не хацела маці пераходзіць у святліцу, куды раней ні разу не заходзіла. Хадзіла пазычыць чаго, дык толькі і была на кухні. Ледзь угаварыў Валодзя.
Маці з радасцю сустрэла яго, спыталася:
— Валодзік, мо' з'ясі чаго?
— Трэба спяшацца.
— Ты хоць нанач дамоў прыходзь. А то я тут адна ў гэтай стадоле. І Міця не едзе...
Валодзя пайшоў на выган.
Механік застаўляў скрынку з інструментам пад сядзенне, пыхкаў люлькай.
— Садзіся, сынок,—звярнуўся ён да Валодзі:—Паедзем...
Імчыцца насустрач гладкая дарога. Паабапал ляжаць пукатыя, жытным руном засланыя, палеткі.

3

На пульхнай купіне каля пня ўсеўся Бонік Згіроўскі. Ён пазірае на Мацея, глуха цэдзіць:
— Не спяшайся вельмі. Усёадно брыгадзіра няма.
— Я і не вельмі.
Ён калупае арэхавай палкай мяккі поплаў і зрэдку кідае погляд на абветраны твар Мацея. Той налёг локцем на пянёк, паказаў на палетак.
— Глянь колькі кацап ускаціў. У яго і трактар не псуецца.
— А ведаеш чаму ў мяне сапсаваўся? Тое і кажу, што не ведаеш.

— Трактарыст кепскі...—выскаліў рэдкія зубы Мацей.
— Няхай,—адказаў Згіроўскі.
Ён прыўзняўся на калена, глянуў на палетак.
— Праўда, многа ўзараў. А мы?
Згіроўскі доўга глядзіць на лагчаіну, што цягнецца да лесу. З-пад лахматых брывей глядзяць пахмурыя вочы. Ноздры варушацца. На чырвоным твары святлеюць плямы лішая, здаецца ён знарок вымурзаўся ў мел.
— Не глядзі, не ўбачыш Есіпа.
Шырокія плечы Згіроўскага ўздрыгануліся, ён спалохана азірнуўся на Мацея і моцна сплюнуў.
— Пяруна няма на цябе...
— А то што?
Згіроўскі сеў зноў на купіну, супакоіўся. Ён сваяк Лагуцкага па жонцы, а Мацей яму даводзіцца блізкім. Летась Бонік дапамагаў Лагуцкім перабрацца да граніцы, павадыром быў, ды выйшла не гладка. Стары забавіўся і пагранічнікі злавілі яго, Есіп узлескамі ўвільнуў. Аб гэтым ведае толькі Мацей. У яго на ўсякі выпадак прыхавана частка дабра Лагуцкага. Есіп абяцаў наведаць хутка і ў апошні час Згіроўскаму рупіла спаткацца, сказаць, што ў хаце яго жыве цяпер...
Есіп не падумае нават, што рэч ідзе пра Валодзю, якога ён вельмі ненавідзеў. Як падумаў пра гэта Згіроўскі, горача зрабілася. Ён згроб палку і нэрвова капануў чорную зямлю поплава.
— А мо' і ўбачу.
— Не,—усміхаўся Мацей.
Ён упёрся вачыма ў яго твар і сказаў крыху цішэй.
— Думаў, учора будзе. Не... Тады заўтра...
— Адкуль ты ведаеш?—зацікавіўся Мацей.
— Казаў чалавек з-пад Капыля. Яго тут на тым тыдні затрымалі.
Мацей здзівіўся ад нечаканай навіны і ўстаў. Ён баяўся, што прыхаванае давядзецца аддаць. Побач стаяў трактар Згіроўскага. Ён падняў капот і стаў прабаваць кантакт.
— Не чапай майго...
— А араць калі будзеш?
— Паспеем. План далі... звышранні сеў выдумалі. Цьфу!..—Мацей прыхіліўся плячамі да кола, падміргнуў.
— Глядзі, якія штучкі навучыліся рабіць, а-а?..
— І я ўжо казаў. Ён-жа як гадзіннік працаваў у мяне, проста на дзіва. Я яму заляпіў горла і цяпер няхай паходзіць кусочнік.
Мацей пазірае, не разумеючы, што кажа той, а Згіроўскі дадаў:
— І яму трэ' заляпіць, каб замоўк...
— Каму гэта?
Згіроўскі маўчыць. Мацей чакае адказу, але так і не глянуў на яго сваяк. Ён пастаяў моўчкі і памкнуўся ісці да свайго трактара. Згіроўскі прыцягнуў яго за рукаў, глянуў шэрымі вачыма.
— Мой не працуе. Ты ідзі насып пяску ў свой. Няхай кацап за нас план выконвае. Адпачываць пойдзем.
— Што ты?! Я пайду араць...

— Чакай, чаго баішся?

Мацей убачыў пачырванелы твар і дрыжачыя губы Згіроўскага, зразумеў, што жартаваць тут не месца і спакойна адказаў:

— Няхай уперад твой падладзяць. Тады...

Сціснутыя кулакі Згіроўскага апусціліся, ён уздыхнуў.

— Няхай.

Не паспеў Мацей адыйсці ад трактара, як з дарогі на ялавіну завярнула машына.

— Няўжо дырэктар?—сказаў Згіроўскі і пачаў паспешна корпацца ў перадачы, пэцкаючы рукі ў аўтол.

Машына спынілася каля пнёў і з яе згорбіўшыся вылез механік, а за ім і Валодзя.

У тым месцы, дзе прышыта на гімнасцёрцы кішэнька і ляжыць скрынка з махоркай, штосьці сціснула Згіроўскаму грудзі, захапіла дыханне. Бонік глядзіць на шрубу ў руцэ. Яна мігціцца вялізнымі шэрымі кантамі.

— Што тут у цябе?

— Не ладзіцца,—адказаў Згіроўскі і адступіўся.

Механік паставіў побач скрынку з інструментам, выняў люльку.

— Зараз глянем. А як у Мацея?

— У яго добра робіць,—сказаў Валодзя.

— Тут і зразумець цяжка, які чорт яго дрэньчыць,—уставіў Згіроўскі.—Мы з брыгадзірам усё перабралі—і рады няма.

— Бывае...—пыхнуў люлькай механік і, падкруціўшы вусы, ўзяўся заводзіць трактар.

Чутна як смокчуць цыліндры, ззаду клубамі пыхае чорны дым. Стаіць збоку Згіроўскі, пазірае, што робіць механік. Валодзя абліваецца потам, круціць за ручку і прыслухоўваецца, што гаворыць механік.

З узгорка памахвае вецер. Побач, на заваротках гучна трашчыць трактар Мацея. Далей паўз чорны масіў раллі поўзае вялізным павуком трэці трактар. Яго не чутна.

Спелай малінай павісла сонца над лесам, на-чырвона афарбавала заход і схавалася. Колькі ні прабаваў механік завесці трактар—не ўдалося. Прывычнае вуха ўлавіла, што загана прытаілася ў сярэдзіне. Ён паскроб патыліцу і, глянуўшы на Валодзю, сказаў:

— Хоць на буксіры трэба ў майстэрню загнаць. Разбяром. Няўжо поршні скрышыліся?

— Час не чакае,—нездаволена кінуў Валодзя.—Ворыва на месцы стаіць.

— Што зробіш? Ад таго, што ён тут стаяць будзе, для ворыва не лягчэй. Як?

Згіроўскі падышоў да механіка, параіў:

— Няхай Мацей бярэ на буксір і гоніць, я падмяню абы каго і буду ноччу араць.

Механік падумаў.

Ён раіць не кепска.

— Няхай,—сказаў Валодзя.

Так і парашылі.

Згіроўскі пайшоў на падмену, а ў Валодзі ад няўдачы нібы каменем цяжкім прыціснула нутро. Ён поплавам накіраваўся ў пасёлак. Там працавала першае звяно.

4

Пад вяслом ледзь чутна булькае вада. Гладзь ракі не варухнецца. Лодка паволі ідзе па цячэнню. Міця ўзмахне вяслом, накіруе яе на сярэдзіну і пазірае на Надзю, слухае ціхі яе голас. Тапырацца шорсткія валасы на галаве Міці, смуглявы твар у глыбокай задуме.

Сенажаць яшчэ заліта вадою. Каля берага прабіваецца зелень. Цячэннем нясе іх і нясе. Край неба нібы ў пух ўвабраўся, па ім плывуць маленькія срабрыстыя хмаркі. Сонца квола грэе, тонучы ў сіняве.

Міця ўжо не чуе голасу Надзі, узіраецца ў бяздонную гладзь ракі.

Лодка мякка штурханулася носам у бераг і спынілася.

— Прыехалі, — глянула на яго Надзя:—Ты слухаў, што я чытала?

— Слухаў, як-жа!..

— Хлусі...

— Апошняе не дачуў...

Міця налёг на вёслы, стаў заварочваць лодку.

— Далей не пусцяць—чыгуначны мост. Назад паедзем.

Плюхае вада пад вяслом, лодка прытка нясецца па цячэнню. Паволі абваліўся размыты бераг. Міця апусціў вёслы.

— Ты ва універсітэт думаеш?

— Давай разам падаваць будзем...

— Не. Мне трэба закончыць вучобу ды хоць крыху прыадзецца... Ды маці трэба дапамагчы...

— А бацька дзе?

— Няма яго.—Міця прыціх і стаў гаварыць павальней.—У грамадзянскую бацька добраахвотна пайшоў на фронт. Ён ваяваў на калчакоўскім, потым на Украіне быў. У дваццатым годзе з польскага фронту пайшоў на Врангеля і загінуў каля Чонгарскага маста.

Міця задумаўся. Хто яго ведае, аб чым ён думае. Можа хоча ўявіць гэты легендарны мост і бацьку.

Надзя падкурчыла ногі, зажурылася. Кучаравыя пасмы ўпалі на твар, засланілі маленькі носік. Сонца зайшло. Чырвань афарбавала край вузкай хмары. Каля маста ценькай істужкай павіс туман.

Рэчка крута завярнула да прысадаў. Шырока разлілася яна пацямнеўшай гладдзю. Міця кіруе да берага. З-за прысадаў выглянулі шэрыя домікі. Зашуршэў пясок берага і лодка спынілася. Міця выскачыў, хацеў усцягнуць лодку на пясчанік. Надзя выпрастала падкурчаныя ногі, устала і, пахіснуўшыся, упала на край лодкі. Лодка гайданулася і нахілілася. Надзя ўзмахнула кніжкай і скінулася ў рэчку.

— Ой-й!!

Міця скочыў у ваду. Ён падхапіў Надзю і паплыў на бераг. Сукенка прыліпла да ног. Вада была халоднай, як лёд. Лодка гойдалася каля куста ў затоцы, на дне яе бялела кніжка. Ён схапіў Надзю за руку.

— Хутчэй у хату!!

У чаравіках гучна плюхае вада. На сцежцы засталіся мокрыя сляды.

5

Дзень згас.

Каламутная сінь вечара агарнула палеткі. Гусцее змрок у лагчыне каля кустоў. Туман павуціннем блытаецца на паплавах.

Каля зарасніку нібы з зямлі вырасла цёмная постаць чалавека. Праз хвіліну знікла. Чалавек сплюнуў і прысеў на корч. Выняў цыгарку і, накінуўшы вопратку на галаву, прыкурыў. Потым схаваў у рукаў, каб не відаць было бляску, пацягваў.

Калі добра змерклася, ён выйшаў на поле. Злева блукалі аганькі пражэктара і гудзеў матор трактара. Чалавек паволі пайшоў туды. Падцікаваў так, што дагнаў трактар і ішоў некаторы час воддаль ззаду. На завароце спыніўся, намацаў у кішэні гладкую шчаку маўзера, азірнуўся і пабег. Не дабег ён крокаў дваццаць, як Згіроўскі азірнуўся на плугі і крыкнуў:

— Валодзя!

Чалавек не адазваўся. Ён спатыкнуўся ў баразну, спыніўся і пазнаўшы па голасу Згіроўскага, узмахнуў рукою, мігам апынуўся каля трактара.

— Бонік, ты?—пытаўся чалавек, углядаючыся ў цёмную фігуру трактарыста.

— Есіп,—з шыпеннем глуха вырвалася ў Згіроўскага. Ён спыніў трактар, саскочыў на зямлю і доўга не ведаў, што сказаць.

— Я цябе ледзь пазнаў... Думаў, брыгадзір ідзе і клічу,— развязаўся язык у Згіроўскага, але Есіп перабіў:

— Ты цішэй,—і ён кінуў у бок пасёлка:—Ніхто не прыдзе?.. Ты адзін?..

Згіроўскі нібы замер на хвіліну, вырашыў штосьці і адышоўся да трактара. Гул матора сціх, патухлі пражэктары. Цемра копаццю засланіла ўсё. Не відаць Есіпа.

Праз хвіліну цемра пасінела. Побач стаяў Есіп Лагуцкі.

— Сюды прысядзем.

— Насядзеўся за дзень...

— Ты прысядзь, відней, калі хто ісціме... Ну, кажы...

— Што казаць? Як ты тут?

Згіроўскі не гаварыў, шаптаў сіплавата.

— Бачыш, дня мала, дык ноччу плужу. Вось да чаго дажылі. Планы і планы...

— Кажаш, таварышы крыўдзяць вельмі?—чуўся смяшок у голасе Лагуцкага.—Хату маю не разабралі яшчэ?

— Дзе бачыў! Кусочнік у ёй пасяліўся.

— Хто?

— Ды Марфа з байструкамі. Большы цяпер у нас тут—галава, брыгадзір,—голас Згіроўскага абарваўся.

— То-ж ён увіхаўся хутчэй раскулачыць. Памятаеш? Мусіць тады ўжо снілася святліца...

— А коні і іншая гаўяда ў калгасе.

Лагуцкі прылёг, узіраючыся паўз зямлю на светлы край неба. Зусім нізка, ярка маячыла зорка. Навакол ціха.

— А хто на аўтамабілі прыязджаў пад вечар?

— Ты бачыў? Механік тут быў. Трактар сапсаваўся, дык яны круціліся, круціліся—нічога. Загадалі Мацею цягнуць яго ў майстэрню.

— Зламалася што?

— Не. Яго і доўбняю будзеш біць—не сапсуеш, большэвікі маторы рабіць навучыліся нібы амерыканцы. Я культурней падыходжу—пясочку насыпаў у цыліндры і ўсё... Не працуе трактар, задыхнуўся... А ты дзе быў?

— У Крошні за кустом прасядзеў цэлы дзень—бачыў усё. Ніяк не мог пазнаць—ты тут, ці хто другі. Далёка, выходзіць повідну нельга было.

— Калі прыйшоў?

— Світала ужо. У Макранах зайшоў да цесця, паснедаў і Крошняю аж сюды выйшаў. Абрыдала ў лесе сядзець...

Згіроўскага цікавіла, як жывецца за граніцай. Ён выпытваў прытаіўшы дыханне. Лагуцкі апавядаў.

— Зараз мяне накіравалі на Бабруйскі камбінат...

— Хто?

— Там ёсць гаспадары, што накіроўваюць, але я спачатку рашыў прыйсці сюды. Цікава ведаць як тут гаспадараць. Пойдзем, калі хочаш, са мною...

Згіроўскі аж прыліп да зямлі.

— А возьмуць?

— А то думаеш, там людзі не трэба? Абы умеў розумам сваім валодаць.

Згіроўскі падняўся на калені, нахіліўся да Лагуцкага.

— Прапала кароўка, няхай прападае і вяроўка. Я пайду з табою,—ён прылёг, паглядзеў у бок дарогі.

Праз хвіліну пачуўся голас:

— Бо-о-нік!!

Хутка ўсхапіўся з месца Згіроўскі, поруч пружынаю выпрастаўся Лагуцкі.

— Хто гэта?

— Пачакай...

У вушах Згіроўскага звінела ад таго, што прагна сіліўся разабраць, хто кліча. Пачулася зноў працягла:

— Бо-онік!

Згіроўскі кінуўся да трактара, цягнучы за сабою Лагуцкага.

— Ты ляж на раллі, а я трактар завяду. Гэта брыгадзір... Кусочнік...

Ён крутнуў ручку ўперадзе трактара. Моцна лапануў матор. Поўзалі языкі пражэктара па раллі.

Згіроўскі ўсеўся на сядзенне. Рука тымчасам намацала побач у скрынцы французскі ключ, моцна сціснула яго.

Інстынктыўна адчуваў Згіроўскі, што Валодзя хутка падыйдзе сюды. У галаве мітусяцца спуджаныя думкі. Здавалася, невядомая сіла прэ яго ўверх з сядзення трактара.

— Не ладзіцца што-небудзь?—даляцела да слыху Згіроўскага запытанне Валодзі і ён адчуў, як левая рука моцна трымае дзераваную аправу руля. Каля трактара Валодзя спыніўся і хацеў мусіць узлезці да Згіроўскага, як ён у момант выключыў матор і скочыў да Валодзі.

— Кусочнік,—шыпеў ён, хапаючы загрудкі леваю рукою. Але не так лёгка было ўзяць Валодзю. Ён згроб каўнер кашулі Згіроўскага і так яго страсянуў, што ён аж слова не мог вымавіць.

— Чаго хочаш?

У момант з-за трактара высунулася постаць Лагуцкага.

— Есіп, сюды!

Валодзя вырываўся з рук Лагуцкага, але яго ўжо насцігаў Згіроўскі, хапаючы за шыю.

— Адыйдзі, Бонік, я яму агрэю раз...

— Не! Не страляй...

Галоўка французскага ключа з размаху ўелася ў галаву Валодзі. Пеканула болем на ілбе. Захадзілі сінія кругі ў вачах, заіскрыліся. Валодзя асеў, схапіўшыся за палу курткі Згіроўскага. Той ірвануўся, ударыў ключом па руцэ, адскочыў. Пачуўся стогн. Згіроўскі падкраўся і стаў біць ключом па галаве, твару.

— От табе! От!

Голас яго зліўся у адзіны звярыны роў.

— Бонік, даволі.

Бонік стаяў і гучна соп.

— Пашпарт мусіць пры ім,—шарыў па кішэнях Лагуцкі.— Во! Возьмем, а яго...

Над нізінай, здаецца, яшчэ болей згрудзілася цемра, толькі ўверсе на сінім папялішчы неба дробна міргалі зоркі, нямыя сведкі...

6

У пакойчыку нікога не было.

Па рэчах на стале Надзя зразумела, што таварышкі пайшлі не вельмі даўно. Надзя спынілася каля свайго ложка, глянула ў вакно. Маленькая галінка акацыі нахілілася ўбок, пусціла празыста-зялёнае лісце з пушком паверх і ад подыху ветру торгалася аб гладзь шкла.

За кустамі чорная ралля гарода і густа зялёны палетак каля раўчука. З твару Надзя крыху паблажала, затое цяпер выразна прыкметны ямкі на шчаках, якія раней скрадваліся чырванню.

Вочы свяціліся мяккімі агеньчыкамі стомы. Надзя праляжала тры дні пасля таго, як выкупалася ў рэчцы. Агнём палала цела, потым рабілася халодна. Трэслася нібы ў трасцы, галава цяжэла і было млосна.

Цётка спалохалася, не спала колькі, але ўсё абышлося добра. Баліць крыху ў горле...

Не пускала цётка з хаты. Наважыла Надзя і пайшла ў інтэрнат. Нешта цягне сюды. У інтэрнаце ціха. Зрэдку прашкрабае па калідоры старожка, бразне вядром. На сцяне мільгаюць зайчыкі. Надзя парашыла пайсці ў тэхнікум.

На ганку сустрэлася незнаёмая жанчына. Яна спыніла Надзю і, углядаючыся старэчымі вачыма, спыталася:

— Мая любачка, скажы, ці тут жыве Шумін? Думаць, ледзь знайшла гэтае абшчажыцце...

— Тут жыве... Ён на занятках цяпер. А хто вы яму будзеце?

— Маці, хто-ж? Ніколі я тут не была.—Маці перавязала хустку, падперла твар рукою.—І цяпер не з дабра прыехала.

Надзя глянула на маршчыністы твар жанчыны, зацікавілася.

— Што здарылася?

— Яго брата забілі, Валодзю. Мы ў больніцу прыехалі забіраць яго.

З хвіліну пастаяла Надзя, потым узяла пад руку жанчыну і павяла ў пакой.

— Пасядзіце тут. Я паклічу яго.

Маці прысела на табурэт.

— Я хутка,—сказала ў дзвярах Надзя і знікла.

Па вуліцы не ішла, а бегма-бегла. Каля тэхнікума сустрэла Міцю.

— Надзя, куды спяшаешся?

Надзя задыхаючыся, сказала ціха.

— Па цябе бегла.. Брата забілі... Там маці чакае...

Яны пабеглі на рыначны пляц і завярнулі на крывую вузкую вуліцу. Сонца зайшло ўвысь бялёсага блакіту, моцна прыпякае. З-за саду выглянуў двухпавярховы будынак больніцы. Чырвоны дах ярка блішчэў на сонцы. Каля брамы сустрэлі Пятрусевіча.

— Што здарылася?

— Валодзю бандыты забілі. Тут камісія толькі што была.

Пятрусевіч пайшоў, сказаў, што яму трэба ў міліцыю. Каля цаглянага моргу стаяла машына МТС. Міця зайшоў у морг, глянуў у акенца. Не паверыў вачам. На стале ляжаў Валодзя. Прабіты лоб пачарнеў, замест твару ззяла суцэльная бурая рана. Пабурэў увесь, нібы хто старанна загарнуў яго ў стары пергамент. У калідорчыку пахла. Міця крэктануў, бо нешта ціснула горла і пачуў салодкі пах з пакойніцкай...

У інтэрнаце іх чакала маці. Яна глядзела на ўстрывожанага сына, сціснуўшы ад болю губы.

— Забілі Валодзіка, няма ўжо браціка твайго...

— Хто?—спытаўся Міця.

— Бандыты. На грудку каля Крошні забілі яго. Засыпалі ў зямлю ды яшчэ трактарам змялі. Два дні ляжаў у зямлі, вунь як набрыняў. Баранавалі і зубам бараны за палу курткі зачапілі, а то і не знайшлі-б... Каб ты бачыў, што рабілася пасля. Уся вёска выйшла на поле, аплаквалі Валодзіка.

— Хто быў з ім?

— Былі яшчэ... Але ніхто не ведае...

— Гады!—вырвалася ў Міці.

Надзя ўсхліпвала.

Праз поўгадзіны пайшоў Міця на больнічны двор. Валодзю палажылі ў труну.

Маці стаяла побач і скрозь туманную пеляну, засцілаўшую вочы, глядзела на труну. Яе згорбленая постаць была сведкай таго, з якой нядолі выбіўся Валодзя да жыцця і так горка стала Міці, што ён адышоўся крыху і не вытрываў. Упалі буйныя слёзы.

Маці паклікала:

— Міця, паедзеш з намі?

— Добра,—сказаў ён ціха.

Хутка выехалі за горад, Пятрусевіч спыніўся.

— У мяне заўтра экзамен, я толькі да Івані даеду.

— Калі ты вернешся дамоў?—спыталася маці, выціраючы слёзы.

— Яшчэ месяц...

Каля мастка спынілася машына. Міця злез і пазіраў на шасэ, аж пакуль не схаваўся воблак пылу за грудком.

7

Туліцца на вуліцы чэрвеньская ноч. Спіць гарадок. Фасад тэхнікума жаўцее асветленым радам вокан актавага зала. Яго шэрыя сцены нібы ўздыхаюць ад udараў бубна і заліхвацкіх мядзяных гукаў аркестра. У тэхнікуме выпускны вечар. Абяцаў выйсці Міця і нешта няма.

Надзя прайшла вуліцай, потым вярнулася.

— Ледзь вырваўся!—сказаў Міця.

Ён у белай кашулі, перавязаўся квяцістым поясам з кутасамі. Кашулю на вечар пазычыў у Мішы а пояс прынесла Надзя ад дзядзькі. Так нішто і прыбраўся. Яны ідуць па ветранай вуліцы, слоў у Міці няма.

Праз колькі часу выйшлі яны завулкам да рэчкі. Вербалозы шумяць пышным верхавіннем, нахіляюцца да цёмнай гладзі ракі. Вузкі масцік для пешаходаў перакінуўся на другі бераг і знік у шэрані ночы.

З сенажаці даносіцца заўзяты крык драча.

— І ў нас на аселіцы вось так крычыць,—гаворыць Міця узлёгшы на парэнчу мастка.—Надзя, чуеш, крычыць драч...

— Чую... Я-ж аб гэтым...

Надзя туліцца плячом да Міці.

— Не пойдзем у тэхнікум?

— Не...

Міця ўздыхнуў калі выйшлі на бульвар, адчуў сябе крыху лепш, бо спачатку вельмі ўжо спуджана скочыла сэрца, прытаілася на секунду, потым дробна білася.

Клёны гамоняць уверсе лапушыстым лісцем. У шэрым хмарным паднябессі стыне імклівая журба. Нават з цемры відно, як ветрам разрываецца на кускі шэры дыван і ласкутамі паспешна ссоўваецца за небасхіл. На вуліцы каля інтэрната дзьме вецер. За верандай на лаўцы ціха... Надзя гаворыць:

— Табе, як выдатніку дакументы аддадуць. Райком таксама не затрымае і паступім вучыцца ўдваіх.

Міця не ведае што адказаць ёй.

— Пачакай, часу яшчэ многа...

— Мне трэба ведаць... Я з табою хачу...

— Чаму са мною?

Надзя маўчыць. Уверсе шуміць цёмнае макавішча таполяў. Шастае вецер. Міця падсунуўся бліжэй, прытуліўся да Надзі.

Надзя схіліла галаву да пляча Міці. Ён пацягнуўся да твару і пацалаваў яе ў губы. Валасы Надзі лезуць у твар, прыемна казычуць... Яго хістае ў бакі ап'яняючая радасць, гуляе па твары пасмамі пахучых надзіных кос.

Рыпае галіна аб страху будынка, нібы просіць літасці ў ветра. Міця прыгортае Надзю. Чутно як б'ецца сэрца спуджанай птушкай і па целу расплываецца цяплынь, дурманіць.

— Надзя, ты ў мяне першы сябра пасля Валодзі. Ад сэрца кажу: я кахаю цябе...

— Міця... Міць...—Яна апусціла галаву, моцна сціснула яго руку.

Міця ведае, што Надзя не кепска думае аб ім, але ў гэты момант хацелася сказаць штосьці такое блізкае, дарагое, ад самага сэрца ўсплыўшае. Словы блыталіся, гінулі. Міця сказаў:

— Кепскага я многа бачыў. Вазьмі хоць маю прафесію да тэхнікума: ведаў я толькі лапці ды пугу. Можа памятаеш, у першую восень я хадзіў у сандалях. Не лёгка цяпер аб гэтым успамінаць... Толькі партыя большэвікоў, знішчыўшы кулацкія гнёзды, вывела гэткіх бедакоў, як мая маці, да сапраўды шчаслівага жыцця. Вось каму я абавязаны ўсім сваім жыццём. Вось... А ты, Надзя, сябра надзейны і за гэта табе...—пасмы кучаравых валасоў казычуць вуха Міці... Надзя гаворыць ціха.

— Мне сорамна, Міця... Не кажы...

— Нічога...

— Разам вучыцца згодзен?

— Згодзен,—адказаў Міця.

Міця сказаў, што заўтра з МТС будзе машына і Пятрусевіч забярэ яго дамоў. Надзя згадзілася ехаць з ім да Чапліц.

Студэнты вярталіся з вечара. Бразнула брама. Да іх падышоў Міша.

— Міця, ты сёння ўзяў сваё. Усе казалі, што комсамольская арганізацыя павінна ганарыцца табою...

— Арганізацыя, у якой сакратаром Міша,—дадаў Міця.

Міша доўга ціснуў руку Міці.

— Закончылі вучобу. А колькі яшчэ трэба!

— Праўду кажаш...

— Многа-многа...

На вуліцы павіднела. Хмары ачысцілі неба. Вецер угаманіўся. Ледзь чутна шуміць лісце таполяў. Надзя падала руку.

— Заўтра сустрэнемся дома...

— У Чапліцах,—дадаў Міця...

Ён ішоў на другі паверх і адчуваў сябе так, нібы што згубіў. Вучоба ўжо скончана. Заўтра не трэба ісці ў тэхнікум...

## Частка другая

### 1

Міця зайшоў у пакой і, глянуўшы на дзверы другой палавіны, убачыў Надзю.

— Пойдзем,—сказаў ціха.

Надзя абапёрлася локцем на стол, жмурыцца над кніжкай, Міця нерашуча перамінаецца побач.

— Баюся трыганаметрыі,—кінула чорным бляскам вачэй на яго,—здаецца ўсё ведала, а зараз узялася і страх агортае.

— Не так і страшна, як ты кажаш.

— Усё-такі...—Яна зірнула за фіранку.—А і ноч сёння... Каб ты ведаў, няма ахвоты ісці куды-небудзь. Паслухай лепш...

Адкінула абечак піаніна, дакранулася да касцяных клавішаў. Гукі рынуліся ў беспарадку, загулі ў пакоі. Любіў Міця музыку, хоць і не разбіраўся ў ёй. Нутро лавіла плыўшыя гукі, краталі яны меладычнасцю самую глыбіню сэрца... Было то весела, то сумна.

— З такой песняй ніколі не сумую. Я яе не так яшчэ сыграю, калі пэўна буду ведаць, што я ўжо студэнтка. Ты разумееш?

Глянула яму ў твар шырока адкрытымі вачыма.

Міця сумеўся.

— Чаму? Я разумею...

Ён выняў з кішэні ліст. На маленькім бланку вайсковая школа паведамляла, што праз месяц пачынаюцца заняткі. Ніхто не ведае пра гэта. Надзя спадзяецца, што ён паедзе з ёю ў Менск. А зараз... Што скажа яна?

— Пачытай...

Надзя трымае ў руках канвэрт, узіраецца на прадаўгаваты штамп школы. Прачытала паведамленне і на твары знікла ўсмешка.

— Гэта праўда?..—глянула на яго недаверліва.—Праўда?

Яна села за стол, адсунула кніжкі.

— Чаму раней не сказаў? Я спадзявалася...

Яны вышлі на вуліцу. Ад клуба далятаюць гукі кларнета, вясёлыя галасы моладзі. Калгас спраўляе зажынкі.

Спыніліся за вёскай.

З-пад хмары льецца мяккае святло месяца і здаецца шырэй стала дарога. Міця ўзяў Надзю за руку, адчуў яе цяпло.

— Колькі думаў я: дзе маё месца? Ведаеш, лепш я ў вайсковую школу паеду. Няхай так будзе...

Надзя супакоілася, стала згаджацца з довадамі Міці. На развітанне сказала:

— Не дарую, што хлусіў. Зойдзеш заўтра?

Міця падумаў.

— У ваенкамат паеду... Пастараюся.

— Глядзі...

Надзя сціснула руку Міці. Гэта сцвярджала непарушнасць сяброўства.

Поўны месяц павіс над краем лесу. Недзе з посвістам крычыць заўзятая перапёлка.

2

Выйшаў Міця з парадных дзвярэй штаба. З-за высокай каланады гучна разлягլося па двары.

— Смі-і-рна!...

Дзве шарэнгі курсантаў замерлі. Да яго падышоў каравульны начальнік.

— Таварыш дзяжурны, нарад выстраен на развод.

Міця прывітаўся.

Шарэнгі ў адзін голас адклікнуліся.

Міця праверыў абавязкі, упэўніўся, што ўсе ў курсе справы падаў каманду.

— Нарад па каравулах, арш!

У памяшканне заходзілі з старое змены каравула, разражалі вінтоўкі, дакладвалі памочніку. Міця прыняў справы і намеціў расклад начной праверкі пастоў.

Тэлефаніст званіў, нахіліўшыся над сталом, выклікаў нумары.

Новы нарад выконваў свае абавязкі.

К адзінаццаці ночы ў штабе заціхла.

Міця зацягнуў чорныя шторы на вакне, паправіў рамень нагана праз плячо. Спыніўся каля дошкі загадаў.

Увайшоў памочнік, абсыпаны снегам, далажыў.

— У гаражы свет уключан. Па каравулах усё ў парадку.

Селі ўпоруч на мяккай канапе і памочнік, курсант аднаго-ж з ім узвода, чарнявы юнак з Донбаса, пакурвае і апавядае пра вынікі сёнешняй стральбы.

І ўжо калі гадзіннік гучна адбіў дзве гадзіны, помочнік спытаўся:

— Таварыш дзяжурны, загадаеце адпачываць?

— Адпачывай.

Міця паправіў шлем, выняў з шуфляды кніжку. І знайшоўшы месца, дзе спыніўся, углыбіўся ў чытанне.

У школе вырас ён. Гэта ўжо не той танклявы юнак у падраных сандалях. Цяпер ад яго вее падцягнутасцю, чоткасцю ў рабоце.

Ён адлажыў у бок кніжку, успомніў пра ліст ад Надзі. Гэта абудзіла прыемныя малюнкі сустрэч у памяці і цёплага развітання ў Менску. Спыніўся каля камутатара, пазваніў.

— Пост пяць?

Нібы з-за плячэй, так выразна пачулася.

— Пост пяць, таварыш дзяжурны.

Міця глянуў на гадзіннік, пабудзіў памочніка.

— Пайду правяраць...

Памочнік устаў.

Каля брамы свяціла блакітная лямпачка. Па аснежанай сцежцы ў кажусе крочыць вартавы курсант.

Нячутна цярушыць лёгкі сняжок.

У браме сустрэўся карнач са зменай каравула.

— Таварыш каравульны начальнік, пойдзем...

На вуліцы ні душы...

— Праверым каля склада.

Пазней зайшоў Міця ў памяшканне. Зняў пальчаткі. Памочнік усміхаецца.

— Замерз, таварыш дзяжурны?

Пад дзень заходзіў камісар.

Міця правёў яго, ішоў ад брамы і думаў: „Чаму чалавеку не спіцца? Другі-б нават і не падумаў, а гэта бачыш"...

Раніцою не заўважыў як хутка прайшоў час. Быў каля гаража, бо курс выязджаў на тактычныя заняткі ў поле, потым зайшоў у казарму, у сталовую. І калі на ганку паказалася прысадзістая фігура начальніка, выйшаў і адрапартаваў, чым займаецца школа.

Пад вечар машыністка прынесла загады ад начальніка. Міця выклікаў пасыльнага, прагледзеў аркушы. У папцы значылася яго прозвішча і падзяка начальніка школы за ўзорнае нясенне дзяжурства. На твары расплылася ўсмешка. Ён адаслаў пасыльнага і сеў за кніжку. У пакой зайшоў новы дзяжурны з памочнікам, узваліў на стол падсумкі з патронамі.

### 3

Паліць сонца.

Шкляная сінь неба нікне ў далечы палеткаў. Надзя абвязала хустачкай валасы, пазірае на асляпляюча белы ліст падручніка. Прыплюшчыла крыху вочы, нахілілася. Замільгалі вялікія літары з ружовым абадком. Палажыла падручнік, азірнулася. За рэчкай у двух кілометрах застаўся гарачы горад. Тут вальней...

Плешчацца ў берагі рэчка. Пад нагамі ледзь чутна сціраецца ў пацяруху выгарэлая трава. Надзя акунаецца ў ваду, плыве па цячэнню. Па пясчаніку выходзіць на ручаіну, густа паросшую мяккай травою. Ступае паволі, нібы баіцца наткнуцца на што. З зелені палеткаў памахвае ветрык. Смуглае цела блішчыць на сонцы ад кропелек вады. Сонца прыпякае ў плечы. Побач кусцікі... Яна сабрала свае рэчы і пайшла туды. Прыемна адпачываць у цяньку. Надзя абцягвае прыліпшы купальнік, лажыцца і чытае. Сюды яна едзе з раніцы. Увесь дзень чытае, купаецца. Экзамены падыходзяць к канцу. З вышыні настойліва льецца рокат матора. Надзя прыплюшчана глянула ў сінь неба. Хутка пранёсся срабрысты самалёт. Доўга глядзела яму ўслед.

„Няхай-бы ён прыляцеў"—мільганула прыемная думка.—„Недзе на граніцы цяпер. Што ён робіць у гэты момант?"

Закрыла далонямі вочы.

... Махае Міця рукою праз вакно. Яго твар з дзіцячай усмешкай аддаляецца пад грукат колаў. Гэты малюнак ярка ўсплывае ў памяці.

„Далёка, далёка ён зараз",—думае яна. Сплятаюцца думкі ў прыгожыя вянкі. Замірае сэрца ў дагадках.

— Адлегласць?.. Хіба яна можа перашкодзіць?—пытаецца яна і, зірнуўшы на прасторны луг, ловіць сябе на гэтым запытанні.

Надзя зноў бярэцца за кніжку. Ліст на галінцы дробна дрыжыць. Кучаравая пасма ўпала на абпалены сонцам твар.

## 4

Аднастайна цікае будзільнік на стале. Міця рыхтуецца да заняткаў. Перад ім падручнік японскай мовы. Ён узіраецца ў шматпавярховыя іерогліфы, перапісвае іх у сшытак. Хоць вучоба ідзе марудна, але настойлівасць Міці расце з кожным днём.

У гуртку мовы ён можа ўжо задаць пытанні, адказаць на некаторыя і часткова зразумець, што гаворыць настаўнік.

У пакойчыку ўсё проста. Стол, два крэслы. У кутку ложак, старанна засланы зялёнай коўдрай, насупраць—канапа з кітайскімі ўзорамі. Засталася яна ад фельчара, які паехаў на вучобу ў мінулым годзе. На сцяне вісіць вінтоўка, карта. Праз вакно відаць сопку і шматок шэрага манчжурскага неба. У калідоры пачуліся крокі. Рэзкі стук у дзверы.

— Можна?..

Міця ўстаў.

Баец падаў пакет.

— Ад начальніка заставы...

Баец бразнуў абцасамі і знік.

Міці трэба зараз-жа з'явіцца да начальніка па аператыўнай справе. Ён сунуў падручнік, хутка адзеў макентош. Пры выхадзе зірнуў у люстэрка і крыху сумеўся. Пад носам ледзь-ледзь прабіваліся вусікі. Ён усміхнуўся, махнуў рукой. У кабінеце начальніка заставы сядзеў Чухрай, даўні знаёмы Міці, сакратар комсамольскай арганізацыі суседняга калгаса. Яго бронзавы твар быў устрывожаны, але калі яны сустрэліся поглядамі—у вузкіх прарэзах вачэй заіскрыліся, як і заўсёды, хітрыя агеньчыкі.

Міця слухае начальніка і водзіць алоўкам па карце раёна. Яны абмеркавалі паведамленне Чухрая і парашылі, што Міці неабходна ехаць у калгас. На краю калгаса жыў рыбак-кітаец Сінь-Вінь. Чухрай падсачыў учора, што ўвечары да яго зайшлі двое. Ён хацеў даведацца, хто там і нібы тако, што яму патрэбна свежая рыба, зайшоў у хату. Кітаец ляжаў на палку. Болей у хаце нікога не было. Чухрай падумаў,—здалося.

Раніцою сёння, адкуль і ўзяліся, у калгас з'явіліся двое з зямельнага аддзела правяраць абмалот. Чухрай сачыў за імі ўвесь час, потым адклікаў старшыню калгаса, маргануў яму і вярхом прыімчаў на заставу. З заставы выехала двое да граніцы, а Міця з ездавым накіраваўся ў калгас.

Вузкая дарожка шамаціць пажоўклым апаўшым лісцем. Вясенняе сонца павісла над сопкай. З лесу цягне прагорклым балотным пахам. Міця абагнуў сопку і выехаў на палетак. Уперадзе віднеецца калгас. Міця саскочыў у пясок вуліцы насупроць канцылярыі, аддаў повад ездавому. Бразнула клямка ў дзвярах. Незнаёмыя адказалі на прывітанне і прадаўжалі разглядаць на стале паперы. Міця прысеў на лаўку. Старшыня калгаса падкруціў вусы.

— Што скажа памочнік начальніка заставы?—хітра зірнуў ён з-пад рыжаватых брывей.

— Памятаеш,—казаў Міця,—ты на тым тыдні абяцаў пачаставаць яблыкамі. Па дарозе было, вось і заехаў.

Старшыня ўсміхнуўся.

— Можна. Гэта мы зараз.

Увайшоў Чухрай з кошыкам яблык.

— Гаварылі толькі, а Чухрай, бачыш, наперад ведае,—сказаў старшыня, выйшаўшы з-за стала.

— Палявыя работы закончылі?—зірнуў Міця ў шырокую жорсткую бараду старшыні.

— Не ўсё... Дзён на тры засталося.

— З абмалотам як?

— Палову абмалацілі. Яны вось глядзелі,—кіўнуў на сядзеўшых старшыня.

Пануры з доўгай шыяй узняў галаву, прабасіў:

— Траха не палову...

Міця падышоў да яго, спытаўся.

— Вы хто такія?..

— Мы?..

— З зямельнага аддзела,—дапамог другі.

Міця ўбачыў на вакне футляр „лейкі“, кіўнуў панураму.

— Ударнікаў калгаса фатаграфіравалі для раённай газеты,—адказаў ён, паправіўшыся на лаўцы.

— Так... Дазвольце вашы дакументы...

Міця разгарнуў пасведчанне асобы панурага.

— На заводзе працуеце?

— Але...

— А чаму-ж казалі з зямельнага аддзела?

— Райком паслаў,—дадаў другі.

— А калі прыбылі сюды?

— Раніцою...

— На машыне, ці конна?

— Не...

— Устаць!—сказаў Міця і кіўнуў Чухраю.—Абшукай...

Вытрас Чухрай кішэні панурага. Нічога падазронага. Другі ўвесь час злосна гаварыў, чырванеючы да вушэй:

— Я камендангу скардзіцца пайду. Працаваць перашкаджаюць...

У партфелі другога было многа здымкаў.

— Калі ішлі ад пуні, ён фатаграфіраваў сопкі,—вытрасаючы кішэні, сказаў Чухрай.

Выдаў прадстаўнікоў „зямельнага аддзела“ аэраздымак суседняга раёна.

— Дзе ўзялі?.. Для раённай газеты?—складаючы ў сумку здымкі, спытаўся Міця.

— Я пазваню у райком,—чырвоны ўвесь, як рак, крычаў задзірыста другі.

— Пойдзем!..

На ганку Чухрай шапнуў Міці:

— Я дапамагу завесці...

— Давай,—адказаў Міця.

5

Надышоў сакавік. На двары стаяць траскучыя маразы. З манчжурскага боку дзьме пякучы парывісты вецер. Шуміць тайга...

Аператыўная задача патрабавала прысутнасці памочніка начальніка на месцы падзей доўгі час. Тры дні не прыходзіў дамоў Міця. Вечарам унёс у цёплы пакойчык клубы марознага туману. Аб'інееў каўнер поўкажушка. Міця пацірае рукі, ходзіць па пакоі ў высокіх валёнках. Прынеслі пошту. Маленькі сіні канверцік абудзіў Міцю. Ён паспешна разадраў яго і хутка прабег па радках знаёмага почырка. Надзя ўпікае, што ён не піша ёй і бадай забыўся на яе, на сяброўства.

Мільганула непрыемная думка. Нібы рукою зняло ўтому. Хацелася крыкнуць, сказаць моцна, што гэта няпраўда. Доўга сядзеў над лістом паперы, сіліўся выказаць усё тое, што сагрэла сэрца пад посвістам сібернага ветру. Аднёс ліст і не мог супакоіцца. Лёг на канапу, абхапіўшы патыліцу рукамі, доўга пазіраў на квяцістыя шпалерныя ўзоры.

„Няўжо яна не разумее мяне?“—думаў ён.

Потым сцішыўся і задрамаў. Прахапіўся ад моцнага стуку ў дзверы. Толькі і пачуў:

— Трывога!..

Хутка апрануўся і да начальніка. Звоніць тэлефон.

— Атрад япона-манчжураў пранік на нашу тэрыторыю,—кінуў трубку начальнік і да Міці.

— Таварыш Шумін, загадваю абыйсці ворага злева сопкі. Я дзейнічаю справа, каб ні адзін не выслізнуў,—паказваў начальнік на карце план свайго рашэння.

— Атрад уварваўся лявей пагранічнага знака 015...

Міця паўтарыў загад, няёмка ў валёнках павярнуўся і выйшаў. За ім выбег камісар заставы.

Граніца трашчыць ад частае страляніны кулямёта. З заставы імчыцца конны атрад у абхват сопкі. Вецер пячэ ў твар. Без адзінага голасу спешыліся, пачалі наступаць у бок граніцы па схіле сопкі. Міця спяшаецца. Да пояса правальваецца ў глыбокі снег, карабкаецца і ідзе наперад.

Світае... Сінь раніцы змяшалася з бялізною снега. На гарызонце сцелецца туман. Кулямёт не змаўкае. Кучка дазорных пагранічнікаў стрымлівае націск азвярэлага ворага. Дапамога прыспела ўпору. Лявей загаманіў ручны кулямёт. Міця выглянуў з-за кустоў і не паспеў апамятацца, як ва ўпор яму бухнуў стрэл. Зляцела левая рукавіца. Зверху сопкі беглі двое японцаў з вінтоўкамі наперавес. Міця пусціў гранатай і прылёг на снег. Рэзка ірвануў паветра ўзрыў. На секунду пазней у тым-жа месцы яшчэ з большай сілай ірванула другая граната. Байцы наступаюць. На снягу валяюцца трупы самураеў. Унізе, правей, ідзе гарачая перастрэлка. Міця зразумеў, што начальнік заставы адрэзаў адыход ворагу. Лявей група байцоў з камісарам абходзіла пазіцыі з тыла. Байцы заляглі. Да Міці падпоўз баец, пацягнуў за палу поўкажушка, Міця азірнуўся. На снягу чырванню замярзала кроў.

— Таварыш памочнік, вы паранены,—і ўзваліўшы Міцю на плечы, папоўз за кусты.

Міця вырваўся з цэпкіх рук байца, азірнуўся.

— Таварыш Хмялёў, маладзец. Нічога. Я яшчэ магу,—і выбег з-за кустоў.

— За мною!..

Недалёка пахіснуўся адзін самурай і ўпаў, другі заенчыў, схапіўшыся за жывот. Справа рвала марознае паветра:

— Ура! Ура-а!..

Міця махнуў камандзіру ўзвода, крыкнуў:

— Таварышы!

Па схіле сопкі гуло рэха:

— Ура-а!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Увечары японцы зноў памкнуліся на граніцу. Але яны на ўласнай скуры адчулі моц зброі совецкіх пагранічнікаў. Самураеў разбілі ўшчэнт—часткай знішчылі, а рэшту ўзялі жыўцом.

## 6

Міця валодаў рукою ўжо зусім добра. Некалькі разоў пытаўся ў дзяжурнага ўрача, калі яго выпішуць.

Смешна часамі рабілася, як урач угаварваў неспакойнага камандзіра насіць руку на павязцы і пунктуальна выконваць яго прадпісанні.

— Яна не баліць,—гаварыў Міця.

Ён сядзеў у сталовай, перагортваў журнал. Дзяжурная сястра падышла, глянула блакітнымі вачыма.

— Вас хоча бачыць нейкі карэец. Настойліва патрабуе пусціць яго, але доктар...

Міця ўстаў і пашлёпаў у ардынарскую. Знайшоў урача.

— Сёння непрыёмны дзень... Не...

Міця прасіў.

— Як мы можам пусціць невядома каго? Прыязджалі з заставы, потым дэлегацыя была—пускалі... Вы хочаце...

— А можа справа сур'ёзная ёсць у чалавека. Запытайце хоць прозвішча яго.

Сястра хутка вярнулася.

— Чухрай, кажа...

— Яго можна,—з радасцю загаварыў Міця і выйшаў у калідор.

Урача ўгаварылі. Сястра вынесла халат. Цёпла сустрэўся з Чухраем. Ён паволі ціснуў руку, паглядаў на брытую галаву Міці. Уселіся на бялявай лаўцы, Чухрай пазіраў на рукаў халата, апавядаў.

— Прыехаў на пленум райкома і не зайсці не мог. А парадкі тут крутыя,—глянуў ён прыплюшчана ўздоўж калідора.

— Сам разумееш...

— Сінь-Вія я ўсё ж накрыў на гэтым тыдні. Падлюга! Не без яго дапамогі лезлі япошкі...

Пайшоў Чухрай пасля паўдня. Міця пісаў маці ліст, пытаўся ці выявілі віноўнікаў смерці Валодзі. Настойліва патрабаваў узбудзіць новае следства.

Праз тыдзень Міця выпісаўся. Адзеў форму і калі прыйшоў ўрач, Міця доўга трос яго мяккую цёплую руку. Урач паглядзеў на яго, на вуснах павісла ўсмешка.

— Жадаю ўсяго найлепшага...

— Дзякую...

Сонца выглянула з туману за сопкай. На двары спынілася машына. Міця зайшоў у кабінет начальніка і далажыў, што памочнік прыбыў і можа прыступіць да выканання сваіх абавязкаў.

— Адпачывай сёння, таварыш Шумін... Адпачывай!

— А і здарава мы іх узялі ў клешчы,—зірнуў Міця на поўны твар начальніка заставы.

Начальнік выняў з шуфляды пачак лістоў.

— Пішуць маладыя патрыёты. Хочуць служыць на нашай заставе. Во дзе грозная сіла паднімаецца! На, прачытай ліст брата Хмялёва,—і ён падаў яму спісаны аркуш паперы.

Заходзілі камандзіры. Міця глянуў на гадзіннік.

— Я пайду...

Дома знайшоў ліст ад Надзі, з якога зразумеў, што сяброўству канец. На некалькі лістоў Міця не даў адказу. Ён тупае па пакойчыку і не знаходзіць работы. Было шкада, што так недарэчна ўсё абарвалася. Хутка ўвайшла жонка начальніка заставы, Зоя Захараўна, з газетай у руках.

— Прыехаў? Здаровы? Ну, і добра...

Лёгка абняла і пацалавала.

— Герою дня... Маладзец!

Міця збянтэжыўся і не разумеў у чым справа.

Зоя Захараўна разгарнула газету, паказала пастанову ўрада аб узнагароджанні адважных пагранічнікаў. Яна водзіць па радках пульхным пальцам, называе знаёмыя прозвішчы байцоў і камандзіраў.

— Старшы лейтэнант Шумін Дзмітрый—ордэнам Чырвонай Звязды. І вы сядзіце? Усё тактыку вывучаеце?

— Нельга без яе, Захараўна.

— Свята сёння, свята... Не кажыце...

Зоя Захараўна толькі завіхнулася.

— Пабягу, свайму герою пакажу. Ён у кабінеце?

— У кабінеце, Захараўна...

Праз шыбу вакна ярка свеціць сонца. На двары каля будынкаў прыкметна туліцца вясна.

## Частка трэцяя

### 1

Глуха дрыжыць паліца ў купэ.

За вакном мільгаюць узлескі. Нізенькі алешнік туліцца да насыпу і праз шырокае балота змяняецца гаем на грудку. Стромкія жоўтабурыя хвоі выносіста цягнуцца ўвысь, засланяюць сінь неба.

Замільгалі стальныя спляценні маста, бліснула срэбраная істужка ракі на зялёным лузе. У далечы, з садоў паказаліся будынкі гарадка. Міця ўзіраецца ў бялявы мініяцюрны будынак палкавой школы на беразе рэчкі. Правей відны будынкі рабочага пасёлка. Дыміць труба лесапільнага завода. Яшчэ з тэхнікума хадзіў Міця на сходы рабочых дакладчыкам, наладжваў выхады драмгуртка. Усё так знаёма!

Ад усяго вее чымсьці квола-цёплым, блізкім, вабячым. Міця выйшаў у калідор. Праз адчыненае акно цягне свежасцю поплава. Невыразнае пачуцце поўніць нутро трывожнай радасцю. Ён глядзіць, як хутка мільгаюць вуліцы гарадка.

— Прыехалі,—сказаў кандуктар.

Міця ўзяў чамадан і знік у натоўпе.

Чуюцца галасы радасных сустрэч на пероне, моцныя пацалункі. Каля выхада з пугаўямі тоўпяцца возчыкі. Міці ніхто не сустракаў. Ён адразу здаў чамадан у камеру, атрымаў веласіпед з багажнай і паехаў у гарадок. Не пазнаць гарадка. Як ён змяніўся за чатыры гады! Замест драўляных паламаных тратуараў стройна працягнуліся шырокія асфальтавыя дарожкі, высаджаныя клёнікамі. Рыначны пляц сустрэў яго фігурнай агарожай і там, дзе раней кожны дзень была мітусня і бойкі гандаль, зараз пышна цвілі клумбы. Дарожкі высыпаны жоўтым пясочкам. У цэнтры на высокім п'едэстале высіцца помнік Леніну. Ільіч узіраецца прыжмурана ўдаль, паказвае правай рукою шлях, па якому нястрымна ўперад крочыць краіна. Міця спыніўся. Правёў веласіпед на сквер і прысеў у цянёк пад каштанам.

Побач гуляюць дзеці... На вуліцы часта сігналяць машыны.

Міця пайшоў. Па гэтай вуліцы тры гады хадзіў ён. Вось той мост, дзе сустракаўся з Надзяй. Міця спыніўся. Паглядзеў на знаёмы сад, на новыя будынкі. Потым прайшоў і сеў на лаўку каля былога інтэрната. Насупраць спыніліся двое. Хлапчук нёс у руках драўлянае ружжо, побач стаяў большы, белагаловы. Ён тузануў за рукаў меншага.

— Дзядзя, за што табе ордэн далі?

Міця глянуў на малых. Меншы выпучыў жывот, пазіраў не міргаючы.

— А ты ведаеш, што гэта ордэн?

— У нашага дзядзі ёсць... Я бачыў...

— За абарону краіны...

Малыя кінулі Міцю і хутка зніклі.

Далёка за горадам на шасэ спыніўся Міця, выцер хустачкай потны твар і прысеў на траву абочыны. Паволі дыхае ветрык з яравога палетку. Нячутна шавеліцца кусцісты сіні авёс. У вышыні тонуць бялявыя хмаркі. Міця прылёг на траву. Коратка падстрыжаныя валасы тапырацца спераду. З-пад камячкоў віхрастых броў пазіраюць добрыя задуменныя вочы. Яго здаровая постаць туга падцягнута папружкай з бліскучым клямарам. Запыленыя джымі схаваліся ў траве. Адпачнуў крыху і паехаў далей. Насустрач імчыцца пукатая спіна шасэ. Міця пазірае ўперад. Чатыры гады назад па гэтай дарозе ехаў ён з Надзяй на станцыю... Міця

мацней націскае на педалі. На ячменным палетку гуртам палолі жанчыны. У канцы вёскі высілася пажарная каланча. Каля магазіна расступіліся, пазнавалі пазіраючы ўслед.

— Пагранічнік нейкі...

— Ды гэта-ж Міця Шумін...

— Вырас як!..

Маці спаткала яго на двары. Доўга трымалася шурпатымі рукамі за шыю, праслязілася ад радасці.

— Жыў мой сынок...

— Я і не думаў паміраць...

— Кажы... Пісаў, што прыедзеш у маі... Усё думалася. Пойдзем у хату.

Маці села насупраць.

— Я ў сакавіку хварэла. Думала канцы ўжо. Вышкрабалася нейк...

Прышлі суседзі. Радасна віталі і распытвалі. Маці падышла бліжэй, пакратала пальцам.

— Гэта ордэн?

— Ордэн, мама...

— На многа прыехаў?—пыталіся суседзі.

— Пагуляю крыху, ды на вучобу...

— Пойдзем, жанчыны,—сказала маці.—Ты, Міця, пасядзі крыху, я зараз...

Выйшаў Міця ў сад. Гнецца галлё ад цяжару пладоў. З агароду пахне агуркамі.

2

Купчастыя прысады ўзбоч шасэ не шурхнуць лістам. Стаіць звонкая ліпеньская раніца з лёгкай сінявою на гарызонце.

Міця імчыцца ўперад. У руках блішчыць нікель руля, а пад шынамі ціха шуршыць засохлая гразь. Ён хутка апынуўся за чатыры кілометры ад свайго калгаса, параўняўся з рабочым пасёлкам. Побач бярозавы гай гамоніць на ўсе лады птушыным шчэбетам, дыхае ранішнім халадком. З-за зелені выглянула чырвоная страха, адна, другая... Ён спыніўся каля цаглянага будынка, пакінуў веласіпед каля дзвярэй і зайшоў у паднавес. Насупраць шырока адчыненых варот, пад чырвонай скрыняй камбайна капошацца двое. Зверху чуцён піск метала пад напільнікам і грудны мяккі голас запаўняе паднавес, ірвецца на волю, у шыр поля.

> Споем-же, товарищи, песню
> О самом большом человеке,
> О самом большом и любимом
> О Сталине песню споем...

Чуў ён гэтую песню на манчжурскай граніцы, пад гарачым сонцам Крыма. Тут, у майстэрні, сярод неабсяжных палеткаў, гэтая песня мела нейкую асаблівую мілагучнасць. Міця слухаў песню пра мудрага правадыра, якую пяе ўся краіна і не вытрымаў:

— Малайчына...

Песня абарвалася і з кузава выглянула чарнявая дзяўчына. Міця спытаўся. З-пад камбайна вылез чалавек, увесь замусолены да бляску. Міця пазнаў стрэчнага брата Алеся.

— Я цябе ўмурзаю...

— Нічога...

Яны ўселіся на скрынку каля варот. Алесь, пацірaючы шырокія, чорныя ад мазуты далоні, гаварыў:

— Чаму не паведаміў. Спаткаў-бы... А-а... Пісаў, што раней будзеш, а потым і няма. Думаў, што справы якія неадкладныя. Добра... Гэта мой агрэгат,—паказаў ён на камбайн.—Праз дзень-другі выходзім. Ты надоўга?

— Пабуду, а потым у акадэмію вучыцца...

— Ну, дык убачыш...

Міця паглядзеў на яго сур'ёзны твар, падумаў: „Як ён пасталеў..."

Алесь устаў, нізкі, карчукаваты.

— Хто гэта спяваў?

— Мой штурвальны—Вера...

Ён прыжмурыўся на металічную сетку гадзінніка.

— Абедаць час. Вера, прышрубуй саламатрас—і ў сталоўку!—крыкнуў ён у бок паднавеса.

Вышлі за МТС, сцяжынкай накіраваліся да рэчкі. Сонца акунулася ў гладзь ракі. Плюснік па той бок лапушыста натапырыўся, прыслухоўваючыся да цішы сіняга поўдня.

— Пакупаемся...—на хаду скідаючы спецоўку, сказаў Алесь. Не паспеў Міця агледзець бераг, як Алесь ужо ўскочыў у ваду.

Люстранае плёса паволі гойдаецца, чвякае хвалямі ў пяшчаны бераг. Алесь адзеўся.

— Ты лейтэнант...

— Старшы лейтэнант,—усміхаючыся паправіў Міця.

— Усё роўна. Цяжкая ў цябе служба. Манчжоу-го там розны і японец зноў-жа... Ты не думай, што мы ў шапку спім. Глянь, як урадзіла, зямля ледзь трымае столькі багацця. Быў на нарадзе камбайнераў і даў абяцанне зжаць 1500 га. Трэба слова стрымаць... А мама як?

— Нішто сабе...

— Даўно быў там. Не выбяруся ўсё...

Пазірае Міця з высокага берага на істужку рэчкі. Уецца яна на захад і знікае ў кустах.

— Я забыўся... Пакінуў веласіпед каля майстэрні...

— Ты на веласіпедзе? Нічога, не прападзе...

У пасёлак ішлі сцежкаю праз гароды. Матава-зялёныя качаны капусты ўкрылі грады. Выйшлі на ўзгорак. Алесь завярнуў і баразною павёў на дарогу. Побач стаіць чубок маладзенькіх дрэў.

— Зойдзем сюды...

Між дрэў ляжала п'едэсталам аграмадная гранітная пліта, на ёй узвышаўся адшліфаваны да бляску помнік. Надпіс гаварыў:

*„Комсамольцу—трактарысту,*
*загінуўшаму ад варожай рукі—*
*ВАЛОДЗЮ ШУМІНУ."*

Міця зняў шапку, абышоў навакол. Твар у яго стаў сур'ёзным, а ў вачах блі снулі слёзы.

Пасля паўдня зноў Міця зайшоў у паднавес. Алесь правёў яго да дарогі.

— Ты дзе быў?...

— У камендатуру ездзіў. Быць не можа, раскапаем гэтую справу...

Міця ўглядаецца ў даль шасэ. Узбоч сям-там стаяць лаўкі. Ён звярнуўся да Алеся.

— Ты бываеш у Чаплі цах?

— Учора адтуль, а што?

— Так сабе...

Міця не сказаў Алесю, што хацеў пытацца пра настаўніцу і яе дачку Надзю. Яму ніякавата было аб гэтым сказаць. Ён спытаўся:

— Там магазін ёсць?

— Сельмаг... Зачым табе?

— Папярос купіць...

— У буфеце ў нас колькі хочаш... Дай я з'езджу на тваім,— і Алесь перамахнуў нагою цераз сядло. Міця сышоў з дарогі. Каля ляска залапаталі ўспуджаныя галубы, з свістам шуганулі ў пасёлак. Ён паглядзеў убок Жываглодавіч. Там бор цямніцца ў сіняве, а далей польская тэрыторыя... Вісіць няветлае неба, гэткае як і на манчжурскай старане.

Пад'ехаў Алесь.

— Ты прыходзь. Я ў Чапліцах сцэпам двух камбайнаў ваяваць буду.

Міця ад'ехаў на ўзгорак, спыніўся. Адсюль як на далоні відаць гарадок МТС, вырасшы нядаўна. Насупроць жаўцее жыта. Буйны колас хіліцца долу. Шугае вецер і захвалюецца яно буйнае, чароўцістае, загайдаецца, ціха шэпчучы спелым коласам. Уверсе цюрлюкае нейкая птушка. Нібы хто дакранаецца да высокай сінявы і яна звініць.

## 3

Сіняя смуга заслала гарызонт. Сонца захінулася воблакам. Вецер сціх. Парна.

Міця ўбачыў як з пасялковае дарогі выйшла на шасэ дзяўчына. Не разабраў здалёк, куды яна накіравалася. Потым ужо ўбачыў, што ідзе ў гэты бок. Міця зняў шапку, выцер хустачкай твар. Яго цікавіла адно: адкуль яна? Ён успамінаў тутэйшых знаёмых, але падобнага не знаходзіў.

„А можа і сустракаўся калі?"

Кінуў гэтую думку, калі глянуў на МТС, якая будавалася ў яго адсутнасць. За гэты час вырасла столькі моладзі, што нават у сваім калгасе не ўсіх ён пазнае. Міця дастаў папяросу. Абцягнуў на сабе кашулю. Дзяўчына спяшаецца па сцяжынцы. Заўважыла на сабе погляд незнаёмага, узмахнула кучаравымі валасамі, чорна-бліскучымі вачыма яна ўставілася на Міцю.

І тут на твары яе ён заўважыў раптоўную перамену. Бровы падняліся вышэй, яна сцішыла хаду. Міця ўстаў і загаварыў першым.

— Грамадзянка,—нават сам здзівіўся, што вырвалася так, але дзяўчына спынілася.

— Чаго?—спыталася яна і, паглядзеўшы на вожыкаваты чуб яго, нібы здагадалася.

— Міця...

Міця ступіў наперад.

— Надзя?!

Яна схапілася за яго руку, сціснула аберуч.

— Няўжо гэта ты?—збянтэжана дапытваўся Міця.

— Якім чынам? Адкуль?—задыхаючыся пытаецца Надзя.—Сядай, пагутарым.

Ад нечаканай сустрэчы доўга не магла супакоіцца Надзя.

— Быў так далёка, а гэта стаў так блізка. Ці даўно прыехаў?

— Дзён восем...

— Бачыш, а да мяне і не заглянуў. Але што... я сама толькі ўчора прыехала.

— Не спадзяваўся спаткаць...

Міця пазірае на пунсовы твар Надзі, яна ўсміхаецца.

Глянула яна на бліскучы чорны казырок шапкі ў руках Міці, на чырвоную зорку пад зялёным верхам.

— Я, таварыш капітан, ці як там у вас кажуць, паспела толькі скончыць інстытут. Доктар атрымаўся, дазвольце далажыць.

— Надзя—доктар. Як гэта гучыць?—дзівіцца Міця.—Ты мяне выперадзіла... Больш паспела.

— А гэта што?—паказала яна на ордэн.—Ты не прыбядняйся цяпер. Абы каму не даюць, як я ведаю.

— Гэта так, а вучыцца толькі зараз пачну. Памятаеш, як мы ўмаўляліся?

— Як не было, а зараз сустрэліся...

Хацеў гаварыць, але Надзя перапыніла.

— Цікава...

— Што?

— Чаму ты адзін?

Міця па-свойму зразумеў пытанне і зірнуў на шасэ. У абодвы канцы абапал—жыта і жыта. Нідзе—ні душы! Ён падсунуўся бліжэй, паглядзеў у цёмнае бяздонне чорных вачэй, ціха сказаў:

— Альбо я адзін? Здаецца і Надзя тут?—рука дакранулася да яе пляча.

— Не забыўся?

Доўгі пацалунак асвяжыў засохлыя губы Міці. Валасы лезуць у твар. Міця ўстаў. Ціха дыхнуў ветрык поверх нахіленага калосся.

— Не спадзявалася цябе бачыць,—сказала Надзя.—А зараз пойдзем да мяне.

Міця ўзяў веласіпед, папрабаваў шыну.

— Удваіх паедзем...

4

Алесь яшчэ раз наведаў Чапліцы і сказаў старшыні калгаса, што заўтра прыедзе зажынаць. Той на развітанні затрымаў яго, паведаміў:

— Гаворкі розныя былі пра камбайн, што і жне кепска, што і салому пакідае. Доктар мне дапамагла, сход правялі. Развеялі паклёп. Дык ты ўжо глядзі, нажмі кнопку дзе трэба, каб камбайн сябе паказаў во-о!

— Гэта можна...

— Адразу перастануць плёткі пускаць.

— За камбайн будзь спакойны. Заўтра чакай.

Алесь пакінуў канцылярыю, затрымаўся на ганку. Вуліцай ехаў Міця. Ён здзівіўся, што ўбачыў яго тут, аклікнуў:

— Міця!..

Ён глянуў з-пад лахматых брывоў:

— Дзе быў?

— У камендатуру ездзіў. Тут ходзіць адзін спрактыкаваны... Сход быў, нават наконт работы камбайна гутарылі.

— Чуў.

Алесь глянуў на гароды.

— Я заўтра пакажу, на што здольны мой агрэгат. Няхай...

— Я ўжо маю некаторы матэрыял. Як тут аграном працуе?

Алесь задумаўся.

— Я з ім мала сустракаюся. Не па спецыяльнасці. А ты што чуў?

— Ды тут. Севазварот як ён уводзіць? Мне тут сказала адна комсамолка. За школай жыве...

— Можа быць... Толькі ты... але цябе вучыць не трэба.

— Я да яе загляну... А ты куды?

Алесь кіўнуў у бок канцылярыі.

— Яшчэ раз аглядаў палетак. Заўтра агрэгат будзе тут.

Міця выехаў у канец, завярнуў да школы. На двары густа зеляніцца трава.

Падняўся на ганак, пастукаў. Ніхто не адклікаўся. Міця пастаяў. За дзвярыма пачуліся крокі.

— Заходзьце!

Надзя стаяла на кухні.

— Ой, гэта ты? Праходзь сюды,—гаварыла яна.—Маці ў раён паехала, дык я за гаспадыню...

Яны прайшлі ў пакой, селі на канапу.

— Значыць, ты поўная гаспадыня? Кепска сустракаеш.

Надзя смяецца, абапершыся локцем на рукі Міці, нахілілася блізка.

— Віну папраўлю. Нічога.

Надзя выйшла на кухню.

Гучна пырскае вада ў дно міскі. Міця ўсміхаецца, стоячы ў дзвярах.

— Я раскладу дня не ведаў...

Надзя выцерлася, падыйшла да Міці.

— Прыбыла ў ваша распараджэнне.

Ён прыхіліў яе да сябе, пацалаваў. Калі адхінулася Надзя, сказаў:
— Вольна...
На акне надзімаецца фіранка. З саду прыемна пахне свежасцю.
Надзя прыбралася і яны праз двор выйшлі на палетак, поўны каласістага багацця. За ўзгоркам віднеецца лес, а там і рэчка.
— Сярод такога хараства хочацца гаварыць аб самым чыстым, што ёсць на душы... аб нашай маладосці...
Адсюль Міця з Надзяй пайшлі на курган. Злева віднеецца гарадок МТС.
— Глянь, Надзя, навакол... Я хоць не рамантык, а адчуваю як пяе ўсё. І гэта, як ты сказала, наша маладосць.
Назбірала Надзя кветак на кургане і, звязваючы букет, весела сказала:
— Маладосць... Маладосць...
Каля лесу тонка сцелецца ледзь бачная сінява і, здаецца, чутна, як падае з хвоі іголле.
Глыбока на поўныя грудзі ўздыхае багатая зямля. Час бяжыць хутка. Сіняя дымка вечара ахінула сад, бяседку.
Надзя сказала:
— Я арганізавала санітарны пост на час уборкі. Заўтра зажынкі.
— Ведаю...
Міця ўстаў. На вуліцы мітусіцца шэрань ночы. За будынкам забрахаў заспаны сабака.
— Хвілінку. Я загляну ў сельсовет, мне пазваніць трэба.
— Хутчэй, я чакаю.
Міця пайшоў па соннай вуліцы. Налева доўгі паркан свінаводчай фермы і кудлаты вішняк. За шулам пачулася размова. Прыслухаўся.
— Згіроўскі не ідзе і дзе толькі яго чорт забраў. А тут і чакаць нельга. Ён трапіў на след...—даляцела да слыху.
Рука інстынктыўна пацягнулася да боку, шкрабянула па гладкай папружцы.
— Смялей толькі... Не пужайся,—сіпела з-за шула.
Міця ступіў уперад. Перад ім вырасла двое.
— Хто такія?
— Во!—і замест адказу бліснула ў вочы полымя, на левым плячы балюча ірванула. З размаху схапіў правай адскочыўшага на вуліцу. Той толькі мільгануў і грукнуўся спіною аб шула.
— Хто такі?
— Аграном МТС,—выціснуў ён.
— Другі, дзе ён?
Міця трос загрудкі агранома. На вуліцы пачуліся крыкі. Прыбеглі калгаснікі.
— Хто страляў?
— Вось...
— Дык гэта-ж агранам,—сказаў адзін з іх, пільна ўзіраючыся ў твар затрыманага.
— Паглядзім, які ён агранам,—усміхнуўся Міця.
— Таварыш, у цябе кроў,—паказаў на рукаў калгаснік.

Ён зірнуў, сцяў зубы. У дзвярах сельсовета стаяў калгасны вартаўнік.

— Пакуль не прыедуць з камендатуры, не выпускаць.

— Добра.

Сам сціснуў руку і, прыкусіўшы губы, засяпшаўся да Надзі.

— Што здарылася?—ускрыкнула Надзя і ўмомант схапіла нажніцы, разрэзала рукаў.

— Шпіёны,—скрыгануў зубамі Міця і расказаў што здарылася.

— Бандыт... Мне тут суседкі расказалі, што ён вытварае...

Вышэй локця ў пятак шырынёю апяклася рука. На сярэдзіне блішчэў камяк крыві. Надзя скруціла бінт удвое, налажыла жгут.

Міця прайшоўся па пакойчыку з падвязанай рукою, прысеў на канапу, Надзя палажыла падушку, села побач. Доўга не зводзіла погляда з пабялеўшага твару, потым укруціла агонь у лямпе і, нахіліўшыся, шаптала яму ў твар.

— Супакойся мілы... Косць цэлая.

Апошніх слоў Міця не разабраў.

5

Па шасэ пыліць машына начальніка камендатуры. З ім Міця. Начальнік расказвае пра сваё жыццё, зайздросціць Міцю, што ён едзе ў Акадэмію.

— Я акадэмію пачынаў пад Уфою... і на сёння ўсё вучуся... Камячкі вусоў тапырацца пад танклявым носам. Ён памаўчаў.

— Як рука?

— Нічога... Яна ў мяне небарака: на Далёкім ёй таксама дасталося...

— Так... А „аграном" працаваў для двух разведак. Ведае нямецкую і польскую мову.

На ўзгорку кучкамі накідаў салому камбайн Дзве падводы ездзяць, звозяць яе ў стагі. Уперадзе чарнее „Чэлябінец".

Зашумеў вішняк на вуліцы, прарэзліва запішчэла пругло калодзежа. Машына спынілася.

— Давай у двор,—кіўнуў начальнік шоферу.

Іх сустрэў Алесь, потым выйшла Надзя.

— Я ўжо прачакаўся,—усміхаецца Алесь.

Міця ўбачыў, што Алесь прыбраўся, знарок спытаўся:

— А хто там? Камбайн-жа працуе.

— У мяне хлапец там, хоць куды-памочнік. Па такому выпадку як сёння—адпусціў мяне.

— Як з планам?—пацікавіўся начальнік.—Укладваецеся ў тэрміны?

— Знаёмцеся, калі ласка... Жонка.

Надзя падала руку. Начальнік не вытрымаў колкага бляску яе вачэй, глянуў на чырвоныя яблыкі, звісшыя на галіне.

— Прашу ў кватэру, там пагутарыце,—сказала Надзя.

На ганку Міця затрымаўся.

— Ужо ўсё вядома. Нядаўна і Лагуцкі папаўся.

Алесь шырока расплюшчыў вочы.

— А дзе ён быў?
— З Бабруйска прывезлі. Сёння я толькі даведаўся, што Валодзю забілі Згіроўскі і Лагуцкі.
Алесь пахмурнеў.
— Ён-жа і ў цябе страляў. Фашысцкая гадзіна!
— Страляў... Яго тады раніцою за Жываглодавічамі касцы затрымалі. Немец з ім быў, дык на граніцы папаўся.
— Іх цэлая банда?
— Бачыш-жа... агенты іудушкі Троцкага...
У кватэры Алесь прыгладзіў валасы, адказаў начальніку:
— З планам у мяне так: на сёння маю 1200 га. Уперадзе яшчэ больш тыдня. Думка перавыканаць...
Міця на кухні агледзіў зложаныя клумкі. Надзя зашпіліла чахол на чамадане.
— Мама яблыкі дае, а іх і ўціснуць няма дзе...
Яна адкінула пасмы валасоў, упаўшыя на ружовыя шчокі.
Праз акно ўліваецца свежасць сада і жнівеньскі дзень усміхаецца сінявою неба. Прыемна адчуваць у такую пару, як увачавідкі спеюць яблыкі і лёгка ўздыхае неабдымная зямля, аддаўшы багатыя сокі буйнаму ўраджаю. Неяк усё цяпер набывае свой асаблівы сэнс. Нават і былінка на ўзмежку калыша спелай шышкай зярнятак, гатовых упасці ў раллю. Шофер глянуў на гадзіннік.
— Таварыш начальнік, пара выязджаць.
Усе ўсталі з-за стала. Начальнік падзякаваў гаспадыню.
— Кіньце. Няма за што...
Улажылі клумкі.
— Я тут сяду,—паказаў начальнік на месца каля шофера.—Ты там гаспадар.
Алесь паціскаў рукі, горача развітаўся з братам.
— Не забывай, Міця.
— Не-не,—за яго адказала Надзя.
За калгасам спыніліся. Маці пазірае ўслед, наставіўшы руку стрэшкай ад сонца. І калі на шасэ ў сіняве знікла машына, уздыхнула. Азірнулася. Далёка ляжаць палеткі. Тонкая сінь вісіць уверсе чыстым крышталем.
— Ды што я? Хіба такая мая маладосць была?—прамовіла яна нячутна і рушыла сцяжынкай дамоў.

1938 г.

*Аркадзь Куляшоў*

# У ЗЯЛЕНАЙ ДУБРОВЕ

(Паэма)

1

Вазкі на рысорах
Ныраюць за ўзгоркі,
Імчаць па прасторах
„Чырвонае Зоркі“.
Прымі прывітанне,
Калгасе багаты!
У яснае ранне
Мы едзем у сваты.
Нас едзе брыгада
У згодзе і ладзе,
За першага свата—
Старэйшы ў брыгадзе.
Хоць росту малога,
А толькі другога,
Ці знойдзеш такога,
Як ён—гаваркога?

Прыехалі ў сваты,
На покуце селі...
Спяваюць дзяўчаты
Сватам аб вяселлі.
Хрысцінка шчаслівa
Глядзіць на Івана,
Пры ўсіх—сарамліва,
Пры ўсіх—закахана.
Не зналі ўсе чыста
І маці не знала—
Калі трактарыста
Яна пакахала?
Ні разу начамі
На прызбах арцелі
З дзяўчатамі, з намі
Яны не сядзелі.

Здаралася часам
За трактарам разам
Іх бачыць у полі,
На прызбе-ж—ніколі.
Калгасаў ці мала
Аб'ехаў араты?
Чаму-ж так удала
Патрапіў у сваты?
Спытайце нявесту,
Нявеста адкажа...
Ці рада прыезду,
Падружачка наша?
Яшчэ ты ці рада—
Скажы, звенніявая!—
Што супраць брыгада
Нічога не мае?
Што лічым мы гэта
Удачаю людзям,
З якімі ўсё лета
Спаборнічаць будзем.
З калгасам Івана
Спаборніцтва ўзята...
А хто пераможа?
Якая брыгада?
Ужо са сватамі
Саймуецца маці
Як гэтымі днямі
Вяселле згуляці.
Ім трэба спяшацца,
Бо тыдзень мінецца
І дружная праца
На полі пачнецца.

Іван з перамогай
Дадому вяртаўся,

А бацька ў дарогу
З калгасу збіраўся.
Якая прычына?—
Спытала праўленне.
— Ад большага сына
Прышло запрашэнне.
Ёк ранены куляй...
Ляжыць у бальніцы.
Гнаў ворага сын мой
Ад самай граніцы...
Па цёмным балоце,
Дзе шэры лішайнік,
Дзе след у чароце
Забыў парушальнік.
Кроў сына героя
Недарам праліта,
За багнай, пад хвояй
Насціг ён бандыта
Не выказаць словам,
Што дзеецца ў свеце...
Прынёс я пісьмо вам,
Чытайце, суседзі!
Пісьмо па парадку
У голас чыталі.
З ліпнёвага ўзятку
Мядку накаталі.
Сказалі старому:
— Вязі да заставы
Часту 1ак героям
За мужныя справы.
Па малу, па троху,
Збіралі гасцінна
Пракопа ў дарогу
Да большага сына.
А ў меншага—справа
Была неадкладнай,
І бацька ласкава
Сказаў яму:—Ладна,
Да новай нядзелі
Вярнуцца паспею:
На вашым вяселлі
Сем танцаў адклею.
Узяў, як належа,
І кайстру з сабою,
І коску з зістрэшша,
І пляшку з вадою.
Паехаў. І едзе
З узгорку на ўзгорак:
Кілометраў дзесяць,
Кілометраў сорак.
Расце канюшына—
Ён лапік адкосіць,
Бо конь не машына
І есці папросіць.
(І конь пад дугою
Не ведае стомы.)
Ідзе пехатою
Дзядок незнаёмы.
Час вольны, дзень добры,
Жаданая стрэча.
— Дзень добры!
— Дзень добры...
— Сядай чалавеча!
Вятрак пры дарозе
Адлічвае хвілі.
Ў дзве люлькі на возе
Сябры задымілі.
У добрым настроі—
І прыязнь жывая;
Пра сына-героя
Пракоп разважае.
Нібы не заставу
Наведаць ён едзе,
А родную славу
Развозіць па свеце...

2

За першым сталом,
У дзень урачысты,
Сядзяць з жаніхом
Сябры-трактарысты.
Гасцям у калгасе
„Чырвоная Зорка"
І чарка знайшлася,
І сала не ёлка.
З відна да цямна
Між імі гаворка,
П'юць госці да дна
І крывяцца:—Горка!..
Сядзіць між сваіх
Сяброў па брыгадзе
З Хрысцінай Іван
У цёшчынай хаце.
Было там людзей—
Ці мала ці многа—
З вяселля-ж гасцей
Чакала дарога.
Хрысціну радня
На ганак выводзіць;

На двор старшыня
З Іванам выходзіць...
З гасцямі—хлапцамі—
Стаіць разважае:
— Падумайце самі—
Няўдача якая!
Скажу я вам шчыра,
Хай будзе, што будзе,
Майго брыгадзіра
Вы крыўдзіце, людзі!
Пяць год працавала
Хрысціна з сябрамі,
Хіба гэта мала?—
Падумайце самі.
Брыгада спаборніцтва
Даўняе мае—
Хрысціна-ж работніца
Ў іх залатая!
Яму хоць у вір,
Што за нашым, за станам...

Васіль-брыгадзір
Падыходзіць з баянам.
— Дамоў трактарысты?—
І думае думу.
Баян галасісты—
Ратунак ад суму.
Хрысціне здаецца,
Знаёмае вока
Глядзіць ёй у сэрца
Глыбока, глыбока...
А можа, Хрысціна,
Цябе ён кахае?
Пра гэта дзяўчына
Не знала, не знае.
Ля ганку машына
Гудзе грузавая...
І ў тую хвіліну,
Як лёгкія птушкі,
Паселі ў машыну
З нявестай падружкі.
З ласкавым дакорам
Завуць яны хорам:
— Залазь, Васілёчак!
— Сыграеш разочак...
Узлез. На баяне
Зайграў развітанне.
За рэчкай на стане
Дарогі ў тумане.

Там голубы ў згодзе
Пад лес паляцелі.
Там сонца заходзіць
За гумны арцелі.
Туды пакацілася
Мякка машына
Чаго засмуцілася
Наша Хрысціна?
Ты едзеш, ты едзеш
Для ўсіх нечакана,
Як трэба нявесце,
У хату Івана...
Вось тыя палеткі,
Што ім узараны,
Крынічныя кветкі,
Лясныя паляны.
Вось ёлачка тая
Над ціхай мясцінай,
Дзе Першага мая
Ён стрэўся з Хрысцінай.
Вось поле, дзе разам
Былі за работай,
Лясок—за калгасам—
Дзе бачыўся ўпотай.

Мільгаюць сцяжынкі,
Як белыя стужкі,
А з мужам Хрысцінкі
Жартуюць падружкі.
Прыгожы ж ён дужа,
Сама-б пакахала,
Харошага мужа
Хрысцінка прыдбала.
Пыл сцелецца ззаду
На светлым тумане,
Іграе „Дасаду“
Васіль на баяне.
Спяваецца песенька
У летнюю ночку,
Сядзяць яны песенька
Ў дружным кружочку.
Пад месяцам мглістым
Васіль з трактарыстам
Цалуецца звонка:
— Харошая жонка!..
Ці бачыш, Хрысцінка?—
І люба, і міла!
І белай хусцінкай
Свой твар засланіла.

3

Машыну хлапцы
Прыпынілі на волі.
Стаяць там капцы
Межавыя на полі...
Кляймёны нанова
Ўкапаны навечна,
Над імі дуброва
Гамоніць сардэчна.
Трава ўжо астыла,
Раса паднялася...
Жыць люба, жыць міла
Сябрам у калгасе!
Слухмяная людзям
Машына прыстала.
— Тут ноч перабудзем!—
Хрысціна сказала.
І полымя ззяла
Гасцінна ў дуброве
Пяклося ў ім сала—
Усім на здароўе.
Зноў песні, прыпеўкі,
Вясёлыя крыкі...
— Чаго-ж гэта, дзеўкі,
Не чутна музыкі?

Ён з радасцю новай
І думай шчаслівай
Блукае дубровай
Па сцежцы маўклівай.
З маленькай дзяўчынкай
Хадзіў ён у лады,
Сядзець пад хваінкай
Былі яны рады.
Ён поўнаю жменькай
Насіў ёй маліны,
Няма ўжо маленькай
На свеце Хрысціны.
— Без бацькі расла ты,
Як я—сіратою,
І я з тваім братам
Дружыў, як з табою.
Ён зваў мяне—мужам,
А жонкай—сястрыцу,
А летась паехаў
Максім на граніцу.
Ты сёлетнім летам
Пайшла за другога
І мы з ім на гэта
Не скажам нічога...
Зайшоў у зацішша,
Прылёг ля дарогі
І ночкаю дыша,
Без лішняй трывогі...
Над ім галасочак
Звініць, як званочак:
— Заснуў, Васілёчак?
Устань, Васілёчак!
Да вогнішча звалі
Сыграць на баяне...
Пайшлі. Заспявалі
Пра ноч і каханне:
Ішлі асцярожна,
Ішлі засмучона
Абняцца не можна—
Яна заручона.
Плыў месяц з-за хмары
Высока, далёка,
Чаму-ж ім у пары
Ісці было лёгка?
Ці можа ізноў ім
Дзяцінства свяціла
З-за цёмных лістоў
І надзей не сушыла?

4

Агонь на паляне
І светла наўкола...
Васіль на баяне
Іграе вясёла.
Дзяўчынка малая
З падружкамі села,
На ўсіх пазірае
Трывожна, нясмела.
З якой весялосці
Дзяўчаты спяваюць?
Чыёй маладосці
Касу прапіваюць?
Хоць нова такая
Хрысціне прыгода,
Хіба-ж ёй, хіба ёй
Касы сваёй шкода?
Шкада ёй брыгады,
Дзе дружная праца,
Шкада сваёй хаты—
Не можа расстацца.
Не так яшчэ з хатай,
Як з тымі вугламі,

Не гэтак з брыгадай,
Як, дзеванькі, з вамі.
Дзьме вецер лагодны,
Крычыць перапёлка...
Калгасе мой родны,
„Чырвоная Зорка"!

. . . . . . . . . . . .

Паволі стухае
Агонь на паляне.
Даўно не іграе
Васіль на баяне.
Заместа падушкі—
Баян галасісты...
Спяць мірна падружкі,
Хлапцы-трактарысты.
Навіслі галіны.
Цямнее палянка.

З хлапцом у Хрысціны
Да рання гулянка.
З Іванам сваім
Заручылася шлюбам,
Не сорамна з ім
Цалавацца пад дубам.
Ім хораша, люба,
Схілілі галовы...
Плыве міма дуба
Іх месяц мядовы.

5

А бацька Івана?—
Шчаслівай гадзінай,
На досвітку рана
Даехаў да сына.
— Сыночак!..

Для хворага
Радасць якая—
І доктар у бор яго
З бацькам пускае.
Увечары з сынам
Пад хвояй сядзелі
Над возерам сінім,
На качак глядзелі.
— Ляціць яна, во яна,
Нас не баіцца!..
— Іх біць не дазволена—
Блізка граніца.
Страляць па іх—лічым
Мы забаўкай смешнай—
Удоваль нам дзічы
Хапае замежнай.
Купалася качка
І вечар быў свежы...

У вольны дзень бацька
Пабыў на манежы;
Тым памятным днём
(А стары не забудзе!)
Яго з земляком
Пазнаёмілі людзі.
Мчаць коннікі міма
Імклівым галопам.
— Як зваць вас?
— Максімам.
— А вас як?
— Пракопам...
Баец той—з калгасу
„Чырвоная Зорка",
Была ў іх адразу
Прыязнай гаворка...
І слова за слова,
І ўжо нечакана
Заходзіць размова
Пра сына Івана.
— У вашай брыгадзе
Ён сватаў дзяўчыну...
Ці ведаеш, браце,
Ці знаеш Хрысціну?
— Хрысціна?.. Хрысцінка,
А як-жа.. а як-жа,
Сястра мая...—ціха
Максім яму кажа.
Пад клёнам лагодным
Удвох яны селі,
Паціху аб родным,
Гамоняць вяселлі.
У вочы глядзяць
Па-сваяцку, ласкава:
— Хто мог-бы сказаць!
— Нечаканая справа...
Яны не чакалі
Такога спаткання.
Пад клёнам пісалі
Пісьмо-пажаданне.
Дамоў яно дойдзе
Ад бацькі, ад брата:
„Жывіце-ж у згодзе,
Вясёла, багата!"

Махалі направа,
Налева клінкамі—
Мець справу цікава
Пракопу, з байцамі.
Паслухаў як неба
Звінела ад свісту.
Пабачыў, як трэба
Страляць па фашысту.
Дамоў ад'язджаў ён
Далі яму боты,
З майстэрні дзяржаўнай—
Трывалай работы.

А дома тым часам
Адпеліся песні,
Здалёку, з калгасу
Нявестку прывезлі.
Ідуць маладыя
Глядзець гаспадарку
Ў палі залатыя
Пад летнюю хмарку.
Умытыя ёю
Над шляхам навіслі
Іззяюць расою
Іванавы вішні.
— Глядзі, гаспадыня!—
Гаворыць ён жонцы.
Ідуць маладыя
І шлях іх бясконцы.
Ідуць маладыя,
Дзе збожжам, дзе пашай.
— Глядзі, гаспадыня,
Усё гэта наша!
І сонца заходзіць—
Канчаецца праца.
Касцы падыходзяць
Да іх павітацца.
Лугі заліўныя
Сінеюць за плёсам.
— Ну як, маладыя,
Ці ладна мы косім?
— Ну як, маладая?..—
Пытаюць з надзеяй.
Як зваць іх—не знае,
А родныя—ўсе ёй.
Гарачай уборкай
Брыгада занята—
З „Чырвонаю Зоркай"
Спаборніцтва ўзята.
Даўно ўжо, даўно ўжо
Спаборніцтва ўзята.
А хто пераможа?
Якая брыгада?

6

З вакна выглядае
Нявестка Хрысціна:
Вакол не такая,
Другая мясціна.
Ляжыць палявая
У далеч дарога.
Глядзіць. Агартае
Хрысціну трывога...
Як люднага свята
Чакаюць уборкі
Далёкія хаты
„Чырвонае Зоркі".
Там сонца ўзыходзіць
У ранішнім дыме,
Дзяўчаты выходзяць
З сярпамі сваімі,
У белых сарочках—
На працу адзеты;
Завуць па садочках:
— Хрысцінанька, дзе ты?

З вакна выглядае
У саменькі ранак,
Вузельчык збірае,
Выходзіць на ганак.
З вядзерца па-ранняму
Мыецца хлопча,
На поле пара яму—
Трактар грукоча.
Праходзіць па грэблі
Натоўп стогалосы:
Рагатыя граблі,
Кляпаныя косы.
Ім жаўранкі ў лузе
Спяваюць гасцінна...
— Дадому прайдуся!—
Гаворыць Хрысціна.
А хлопец вядзерца
Нясе насустрэчу:—
„Схадзі, маё сэрца,
Хіба я пярэчу?"
Іван разумее:
— Сваім на падмогу...

Хрысціну вядзе ён
На шлях, на дарогу.

Ідуць загуменнем
І пахне знаёма
Пад першым праменнем
На стрэхах салома.
І цёмнае ўгору
Расце канаплянне.
Ім свеціць з прастору —
Шырокае ранне.

7

Даспелі зярняты
Пад сонцам і громам
І ходзяць брыгады
Прасторам знаёмым.
Па ўсёй гаспадарцы
Брыгадныя станы.
Васіль на жняярцы
Жне хлеб нечапаны.
— Ну, сонца з паўдня
Задало нам жарышчы!..
Грыміць старшыня
Ідучы па іржышчы.
Быў старшыня
Да спадобы калгасу
З першага дня
І да гэтага часу.
Затое любімы,
Што сам працавіты,
З ім разам былі мы
Вясёлы і сыты.
Сустрэўся з Хрысцінай
Цяпер нечакана.
(Чырвонай касынкай
Яна павязана...)
Смяецца шчаслівa,
Разводзіць рукамі:
— Ну, хіба не дзіва,
Падумайце самі?..
Жняярка брыгады
З жытоў выплывае
І рады дзяўчаты:
— Прышла звеннявая!..
Прышла ў свой калгас
І сардэчна сустрэта:
— На доўга да нас?
— На заўсёды?
— На лета...

8

З дзяўчатамі жала
За родным калгасам.
Снапочкі вязала
Крутым перавяззам.
Не ўспець за Хрысцінай
Падружкам з арцелі.

. . . . . . . . . . .

Здалёк калявінай
Калёсы грымелі.

Яздок пехатою
Трымаецца збоку,
Відаць па спакою,
Што едзе здалёку.
Забыліся ногі
На змогу і стому—
Напэўна дарогі
Віюцца дадому.
Халявамі з воза
Блішчаць яго боты,
Не хуткага зноса—
Трывалай работы.
Цямнее пад пылам
Каса на калёсах—
Відаць, не хадзіла
Даўно па пакосах.
Да жней падыходзіць
Яздок невядомы
(А рукі ў іх ходзяць
Не чуючы ўтомы).
Вясёлы ён. Веку
Ужо не малога.
Хіба чалавеку
Не к спеху дарога?
Стаіць, як урыты,
Глядзіць самавіта:
— Глядзі ты, глядзі ты—
Ваююць сярдзіта!..
За крайняй, дзяўчаты,
Слабо вам угнацца...

Падружкі заняты,
Не жарты ім—праца.
Даўно ужо, даўно ўжо
Спаборніцтва ўзята.
А хто пераможа?

Якая брыгада?
Ім некалі, жарка,
Сярпы ў іх, як саблі:
— Прашчай, Макарка—
Ногі пазяблі!..

Стаіць чалавеча
Збянтэжаны, босы,
Сказаць яму нечага,
Сеў на калёсы.
Мінуў ён брыгаду.
Загрукалі колы
Чуваць яму ззаду
Рогат вясёлы.
Дарослыя людзі
Смяюцца:—Макарка...
А што-ж гэта будзе?
Аж беднаму жарка.
Не чуў, ані блізка,
Імя ён такога—
Завуць ад калыскі
Пракопам старога.
Ён подбегам едзе...
Стракоча жняярка.
Вітаюцца дзеці:
— Дзень добры, Макарка!

. . . . . . . . . . . . .

Мо' свёкар?—Хрысціна
Падумала смехам,—
Што хворага сына
Наведаць паехаў?
Глядзіць яна ўслед яму
Доўга, цярпліва,
Імчыць ён па светламу
Полю імкліва...
Дзьме ў твар яму вецер,
І сунецца хмарка—
Насустрач ёй едзе,
Пыл гоніць Макарка.
Уздыхнула глыбока,
Падол падкасала:
— Цяпер ён далёка...
Ледзь чутна сказала.
Дугой узнялася
Над полем вясёлка...
Мой родны калгасе,
„Чырвоная Зорка"!

9

Лес ціхі, задумны
Смугою спавіты.
Пазвезена ў гумны
Калгаснае жыта.

Тры дні, як ударна
Брыгада малоціць.
Гудзе малатарня,
Ток зернем залоціць.

Ёй рэхам дуброва
Адказвае глуха,
Нібы Васілёва
Па дзеўчыне скруха,
Што з часам, што з часам
Памалу ўляглася.

Як хораша разам
Рабіць у калгасе!
Што ноч яму сняцца
Сярпы і жняяркі,
Брыгадная праца,
Дзень летні, дзень яркі.
Там з імі Хрысціна—
Яго звеннявая...

Там полем машына
Імчыць грузавая:
Спыняюцца колы
Ля ціхай дубровы.
І ў сне яго холад
Праймае зімовы.
— Хрысціналька, сэрца!—
Ён шэпча спрасоння.

Спаць позна кладзецца
З трывогаю сёння.
Заснуць не паспеў ён—
Сама звеннявая
Да першага пеўня
Яго падымае.
Твар цёмны ў Хрысціны,
У голасе—гора:
— Брат родны... адзіны
Загінуў... учора.

Не стаць на граніцы
На варце яму ўжо,

Не бачыць сястрыцы,
Ні ў маткі, ні ў мужа...
Забіт нечакана
Ён стрэлам варожым.

(Брат мужа-Івана
Навіны прывёз ім.
Хваробу адбыў ён
Сваю ў лазарэце—
Дамоў на пабыўку
Спяшаецца—едзе...)

Па вуліцах сумных
Ідзе звеннявая—
Змаўкае па гумнах
Работа начная.
Ідзе яна, будзіць:
З брыгады ў брыгаду.
Збіраюцца людзі
У Хрысціціну хату,
Хоць троху, хоць троху
Пасобяць у горы.
Ім значаць дарогу
Спакойныя зоры.
А ў хаце—трывога:
— Таварышы, ўстанем,
Байца дарагога
Героя памянем.
Хай знае радзіма,
Застава хай знае,
Што друга, Максіма,
Васіль замяняе...

З суседняй брыгады
Таварышы ўсталі:
— Быць разам мы рады!—
На сходзе сказалі.
— Мы летась касілі
З Максімам над плёсам,
Мы хлеб з ім вазілі
Чырвоным абозам...

. . . . . . . . . . . . .

На сходзе наркому
Пісалі заяву—
Прасіліся з дому
Утрох на заставу.

10

На сонечнай просіні—
Воблакаў вата.
Калгасная восень
Дарамі багата.
Імчыцца машына,
Мінае дубровы.
То едзе Хрысціна
Да свёкра й свякровы.
З Іванавым братам
Спяшаецца, едзе,
Са скарбам багатым
З арцельнае клеці.
Сцяг яркі, чырвоны
Над ёй палыхае,
Свой хлеб малачоны
Вязе звеннявая.
Бацькі, сустракайце
Нявестку з пасагам
І песні спявайце
Пад радасным сцягам!
Вось мякка газуе
Пад хату трохтонка,
А хлопец пільнуе:
— Прыехала жонка!..
З ім бацька—бадзёры
І светлы як хмарка;
Нявестка ў гуморы—
Смяецца:—Макарка!..
Ідзе да старога.
Усмешку схавала.
Ён пальцам ёй строга
Ківае:—Пазнала?
Абняў ён дзяўчыну,
Цалуецца звонка
І хваліцца сыну:
— Харошая жонка!

Праз месяц іх вёска
Звінела ладамі,
Як ехаў у войска
Васіль з дружбакамі.
Услед ім сяляне
Глядзелі ласкава—
Ён быў пры баяне,
Вядомая справа.
Хрысцінанька-сэрца
Выходзіла з мужам.
— Як, хлопцы, жывецца?

— Жывем і не тужым!..
Пад звонкія словы
Сыграў ім узнята:
— Бывайце здаровы!
— Жывіце багата!

А потым? А потым
Паехаў вучыцца.
Цяпер ён пілотам
На нашай граніцы.

Ен помніць дзяўчыну
З дубровы зялёнай.
Вартуе айчыну
Ад зграі шалёнай.

. . . . . . . . . . . . . . .

На сонечнай просіні—
Хмаркі радамі.
Калгасная восень
Багата дарамі.

Чэрвень—верасень, 1938 г.

*Павел Дубовік*

# НА ГРАНІЦЫ

## I

Я доўга не мог зразумець, што са мною здарылася. Нешта цяжкае лягло мне на грудзі, я захліпаўся ад нястачы паветра. Боль адчуваўся па ўсяму целу. Я намагаўся расплюшчыць вочы, каб зірнуць, што дзеецца навакол.

— Няўжо гэта сон?—думаў я.—Калі гэта сон, дык чаму я так ясна бачу наўкольнае? Не, не, гэта не сон,—разважаў я сам з сабою.

Я хацеў было паварушыцца, але раптам нешта кальнула мне ў сэрца, нясцерпны боль прабег па ўсіх жылах, і я не мог скрануцца з месца. Я цярпеў колькі было сілы, але ўрэшце здаўся, і роўны працяжны стогн вырваўся з маіх грудзей. Нібы ў сне, я слухаў чыйсці прыемны, ледзь чутны голас, адчуваў, як чыясьці цёплая рука гладзіла мае валасы.

— Супакойцеся... рана... сэрца...—разбіраў я асобныя словы.

„Дзе я? Што са мною?"—пытаўся я сам у сябе.

— Не шавяліцеся. Вам будзе горш. Дайце я папраўлю вашу падушку,—чуў я голас жанчыны.

Мяне ахапіў страх. Я ўспомніў рэчку, ландышы, жанчыну.

— Хто вы? Чаго вы тут?—крыкнуў я колькі ставала сілы,— ідзіце адсюль! Я вас больш не люблю! Вы нягодніца!

— Хворы, вам крычаць небяспечна. Пашкадуйце свайго здароўя, а яно вам яшчэ спатрэбіцца, вы яшчэ такі малады,—упрашвала мяне жанчына.

Я аглянуўся і ўбачыў каля сябе жанчыну ў белым халаце. Нізка схіліўшыся над маім ложкам, яна трымала маю руку і адлічвала ўдары пульса. Толькі цяпер я зразумеў, што я ў больніцы. Убачыўшы, з якім здзіўленнем я гляджу па баках, сястра зразумела мае думкі і тут-жа загаварыла са мной.

— Вам лягчэй, праўда? Вы пазнаеце, дзе знаходзіцеся?

— Здаецца ў больніцы,—прашаптаў я.

— Вы не памыліліся, у больніцы, і каля вас сядзіць сястра.

— А скажыце, сястра, як я сюды трапіў?—спытаўся я.

— Вас знайшлі на беразе ракі ў непрытомнасці, вы сцякалі кроўю. Доктар казаў, што калі-б яшчэ прайшло мінуты дзве, ратаваць вам жыццё было-б немагчыма.

„Значыць я мог памерці?!"—прабегла ў маёй галаве.

Сястра, зразумеўшы маю думку, казала далей.

— Вы маглі памерці, але затое цяпер будзеце жыць доўга.

— Вы жартуеце, сястра,—сказаў я.

— Што вы! Я не жартую,—стаяла яна на сваім.—Гэта гаварыў доктар.

Ад думкі, што я мог памерці, мяне апаноўваў страх. Я толькі нядаўна спазнаў жыццё, толькі нядаўна адчуў яго сапраўдны сэнс. „Людзі, якія не паспыталі ўсёй гаркоты былога жыцця, не могуць па-сапраўднаму ацаніць цяперашняга жыцця“,—часам чуў я ад сваіх таварышоў.

Я не ведаў былога жыцця, але цяперашняе жыццё люблю так, як можа любіць сын маці, якая гадавала яго, песціла і вывела ў людзі.

Вось чаму мне страшна было думаць аб смерці.

Я ляжаў і думаў над гэтым пытаннем. Сястра, каб не парушаць майго спакою, вышла за дзверы. Я вярнуў сястру і сказаў, што мне неабходна бачыць доктара. Яна падышла да сцяны, націснула кнопку, і неўзабаве з'явіўся ў маім пакоі доктар. Ён убег устрывожаны і глядзеў то на сястру, то на мяне.

— Хворы хоча з вамі пагаварыць, доктар,—сказала сястра і вышла.

— А, вы ачнуліся!—павесялеў доктар.—Ну, як? Як здароўе? Дрэнна, кажаце? Нічога, цяпер будзеце жыць. Ну, што новага мне скажаце?

— Доктар,—пачаў я,—ці ведаюць у часці, дзе я цяпер?

— Трэба думаць, што ведаюць,—гаварыў доктар.—У мяне і цяпер сядзіць адзін ваенны. Ён хоча пабачыць вас, але я катэгарычна забараніў пускаць да вас каго-б там ні было.

Я здагадаўся, хто мог быць гэты ваенны і настойліва прасіў доктара пусціць яго. Доктар не згаджаўся. Я даводзіў, што гэтаму чалавеку скажу толькі два словы, але доктар нават і слухаць не хацеў.

Мяне разбірала злосць. Я разумеў, што адно маё слова, сказанае своечасова, высветліць гэту цёмную справу. Доктар не мог разумець гэтага, а сказаць яму я не адважваўся. Аставалася адно— сыграць на сумленні доктара. Я вырашыў гэта зрабіць.

— Доктар,—пачаў я.—Вы забараняеце мне сказаць чалавеку толькі два словы, а самі вы чулі ад мяне некалькі дзесяткаў слоў. Я вас не разумею, доктар!

Доктар пачырванеў і, нічога мне не сказаўшы, вышаў. Праз колькі часу да мяне зайшоў ваенны. —Асцярожна ён падышоў да майго ложка і сеў на стул. Ён уважліва ўглядаўся ў мой твар, шукаючы ў ім знаёмыя рысы. Я таксама глядзеў на ваеннага, стараючыся разгадаць яго думкі.

— Вы ранены?—нарэшце спытаўся ён.—Што ўсё гэта азначае?

Пры гэтых словах я ўспомніў учарашняе і мне стала крыўдна на самога сябе, што я так даверліва аднёсся да чалавека, якога яшчэ мала ведаў. Я адчуваў, як моцна білася ў мяне сэрца і не хапала паветра, каб вымавіць хоць некалькі слоў. Шэптам, ледзь чутна, я прагаварыў:

— Бірг Аня... выкладчыца прыродазнаўства.

Пасля гэтага нешта цяжкае падпірала мне пад самыя грудзі, і я больш не мог прамовіць ні слова, хаця ясна ўяўляў, дзе я і хто са мною. Ваенны нешта пісаў, але не паспеў ён і кончыць, як убег доктар і нарабіў на яго крыку.

— Ідзіце, ідзіце!—крычаў ён.—Я зрабіў злачынства, што пусціў вас сюды. Хвораму патрэбны спакой. Усякі рух дрэнна адбіваецца на яго арганізме.

Ваенны ўстаў, папрасіў у доктара прабачэння, паглядзеў яшчэ раз на мяне і вышаў.

— А вы, хворы, памятайце,—звярнуўся доктар да мяне,—што шавяліцца, гаварыць і нават думаць вам пакуль што забараняецца. Калі будзеце парушаць мой загад, я буду караць вас па ўсіх суровасцях медыцынскага закона,—спрабаваў жартаваць доктар.

Я паглядзеў на гэтага чалавека і ўбачыў яго радасны позірк.

„Значыць ён рад, што выратаваў мне жыццё,—падумаў я.—Які ён добры, гэты доктар!“

З надыходам ночы мне стала горш. Пачаўся прыступ гарачкі, і я страціў прытомнасць. Назаўтра сястра расказвала, што я крычаў, кагосьці зваў і часта ўспамінаў Аню.

Раніцай мне стала лягчэй. Я ўжо мог рухаць рукамі і пры дапамозе сястры варочацца з боку на бок. Поўны думак, я ляжаў і глядзеў у вакно, шыбы якога праціналі гарачыя праменні сонца.

У гэтыя дні сонца было для мяне ўсім: і другам, з якім я вёў задушэўную размову; і маткай, якая саграваля мяне цёплай ласкай; і вяшчуном, які прыносіў радасныя весткі з-за акна.

У такія мінуты сястра мяне заўсёды пакідала аднаго. Я гэтаму быў вельмі рад, бо гэта давала мне поўную магчымасць аддацца самому сабе. Аднак, праз некаторы час гэта ўжо мяне не здавольвала, і я чакаў прыходу сястры. Сястра прыходзіла і садзілася каля мяне. Яна чытала газеты і расказвала мне розныя навіны. Калі сястра доўга затрымлівалася ў другім пакоі, я адчуваў, што ў мяне нечага не стае. Прыходзіла сястра і ўсё гэта знікала. Мне станавілася весела, я лёгка адказваў жартамі на жарты сястры. Хто-небудзь падумае, што я меў да сястры якіясьці асаблівыя пачуцці, што выходзілі за рамкі таварыскіх адносін. Гэта няпраўда. Гэтых асаблівых пачуццяў я вельмі баюся—з імі мне не шанцуе. Я паважаў сястру за тое, што яна была для мяне перш за ўсё чалавекам, што яна любіць сваю справу і ў кожным чалавеку бачыць чалавека. Я хацеў, каб і сястра бачыла ва мне гэтае-ж.

## II

Сёння ў мяне шчаслівы дзень. Упэўніўшыся, што здароўе маё значна палепшылася, доктар дазволіў пускаць да мяне наведвальнікаў.

Першым маім наведвальнікам быў той самы ваенны. На гэты раз я яго разгледзіў з усіх бакоў. Гэта быў чалавек сярэдняга росту, з чорнымі, але крыху пасівеўшымі валасамі. У яго былі вялікія вусы, якія пасмамі звісалі над краямі яго губ. Вусы нада-

валі яму сур'ёзнасць, хаця ў жыцці ён надзвычай вясёлы і дабрадушны.

Як і першы раз, ён паціху ўвайшоў у мой пакой і, прывітаўшыся са мною, сеў каля майго ложка. Некалькі секунд мы глядзелі адзін на аднаго, а потым ваенны пачаў гаварыць.

Ён гаварыў са мною аб усім, але толькі не аб тым, чаго прышоў. Спачатку распытваў пра маё здароўе, цікавіўся, як мяне тут даглядаюць і нават спытаўся пра маіх бацькоў.

Я нехаця адказваў на пытанні ваеннага, мне хацелася хутчэй даведацца, што зроблена па маёй справе і дзе цяпер Аня. Не ведаю, ці разумеў мой намер ваенны, але ён знарок ухіліўся ад гэтай тэмы, і чакаў, калі загавару я. Я не выцерпеў і загаварыў першым.

— Таварыш начальнік,—пачаў я,— ці не скажаце мне, дзе цяпер Бірг Аня?

Ваенны ўсміхнуўся і, доўга не думаючы, працягнуў мне фотакартку.

— Вы знаёмы з гэтай жанчынай?—спытаўся ён.

Я доўга ўглядаўся ў хударлявы твар, але ні адной знаёмай рысы не знайшоў.

— Гэтай жанчыны я не ведаю,—адказаў я.

— Вы прыгледзьцеся лепш і пазнаеце выкладчыцу прыродазнаўства,—гаварыў мне ваенны.

Я паглядзеў яшчэ раз, уявіў сабе Аню, але ніякага падабенства не знашоў.

— З гэтай жанчынай я ніколі і нідзе не сустракаўся,—сказаў я і перадаў картку ваеннаму.

— А з гэтай жанчынай вы калі-небудзь сустракаліся?—пытаўся ваенны, паказваючы мне другую фотакартку.

— Вось гэта Бірг Аня—выкладчыца прыродазнаўства,—ажывіўся я.

— Вы ў гэтым упэўнены?

— Я ў гэтым больш чым упэўнены,—гаварыў я.—Мне гэта бяссэнсава-суровае аблічча вельмі знаёма, яно яшчэ і цяпер стаіць у маёй памяці.

— З Бірг Аняй вы апошні раз калі сустракаліся?—цікавіўся ваенны.

Я сказаў, што апошняя мая сустрэча была чатыры дні назад.

— У той вечар яна і нанесла вам рану?

— Так, у той вечар,—адказаў я.

— Вы не памятаеце, колькі тады было гадзін?—пытаўся ваенны.

— Блізка дзесяці гадзін вечара,—адказаў я.

— Вы былі з ёй у дзесяць гадзін вечара,—разважаў ваенны, як-бы сам з сабою,—поезд на Ленінград адыходзіць у восем гадзін. Значыць у той вечар яна не магла выехаць...

Ён задумаўся і наморшчыў лоб. Я здагадваўся, што ён думае і аналізуе факты, якія павінны высветліць гэту справу.

Потым ваенны схапіўся, паглядзеў на мяне і, успомніўшы, што не ўсё яшчэ кончыў са мною, дастаў яшчэ адну фотакартку і паказаў мне. Я паглядзеў і адразу пазнаў брата Бірг Ані.

— Гэта брат Бірг Ані,—сказаў я.

— Вы часта з ім сустракаліся?

Я сказаў, што з гэтым чалавекам сустракаўся толькі адзін раз, калі ён прыязджаў да сястры ў госці.

— Вам невядома, дзе ён працуе?—дапытваўся ваенны.

— У Ленінградзе, на заводзе,—сказаў я.

— Ну, добра,—гаварыў ваенны, падняўшыся са стула.—Папраўляйцеся. Хутка мы з вамі сустрэнемся яшчэ. Трэба думаць, што к таму часу справа высветліцца, і Бірг Аню мы знойдзем. Ад нас ніхто не схаваецца,—закончыў ваенны і працягнуў мне руку.

З адыходам ваеннага, розныя думкі снавалі ў маёй галаве. Я думаў пра Бірг і дзівіўся, як яна магла так доўга прыкідвацца. Я не сустракаў яшчэ такіх дзяўчат, якія клянуцца ў каханні і пры сабе трымаюць нож, каб у зручны момант усадзіць яго ў самае тваё сэрца. Я хацеў сваімі ўласнымі рукамі расправіцца з гэтай нягодніцай. Няхай-бы яна ведала, як моцна я ўмею любіць, а яшчэ мацней ненавідзець. Я не мог сабе дараваць за такую даверлівасць да людзей, за сваю адкрытую душу, якая ніколі не хавала ад людзей сваіх намераў. Я думаў пра ваеннага. Гэты чалавек з першага знаёмства бачыць цябе наскрозь. Я ўспомніў, як ён пільна глядзеў у мае вочы, калі гаварыў са мной, чытаючы па іх усё, што было напісана ў маёй душы. Нездарма адзін вялікі французскі пісьменнік сказаў, што: „вочы—люстэрка душы“.

„У наш век,—падумаў я—мы павінны быць усе чэкістамі, усе павінны распазнаваць людзей“.

Мне вельмі хацелася сустрэцца яшчэ раз з ваенным; я з нецярплівасцю чакаў таго дня, калі ён зноў зойдзе да мяне. Аднак, ён да мяне больш не зайшоў. Мая справа была перададзена следчаму па важных справах. Доктар казаў, што следчы кожны дзень пытаўся па тэлефону аб маім здароўі і калі мяне можна будзе выклікаць на допыт.

Я к таму часу адчуваў сябе добра і мог бы пабываць у следчага, але доктар не згаджаўся, даводзячы, што гэта мне так здаецца, а на самай справе я яшчэ вельмі няцвёрда стаю на нагах.

Я ўжо сам уставаў з ложка, мог хадзіць па пакоі, стаяць ля акна і ўглядацца ў бок граніцы. Мяне цягнула туды, да сваіх таварышоў. Я хацеў быць разам з імі ў сакрэце і пільна сачыць, каб ні адна варожая нага не ступіла на нашу зямлю. Я быў рад, што скора буду там на баявым пасту. Аднак, адна акалічнасць затрымала мяне яшчэ на тыдзень.

У адзін гарачы чэрвеньскі дзень я сядзеў ля расчыненага акна і любаваўся навакольным. За акном цвілі яблыні, грушы; кусты бэзу, нізка звесіўшы свае купчастыя галінкі, поўнілі паветра прыемным пахам. На высокай грушы, што расла тут-жа ля дома, шчабяталі вясёлыя птушкі.

Усё расло, усё радавалася.

Радаваўся і я, бо гэта быў першы прыгожы дзень, які я бачыў у гэтым годзе.

Я так захапіўся сваімі адчуваннямі, што не заўважыў, калі сястра зайшла ў мой пакой. Толькі тады, калі яна, выходзячы

назад, стукнула дзвярыма, я спахапіўся і ўбачыў, што на стале ляжаць газеты.

Разгарнуўшы „Чырвонаармейскую газету“, я заўважыў на чацвертай старонцы знаёмы мне партрэт. То быў партрэт майго брата. Унізе пад партрэтам быў надрукаваны невялікі артыкул, які я прагна пачаў чытаць. Калі я дачытаў да слоў: „загінуў на баявым пасту ад рук шпіёнаў, што прабраліся ў нашу краіну“, газета выпала з маіх рук. Нейкі холад пабег па ўсяму целу. Ногі пачалі падкашвацца і я ледзь-ледзь трымаўся. Колькі было сілы, я стараўся саўладаць з сабой і не паддацца ўзбуджэнню ад вялікага гора. Трымаючыся за стол, дайшоў да ложка і паваліўся. Я ляжаў, прыціснуўшы падушку да сваіх грудзей і баяўся за сваё сэрца. Я думаў пра брата, я думаў пра маму. Бедная! Як цяжка будзе ёй перанесці такое вялікае гора. Яна будзе плакаць, яна будзе ўбівацца і хто ведае, што можа стацца з яе слабым здароўем...

Каб супакоіць сябе і суцешыць маму, я ўзяўся за пяро і рашыў напісаць маме ліст.

Я падабраў ужо многа слоў, якімі хацеў суцешыць маму, але калі ўзяўся за пяро, то ў мяне нічога не выходзіла: падабраныя мною словы былі не прыгодныя.

За якіх-небудзь поўгадзіны я змог напісаць усяго некалькі слоў.

„Дарагая мама!—напісаў я.—Не плач! Шануй сваё здароўе. За брата я адпомшчу“...

Далей не ішло. Я пасядзеў яшчэ некалькі мінут і ў безнадзейнасці палажыў пяро.

Смерць брата моцна падзейнічала на мяне. Як-бы знешне я ні супакойваў сябе, аднак унутры насіў вялікую трывогу. Я часта бачыў брата ў сне, гаварыў з ім, перасцерагаў яго ад усялякіх выпадковасцей, дзяліўся з ім вопытам сваёй службы.

Так я часта праводзіў цэлыя ночы. Усё гэта падрывала маё здароўе. У мяне прапаў апетыт і, галоўнае, боль непакоіў штодзённа.

— Не магу зразумець,—гаварыў мне доктар,—што з вамі дзеецца, малады чалавек. Быццам вы закахаліся ў каго-небудзь?—жартаваў ён.

Калі я расказаў доктару пра прычыну свайго гора, ён пачырванеў, вінавата паглядзеў на мяне і, не знайшоўшы што сказаць, колькі часу маўчаў.

— Адкуль вы ўсё гэта ведаеце?—нарэшце спытаўся ён.— Я ўсім загадваў нічога не гаварыць вам аб тэлеграмах.

— Пра якія тэлеграмы вы гаворыце, доктар?—спытаўся я.

Доктар вінавата маўчаў.

— Я здагадаўся, доктар,—загаварыў я,—вы не паказалі мне тэлеграм, у якіх паведамлялася аб смерці майго брата.

— Вы лічыце,—апраўдваўся доктар,—што я зрабіў несумленна. Магчыма гэта так, але я не мог зрабіць інакш. Робячы так, я клапаціўся толькі аб вашым здароўі. Вы былі ў гарачцы і не змаглі-б перанесці такой цяжкай страты. Усе вы маладыя вельмі гарачыя.

Я слухаў доктара і думаў над кожным яго словам. А ён, захапіўшыся, навучаў мяне, гаварыў мне аб жыцці, аб людзях, якім ён выратоўваў жыццё. Не цяжка было заўважыць, што калі доктар гаварыў пра гэтых людзей, радасць поўніла яго, ён радаваўся бязмерна, радаваўся таму, што выратаваў людзей ад смерці.

Я зайздросціў доктару і сказаў яму аб гэтым. Доктар усміхнуўся, палажыў руку мне на галаву і сказаў:

— Мы ўсе цяпер дактары! Вы чырвонаармейцы, ахоўваючы нашы граніцы, таксама ратуеце людзей ад смерці.

III

Праз тыдзень пасля нашай гутаркі з ваенным я адчуваў сябе здаровым і прасіў доктара адпусціць у часць. Доктар супярэчыў і адкладваў мой выхад з дня на дзень. Я рваўся ў сваю часць. Мне страшэнна апрыкрала сядзець без работы.

Не ведаю, колькі б дзён пратрымаў мяне яшчэ доктар, каб не следчы, які настойліва патрабаваў сустрэчы са мною і не ў бальніцы, а ў сябе ў кабінеце.

Я аб гэтым нічога не ведаў. Толькі тады, калі сястра прынесла мне маю чырвонаармейскую вопратку і сказала, што мяне чакае на двары машына, я здагадаўся, што паеду да следчага. Следчы чакаў мяне ўжо ў дэжурным пакоі. Як толькі я ўвайшоў у пакой, ён падышоў да мяне, працягнуў мне руку. Мы зайшлі ў светлы і прасторны пакой. Следчы сеў за пісьмовы стол, дастаў нейкія паперы, і пачаў размаўляць са мною. Гэта, па сутнасці, быў не допыт, а цёплая таварыская гутарка.

Спачатку мы гаварылі зусім не па сутнасці справы. Даведаўшыся, што я беларус, следчы доўга гаварыў са мною пра Беларусь. Я дзівіўся, адкуль ён так тонка ўсё гэта ведае, але калі следчы расказаў, што ў часы грамадзянскай вайны ён быў у Беларусі, са сваім батальёнам прайшоў усе мазырскія лясы і балоты, здзіўленне маё знікла. Потым следчы перавёў гутарку на Чырвоную Армію. Ён цікавіўся нашай баявой і палітычнай падрыхтоўкай, нашымі ваенна-тактычнымі навыкамі. Не ведаю, якімі намерамі кіраваўся следчы, завёўшы са мной гутарку на гэту тэму, аднак лічу, што гэтым ён хацеў праверыць мяне. Я смела і ўпэўнена гаварыў са следчым па гэтых пытаннях і паказаў яму, што нашы чырвонаармейцы ведаюць не толькі сваю тактыку, але і тактыку нашых ворагаў. І я расказаў яму пра тактыку немцаў і італьянцаў, якую яны праводзяць у Іспаніі, пра тактыку японскіх імперыялістаў, якія гвалтоўнымі налётамі на безабаронныя кітайскія гарады імкнуцца падарваць маральнае адзінства кітайскага народа.

Следчы слухаў мяне ўважліва і ў знак згоды ківаў галавой.

— Гляджу я на вас,—сказаў следчы—і радуюся, што ў нашай арміі такія байцы. Мне толькі адно незразумела, як гэта вы, такі развіты баец сталі афярай злачынцы.

Мне стала сорамна, і, увесь пачырванеўшы, я хаваў ад следчага свой твар.

— Таварыш следчы,—загаварыў я, сабраўшыся з думкамі,—

я ўсё па парадку раскажу вам і вы самі ўбачыце, як гэта здарылася.

— Калі ласка, гаварыце, дзеля гэтага я вас і выклікаў,—гаварыў следчы —Толькі памятайце, што вы павінны гаварыць праўду.

Я пачаў свае паказанні:

Незадоўга перад святам Дваццацігоддзя РСЧА камісар выклікаў мяне да сябе і сказаў, што я павінен зрабіць даклад на агульна-гарадскім настаўніцкім сходзе. Я прабаваў адмовіцца, тлумачачы, што, магчыма, такі даклад будзе мне не па сілах. Але камісар усміхнуўся і сказаў:

— Мы доўга думалі, каго туды накіраваць і, як бачыце, выбралі на вас. Спадзяюся, што і з гэтай задачай вы справіцеся.

Мне нічога больш не засталося, як падзякаваць камісара за давер'е і згадзіцца зрабіць даклад. Вышаўшы ад камісара, я ясна ўявіў сабе, якая цяжкая задача стаіць перада мною.

Ад майго поспеху ці правалу будзе залежаць многае. Па мне будуць меркаваць аб усёй Чырвонай арміі, тым больш настаўнікі, якія выстаўляюць надзвычай высокія патрабаванні да дакладчыкаў.

Працаваў я над дакладам упарта. Усю літаратуру, якую мне вызначыў камісар, я ўважліва прачытаў і праканспектаваў, склаўшы тэзісы свайго даклада.

Пабрыўшыся, пераапрануўшыся ў чыстую вопратку і, акрылены пажаданнямі таварышоў, я пайшоў на даклад.

На двары стаяў халодны вечар. Моцныя вятры, якія характэрны для паўночна-заходняй часткі краіны, дзьмулі па цэлых тыднях, змятаючы дзе-ні-дзе снег, што прытаіўся за чорнымі грудамі леташняга ворыва.

Люты ў гэтым годзе даваў сябе знаць як ніколі. Я ўжо звыкся з такім надвор'ем і не звяртаў ніякай увагі, што мяне падганяў вецер, а ішоў павольна, не спяшаючыся. Да даклада заставалася яшчэ больш гадзіны, і я ведаў, што не спазнюся. Горад жыў сваім звычайным жыццём—рухаліся трамваі, бегалі аўтамабілі, кудысьці спяшаліся пешаходы, і ў гэтым надвячоркавым гуле губляліся завыванні ветра.

Сход збіраўся ў адной са школ горада. Яшчэ з вуліцы я заўважыў, як у зале мітусіліся людзі. Мяне сустрэла дырэктар гэтай школы—маладая светла-русая жанчына і папрасіла зайсці ў яе кабінет.

Калі мы зайшлі ў залу, сотні поглядаў акінулі мяне з ног да галавы. Я ішоў праз усю залу і стараўся ні на каго не глядзець, хаця адчуваў на сабе дапытлівыя погляды.

Старшыня даў мне слова. Аўдыторыя мяне слухала ўважліва і калі ў канцы даклада ўзнагародзіла воплескамі, я зразумеў, што даклад прашоў нядрэнна.

У гэты вечар я і пазнаёміўся з Бірг Аняй. У часе танцаў я падышоў да яе і папрасіў пратанцаваць са мной вальс. Яна ахвотна згадзілася, але не паспелі мы прайсці і два кругі, як яна пачала спасылацца на галаўны боль і прапанавала сесці. Мы гаварылі, жартавалі, смяяліся і кожны быў здаволен сваім суседам. Потым яна завяла са мной гутарку пра даклад, пра Чырвоную

Армію, распытвала пра мяне асабіста і ніяк не хацела верыць, што я просты чырвонаармеец.

— Вы гаварылі з ёю ў той вечар пра Чырвоную Армію?— перапытаў мяне следчы.

— Гаварыў,—адказаў я,

— Чым жа яна больш за ўсё цікавілася?—пытаўся ён.

— Яна больш за ўсё цікавілася нашым жыццём і бытам,—гаварыў я.

— І вы расказвалі ёй пра жыццё і быт чырвонаармейцаў?—цікавіўся следчы.

— Наогул, канкрэтнага, я ёй нічога не гаварыў і як толькі мог ухіляўся ад адказу на гэта пытанне,—адказаў я.

— Чым-жа тлумачыцца, што яна не хацела верыць, што вы чырвонаармеец?—спытаўся ён зноў.

— Не ведаю,—гаварыў я,—магчыма таму, што ў яе зусім другое ўяўленне аб чырвонаармейцах. Яна мне так і сказала, што я прыкідваюся, што я не хачу назваць сябе, што я чамусьці не нагадваю чырвонаармейца.

— Зразумела,—гаварыў следчы,—працягвайце далей!

У гэты вечар яна гаварыла са мной амаль па ўсіх пытаннях: і пра літаратуру, і пра мастацтва, і пра гісторыю, і пра прыродазнаўства.

— Выходзіць, што яна добра адукаваная?—спытаўся следчы.

— Я-б гэтага не сказаў. Яе веды ва ўсіх гэтых галінах настолькі мізэрныя, што я лёгка спраўляўся падтрымліваць гутарку, а часамі і папраўляў яе. Так гаворачы пра Дастаеўскага, яна спасылалася на твор „Бедная Ліза“, дзе бачыла вырашэнне нацыянальнай праблемы. Я паправіў яе, сказаўшы, што гэты твор не Дастаеўскага, а Карамзіна. Яна пачырванела. Ёй стала ніякавата і, каб паправіць сваю памылку, яна пачала гаварыць у сваё апраўданне:

— Я не літаратар, я па спецыяльнасці прыродазнаўца.

Як бачыце, аб вялікай адукаванасці тут гаварыць не прыходзіцца. Пасля гэтага выпадку гутарка ў нас не клеілася—мне было сорамна за яе, і я чакаў, што скажа яна, а яна саромелася сама за сябе і чакала, што скажу я.

У гэты час музыка зайграла польку, я запрасіў Аню. Танцавала яна лёгка, і я з вялікім здаваленнем кружыўся з ёю па зале.

Пасля танцаў я праводзіў Аню дамоў. На развітанні мы з ёю дамовіліся сустракацца і надалей і наступную сустрэчу рашылі зрабіць у тэатры.

Пасля гэтага я зрабіў перапынак.

У мяне перасохла ў горле і цяжка было гаварыць. Доктар быў праў. Хвароба яшчэ давала сябе знаць. Следчы заўважыў гэта і падаў мне шклянку вады. Я выпіў і працягваў свае паказанні далей.

Прайшло з часу першай нашай сустрэчы каля двух месяцаў. За гэты час я шмат разоў сустракаўся з Аняй. Яна стала маім блізкім другам. Перад кожным выхадным днём я заходзіў да яе, і мы ішлі то ў тэатр, то ў кіно, то наведвалі гістарычны музей,

дзе знаёміліся з гістарычным мінулым нашага горада. Музей зрабіў на мяне хвалюючае ўражанне. Там сабраны матэрыялы з самага заснавання горада і да нашых дзён. Я там наглядна ўбачыў, як у часы грамадзянскай вайны немцы рабавалі яго багацці, як яны пры адступленні забіралі з сабой літаральна ўсё, пачынаючы з банак з-пад кансерваў і канчаючы буйнай рагатай жывёлай. З болем у сэрцы я глядзеў на малюнак мастака-самавучкі: бедная ўдава з чатырма маленькімі сіроткамі са слязмі на вачах глядзіць, як немцы павялі яе апошнюю карову.

Пад такім уражаннем я прыводзіў Ані аналагічныя выпадкі, што былі ў нас на Беларусі пры палякаў. Яна смяялася з мяне і называла слязлівым.

— На такія рэчы,—гаварыла яна,—трэба глядзець цвяроза. Гэта справа былога і ўспамінаць аб ім нямарта.

Я не разумеў тады гэтага, як і не разумеў наогул яе адносін да мяне. З аднаго боку, я адчуваў на сабе яе ласку, а з другога, калі мы гаварылі аб людзях, у яе голасе не адчувалася ні цяплыні, ні радасці за іх будучае шчасце.

З цягам часу, калі я адчуў нешта такое, што міжвольна цягнула мяне да яе, я не стаў заўважаць нават і гэтага, а калі часамі і заўважаў, то тлумачыў чорствасцю яе характара.

Адным словам я пакахаў Аню, пакахаў усёй душой, усім сэрцам, пакахаў так, як можа кахаць юнак, які не зазнаў яшчэ ўсёй асалоды такога шчасця. Мне хацелася бачыць яе часцей, гаварыць з ёю і слухаць яе.

Праўда, пры кожнай нашай сустрэчы яна заводзіла са мной гутаркі на сур'ёзныя тэмы, ёй хацелася ведаць мой погляд на тое, ці іншае пытанне. Мне вельмі не падабалася гэта. я хацеў гаварыць пра пачуцці, пра дружбу, пра каханне. І калі я часамі імкнуўся перавесці яе гутарку на гэту тэму, яна рабіла выгляд, што не разумее, а потым уставала, падыходзіла да этажэркі і чагосьці там шукала. Я заставаўся адзін і думаў. Потым яна зноў падыходзіла да мяне, заглядала ў мае вочы і пыталася:

— Ты сумуеш. чорнавокі? Не сумуй!

Я глядзеў на яе і адчуваў сябе шчаслівым. Мне хацелася абняць яе стан і моцна, моцна пацалаваць. Аднак, у сабе я адчуваў нейкую нерашучасць: я яшчэ не ведаў, як аднясецца да гэтага яна, бо на гэту тэму я з ёй не толькі не гаварыў, а нават баяўся гаварыць.

Бывалі такія выпадкі, калі яна рабіла наперакор маім жаданням, а часамі проста крыўдзіла мяне, смеючыся з маіх пачуццяў. Усё гэта прымушала мяне сумнявацца ў яе каханні. Аднаго разу вечарам мы сядзелі з Аняй на верандзе. Сыходзіў красавік. Днём стаяла ясная пагода, і сонца грэла па-вясенняму, а вечарам веяла прахладай, і лёгкі мароз даваў сябе знаць.

У гэты вечар я гаварыў Ані аб каханні, голас мой быў нясмелы і няўпэўнены; ён дрыжэў, перарываючыся на кожным поўслове. Яна спачатку маўчала, а потым таксама нясмела, як і я, загаварыла:

— Што-ж, я аб гэтым ведала даўно. На тваё каханне магу адказаць толькі каханнем.

— Няўжо гэта праўда, Аня?—з радасцю спытаўся я.

— Праўда, праўда, мой чорнавокі,—гаварыла яна.

Пасля гэтага мне хацелася смяяцца, спяваць, танцаваць.

— Калі гэта так,—ажыўляўся я,—то я цябе пацалую.

І я пацалаваў яе гарачую шчаку.

— А яна, што адказала на ваш пацалунак?—спытаўся ў мяне следчы.

— Яна маўчала і рабіла выгляд, што саромяецца,—адказаў я.

— Значыць ужо і тады можна было ўбачыць, што яна „кахае" вас з нейкай мэтай,—разважаў следчы.

— Я думаў тады над гэтым, але мне здавалася, што каханне цікава толькі тады, калі яно цяжка даецца,—сказаў я.

— Магчыма гэта і так,—згаджаўся следчы.

У гэты вечар,—працягваў я далей свае паказанні,—Аня сказала мне, што мае намер пазнаёміць мяне са сваім братам, які хутка прыедзе да яе ў госці. Яна часта расказвала мне пра свайго брата і заўсёды выстаўляла яго здольнасці. Гаворачы аб браце, Аня заўсёды падкрэслівала сваё соцыяльнае паходжанне, што яна вырасла ў беднай сялянскай сям'і і ўспамінала, як цяжка прыходзілася брату вучыцца, працаваць і дапамагаць ёй вучыцца. Цяпер брат працуе ў Ленінградзе на адным заводзе інжынерам. Яна ганарылася сваім братам і гаварыла, што ён у яе жыцці—усё.

Я рад быў сустрэчы з братам Ані, рад, што яна не баіцца ўвесці мяне ў кола свае радні.

Я баяўся толькі аднаго, што, чаго добрага, не спадабаюся брату, і тады падтрымліваць нашы ўзаемаадносіны з Аняй будзе значна цяжэй. Як бы сабе ні было, але я чакаў сустрэчы з нецярплівасцю, бо думаў канчаткова ўпэўніцца ў яе каханні.

У той вечар я крыху спазніўся. Камісар выклікаў мяне і сказаў, што я змагу звольніцца ў горад толькі тады, калі выканаю адно вельмі важнае і тэрміновае даручэнне. Я з радасцю ўзяўся за гэтае даручэнне і выканаў яго на поўгадзіны раней. За гэта камісар даў мне звальненне да шасці гадзін раніцы.

Калі я ўвайшоў у пакой, брат Ані быў ужо там. Аня кінула ў мой бок злосны позірк і, не адказаўшы на маё прывітанне, пачала знаёміць з братам. Я зразумеў яе і стаў апраўдвацца, спасылаючыся на службу і важнае даручэнне.

— А якія могуць быць важныя даручэнні ў байца?—нечакана для мяне спытаўся брат.

— Усялякія бываюць,—адказаў я.

— Не пытайся, Жорж, гэта ў іх называецца ваеннай тайнай,—сказала Аня.

— І разглашэнне яе караецца законам,—дадаў ён.

— Гэта так, вы не памыліліся,—сказаў я.

Пасля гэтага брат Ані пачаў гаварыць аб сваёй рабоце, аб яе адказнасці, аб сакрэтнасці прадукцыі, якую выпускае іх завод і пахваліў мяне, што я ўмею хаваць ваенную тайну.

— Гэта свяшчэнны абавязак кожнага чырвонаармейца, — сказаў я.

— Не толькі чырвонаармейца,—гаварыў ён,—а ўсяго нашага насельніцтва. Што-б было, калі-б я разглашаў сакрэты свае вытворчасці?—пытаўся ён і тут-жа адказваў:—Гэта прынесла-б вялікую шкоду нашай дзяржаве.

У часе гутаркі з братам, я сачыў за Аняй, і бачыў, як яна старанна накрывала стол чыстым настольнікам і часта выбягала на кухню. Я быў здзіўлены, калі ўбачыў, што на стале з'явіліся віно, гарэлка і розная закуска.

Неўзабаве Аня запрасіла нас за стол. Мне вельмі не хацелася піць гарэлкі, я хацеў быць цвярозым, гаварыць з Аняй і яе братам аб нашых адносінах. Я не згаджаўся і адмаўляўся, як толькі мог, ад віна і гарэлкі.

Брат Ані злаваўся і гаварыў, што я абражаю гэтым не толькі сястру, але і яго.

— Калі ты адхіляеш маю ласкавасць,—гаварыла Аня пацiху так, каб не чуў брат,—то значыць ты мяне не кахаеш.

Гэтымі словамі яна дакранулася да майго балючага месца і я, доўга не думаючы, сеў за стол.

— І вы пілі гарэлку?—перапыніў мяне следчы.

— Так, я піў гарэлку,—сказаў я,—але піў так, каб не быць п'яным.

Брат Ані павесялеў. Ен увіхаўся каля мяне—наліваў гарэлку, падаваў закуску і сачыў, каб я выпіваў усё да 'дна. Сам ён стараўся піць мала, спасылаючыся на сваё слабае здароўе.

— Вы не звяртайце на мяне ўвагі,—гаварыў ён.—Я наогул не п'ю гарэлкі і толькі таму, што вы друг мае сястры, я рашыў выпіць за вашу дружбу.

Сказаўшы гэта, ён пераглянуўся з сястрою і крыху зморшчыў лоб.

Аня з братам упрашвалі мяне выпіць яшчэ хоць адну чарку, але я цвёрда стаяў на сваім.

— Не прасі яго болей, Жорж,—гаварыла яна брату,—ён чалавек цвёрдалобы.

— Тое, што вы, малады чалавек, цвёрдалобы,—гаварыў ён,—гэта нядрэнна. Цвёрдалобыя—прынцыповыя людзі а прынцып—вышэйшая форма чалавечай самасвядомасці.

Пасля гэтага ён неяк пераменіўся. Ён то хадзіў па пакоі і аб нечым думаў і тады я заўважаў сляды роспачы ні яго шэрых вачах і глыбокія ямачкі на шчаках, то падыходзіў да патэфона, браў першую трапіўшую пад рукі пласцінку і, адвярнуўшыся ўбок, падсвістваў у такт музыцы.

Я глядзеў на яго і мне то было непрыемна ад яго занадта суровага выгляду, то я гатоў быў рассмяяцца, бо гэтая суровасць ніяк не пасавала да яго прыплюснутага твару.

Ён мне тады нагадваў шасцігадовага дзяцюка, які, адзеўшы бацькоўскія боты і світку, уявіў сябе дарослым чалавекам.

Праўда, наш „дзяцюк" быў таксама невялікага росту, але затое з шырокімі плячыма, на якіх занадта вылучалася тонкая шыя.

Я ўспомніў, як ён гаварыў, то заўсёды ўзнімаў галаву і тады твар яго яшчэ больш выцягваўся. Гаварыў ён нараспеў, расцягнутым і прыглушаным голасам.

„Няўжо ён брат Ані?“—падумаў я і тут-жа пачаў разглядаць яе.

У ёй я знайшоў шмат падабенства з братам. Такія-ж вочы, такія-ж рысы твару, з той толькі розніцай, што на ім не было маршчын і адчувалася свежасць. Гаварыла яна такім-жа голасам, толькі ў часе гаворкі не ўзнімала галаву ўверх, а апускала яе ўніз, стараючыся не глядзець на таго, з кім гаворыць.

— Аднак-жа вы яе кахалі?—сьмяўся з мяне следчы.

— Вось таму, што я яе кахаў, я не мог заўважыць тады гэтага. Тое, што я ў брата лічыў уродлівым, Ані было да твару, рабіла яе своеасаблівай і мне здавалася, што яна прыгожая. Цяпер, калі б я паглядзеў на яе цвяроза, я-б сказаў, што і яна такая-ж самая як і брат.

— Вы з братам Ані сустракаліся толькі адзін раз?—звярнуўся да мяне следчы.

— Адзін,—адказаў я.

— У той вечар вы не дамаўляліся сустрэцца з ім яшчэ калі-небудзь?

— Пра гэта ён не сказаў ні слова,—адказаў я следчаму.— Наогул, у той вечар мы гаварылі мала. Нават аб нашай дружбе з Аняй, аб чым мне хацелася гаварыць, ён не загаварыў.

— А якія ў вас былі адносіны з Аняй пасля сустрэчы з братам?—пытаўся зноў следчы.

— Пасля нашай сустрэчы з братам Ані,—гаварыў я,—адносіны яе да мяне значна палепшыліся. Яна была са мной вельмі ласкавая, цікавілася ўсімі дробязямі майго асабістага жыцця, і калі я па якой-небудзь прычыне не мог прысці да яе, яна прысылала мне ліст, дзе крыўдзілася на мяне, наракала на свой лёс і прасіла, калі я яшчэ не разлюбіў яе, наведаць у наступны выходны дзень.

Прыходзіў я, яна пачынала з гэтага самага і наладжвала цэлы допыт аб прычынах мае адсутнасці ў мінулы раз.

Я спасылаўся на сваю занятасць і службовыя абавязкі, але яна не хацела верыць і гаварыла, што каханне з гэтым не лічыцца. Я жартаваў і тады яна яшчэ больш злавалася і не хацела разумець маіх жартаў.

Як-бы я спакойна ні глядзеў на такія рэчы, усё ж гэта нервавала мяне, і я гатоў быў усе абвінавачванні, ускладзеныя на мяне, узвесці на яе самую. Я сказаў Ані, што „каханне—ап'яняючы сродак, але напівацца да згубы свядомасці я не магу“. Яна бачыла маю цвёрдасць і адступала назад. Тады я гаварыў, што яе погляды на каханне вельмі старыя, што ў наш век каханне трымаецца на зусім іншых асновах. Яна маўчала. Маўчала, магчыма, таму, што згаджалася са мной, а магчыма і таму, што лічыла мяне непахісным у сваіх перакананнях і не хацела навязваць сваіх думах, хаця ўнутрана была супроць маіх сцверджанняў.

У гэты час зазвінеў тэлефонны званок. Следчы, палажыўшы ручку на стол, падышоў да апарата. Ён прагна лавіў чыесці далёкія словы. Я заўважыў, што гэтыя словы мелі вялікае значэнне,

бо следчы, то задумваўся, то раптам весялеў і тады твар яго расплываўся ў лёгкую ўсмешку. Потым ён працягнуў руку да стала, узяў папку з паперамі і пачаў гаварыць сам:

— Сярэдніх год, ніжэй сярэдняга росту, твар смуглы з радзімкай на правай шчацы. Апрануты ў чорны касцюм.

Следчы палажыў трубку і зноў сеў за стол.

— Працягвайце далей свае паказанні,—сказаў ён мне.

Аднаго разу Аня выказала жаданне пайсці пагуляць на беразе рэчкі,—працягваў я далей.—Я ахвотна прыняў яе прапанову і быў рад, што гэтая наша сустрэча пройдзе ў поўнай лірычнай абстаноўцы.

Была другая палова чэрвеня месяца. Вечар выдаўся на рэдкасць. Неба чыстае, светла-блакітнага колеру, безліччу воч глядзела на прыгожасць навакольнага. Мы гулялі па зялёнай траве, сярод разложыстых ракітавых і альховых кустоў. Аня рвала ландыш. Потым мы селі на беразе пад густою вярбою, якая, нізка звесіўшы свае галінкі, купала іх у празрыстай вадзе. Ціш стаяла навакол. Толькі калі-ні-калі даляталі да нас усплёскі вады ад бязмерна разгуляўшыхся рыб. А там, за ракой, чутна была мілагучная песня чырвонаармейцаў.

Аня глядзела ўдаль, а я, хмельны ад шчасця, глядзеў то на яе, то ў бок, адкуль цякла чырвонаармейская песня. Зусім нечакана для мяне, яна павярнулася ў мой бок, абвіла маю шыю рукамі і палажыла маю галаву к сабе на калені. Я слухаў, як яна пальцамі перабірала мае валасы.

— Аб чым думаеш, чорнавокі?—спыталася яна.

— Аб шчасці людзей,—доўга не думаючы, адказаў я.

— Гэта нянова,—заўважыла яна,—аб гэтым думалі людзі даўно.

— Адных думак мала,—сказаў я.—Мы не толькі думаем, але і ператвараем свае думкі ў жыццё.

— Хто гэта мы?- пацікавілася яна.

— Мы, большэвікі!—з гонарам сказаў я.

— А хіба ты большэвік? Ты-ж беспартыйны!

Я сказаў Ані, што можна быць усё жыццё беспартыйным, але рабіць партыйныя справы. Яна ўсміхнулася і нічога не адказала. Пасля, нейк нясмела, саромячыся або мяне, або сябе, спыталася:

— Ты толькі аб гэтым думаеш? Другіх думак у цябе не бывае?

— Ці мала якія могуць думкі прысці чалавеку ў галаву,—гаварыў я.—Я вось ляжу і думаю пра месяц, зоры, пра зялёныя лугі, пра жытнія палеткі.

— Ты ўсё жартуеш,—крыўдзілася яна.—Не пра гэта я ў цябе пытаюся. Ну, скажам, аба мне ты думаеш?

— Думаю,—адказаў я.

— Часта?

— Часта.

— А што ты думаеш аба мне?

Я не ведаў, што сказаць ёй на гэта і таму на яе пытанне адказаў пытаннем.

— А як табе здаецца, што я магу думаць аб табе?

— Не ведаю,—ухілілася яна.

— Я думаю,—гаварыў я,—перабіраючы ў сваёй руцэ яе тонкія пальцы,—каб бачыць цябе і як мага часцей.

— Значыць, ты кахаеш мяне?—не адставала яна.

— Навошта пытаешся, Аня, аб гэтым?—закрыўдзіўся я.—Па-мойму ты бачыш сама.

Яна гаварыла мне, што яшчэ не ўпэўнілася ў маім каханні і ўпэўніцца толькі тады, калі я на справе пакажу ёй гэта.

Я не разумеў, аб якой справе ідзе гаворка і папрасіў Аню растлумачыць. Яна ўхілілася ад простага адказу і падышла да яго здалёк.

— Ты называеш сябе большэвіком,—гаварыла яна,—а большэвікі сцвярджаюць, што сапраўднае каханне магчыма толькі на аснове аднолькавасці поглядаў, жаданняў і імкненняў. Мы вось кахаем адзін аднаго, значыць, у нас павінны быць аднолькавыя погляды, жаданні і імкненні. Праўда?

— Іначай і быць не можа,—сказаў я.

— Уяві сабе такую рэч,—казала яна далей.—Ты кахаеш дзяўчыну, якая спачатку хавала ад цябе свае сапраўдныя погляды і толькі праз некаторы час ты даведваешся аб яе сапраўдных намерах. Што-б ты зрабіў у такім выпадку?

— Я-б глядзеў на яе, як на свайго ворага,—адказаў я.

— А каханне?—напомніла яна мне.

— Якое можа быць пасля гэтага каханне,—сказаў я.—Я кахаў не яе, а другую.

— Значыць ты не кахаў ні той, ні другой,—сярдзіта сказала яна і адвярнулася ад мяне.

Я яшчэ раз паказаў Ані памылковасць яе поглядаў на каханне, але яна цвёрда стаяла на сваім і, не зважаючы на мае сцвярджэнні, гаварыла аб каханні, як аб псіхалагічнай з'яве, якая непасрэдна падпарадкавана ўнутраным узбуджэнням, на якія не ўплываюць ніякія знешнія фактары.

— Ты вось кахаеш мяне,—казала яна далей,—і я упэўнена, што ў якім-бы няшчасці я ні апынулася, ты заўсёды дапаможаш мне. Так?

— Так,—адказаў я.

— Уяві такі выпадак. Ты гуляеш вось на гэтым беразе рэчкі і раптам чуеш знаёмы табе голас. Ты аглянуўся і ўбачыў, што я тану, захлынаючыся вадой. Ты-б паклаў усе сілы дзеля таго, каб выратаваць мне жыццё?

— Я-б, доўга не думаючы, кінуўся-б у ваду і не вылез-бы да тае пары, пакуль не вынес-бы цябе на бераг,—адказаў я і дапытліва паглядзеў на яе.

Яна злавіла мой погляд і старалася разгадаць яго сапраўдны сэнс. Яна гаварыла мне, што яшчэ з маленства марыла аб вядомасці, славе і цяпер вось стаіць на парозе гэтай славы, а дасягне яе толькі тады, калі я дапамагу ёй у гэтым.

— Чым жа я магу табе дапамагчы?—спытаўся я.

— Вельмі не многім,—сказала яна.—Ты толькі азнаёміш мяне з вашым чырвонаармейскім жыццём.

Цяпер я канчаткова ўпэўніўся, чаго яна хоча ад мяне, цяпер я разумеў, для чаго патрэбна было маё каханне. Мне стала страшна. Хоць я і сустракаўся на граніцы з ворагамі тварам у твар, але такіх яшчэ не бачыў.

— Вы не на таго натрапілі, грамадзянка Бірг,—прамовіў я,— я не здольны на такія рэчы.

— На гэта здольнасцей вялікіх не трэба,—смяялася яна.

Мяне разбірала злосць. Я не ведаў як быць, каб не выпусціць гэту нягодніцу з сваіх рук.

Яна, заўважыўшы гэта, яшчэ смялей наступала на мяне і гаварыла, што я абяцаўся вынесці яе на бераг.

— Дык чаго-ж ты спужаўся?—пыталася яна, палажыўшы мне руку на плячо.

— Прэч свае паганыя рукі!—закрычаў я.

— Ах, так!—сказала яна.—Дык ці ведаеш ты аб тым, што цяпер ты ў маіх руках. Ты сустракаўся са мною, сустракаўся з маім братам і хто табе паверыць, што ты не звязан з намі агульнай справай. Выбірай адно з двух: або ісці разам з намі, або сядзець у турме, ці наогул пазбавіцца жыцця.

Я ўвесь затросся, і адчуваў як камянее маё цела. Мне думалася,— што будзе, калі і сапраўды мне ніхто не паверыць? Як я пагляджу тады ў вочы сваім таварышам, сваім знаёмым. Яны будуць глядзець на мяне, як на ворага, які імкнуўся гандляваць інтарэсамі свае дзяржавы. Не, гэта немагчыма! Я ні капелькі віны не бачыў за сабой.

„Што рабіць? Як выйсці з гэтага становішча?“—пытаўся я сам у сябе.

Якія толькі думкі ні прыходзілі мне ў галаву. Я спыніўся на адным: я быў упэўнены, што мне павераць.

— Ну што, надумаў?—падганяла яна мяне.

— Надумаў, толькі не ў вашу карысць,—адказаў я.

Яна смяялася, смяялася нейкім істэрычным смехам.

— Які-ж ты трус, а яшчэ ваенны!—сказала яна і падышла да мяне.

Яна штосьці гаварыла, гаварыла ўсхвалявана, але я не слухаў, я думаў зусім аб другім

— Ідзіце, я вас ненавіджу!—нарэшце сказаў я.

— Я таксама цябе ненавіджу!—крыкнула яна і я заўважыў, як нешта блiснула ў паветры.

Я памкнуўся схіліцца ўбок, але ўжо было позна—боль адчуваўся ўсюды. Схапіўшыся за грудзі, я адчуваў, як цякла гарачая кроў па маіх руках. Што было далей, не памятаю. Я апрытомнеў толькі ў больніцы.

На гэтым я скончыў свае паказанні.

— Скажыце,—звярнуўся да мяне следчы,—вы гэту жанчыну ведаеце толькі як Бірг Аню, ці можа другое прозвішча было ў яе?

— Яшчэ пры першай нашай сустрэчы яна назвалася Бірг Аняй, другім прозвішчам не называла сябе.

— І тады-ж сказала, што яна выкладчыца прыродазнаўства?— перапыніў мяне следчы.

— Так, тады,—адказаў я.
— А з другой Бірг Аняй вы не знаёмы?
— Не, незнаём.
— І Бірг Аня вам нічога пра яе не гаварыла?
— Не, не гаварыла.
— Вы бачылі ўжо вось гэту фотакартку?—спытаўся следчы і паказаў знаёмую ўжо мне фотакартку.
— Мне паказваў яе адзін ваенны ў больніцы,—адказаў я.
— Вы знаёмы з гэтай жанчынай?
— Не, я ніколі не сустракаў яе.

Мяркуючы па пытаннях, я здагадваўся ў чым справа. Але, каб упэўніцца ў гэтым, я спытаўся ў следчага, хто-ж такая Бірг.

Ён ухіліўся ад поўнага адказу і толькі сказаў, што яна зусім не Бірг і не выкладчыца прыродазнаўства.

— Значыць і брата ў яе няма?—пытаўся я.
— Брат ёсць,—гаварыў следчы, толькі гэта брат не па крыві, а па агульнай справе. Ён ужо ў нашых руках. Па тэлефону перадавалі, што яго затрымалі на заходняй граніцы дзён дванаццаць назад. Ён супраціўляўся і забіў аднаго нашага пагранічніка.

Я ўспомніў газету, успомніў брата і на сэрцы стала балюча крыўдна. Кроў прылівалася к сэрцу і яно зачасціла свае ўдары.

— Што з вамі? Вы змяніліся з твару,—звярнуўся да мяне следчы.
— Нічога, так,—адказаў я.—Гэты пагранічнік быў мой брат,—дадаў я крыху счакаўшы.

## IV

Мой зварот у часць быў для мяне вялікай радасцю. Я зноў быў сярод сваіх таварышоў, якія ветліва сустракалі мяне, распытваючы пра маё здароўе і спачуваючы мне. З якім захапленнем расказвалі яны апошнія пагранічныя навіны! Рады я быў і сустрэчы са сваім сабакам—вернай Айвай. Яна то скакала вакол мяне, то лізала мае рукі, то станавілася на заднія лапы, а пярэднімі абвівала мой стан і заглядвала ў мае вочы.

Я абняў яе кашлатую шыю, а яна яшчэ мацней прыціскалася да маіх грудзей. Я ўбачыў, якой моцнай бывае дружба ў чалавека з сабакам.

Расчулены, я доўга не мог зайсці ў казарму і сядзеў з Айвай на двары. Толькі пасля таго, як камісар, убачыўшы мяне, паклікаў да сябе ў кабінет, я расстаўся з Айвай. Камісар распытваў у мяне пра ўсе дробязі здарэння са мной і прапанаваў двухтыднёвы адпачынак, але я адмовіўся, тлумачачы, што адчуваю сябе здаровым і заўтра-ж магу прыступіць да нясення службы. Камісар нічога не сказаў, толькі загадаў майму камандзіру нікуды мяне пакуль што не пасылаць.

Так я пражыў на правах „дачніка“ цэлых пяць дзён. На шосты дзень мяне выклікаў лейтэнант і сказаў, што я павінен заступіць у сакрэт. Я вельмі абрадаваўся. Гэтыя пяць дзён здаліся мне пяццю тыднямі. Без работы я не знаходзіў сабе месца і часта думаў, што мне ўжо не хочуць давяраць.

Цяпер, калі лейтэнант падрабязна растлумачыў мне ўсю абстаноўку, сказаў, на што звярнуць асаблівую ўвагу, з улікам найбольш цяжкіх месц, якія не павінны выпасці з поля майго зроку, я адчуў усю адказнасць ускладзенай на мяне задачы. Калі раней я больш за ўсё захапляўся знешняй рамантыкай гэтай справы, то цяпер, перанёсшы на сабе ўдар варожай рукі, я ўбачыў яе глыбокі ўнутраны сэнс.

З такімі думкамі я ішоў у сакрэт.

К часу майго заступлення ў сакрэт, пагода сапсавалася зусім. Сінява нябёс зацягвалася шэрымі воблакамі, якія нізка насіліся над зямлёй. З захаду насоўвалася вялікая чорная хмара, якая суправаджалася бліскавіцай маланкі і моцнымі перакатамі грома. Хмара была страшная, але рухалася яна павольна. Па ўсяму відаць было, што будзе навальніца, будзе вялікі дождж. Нават назойлівая машкара і тая хавалася за лісцем дрэў. Камандзір улічыў гэта і даў мне ў дапамогу аднаго пагранічніка. Мы былі ўдваіх. Хоць мы і ляжалі амаль поруч адзін з адным, але не вымавілі ні аднаго слова, бо кожны быў заняты сваім, кожны думаў паасобку, але думаў аб адным.

Са мной была і Айва. Яна сядзела каля маіх ног і, натапырыўшы вушы, глядзела ў бок кустоў.

Ноч усё больш і больш ахутвалася ў цемень. Хмара была ўжо зусім блізка ад нас. Толькі пад бліскавіцай маланкі я мог заўважаць знаёмыя мне кусты, якія бесперастанку шапацелі сваімі лісцямі і ад моцнага ветру схіляліся да самай зямлі. Вецер узмацняўся. Хмара раскалолася на дзве часткі і пайшла ў розныя бакі. Неба праяснялася. Толькі зрэдку над намі марасіў лёгкі дожджык.

Айва ўвесь гэты час сядзела нерухома. Яна, выцягнуўшы галаву ўперад, углядалася ў бяздонную цемень Раптам яна ўсхапілася, рвалася з маіх рук і ўсё глядзела ўперад. Я даў знак свайму таварышу, і мы падпаўзлі да бліжэйшага куста. Да нас даносіўся трэск сухіх галінак. Трэск набліжаўся. Мы прытаіліся. Неўзабаве з-за суседняга куста паказалася чорная фігура, якая, крадучыся, набліжалася да нашага куста.

І калі гэтая чорная фігура параўнялася з намі, мы выскачылі з двух бакоў і наставілі штыкі.

Парушальнік ад нечаканасці прысеў.

Мы падышлі бліжэй і ўбачылі жаночы твар. Жанчына жахліва паглядзела на мяне. Я пазнаў знаёмы мне погляд Бірг Анны.

— Ну, вось мы і сустрэліся,—сказаў я.

Яна маўчала.

Пскоў.

*Міхась Калачынскі*

# КОСЦЯ-ЧЭКІСТ

*(Паэма для дзяцей)*

### Косціна радзіма

Ляжыць чыгунка—роўны шлях—
Даўгою казачнай істужкай.
Стаяць слупы. На правадах
Часамі гойдаюцца птушкі.

Кругом балоты і бары.
Чыгунка іх пераразае.
Яна ўзыходзіць з-пад гары,
У сіняй далечы знікае.

Дзе аднарукі семафор
Стаў над чыгункаю высока,
Там адступіўся гонкі бор,
Лягла там станцыя шырока:

Дамы драўляныя, перон,
Пад сама неба вадакачка...
У спёку летняю парой,
Ад смагі крахаюць тут качкі.

У дваццаць пяты год з вясны
На гэтай станцыі Пагосціж
Радзіўся ў вартавога сын,
Далі імя малому—Косця.

Ён тут на станцыі ўзрос
У ласках матчыных, забавах,
З адменным колерам валос—
Чарнявых, мяккіх, кучаравых.

Бывае, Косця кіне дом,
На дол прыляжа на прагрэты
І думае, як бы праз сон,
Кім будзе ён праз многа летаў.

Ён чуў пра Чкалава палёт
Праз сцюжы, грозныя бураны,
І чуў, як смела за народ
Памёр герой—Васіль Баранаў.

Кастусь ляжыць, прымяў траву
І марыць гэтым днём вясновым
Калі паедзе у Маскву,—
Убачыць Сталіна, Ежова;

І думае: кім лепей быць?
Дзіцячы шлях свой выбірае,
Спякотны дзень,
Канёк цурчыць.
У марах Косця засынае.

***

Ён спіць.
Блакітны ціхі поўдзень
Павіс высока над зямлёй,
І мятлі белыя ў лагодзе
Снуюць над мірнаю травой.

Ён спіць.
А мухі кружаць роем,
Паўзуць на твар, на нос тупы
І галкі чорныя ў спакоі
Паселі радам на слупы.

Прагуў цягнік непадалёку,
Спугнуўшы птушак на бакі.
Прачнуўся Косця, кінуў вокам—
Адкуль ідзе цягнік які.

Цягнік ідзе на павароце,
Чуваць жалезных колаў грук;
Спакой трывожыць у прыродзе,
Грукоча сцішана тук-тук.

Кастусь убачыў, як з вагона
Саскочыў спрытна чалавек,
Вачмі акінуў дол зялёны
І сеў спакойна на траве;

Паклаў свой клунак каля боку,
Крывую люльку закурыў...
Ужо вечар летні недалёка,
Плывуць аблокі угары.

Устаў паволі незнаёмы,
У лес па сцежцы пашагаў
І словы песенькі вядомай
Сабе ледзь чутна напяваў:

— Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
„Па чужых краях хадзіў“.
— Чыжык, чыжык, што рабіў?
„У чужых людзей гасціў:
Мёд салодкі еў і піў
І ні гроша не плаціў“.

Гараць агні на ўсёй Пагосціж,
Сякуць на часці ночы цень.
„Што за асоба?“—к дому Косця
З такой развагаю ідзе.

### Ліст брату

Дарогай вольнаю шырокай
Прышоў наступны ясны дзень.
У хату к хлопчыку праз вокны
Прабраўся сонечны прамень.

У хаце—ціш, парадак строгі:
Усё з дасціпнасцю стаіць,
У халадку каля парога
Сабака Бокс, як леў, ляжыць;

На сценах—белыя шпалеры,
Гадзіннік з гіраю шкляной;
Пафарбаваны вокны, дзверы,
Ды столік з ножкай выразной;

На відным месцы каля кута—
Партрэты ў рамках з дзеразы,
Ляжыць папер вялікі скрутак...
Стаяць на ўслончыку тазы.

А за сталом на лад засланым
Пласконным белым палатном
Складае ліст хлапчук, старанна
Выводзіць літары пяром.

Апісваць скончыў ён падзеі,
Ад маці дапісаў паклон,
Канверт слюной так-сяк заклеіў,
Панёс у скрынку на перон.

— Ляці, мой ліст, ляці, як сокал,
Да самай дальняе мяжы!
Ляці мой ліст, на Ўсход далёкі,
Навіны нашы раскажы.

Ляці, мой ліст, на пост—граніцу,
Вітанне брату перадай,
Які ад бандаў-чужаніцаў
Бароніць там савецкі край.

Ляці, мой ліст, ляці стралою
У дальні край з Беларусі,
І пра Баранава, героя,
Ад брата песню прынясі.

Ляці, мой ліст, ляці, як вецер
Праз горы, рэкі у прастор!..
... Ідуць насустрач Косцю дзеці,
На піонерскі клічуць збор.

### На піонерскім зборы

Гарыць агонь.
Спявае бор.
Цвіце чабор, высокі верас.
Праводзяць тут шумлівы збор
Сваім атрадам піонеры.

Шугаюць языкі агня,
Як гальштукі дзяцей вясёлых.
На мяккім куп'і і на пнях
Паселі дзеці навакола.

Важаты гутарку вядзе,
Гаворыць простую прамову
І слухае атрад дзяцей
Пра справы і жыццё Ежова.

Ў вачах дзіцячых паўстае
Вялікага чэкіста вобраз;
Ён тут у сэрцах іх жыве,
Ласкавы, радасны і добры.

Ён любіць песенькі дзяцей,
Гулянкі, шчырыя забавы
І ненавідзіць тых людзей,
Што чыняць брудныя нам справы.

Шануе ўвесь народ яго,
Старыя, юнакі і дзеці.
Палае радасна агонь,
Зялёны бор развесіў веццi.

Кастусь стаіць на нізкім пні,
Ў задуме твар яго ружовы;
Ён думае аб светлым дні,
Калі спаткаецца з Ежовым.

Важаты кончыў.
Звонкі бор
З дзяцьмі заляскаў у далоні
І гул памчаўся у прастор,
Нібы падкованыя коні.

Тады Кастусь руку узняў.
Заціх дзіцячы гул і говар:
— Хачу чэкістам быць і я,
Ісці па прыкладу Ежова!

Кастусь не ўсё дагаварыў—
Між гнілі, верасу, галінак
З глыбокай ямінынары
Паўзла сіпучая змяіна.

Хлапчук абутаю нагой
Ступіў на чорную гадзюку—
І дзеці смелага яго
Віталі, пацiскалі рукі.

## Па ягады

Вядзе сяброў любімых Косця,
Вядзе па ягады ў Бярозы.
Расце атрад і весялосці
Хапае ўдосталь па дарозе:

Ляцяць лубянкі ўправа, ўлева
Вышэй за гонкія сасонкі
Гамонка, жарты, смешкі, спевы...
Гуляюць хлопцы ўперагонкі.

—„Мядзведзь! Мядзведзь“—
Са спуду, мусіць,
Крычыць хлапчук маленькі ростам.
Сябры туды.
— Ах, карапузік!
Мядзведзь... то-ж вывараценъ проста.

— Кастусь, а што калі шпіёна
Часамі стрэнеш ты у лесе?
„Зрабіць сумею па закону,
Каб помніў гад, куды ён лезе!“

—А ты хіба яго пазнаеш,
Нідзе не бачыўшы ніколі?
„Калі патрэбна, дык пазнаю“,—
Адказваў Косця наш паволі.

У думках, крочучы дарогай,
Ён уяўляў гадзюк аблічча.
Шпіён такі: сярдзіты, строгі,
Кругом наганы, морда лычам.

І думаў Косця: можа іншы,
Апрануты ў такую маску,
Якой і словам не апішаш
У самых страшных нават казках.

## У Бярозах

Бярозы, бярозы.
Куды ні зірнеш,
Стаяць беластволыя прама
І позіркі цешуць твае,
Мігцяць, нібы снег, прад вачамі.

Чырвоныя смолкі цвітуць
І ландышы белыя ўсталі.
Навокал суніцы растуць
На сонечных цёплых прагалах.

Сюды з галасамі прышлі
Са станцыі дзеці атрадам
І говар і смех прынясл,
Парушылі ціхі парадак,

Збіраюць суніцы. Іх сок
За ўсё саладзейшы на свеце!
Радзее парыў галасоў—
За працаю шчыраю дзеці.

Сябры разыходзяцца. Косця
адзін.
Заўзята працуе хлапчына.
Супроць між цяністых галін
Сядзіць чалавек з карабінам.

„Хаваецца, пэўна шпіён?“—
З'явілася думка такая.
І кінуўся спуджаны ён
Між дрэў на уцекі, як заяц.

Адбегся, апомніўся, стаў
Ля дрэў апаясаных белым,
Дзіцячы падужалі страх
Свядомасць, развага і смеласць.

— Чаго ты, Кастуська, стаіш?
Хлапцы Кастуся абступілі,
„Шпіёна спаткаў я.
— Маніш?!
„Маню... я-ж прыгледзіўся
пільна.

Не думалі думаў тут шмат
Гурбою прыцішанай дзеці.
—„Узяць!—вырашае атрад.—
У заставу пад вартай адвесці“.

І Косця павёў грамаду
Туды, дзе хаваецца вораг...
Паўзком піонеры ідуць...
—Атака!—Пранеслася хорам.

І кінуўся смелы атрад
Жывым ланцугом на шпіёна,
І ён аглянуўся назад
І дзеці пасталі здзіўлёна.

— Чаго тут шуміце, шаршні,
У лесе спраўляеце вэркал,—
Бурчэў разаспаны ляснік
сеў на калоду ён верхам.

„Мы думалі—дзядзька—шпіён“,—
Старэйшы з хлапцоў абазваўся.
— Я лес абыйшоў, што загон,—
І то ні адзін не папаўся.

Вы-ж бачыце, стрэльба пры
мне,
Са стрэльбай шпіёны не
ходзяць,—
Тлумачыў, збываючы гнеў,
Ляснік на шырокай калодзе.
І Косцю тады хлапчукі
Пасыпалі кпіны-іглiцы:
—Спалохаўся дзядзькі...
Чэкіст?!
Не гэткія, брат, на граніцы!

### Прыгоды двух таварышоў

— Я знаю дзе водзяцца
дзятлы,
Гняздо іх знайшоў у дупле.
Жадаеш дык раніцай заўтра
Мы сходзім па птушак
у лес.—
Цішком, па сакрэту гаворыць
Таварыш-юнат Кастусю.

. . . . . . . . . . . . . . .

Кукуе зязюля над борам.
П'юць з лісцяў сініцы расу.

Свае перазімкі вавёрка
Знаходзіць у старых дуплах,
На дрэвы ўзбіраецца вёртка,
Па выгнутых скача суках.

Над лесам магутным узмахам
Узняўся драпежлівы птах.
Маленькія птушкі са страху
Хаваюцца ўміг па кустах.

— Навошта стварыла прырода
Драпежнікаў хітрых і злых?
Карысці—ніякай, а шкода,
Адна толькі шкода ад іх?

„А што, каб драпежнікаў
лютых
Між птушак зусім не было—
Пладзіліся-б кожнай мінуты,
Самохаць-бы лезлі ў сіло...“—

Таварышу Косця тлумачыць,
Падняўшы сатлелы арэх.
Здалёку таварышы бачаць
Хтось лезе па хвоі уверх.

— Глянь—мішка,—адзін з іх
прамовіў,—
У верас, ды мертвым ляжы!
„Мы гэтага мішку уловім,
Чакай, не бяжы“.

Пасталі сябры каля дрэва
І сочаць мядзведзя цішком.
Ад іх не далёка улева
Пабегла лісіца трушком.

Як бондар, пастуквае дзяцел
Сваім далатом па сасне.
Варона сівая дзіцяці
Сняданне у дзюбе нясе.

Драпежнік пагнауся за пліскай,
Хапае яе на ляту.
Сябры падкрадаюцца блізка,
Як мышы к ляному кату.

„Зусім не мядзведзь гэта лезе,
А самы сапраўдны шпіён.
Блукаў, мусіць ноччу па лесе,
А зараз хаваецца ён.“

Глядзі вунь і маска на твары,
За поясам лыжка вісіць...
Паказвае Косця. Таварыш
К яму прытуліўся глядзіць.

— Па стрэльбу! Тады ён пазнае.
От страху шпіёну дамо!
І Косця сябра пасылае
Па бацькаву стрэльбу дамоў.

### Хто-ж на дрэве?

Пад поўдзень бор вясёлы
Сцішае галасы.
Лятуць з калодаў пчолы
На травы, верасы.

Сядзяць на дрэвах птушкі,
Схаваўшыся ў цяні.
І завязі лясушкаў
Цяпер дзяўбуць яны.

Бяжыць таварыш Косцяў
Сцяжынкаю лясной,
Нясе таварыш Косцю
Берданку за спіной.

А на суку варона
Як мачыха, сядзіць,
На хлопчыка здзіўлёна
Сярдзітая глядзіць:

„Ну што за паляўнічы?
Ледзь стрэльбу валачэ.
Яшчэ сястру паклічу,
Дык з лесу уцячэ“.

А хлопчык не звяртае
Увагі на варон.
Яго Кастусь чакае...
Мінута. Вось і ён.

Узяў у рукі зброю
Адважны піонер.
З задачаю сваёю
Ён справіцца цяпер.

— Ану! злязай, пачвара,
Даволі там сядзець,
На нашыя абшары
Зайздросліва глядзець!

Хутчэй! Чаго марудзіш?
Хутчэй на дол злязай!
А не—дык вось што будзе...—
Ён стрэльбу паказаў.

Тым часам на сасонку,
На дзіва хлапчукоў,
Узляцелі пчолы звонка
Устрывожаным клубком.

— Чур! не пашкодзьце пчолам
Спужаеце рая!—
Пачулі дзеці голас
Суседа-пчаляра.

І раптам ён завойкаў,
Высока на суку—
Яго са злосці пчолка
Ужаліла ў руку.

— Зрабіў улоў я, дзеці,
Пахваставуся сусед,—
Абмазаў мёдам вецце,
І рой прыблудны сеў.

Ішоў дадому радам
З рэбятамі пчаляр
І гаварыў рэбятам:
— Такі ў шпіёна твар:

Ён мае маску—ласку,
Калі ў народ брыдзе...
І расказаў тут казку
Малым рэбятам дзед.

**Казка пчаляра**

Як настане толькі ліпень,
Пад вакном квітнеюць ліпы,
У палях бялее грэчка,
Цвітуць травы каля рэчкі.

Адцвітае лён зялёны,
Зацвітае мак чырвоны...
Краскі ўсюды, ўсюды кветкі.
Пахнуць пожні, луг, палеткі.

Раннем сонечным вясёлым
Вылятаюць з вулляў пчолы:
І за рэчку,
І на грэчку,
На каліну,
Ажавіну
І збіраць мядовы сок
На пахучы верасок.

Апусцеў прыют пчаліны...
Уваход вартуюць пільна
Тры дарослых, тры малых
Сама смелыя пчалы;

Вось дачуўся труцень ласы,
Што ўсе пчолы на папасе,
Свой куток пакінуў—цень—
І да вулляў паляцеў.

Прыляцеў ён да калоды—
Ля калоды пахне мёдам.
А даўно між пчолак быў!
А даўно мядок іх піў!

Ледзь ступіў ён на парог,—
— Стой!—крычаць яму
утрох,—
Ці даўно цябе сям'ёй
З хаты выгналі сваёй?

— Ты чаго-ж вярнуўся зноў?
Ты зачым да нас прышоў?
Каб не мець ніякіх бед,
Выбірайся, дармаед!

Забаяўся труцень крыку,
Паляцеў з плаксівым зыкам.
Змардаваны, ціхі, сумны
Увесь дзень ён думаў думы:
Што тут мудрае знайсці,
Каб у вулей упаўзці?

Доўга думаў і рашыў—
Нанаў вопратку пашыць
Са сваёй старой апраткі
На такую, што у маткі.

Ўсіх сабраўшы дармаедаў:
Мух, казюляк, караедаў,
Шыць сабе прымусіў ён
Маску—новы балахон.

Госці злыдню пакляліся
Ды за працу узяліся:
Хто сукае з лёну нітку,
Хто старую рэжа світку;

Войстраць ножніцы, іголкі —
Працы, клопату тут колькі!
Толькі злыдзень-труцень сам
У баку сядзіць, як пан.

Вось заціх і шум і звон—
І гатовы балахон.
Яго труцень тут надзеў,
Зноў да пчолак паляцеў.

Ледзь ступіў ён на парог—
— Ты куды?—крычаць
утрох,—
— Зноў па соты, зноў па мёд,
Ах ты злодзей руды чорт?!

Хочаш пчол ты абхітрыць,
Працу нашую спажыць?
Не удасца абхітрыць,
Працу нашую спажыць!

Пчолы злыдня тут схапілі
За прытуленыя крыллі,
Моцна, моцна гайданулі,
Ды на дол з вулля кульнулі.

Паляцеў не з'еўшы мёду,
Ён без крылляў пад калоду.
Паляцеў і больш не ўстаў
І у той-жа дзень сканаў.

***

Пасцігайце, мае ўнукі,
Дзеда добрага навуку:
Беражыце нашы долы,
Нібы дом свой родны пчолы.

**Сустрэча чырвонаармейцаў**

У лагеры едуць
Армейцы-байцы.
Цягнік урачысты
Імчыцца, ляціць;

Мінае балоты,
Лясы і палі
І грукат і стукат
Ідзе па зямлі.

Бягуць паабапал
Чыгункі слупы.
На травы спадае
І пара і пыл.

Байцы у адкрытых
Вагонах сядзяць.
Гармонік іграе
І песня чуваць:

„Граніцы Советаў
Заліты ў бетон.
Граніцы Советаў
Не пройдзе шпіён;

Не пройдуць фашысты
Ніколі, нідзе—
На варце стаім мы
Уночы і ўдзень.

Граніцы Советаў
Заліты ў бетон..."
Чырвонаармейскі
Ідзе эшалон.

Стаяць на платформах
Вагонаў падрад
І многа танкетак
І многа гармат.

Маўчаць куляметы,
Гарматы маўчаць,
Ля кожнае пільна
Армейцы стаяць.

І чутна з вагонаў:
„Заліты ў бетон..."
Падходзіць к Пагосціж
Ужо эшалон.

І пару збаўляе
З катла машыніст,
Басы націскае
Ва ўсю гарманіст.

Запоўнен на станцыі
Вузкі перон—
Народ сустракае
Цягнік-эшалон.

Жанчыны, рабочыя,
Дзеці прышлі
Байцоў сустракаці
Совецкай зямлі.

Вітаюць, вітаюць
Гасцей дарагіх.
Букеты кідаюць
Ім кветак жывых.

Ляцяць тыя кветкі
У кожны вагон...
Адходзіць, адходзіць
Далей эшалон.

І Косця наперадзе
З цэлай гурбой
Махае удалеч
Армейцам рукой.

„Паехаць-бы з імі!"—
Так думае ён.
Хаваецца хутка
З вачэй эшалон.

**Дачнік**

Уночы прайшла навальніца,
Змачыла лясы і палі.
Слаянкі, бялянкі, лісіцы
Ад вільгаці жыва ўзраслі.

Прачнуліся дзеці ледзь золак
На кліч пастуховай трубы,
Гурбой пашагалі вясёлай
Збіраць маладыя грыбы.

Кастусь запазніўся—на варту
Ураніцы к бацьку пайшоў,
Вярнуўся пад поўдзень у хату,
Адправіўся ў лес да сяброў;

Шукаў і гукаў, ды у лесе
Нікога нідзе не спаткаў,
На пні на высокім усеўся,
Наўкола з тугой пазіраў;

Насустрач з высокага гаю
Ідзе чалавек па карчу
І песеньку ён напявае,
Што Косця надоечы чуў.

—Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
„Па чужых краях хадзіў“.
— Чыжык, чыжык, што рабіў?
„У чужых людзей гасціў“.

Кастусь паглядзеў падазрона:
„Адкуль, невядомы ты, чыж?“—
Мужчына у майцы зялёнай
Бубніў да яго ідучы.

Спаткаўшы смаўжа на галіне,
Скрывіў ад усмешкі ён твар
І выняў з картовай штаніны
Маленькі бліскучы ліхтар.

— Глянь, хлопчык, як смоўж, выглядае
Агідна, пабольшаны шклом.
Кастусь развважаў: „ты-ж такая
Казяўка з сваім ліхтаром“.

Тут дзядзька хлапцу растлумачыў,
Чаго ён ніяк не чакаў:
— Жыву я, таварыш, на дачы
У бліжнім двары лясніка.

Ты мне раскажы вот, хлапчына,
Праходзяць калі цягнікі,
Што возяць прылады, машыны,
Ці груз мо' інакшы які?

Ты ведаеш, пэўна, што днямі
У лагер праедуць байцы.
Ты будзеш страчаць іх. Таксама
Хачу я насустрач прыйсці.

Адказвае Косця:—не знаю!..
Марудна, нібыта праз сон,
Па выпытах ён заўважае,
Што з ім дыверсант і шпіён.

Шпіён!—нараждаецца вера,—
Тут трэба ляпей схітраваць:
Адвесці падманам, каб звера
У доме сваім затрымаць.

— Дык пойдзем да нас мы дадому,
У госці на пару дзянькоў.
Дазнаемся ўсё, там вядома,
Пра грузы і рух цягнікоў.

Згадзіўся з хлапцом незнаёмы,
Быць госцем яго захацеў...
Пайшлі яны.
Гнеў на шпіёна
У хлопчыка ў сэрцы расце.

А дома шаноўная маці
З любоўю зачытвае ліст,
Як зорка адважна на варце
Стаіць яе любы чэкіст.

Ён Косцю маломy на радасць
Чаканую песню прыслаў.
„Спявай яе, Косця, з атрадам!—
Брат з межаў далёкіх пісаў.

### Песня пра Баранава

Палаюць высокія зоры,
Над сопкамі вечар павіс.
Стаіць на граніцы ў дазоры
Таварыш Баранаў, чэкіст.

Граніца трывогаю дыша.
Не спіць паграпічны нарад.
Парушыў спакой і зацішша
Японскі варожы атрад.

Па землях, марах, акіянах
Няхай нашы словы гучаць:
— Мы будзем, таварыш
Баранаў,
Радзіму, як ты, вартаваць!

Пайшоў на варожую банду
Рашуча адважны герой!
Ён лёг на снягу у засаду,
Пачаў з чужаніцамі бой.

Дрыжаць парадзелыя зоры
Ї падаюць ціха на снег,
Разбіты вяртаецца вораг,
Чэкіста з сабою нясе.

Па землях, марах, акіянах
Няхай нашы словы гучаць:
— Мы будзем, таварыш
Баранаў,
Радзіму, як ты, вартаваць.

Душылі яго да знямогі,
Прыводзілі к следчаму ў зал,
Але чужаніцам нічога,
Нічога герой не сказаў.

Ї гаснуць і свецяцца зоры,
На ўсходзе ўзнялася зара.
На снежных чужынцкіх прасто-
рах
Баранаў Васіль паміраў.

Па землях, марах, акіянах
Няхай нашы словы гучаць:
— Мы будзем, таварыш
Баранаў,
Радзіму, як ты, вартаваць!

---

А Косця дарогаю крочыць,
Шпіёна заманкай вядзе;
Па хітраму гутарыць хлопчык,
Не быць каб часамі бядзе.

Чыгунка.
Ляжаць непарушна
Сталёвыя рэйкі уздоўж.
„Прышоў ты іх, пэўна разру-
шыць,
Злaдзюга, агідлівы смоўж?“

— Прысядзем хоць крыху,
хлапчына,—
Я стомлен ад цяжкай хады,—
„Наш дом недалёка, магчыма,
Лепш дойдзем паціху туды?“

— Навошта мне дом твой, за-
раза?!
Не вышаў твой хітры манеўр!—
Ї кінуўся дачнік адразу
У зараснік цёмны, як звер.

Бег Косця...
Устрывожыўся Косця,
Запыхаўся, ўголас крычаў...
Нож выхапіў дачнік ад злосці...
Тады толькі хлопчык адстаў.

### Шпіёна трэба знайсці

Зусім змардаваны за дзень
Вяртаўся да хаты хлапчук.
Адбіткі нядаўных падзей
Стаялі яшчэ у ваччу.

У сенцы прышоўшы з двара,
Ад стомы, ад цяжкай хады,
Гліняным ён кубкам з вядра
Напіўся сцюдзёнай вады.

Яна ажывіла нутро
Ї сілы хлапцу прыліла.
Ён лёгка ступіў праз парог
Ї сеў каля краю стала.

— З граніцы пісьмо нам прышло,
За люстрам, Кастуська, вазьмі...
У Косці ад матчыных слоў
Растала стамленне уміг.

— Па землях, марах, акія-
нах
Няхай нашы словы гучаць:
— Мы будзем, таварыш
Баранаў,
Радзіму, як ты, вартаваць!

Не скончыў Кастусь. У пакой
Таварыш-юнат прыімчаў,
Паклікаў яго за сабой,
І вось што яму расказаў:

— Я стрэў незнаёмца... Кругом
Расце там сасоннік густы...
Ішоў незнаёмы з ключом,
Каторым знімаюць балты.

Па-мойму, дык гэта—шпіён,
Ён можа да нас прыбрысці,
А ноччу з мяжы эшалон
Павінен, напэўна, прайсці.

— Я-ж гэту заманьваў змяю,—
Прамовіў тут Косця праз
гнеў,—
Ды, сцяміўшы хітрасць маю,
Уцёк дыверсант ад мяне.

Ён можа сапраўды жыве
На дачы у цёмным ляску.
Ідзі ты вячэраць жывей,
А я дабягу к ляснiку.

— Ты знаеш дарогу?
Прайдзі
Чыгункай кілометры тры,
Там звернеш направа...
Адзін
Хіба не пужаешся ты?

— Са мною надзейны мой
Бокс...
Паклікаў сабаку Кастусь,
Пакрочыў з сабакам у змрок,
Густую, як твань, цемнату.

**Косця ідзе да ляснiка**

Ноч і ноч.
Над лесам ціш узнята—
Не пачуеш голасу нідзе.
Не баіцца Косця: Бокс лах-
маты
Разам з ім чыгункаю ідзе.

Ноч густая стала на дарогу,
Засланіла цемнатою шлях.
Прыстаюць утомленыя ногі,
Прамільгнуў над галавою птах.

Адышоўся Косця ўжо далёка
Што й агнёў дамашніх не відно
Маладзік з-за хмары адзінокі
Паказаўся...
Зноўку ноч і ноч...

Косця крочыць.
Цішыня нямая
Навалілася з усіх бакоў.
Косця йдзе, галінкай адганяе
Ад сябе дакучных камароў.

Цішыню нацятую парушыў
Незвычайны, недалёкі стук.
Натапырыў Бокс трывожна
вушы,
Устрывожана прыцiх Кастусь.
Пільна ён прыклаў да рэйкі
вуха—
Чуцен шорах, чуцен сталі звон.
„Не іначай—падышоў зладзюга,
Той-жа самы дыверсант-шпіён?“

Падыходзіць Косця.
Пазнае ён
Дачніка, з якім страчаўся днём.
Дачнік гэты возіцца ля рэек
З балтавым чыгуначным клю-
чом.

Што рабіць?
Адкрыты семафоры,
А здалёку паравоз крычыць...
Разбірае рэйкі люты вораг—
Што-ж рабіць малому уначы?

— Бекс, вазьмі!
На ворага імгненна
Кінуўся, як леў, разумны Бокс.
Дыверсант, прысеўшы на ка-
лені,
Паляцеў спалохана на бок.

Насып быў высокі.
У шчабёнку
Прама ўрэзаўся шпіёна твар.
Замест зброі, спуджаны ўпа-
цёмку,
Выхапіў бліскучы ён ліхтар.

Ноч.
Лясы.
Сабака гулка брэша,
Не пускае ворага ўцякаць,
А цягнік ідзе,
Ідзе паспешна
І святло кідае па баках.

Заблішчэлі рэйкі, як істужкі,
Бачны скрэпы з балтавым клю-
чом.
Разаспаная ўзляцела птушка,
Закранула правады крылом.

Ноч.
Лясы.
Расце кругом трывога.
Загудзелі ціха правады,
А цягнік ідзе сваёй дарогай...
Што рабіць?
Што?
Кінуцца куды?

У вагонах, пэўна, і не знаюць,
Што зрабіў агідлівы шпіён,
Што калецтва кожнага чакае,
Што вагоны лягуць пад адхон.

У пару такую на палацях,
Можа, смелыя армейцы спяць.
У вагоне, як у роднай хаце,
Сны прыемныя аб буднях сняць.

Толькі Косцю зараз не да ма-
раў—
Час трывожны жудасны расце!
Ён схапіў у дачніка ліхтарык,
Гальштукам чырвоным абвяр-
цеў;

І хутчэй насустрач эшалону!
Пад яго праменныя агні!
Замахаў ліхтарыкам чырвоным
І цягнік паспешны супыніў.

З паравоза хуткага саскочыў
Малады высокі машыніст—
Перад ім стаяў маленькі хлоп-
чык,
Перад ім стаяў Кастусь—чэ-
кіст.

* *
*

На гэтым, дзеці, я канчаю
Аповесць першую сваю.
Чэкіста Косцю я вітаю,
Яму ад вас вітанне шлю.

Ён стаў чэкістам не на словах
Шпіёна смела затрымаў.
І быў у Сталіна, Ежова,
Ім рукі шчыра паціскаў.

Яны імкненне нарадзілі
У хлопчыка—чэкістам стаць.
Яны змагацца навучылі,
Шпіёнаў хітрых пазнаваць.

г. Менск.

*Е. Садоўскі*

# НА УФУ

## I

Палявы штаб камандарма Усходняга фронта размясціўся на аколіцы вёскі ў звычайнай сялянскай хаце, падзеленай на дзве палавіны. Камандарму прапанавалі заняць дом папа, які ўцёк да белых, дом прасторны, светлы, але камандарм наадрэз адмовіўся. Ён распарадзіўся перадаць папоўскі дом удаве бедняка, які яшчэ на заходнім фронце служыў разам з Фрунзе і нядаўна геройскай смерцю загінуў у разведцы. Камандарм вылучыў спецыяльны нарад байцоў, які дапамог беднай жанчыне пераехаць на новае месца. Увечары ўдава прышла ў штаб падзякаваць камандарма. Фрунзе выйшаў ёй насустрач. Яго чакалі ардынарцы, што з'ехаліся з розных участкаў фронта для перадачы данясенняў. Камандарм папрасіў іх крыху пачакаць, а сам узяўся суцяшаць жонку загінуўшага байца. Яна, не адрываючыся, глядзела на яго стомлены твар, адчуваючы штосьці роднае і блізкае ў яго простых, ласкавых словах.

— Вось скончыцца вайна, міне завіруха, зямлю будзем апрацоўваць калектывам, напоўняцца засекі збажынөй...

Слёзы перасталі цячы па твару жанчыны. Прасвятлелі вочы, а на губах мільганула ледзь прыкметная ўсмешка.

— Дзякуй, Міхаіл Васільевіч,—сказала яна і сама адчула, як стала лёгка ад яго цёплых чалавечых слоў.

Фрунзе устаў з-за стала, падышоў, падаў жанчыне руку і пабацькоўску сказаў:

— А ў папоўскім доме вы размяшчайцеся, як у сваім.

— Міхаіл Васільевіч,—паціху сказала жанчына.

— А што?—настарожыўся камандарм.

— Вам тут нязручна, цесна, вазьміце ў нас пакой, я вам і абеды буду варыць...

— Не, не, нельга,—запратэставаў камандарм.—Нельга ад штаба ні на крок. Ды я і не збіраюся тут векаваць. Мы людзі паходныя, ці-ж нам думаць пра цеснату.

Правёўшы жанчыну да дзвярэй, ён па-сяброўску развітаўся з ёю.

Увайшлі пасыльныя. Фрунзе сеў за стол і стаў ускрываць пакеты. Пошту ён праглядаў заўсёды сам да апошняга радка і сам-жа сачыў за тым, каб ні адно пісьмо, ні адна просьба не заставаліся без увагі.

Пошта была featured рознастайная. Пісалі камандзіры палкоў, палітрукі, байцы. Прамільгнула некалькі пісем ад іванава-вазнесенцаў. На адным канверце ён прачытаў: „Чырвонаму ткачу ад таварышоў па рабоце“ і ўсміхнуўся. Так, з Іванавым у яго звязаны доўгія годы дружбы, барацьбы, сумеснай работы...

— Сядайце, таварышы. Расказвайце, як сябе адчуваюць байцы.

Камандзіры ведаюць, што Міхаіл Васільевіч будзе прагна распытваць аб усіх навінах, падбадзёрыць, дасць новыя распараджэнні...

Ён не спіць начамі, толькі ўрве якую гадзіну-дзве і зноў ускочыць, накіне сваю простую, выцвілую шынель на плечы, паправіць агарак свечкі, схіліцца над картай і так сядзіць гадзінамі, вызначаючы месцы новых удараў па ворагу. Твар яго стомлены. Пад вачыма сляды бяссонных начэй, але адчувае ён сябе бадзёрым, толькі часамі мучае праклятая застарэлая язва. Тады камандарм зачыняецца і гадзіну-дзве ляжыць без руху. Але і ў гэтыя хвіліны, калі невыносны боль мучыць яго, у думках ён далёка ад асабістых перажыванняў. Ён заклапочана абмяркоўвае новыя варыянты складаных франтавых дзеянняў.

Камандзіры па чарзе дакладваюць. Міхаіл Васільевіч, не адрываючыся, гледзячы ва ўпор, слухае, зрэдку ківае галавой у знак згоды.

— Гэта добра, што байцы гараць жаданнем узяць Уфу. Перадайце ім, што хутка будзем купацца ў быстрых водах ракі Белай, і памыемся ўжо на славу,—жартаўліва гаворыць ён, падымаючыся з-за стала.—А зараз, таварышы, адпачніце з дарогі і зайдзіце да камендапта штаба, ён ужо забягаў сюды і наказваў, што стыне абед. Я ахвотна прысеў-бы з вамі, але пошта неадкладная.

Камандзіры выйшлі. Камендант зноў з'явіўся ў дзвярах.

— Міхаіл Васільевіч, час абедаць.

— Не, не, пачынайце без мяне, я пасля.

— Міхаіл Васільевіч, жанчына, што была нядаўна ў вас, пакінула бульбяныя пірагі і прасіла перадаць вам.

— Якія пірагі? Што за чорт! Зараз-жа звярнуць назад.

— Я не хацеў браць, а яна ў слёзы...

— Гм...—і Фрунзе замест адказу паглыбіўся ў работу. Камендант пачакаў некалькі хвілін у дзвярах, паціху прычыніў іх і выйшаў.

Грубы, нязграбны канверт, склеены спехам і почырк, блытаны і неразборлівы, але штосьці знаёмае ў ім. Фрунзе схіляецца над пісьмом і ўважліва разбірае кожнае слова. Хто-ж гэта?—думае камандарм.—Няўжо Максім Лабзоў?—Хутка перавярнуў ліст і спыніўся на подпісу. Так і ёсць—Максім.

„Міхаіл Васільевіч, зноў давялося пад ваша камандванне. Пазаўчора прыехаў з заходняга фронта і спяшаюся падаць вестачку пра сябе. Вас у Беларусі ўспамінаюць з вялікай пашанай і пра перамогі на ўсходнім фронце гавораць з радасцю“.

Фрунзе задумаўся. Ах, гэты непаседа, але ўсё-ж кемлівы хлопец. Яму трэба будзе даць баявую работу...

У Менску, калі Фрунзе назначылі начальнікам міліцыі, многія салдаты прыходзілі да яго прасіцца на работу.

Аднойчы ў прыёмным пакоі ён заўважыў палахлівага хлапца ў падранай запэцканай шынелі, заросшага і вельмі схуднелага. Усе ўжо разыйшліся, а салдат чакаў. Фрунзе падышоў да яго. Той усхапіўся і хутка, усхвалявана загаварыў:

— Так што жонка мая памерла, а маці пайшла па свету і не ведаю куды прыхіліць сваю галаву. Можа прымеце мяне. Я тэлефаніст...—і салдат, кінуўшы пад ногі шапку, якую да таго камячыў у руках, пачаў паказваць, як хутка ён можа правесці лінію і наладзіць апараты. Фрунзе ўсміхнуўся.

— Ну, і пайшоў бы сабе на пошту...

— Не. Я да вас хачу. Мне пра вас казалі. Я за большэвікоў, а вы, кажуць, у іх галоўны.

Фрунзе па-сяброўску пахлопаў яго па плячы.

— Добра, заставайся.

Салдат узрадаваўся. Гэта быў Лабзоў.

Фрунзе захапіўся ўспамінамі і не заўважыў, як у пакой ўвайшлі два старых башкіры. Яны, не зважаючы на спёку, былі ў кажухах і валёнках. Дзяды былі вельмі падобны адзін на другога і толькі аднаго адрознівалі хворыя вочы. Башкіры стаялі ўжо некалькі хвілін і Міхаіл Васільевіч, выпадкова падняўшы вочы, заўважыў у пакоі незнаёмых людзей. Старыя ўбачылі яго здзіўленне і падыйшлі да стала. Фрунзе ўстаў і падаў кожнаму крэсла. Дзяды доўга не рашаліся сесці. Яны бывалі ў канцылярыях царскіх чыноўнікаў і тады ім даводзілася ледзь не ўпаўзаць у пакоі. Яны не мелі права падняць галаву, калі з імі гаварылі. А цяпер ветлівы, дабрадушны чырвоны камандзір сам падносіць ім крэслы!

— Што скажаце, бацькі?—спытаўся камандарм.

Толькі цяпер, упэўніўшыся ў шчырасці прыёму, яны пачынаюць наперабой гаварыць. Фрунзе ледзь разбірае іх словы.

— Па аднаму, мае дарагія,—усміхаючыся просіць ён і ўважліва выслухоўвае кожнага.

Стары з пачырванелымі вачыма замаўкае і тады другі пачынае ізноў. Цяпер вядома ў чым справа. Яны жывуць па-суседству. Бednякі. Толькі нядаўна набылі авец. Белыя, уначы ўварваўшыся ў вёску, забралі іх авечак, купленых на апошнія грошы. Няшчасце спасцігла беднякоў. Яны прыйшлі прасіць дапамогі ў чырвоных. Стары з хворымі вачыма паслаў свайго ўнука Аліма ў лес, дзе стаялі часці чырвоных. Чырвоныя паслухаліся беднага старога і вось учора яму прыгналі авец. За восемнаццаць кілометраў прыйшлі старыя падзякаваць галоўнага камандзіра. І яшчэ ў іх ёсць просьба. Няхай камандзір паслухае. Фрунзе ківае галавой.

— Гаварыце, гаварыце.

І тады пачынае стары з хворымі вачыма. У яго ёсць унук Алім. Яму шаснаццаць год, але ён дужы і здаровы. Усе прыгняталі старога, а чырвоныя яго любяць, ён хоча, каб Алім таксама быў чырвоным.

— Вазьміце Аліма воінам, ён будзе храбрым...—стары кляненца сваімі сівымі валасамі.

Фрунзе ўсхвалявана выслухоўвае гэту просьбу, потым падымаецца з-за стала і гаворыць:

— Хоць вашаму Аліму толькі шаснаццаць год, але мы яго прымем.

— Прымем...—улаўліваюць старыя і падыходзяць да камандарма. Яны паціскаюць яму рукі.

На стале, заваленым паперамі, зазваніў тэлефон. Фрунзе зняў трубку.

— Слухаю. Адкуль? Так, так. Перадавыя часці падыйшлі да ракі? Добра. Камендант, камендант!—кліча камандарм, паклаўшы трубку,—скажыце шоферу, хай падае машыну.

— Міхаіл Васільевіч, а абед?

— Што вы, што вы, дарагі, спачатку Уфа, а потым абед...—і, хутка адзеўшы шынель, выходзіць.

Старая, заезджаная машына, нядаўна адбітая ў белых, фыркаючы, спыняецца ля штаба. Камандарм усаджвае побач з сабой старых башкіраў. Ён давязе іх дамоў, пазнаёміцца з Алімам і адтуль на пазіцыі. Гэта якраз па дарозе.

Машына, уздымаючы густы дарожны пыл, хаваецца за паваротам.

II

Грамафон вішчыць так, што цяжка разабраць словы. З велізарнай трубы з заржавелымі краямі вырываюцца нейкія дзікія гукі. Не зразумець—спявае гэта мужчына ці жанчына. Звычайная швейная іголка, прыстасаваная замест грамафоннай, скача па пласцінцы і жудасна скрыпіць. Але гэтага ніхто не заўважае. Грамафон стаіць на тачанцы, якая адцягнута з дарогі ў цень пад высокія дрэвы.

Ліпеньскае сонца бязлітасна паліць. Градам ліецца пот. Некаторыя асмеліліся скінуць гімнасцёркі. Цяпер прывал на дзве гадзіны. Хто дрэмле, хто чысціць вінтоўку, а чалавек восемдзесят ля грамафона. Грамафон—трафей. І Максім Лабзоў—герой гэтага трафея. Пазаўчора Лабзоў быў у коннай разведцы. Ужо вяртаючыся назад, разведчыкі ў глыбокім яры наткнуліся на п'яную кампанію белых. Разваліўшыся на зямлі, яны слухалі аблезлы грамафон, украдзены ў памешчыцкім маёнтку. Разведчыкі акружылі п'яных ваяк і тыя нават не паспелі выстраліць. Лабзоў забраў грамафон і прыстроіў яго на сядле, асцярожна падтрымліваючы рукой. Разам з грамафонам разведчыкі ўзялі і вялікую скрынку з пласцінкамі, дзе побач з Верцінскім быў Собінаў, Фігнер, вясёлы Давыдаў і іншыя выдатныя спевакі. Толькі цяпер на вялікім прывале, пад праменнямі няшчаднага сонца, удалося выпрабаваць грамафон. Байцы былі да таго захоплены гэтай забаўкай, што не заўважалі ні скрыпу, ні хрыпу.

Заслухаўшыся музыкай, яны не прымецілі, як сярод іх апынуўся камандарм. Ды яго і цяжка было прымеціць. Звычайная гімнасцёрка, летняя, крыху пашыраныя галіфэ, высокія боты на цяжкой падэшве не адрознівалі яго ад астатніх.

Паставілі плясавую.

— Ну-тка ў круг!—весяла сказаў Міхаіл Васільевіч і тады толькі пазналі яго. Чырвонаармейцы забылі пра грамафон і цесна акружылі камандарма. Пасыпаліся пытанні. Прабіваючыся праз натоўп, падышоў Лабзоў. Міхаіл Васільевіч адразу пазнаў яго.

— Ты ўжо і тут праяўляешся. Мне паведамілі аб тваёй разведцы.

— Міхаіл Васільевіч, я для вас грамафон здабыў.

— Мне не патрэбен. Пакінуць пры клубе. Вось Белую пяройдзем, белых разаб'ем, я буду тэлеграфіраваць у Маскву, каб вам дваццаць грамафонаў самых навейшых прыслалі... Возьмем Уфу?—цвёрда спытаўся Фрунзе і гэтае пытанне было ўспрынята як загад.

— Таварыш камандарм, мы даўно рвёмся ў бой,—сказаў стаяўшы побач з ім пажылы баец, які згортваў самакрутку.

— Махорку атрымліваеце?—спытаўся камандарм.

— Сёння выдавалі.

— А дзе повар?

— Камандарм повара кліча!—пранеслося ў натоўпе і некалькі чалавек кінулася да лагчыны, дзе стаялі паходныя кухні. Старшы повар—хударлявы і сутулы—ніцма ляжаў на зямлі і хроп. Яго разбудзілі. Ён спуджана ўсхапіўся і адразу-ж памкнуўся рукой у кішэню.

— Чакай, чакай,—супакоіў яго Лабзоў.—Ты, хлопец, відаць, нечым напалоханы. Цябе да камандарма просяць, а ты за гасцінцам у кішэню лезеш.

— Да камандарма...—пачаў нарэшце ўцямліваць повар і твар яго пакрыўся чырвонымі плямамі.

— Пойдзем, пойдзем, чаго ўпінаешся. Хоць-бы грыву прычасаў...

— Таварышы, я пасля, мне абед хутка раздаваць...—прамармытаў повар і хацеў было накіравацца да кухні, але яго затрымалі. Хаця хударлявы толькі месяц працаваў поварам, але байцы паспелі прыглядзецца да яго. Абеды ён гатаваў нясмачныя: то перасольваў, то недасольваў. Стала падазроным, і тое што пасля з'яўлення хударлявага сярод байцоў пачаліся захворванні. Камандарм атрымаў тры пісьмы са скаргай на дрэннае харчаванне. Праўда, пра повара не ўспаміналася, але ён адразу ўзяў яго на падазрэнне. І вось па дарозе ў 25 Чапаеўскую дывізію рашыў спыніцца ў палку. Повар нарэшце з'явіўся.

— Што сёння варыце?—спытаўся камандарм пры напружаным маўчанні байцоў.

Хударлявы, нізка апусціўшы галаву, маўчаў.

— Хто ведае гэтага чалавека?—звярнуўся Фрунзе да байцоў. З задніх радоў пачуўся звонкі голас.

— Я ведаю!

Усе азірнуліся і паглядзелі на маладога хлапца, які пачырванеў ад агульнай увагі. Байцы расступіліся і хлопец выйшаў наперад.

— Адкуль ты яго ведаеш, Алім?—здзівіўся камандарм.

— Гэта сын бая, ён уцёк да белых і часта рабіў налёты на нашу вёску. Гэта ён і жывёлу нашу забраў...

Хударлявы, злосна зірнуўшы па баках, хацеў уцячы, але байцы моцна схапілі яго. Камандарм загадаў неадкладна перадаць

повара ваентрыбуналу, а абед, які ён сёння варыў—выліць, для байцоў зарэзаць ягнят.

Байцы чулі загад Фрунзе. Яны яшчэ цясней акружылі яго.

— Дзякуй камандарму...—пачулася ў натоўпе.

— Леніну ад нас прывет напішыце...

Міхаіл Васільевіч, зняўшы фуражку і махаючы ёю ў знак развітання, пайшоў да машыны. Там яго чакаў Алім.

— Ну, як, герой?—жартаўліва спытаўся ён,—на Уфу хочаш?

Алім, адчуваючы бацькоўскую руплівасць, адказаў:

— Дазвольце, я першым Белую пераплыву.

— І не пабаішся?

— Ні-ні.

— Ах ты, страла.—І Фрунзе сеў у машыну.—Добра, паплывеш першым,—сказаў ён і, развітаўшыся, загадаў шоферу ехаць.

Байцы доўга глядзелі ўслед. Лабзоў выбег наперад і махаў шапкай. Алім моцна сціснуў правую руку, быццам баючыся выпусціць цяпло ад нядаўнага сяброўскага развітання.

Вецер уздымаў хмары пылу. Слупы яго падымаліся ўпоравень з дрэвамі. Пажаўцела трава. Добра было-б на рэчку ці ў лазню... Змыць з сябе пот і пыл, але лазня ў Уфе і, кажуць, добрая лазня, а рака Белая хоць і недалёка, але не вельмі выгодная для купання.

Фрунзе расшпільвае каўнер гімнасцёркі.

— Табе не душна?—пытаецца ён у шофера.

Шофер у скараной куртцы і вялікіх пальчатках, якія ўчора яму прыслалі хлопцы з перадавых пазіцый. Пальчаткі яўна англійскага паходжання. Яны так прышліся да спадобы шоферу, што нават нанач хлопец неахвотна здымае іх. Рукі ад непрывычкі пацеюць, цяжка ўтрымаць руль, але ён і віду не падае.

— Не, не душна.

Камандарм паглыбляецца ў карту. Нават у дарозе час не траціцца марна ў Міхаіла Васільевіча. Нараджаюцца планы новых тактычных аперацый. І зараз, захоплены вывучэннем баявой абстаноўкі, ён не заўважыў, як машына раптам змоўкла і спынілася.

Шофер, скінуўшы свае пальчаткі, сярдзіта адштурхнуў дзверцы, саскочыў на зямлю і адчыніў крышку матора.

Фрунзе узняў галаву.

— Што ў цябе там здарылася?

— Матор здае, Міхаіл Васільевіч.

— Так, непрыемна,—і ён таксама выйшаў з машыны.

Шофер закасаў рукавы і пачаў аглядаць матор.

— Таварыш камандуючы, а чаму нам з Масквы машын не шлюць?

— Пачакай,—усміхнуўся Фрунзе,—вось Калчака разаб'ем, белых да аднаго выганім, тады і заводы запрацуюць, а машыны мы ў першую чаргу пачнем рабіць.

— А якія, Міхаіл Васільевіч?

— Ну, вядома, не такія, як гэтая...—і Фрунзе пастукаў пальцам па зношанаму кузаву.

— Ну, калі не такія, як гэтая ламачына, дык варта пачакаць...—

і шофер яшчэ настойлівей пачаў корпацца ў жалезным нутры машыны.

Фрунзе чакаў. Раптам недзе зблізку засакатаў кулямёт, услед за ім пачулася вінтовачная страляніна.

Шофер усхапіўся і зірнуў на камандарма.

— Куды гэта мы з вамі трапілі?

Фрунзе адышоўся, навёў бінокль, і ўдалечыні заўважыў коннікаў. Хутка тых стала відаць простым вокам. Яны паскаралі ход, пакідаючы ззаду віхры сухога пылу.

Шофер зірнуў на Фрунзе. На твары камандуючага не было і ценю хвалявання. Гэта супакоіла хлопца. Ён, ухапіўшыся аберуч за ручку, стаў заводзіць матор. Спачатку неахвотна, потым, разышоўшыся, матор роўнамерна застукаў.

— Сядайце, Міхаіл Васільевіч.

— У цябе гатова?

— Так.

— Давай уперад.

— Уперад?—перапытаў шофер.

— Трэба праехаць да Чапаева.

Коннікі набліжаліся. Шофер дастаў рэвальвер і прыбавіў ходу. Заўважыўшы чырвоны флажок на машыне, коннікі спыніліся. Пярэдні ўзняў руку. Камандуючы загадаў шоферу спыніцца. Той неахвотна затармазіў. Коннікі пад'ехалі бліжэй. Гэта былі пасланцы са штаба Чапаева. Васілій Іванавіч, занепакоены доўгай адсутнасцю камандуючага, выслаў насустрач яму байцоў. Шофер нечакана для сябе сярод коннікаў пазнаў свайго друга і твар яго расплыўся ад радасці.

— Здароў, міляга!—крыкнуў ён таварышу, з якім разам мёрз у акопах на румынскім фронце.—І ты, відаць, дамоў не пайшоў.

— Бач, разумны, сам мяне да бальшавікоў клікаў, а цяпер домам цвеліцца. На якога чорта мне той дом, калі ў ім і пацукам няма чым пажывіцца!

Вакол зарагаталі. Фрунзе з цікавасцю наглядаў гэтую сцэну. Коннікі закурылі. Шофер запрасіў сябра ў кабіну побач з сабою. Вольнага каня ўзялі за павады, і ўсе ціхім ходам паехалі да штаба Чапаева.

## III

Алім памятае абяцанне Міхаіла Васільевіча. Ён марыць быць першым сярод байцоў, якія будуць фарсіраваць Белую. О, ён добра ведае гэтую раку! Месцамі яна шырокая, як мора і глыбокая, як вір, але не ўсюды. Алім ведае, дзе Белая звужаецца і становіцца мелкай.

Лабзову падабаецца баявая страснасць маладога башкіра.

— Алім, калі ты спіш?

— Аліму многа сну не трэба. Алім—малады, старыя спаць любяць.

— Бач ты, філосаф,—смяецца Лабзоў.

Нядаўна Аліму выдалі новы карабін. Радасць яго была такой вялікай, што ў першыя хвіліны ён не мог сказаць слова, а потым, шпурнуўшы вобзем шапку, пусціўся ў скокі вакол вінтоўкі. Цэ-

лымі суткамі ён не расставаўся з ёй ні на мінуту. Калі еў, клаў вінтоўку на калені, калі спаў,—клаў побач і падоўгу размаўляў з ёй, як з жывой істотай, называючы ласкавымі імёнамі.

... Густым прыбярэжным зараснікам прабіраецца ланцужок байцоў. Ноч. У спакойных, не астыўшых ад дзённай спёкі, водах Белай купаецца маладзік. Як чаўнок коўзаецца ён па вадзяной роўнядзі.

Першым у ланцугу—яго не цяжка пазнаць і пры цьмяным святле ночы—Лабзоў. Ён часта пазірае ўгору і кляне месяц.

— Вось ужо сёння на якога ён чорта здаўся.

— Чаго ты, старына?—паціху пытае грузны пажылы баец, які ідзе за ім.

— Ды я пра тое, што сёння нам-бы асеннюю цемру.

— Клопат, мы і пры святле справімся.

Дзесьці паблізу цяжка грымнула гармата.

— Нашы...—на міг прыпыніўшыся, лёгка ўздыхнуў Алім.

Залп паўтарыўся.

— Іванава-вазнесенцы б'юць,—сказаў Лабзоў, і расхіляючы калючыя кусты, кінуўся наперад.

З хвіліну было ціха, а потым зусім блізка раздаўся аглушаючы выбух снарада.

— Шукаюць, сволачы,—сказаў грузін, шырокаплечы баец.

Алім павесялеў. Нарэшце надыходзіць тая хвіліна, аб якой ён так доўга марыў. Але чаму яны марудзяць, чаму Лабзоў не паварочвае да берага, дзе Алім яшчэ з вечара прымеціў пяць рыбацкіх лодак. Ён тузае Лабзова за рукаў.

— Лодкі за гэтай лагчынкай, таварыш камандзір.

— Помню, Алім, помню.

Лабзоў паварочвае да ракі. Сухі пясок шуршыць пад нагамі, набіваецца ў дзіравыя боты...

Ля самага берага Алім абганяе камандзіра і бяжыць да вады. Дзе-ж лодкі? Прабег у адзін бок, у другі. Можа зблытаў месца? Не, вось і камень, ля якога яны былі прывязаны. Мокрыя вяроўкі адрэзаны. Алім са здзіўленнем зірнуў на камандзіра.

— Тут нехта быў,—сказаў Лабзоў і азірнуўся вакол.

Гэтай-жа хвіліны з зарасніка раздаўся выстрал. Куля прагула над галавой Лабзова. Ён прыгнуўся.

— Кладзіся!—скамандваў ён і байцы заляглі.
да Алім прымеціў тое месца, адкуль паласнуўся агонь і папоўз да зарасніку. Лабзоў ускочыў з месца і пабег наперад. За ім падняліся байцы. Алім бег у першых радах. І раптам з-за кустоў зноў пасыпаліся выстралы.

— Уперад!—крыкнуў Лабзоў.

Вось ужо і лагчынка. Алім, забываючы пра небяспеку, абганяе ўсіх. З зарасніку больш не страляюць, але калі Алім падбягае да самай лагчыны, раздаецца адзіночны выстрал. У плячо пекануў гарачы боль. Алім перакідвае карабін з правай рукі ў левую. Няўжо паранены? Сціснуў зубы, на міг прыпыніўся, але потым зноў рвануўся наперад. Прыгнуўся і ўпаў. Падбег Лабзоў.

— Алім, што з табой?

Юнак прыўзняў галаву, усміхнуўся.

— Нічога, камандзір,—і паказаў рукой на зараснік.

У самай лагчыне за скалістым выступам чырвонаармейцы знайшлі афіцэрскую засаду. Тут быў палявы тэлефон, два станкавых кулямёты, замаскаваныя галлём.

У жалезнае кальцо зацiснулі байцы афіцэрскую засаду. Перарэзалі провад. Шырокаплечы баец кінуўся да кулямётаў. Афіцэр хацеў размахнуцца бомбай, але Лабзоў прыкладам па галаве аглушыў яго. У гэтую хвіліну зусім блізка ад іх разарвалася бомба. Баец кінуўся туды. Праз некалькі крокаў ён спыніўся ад жахлівага відовішча. Там, дзе застаўся Алім, ляжалі толькі шматкі вопраткі, а побач два забітых афіцэры.

— Не дапусціў зайсці да нас у тыл...—прашаптаў баец і зняў шапку перад героем.

Абяззброіўшы афіцэраў, Лабзоў пачаў дапытваць вусатага.

— Дзе лодкі?—сурова спытаўся камандзір, сціснуўшы ў руцэ наган.

— Пусцілі па цячэнню,—глуха адказаў вусаты.

— Як трапілі сюды?

Вусаты маўчаў.

— Як трапілі сюды?—паўтарыў Лабзоў і падыйшоў бліжэй.

Праз поўгадзіны, звязаўшы афіцэраў і пакінуўшы варту, Лабзоў і яго спадарожнікі спускалі на ваду шырокабортную лодку, якую знайшлі ў зарасніку.

Сціхшая артылерыйская кананада на досвітку ўзнікла з падвойнай сілай. Бухалі гарматы. Пераклікаючыся з імі, сакаталі кулямёты. На ўсходзе, падымаючыся над шырокай ракой, загаралася сонца.

## IV

Міхаіл Васільевіч не спаў усю ноч. Ускінуўшы шынель на плечы, ён хадзіў па пакоі, сам прымаў данясенні па тэлефону, адзначаў на карце малейшыя змены.

Пастукаўшы ў дзверы, Лабзоў папрасіў дазволу ўвайсці.

— У раёне прыбярэжнага яра мы наткнуліся на белую засаду,—далажыў ён.

— Сустрэча не вельмі прыемная,—усміхнуўся Фрунзе.

— Гледзячы для каго, таварыш камандарм.

— Безумоўна для супрацоўніка,—сказаў Міхаіл Васільевіч і прышчурыў вочы.

— Захоплена шэсць чалавек, два кулямёты, бомбы, палявы тэлефон.

— Страты ёсць з нашага боку?

— Адзін загінуў... Памятаеце, Алім...

— Малады башкір? Шкада. Ён у мяне прасіўся першым цераз раку. Не давялося... Увядзіце галоўнага.

Палонны афіцэр спыніўся ля дзвярэй.

— Ну, што, пане афіцэр, Масква аказалася далей, чым вы думалі?

Палонны маўчаў, апусціўшы вочы.

— З кім вы трымалі сувязь з свае засады?

— З Уфой.

— Вам давядзецца яшчэ некалькі гадзін падзяжурыць ля тэлефона, вядома, разам з нашымі хлопцамі...—і Фрунзе паклікаў Лабзова.

— Вазьміце на сябе дзяжурства ля тэлефона.

— Ёсць.

— Ну, а потым калі не будзе патрэбы ў сувязі, пагружайцеся і плывіце на Уфу.

Лабзоў усміхнуўся.

— Ёсць на Уфу!

Фрунзе зняў прастыню, павешаную замест шторы, і расчыніў акно. Свежае паветра напоўніла прасторны пакой. Здалёку даносілася кананада. Яна то змаўкала, то аднаўлялася.

„Іванава-вазнесенцы ўжо на тым беразе, пераправа пачалася, жаеду"—рашыў Фрунзе і выклікаў камендапта.

— Міхаіл Васільевіч, вы-ж сёння не спалі...

— А вы?

— Ну, я...

— Дык вось, не вучыце другіх...—сказаў камандарм і жартаўліва прыгразіў яму пальцам.—Падрыхтуйце мне збан халоднай вады і няхай пададуць варанога. Чапаеў не званіў?

— Толькі што. Ён ужо ля Чырвонага Яра.

— Добра.

Любімец Міхаіла Васільевіча, вынослівы казацкі конь, які не раз бываў у баявых перапалках, стаяў на прывязі каля штаба і нецярпліва біў капытамі мяккую зямлю.

Ля Чырвонага Яра ішла пераправа. Артылерыйская страляніна не сціхала. Снарады, якія яшчэ нядаўна рваліся на беразе, цяпер ляцелі ў ваду, высока ўздымаючы ўспененыя пырскі.

Чапаеў вельмі хваляваўся, што тут, на пераправе, прысутнічае сам камандуючы. З таго берагу ідуць нядобрыя весткі.

Камандуючаму далажылі, што параход, які перапраўляе байцоў на той бок, прышвартаваўся да берага.

Папраўіўшы бінокль і ўстаўшы з месца, Фрунзе сказаў:

— Ну, Васілій Іванавіч, пойдзем.

— Ёсць, таварыш камандуючы. Я гатовы.

На беразе, без шума і штурханіны байцы пагружаліся на параход. Шырокія прыстанскія сходні стагналі пад цяжкімі ботамі. Парадак пры пасадцы быў узорны, але ішла яна марудна.

Васілій Іванавіч пачаў прыспешваць.

— Хутчэй, хлопцы, хутчэй. Іванава-вазнесенцы пераходзяць у атаку, ім патрэбна дапамога.

Апошнімі на параход узыйшлі Фрунзе і Чапаеў. Яны засталіся на палубе. Фрунзе выняў бінокль і стаў уважліва аглядаць берагі. На ўсім участку выразна былі відаць лодкі з байцамі, што спяшаліся на той бераг. Фрунзе паклікаў Чапаева.

— Ты-ж скардзіўся, што не хапае перавозачных сродкаў. Зірні!—і ён перадаў яму бінокль.

— Рыбакі нарыхтавалі, Міхаіл Васільевіч.

— То-та,—сказаў камандуючы і зноў узяў бінокль.

Іванава-вазнесенцы чакалі дапамогі. Перайшоўшы яшчэ раніцай ў актыўнае наступленне, яны значна прайшлі наперад. Цяпер ім патрэбна была жывая людская сіла, каб утрымаць занятыя пазіцыі. Параход прычаліў. Фрунзе першым сышоў на бераг. Чапаеў нагнаў яго і стаў прасіць.

— Міхаіл Васільевіч, тут вельмі небяспечна.

— Ну, што-ж з таго?

Камандуючы арміяй, Фрунзе быў сам байцом. Чырвонаармейцы ведалі яго храбрасць. Не раз ён ішоў з імі ў пярэдняй шарэнзе.

Вестка аб тым, што на беразе камандарм, маланкай абляцела байцоў. Пазаду асталася рака. Гэта зрабіла палёгку і цяжкасць. Палёгку таму, што быў пройдзены самы цяжкі этап, а цяжкасць таму, што ўсякія шляхі да тактычных перакідак і перамяшчэнняў былі адрэзаны. Занадта нікчэмнай была плывучая база арміі. Але прысутнасць камандуючага натхняла байцоў. Забыліся нядаўныя няўдачы. Вера ў блізкую перамогу мацнела ў кожным байцы.

Фрунзе на месцы ацаніў становішча. На слабыя ўчасткі было кінута падмацаванне. Часці, што перапраўляліся на левым флангу фронта, атрымалі заданне абыйсці белых з тылу. Камандарм паслаў групу камандзіраў праверыць, як далёка зроблены абход. А ў гэты час іванава-вазнесенцы заваёўвалі новыя перамогі.

Камандуючы сам дапытаў двух палонных—аднаго штабнога афіцэра і казачага есаула, злоўленых яшчэ раніцой.

— Авіяцыі шмат у вас?—ва ўпор спытаўся Фрунзе.

Ён задаў яшчэ некалькі пытанняў. Меркаванні яго поўнасцю спраўдзіліся. Калчак лічыў раку Белую непрыступнай для чырвоных.

На беразе ракі ў палатцы аснавалі паходны шпіталь. На двуколках прывезлі першых параненых. Фрунзе абыйшоў ложкі. Параненыя пазнавалі яго.

— Хутка Уфа, таварышы, а там мы як дома размесцімся.

Параненыя падымаліся з ложкаў, ласкава глядзелі на свайго камандарма. Яго прысутнасць прыносіла ім палёгку—сціхаў боль. Малады баец з павязанай галавой, бледны ад вялікай страты крыві, узняўшыся на локцях, спытаўся:

— Таварыш камандарм, нас у строй возьмеце?

Фрунзе усміхнуўся.

— А вось, паляжыце, ачуняеце, урач дазволіць, ні на дзень не затрымаем.

— Дзякуй,—паціху сказаў паранены і лёг на падушку.

Камандарм паспяваў усюды.

Стрымліваючы ўзмыленага каня, ля штаба спыніўся веставы. Фрунзе сам ускрыў пакет. Ля татарскай вёскі Тур-Баслы белыя акружаюць нашых. Камандарм, выклікаўшы падмацаванне, паскакаў да вёскі, за ім Чапаеў.

Ля вёскі байцы хутка прымалі строй. Камандзір батальёна Гапенка, усхваляваны з'яўленнем камандарма, аж ахрып, падаючы каманду.

Фрунзе паклікаў яго.

— Байцы ідуць у агонь, навошта-ж гэтыя крыкі? Вы лепш сваім спакоем пакажыце прыклад.

Камандарм папрасіў вінтоўку. Перакінуўшы цераз плячо патранташ, ён пайшоў наперадзе батальёна. Назойліва гулі самалёты. Дзесьці раскатамі гучала глухое „ура“, трашчалі кулямёты. Чапаеў зноў папрасіў камандарма пaберагчыся, але той нават не адказаў. Тады Васілій Іванавіч узяў вінтоўку і пайшоў побач з Фрунзе.

Гэта падбадзёрыла байцоў. Па радах пракацілася магутнае „ура“ і яшчэ мацней рука сціснула вінтоўку. Дапамога іванава-вазнесенцам падаспела ў самы час. Прабіўшы першую лінію супраціўлення, яны цяпер маглі ўпэўнена рухацца наперад. Калчакоўцы ў паніцы ўцякалі, пакідаючы акоп за акопам.

Фрунзе перасеў на каня. Зусім блізка рваліся снарады. У поўдзень яму данеслі, што перадавыя часці ўступілі ў прыгарад Уфы.

Стралянiна сціхла, але самалёты белых яшчэ кружыліся над часцямі Чырвонай Арміі, зрэдку зніжаючыся і кідаючы бомбы. Няпрошаных гасцей сустракалі меткім агнём. Лабзоў са сваімі разведчыкамі наладзіў сапраўдную аблаву. Ён паставіў тры станкавых кулямёты на грузавік і пасяваў усюды, дзе толькі з'яўляліся самалёты. Спярша стараннасць Лабзова не мела поспеху. Самалёты занадта высока кружылі ў паветры. Але вось з-за лесу з'явілася машына з белымі палосамі на крылах. Кулямёты па імгненню павярнулі свае дулы ў бок супраціўніка. Самалёт памкнуўся ўзяць вышыню, але не паспеў. Некалькі куль, трапіўшы ў бензінны бак, ушчэнт разбілі яго. І хутка падбітая сталёвая птушка нязграбна садзілася на зямлю. Лабзоў, не адрываючыся ад кулямёта, загадаў павярнуць грузавік да месца, дзе спусціўся самалёт. Калі лётчыкі былі абяззброены, Лабзоў паслаў байца з данясеннем у палявы штаб. Па апазнавальных знаках было ўстаноўлена, што гадзіну назад бомбай гэтага-ж „Юнкерса“ кантузіла камандарма, параніла Чапаева.

Ачуняўшы ад кантузіі, Фрунзе загадаў Чапаеву легчы, і скінуў сваю шынель, каб накрыць яго, але Чапаеў наадрэз адмовіўся. Ён перавязаў ручніком галаву і застаўся.

— У Уфе падлечымся, Міхаіл Васільевіч,—сказаў ён, надзяючы шапку.

Сонца спусцілася да падножжа гары. Павеяла холадам. Узняўся вецер. Было сем гадзін вечара, калі машына камандарма спынілася на цэнтральнай плошчы Уфы, дзе ў адным з асабнякоў ужо размясціўся штаб усходняга фронта.

Тысячы людзей запоўнілі вуліцы горада. На дамах калыхаліся чырвоныя сцягі. У розных канцах горада ўзнікалі дэманстрацыі.

Фрунзе хацеў выйсці з машыны, але натоўп ля будынка штаба загарадзіў яму дарогу. Пасыпаліся кветкі. Камандарм зняў фуражку, на яго стомленым твары зазяла ўсмешка. Натоўп прыціх. Стаўшы на скуранае сядзенне машыны, Міхаіл Васільевіч акінуў усіх вачыма і, прыкметна хвалюючыся, сказаў:

— Уфа назаўсёды стала чырвонай! Прывет героям, таварышы!

Вакол зашумела хваля народнай радасці.

---

*Сара Каган*

## РАДЗІМА

Люблю я шумны бор і гаці,
Палі, узгоркі, сенажаці—
Тут нарадзіла мяне маці,
Тут з песняй гушкала заўжды.
Тут дзецьмі мы грыбы збіралі,
Адсюль нас вечна праганялі,
Тут на пяску мае у далі
Пралеглі першыя сляды.

Тут і жыццё я пачынала,
І слова першае сказала,
Свайго маленства мары ткала,
Пачула слова „Чалавек“.
Тут з дзецьмі я чакала маці
З далёкай панскай сенажаці,
Гуляла ў костачкі на гаці,
Тут біў нас град і лівень сек.

Тут палахлівая дзяўчынка,
На венік рэжучы галінкі,
Я ўся дрыжэла, як былінка
Тут потым статак я пасла,
Па лужах босая хадзіла,
Тут сонца цела мне паліла,
Тут я расою твар свой мыла,
Ваду крынічную піла.

Тут маладосць сваю згубіла
Сярод чужых палёў пастылых,
Тут цяжкі стогн матулі мілай
Упершыню пачула я.
Тут ў бой братоў я выпраўляла,
Тут з перамогай іх спаткала,
Сваё дзіця тут цалавала,
Збялела голаў тут мая.

... Выходжу ў жытнія прасторы,
І здэцца мне, што толькі ўчора
Згубіла я у цяжкім горы
Свае найлепшыя гады.

Я іх шукаю ў кожным дрэве,
Ў травінцы кожнай, ў кожным спеве
У лёгкім ветрыка павеве,
У хвалях шумнае вады.

У цвеце водарных чаромух,
Ў рыканні статкаў, ў сініх стромах,
У дыме комінаў знаёмых,
Што ўсхвалявалі так душу,
Я іх знайшла, маленства вёсны,
Што тут згубіла ў сцежках росных,
Я зноў радзілася дзівосна,
Я на руках сябе нашу!

Іду, і вочы ззяюць смела,
Ад шчасця ўся я захмялела!
Як люба галавой збялелай
Схіліцца ў дымныя жыты!
Ўзяла я серп, і, як бывала,
Але з вясёлай песняй жала,
Я каласы твае звязала
У сноп духмяна-залаты.

Радзіма! Знік той час бяздольны!
Як добра мне ў палях раздольных
Тваім паветрам дыхаць вольным,
І слухаць шэлест спелых ніў!
Хачу гарэзіць зноў, смяяцца,
Вясёлай песняй заліваццца.
Не томіць рук сягоння праца—
У целе новых сіл прыліў.

Радзіма! Як мне дораг кожны
Твой сноп, твой бор, твой луг мурожны,
Калгас твой новы, слуп дарожны,
Твой час жніва і час сяўбы!
За шумныя твае дубровы,
Світанне, песні, дол барвовы—
Заўжды няўхільна я гатова
Для самай цяжкай барацьбы.

Радзіма! Край нязнаных цудаў!
Дачка твая, заўжды і ўсюды
Зямлю тваю я славіць буду
І сонца яснае тваё.
Табе, што вочы мне адкрыла,
Сваімі сокамі ўспаіла
І, як дзіця, мяне ўзрасціла,
Належыць ўсё жыццё маё.

*З яўрэйскай мовы пераклаў*
*А. ЖАЎРУК*

*Алесь Бачыла*

# ГРУЗІНКА

Як вобраз мілай прастаты,
З сваёй бялявую хусцінкай
Ізноў паўстала блізкай ты,—
Чорнавалосая грузінка.

Шумела мора. Навакол
Стаялі цесна дружкі-скалы,
А ты пацiху „Суліко“
Тады ад сэрца мне спявала.

Стаіўшы подых, слухаў я
Напеў прыемны, мілагучны,
І думка рвалася мая
Далёка ў свет праз горы, кручы.

Туды, дзе ў зелені між скал
Той Суліко стаіць магіла,
Якую доўга ўсё шукаў
Грузін адважны—яе мілы.

Так і народ твой з даўніх пор,
Не даўся ворагу скарыцца:
Жадаў быць вольным, як арол,
Каб з новай доляй падружыцца.

Шукаў жыцця і за яго
Пайшоў у бой супроць нядолі,
Каб выгнаць тых з аулаў, гор,
Што адбіралі яго волю,

Што края горную красу
Гадамі нішчылі нямала,
Таму і песня цяжкі сум
Мінулых дзён нам захавала.

Цяпер над морам я стаю
Між скал высокіх пабрацімам,
І песню слухаю тваю
Пра нашы дні і пра радзіму.

І з песняй радаснаю ты
Да сэрца люба мне, дзяўчынка,
Як вобраз мілай прастаты,
Чорнавалосая грузінка.

**1938 г., верасень.**

*Уладзімір Шахавец*

# БУДЗЕМ БАРАНІЦЬ

Пад шырокім небам,
пад блакітам ясным
Выраслі заводаў,
фабрык карпусы.
На ўрадлівай глебе,
на палях калгасных
Шумам спелым поўняць
далі каласы.
Мы выходзім дружна,
каб сям'ёй адзінай
Плавіць сталь, жалеза,
збожжа малаціць—
У народа нашай
сонечнай краіны
Ад нападу сёння
ёсць што бараніць.
Акадэмік,
лётчык,
камандзір з заставы,
Селянін,
рабочы,
конюх,
трактарыст—
Усё тварцы вялікай
і пачэснай справы,
Мужным сэрцам, думкай
кожны—
комуніст.
У сям'і магутнай:
рускі,
украінец,
армянін,
грузін,
татарын,
беларус,
кіргіз—

Калі трэба будзе,
родную краіну
Ёсць каму ад воўчай
зграі бараніць.
Конніца, як вецер,
шпарка пралятае,
Танкаў і танкетак
праязджае строй.
Парашуты шоўкам
неба засцілаюць,
Эскадрыллі рэжуць
сонных хмар спакой.
На марах эскадры
дзень і ноч няспынна
Наглядаюць пільна
за жыццём граніц.—
Калі трэба будзе,
родную краіну
Ад нападу сёння
ёсць чым бараніць.
Узрасла магутнасць
Арміі Чырвонай,
Не знайсці у свеце
арміі такой.
Калі трэба будзе,
выступяць калоны
За наркомам-маршалам
у рашучы бой.
А за імі следам
ўсе мы, патрыёты,
Выйдзем, каб радзіму—
шчасце нашых дзён—
Бараніць вінтоўкай,
танкам,
самалётам,
Песняй,
сэрцам,
мужнасцю,
жыццём.

Люты 1938 г.

*Я. Шчарбатаў*

# ЖОНКА КАМАНДЗІРА

(Апавяданне)

Перад наступленнем Каця сказала свайму мужу, камандзіру палка:

— Памятай, Міша, што бой будзе за маю родную вёску. Ты не забыўся на яе?

— Памятаю тваю Вішнёвую добра,—ласкава ўсміхаючыся, адказаў ён.

Потым, пачакаўшы, ні то сам сабе, ні то да Каці, сказаў:

— Гаворыш, родная... Родная вёска, родны горад,—уся Украіна родная наша. Вось і трэба ворага прагнаць з Украіны, а значыць і з тваёй вёскі.

На світанні распачалі наступленне. Камандзір вырашыў наляцець нечакана на сяло, бо сілы ворага былі моцныя. Прабіраліся ўперад унепрыкметку. Толькі некалькі байцоў-дазорных ішло па ўзгорку, пільна ўглядаючыся ў прадранішні цёмнасіні стэп. Калі блізка падыйшлі да вёскі, адкрылі агонь. Засакаталі, запелі свінцовым гулам кулямёты, абарваўшы сонны спакой вёскі. Стараліся біць па высокаму папоўскаму дому: ведалі—там штаб белых. Хутка з боку вёскі таксама адказалі. Пачаў страчыць кулямёт, потым другі, трэці... Белыя спрасоння білі куды папала. Толькі зрэдку заблудзіўшая куля прасвіствала ў паветры над ярам. Тады камандзір палка, не чакаючы покуль вораг зусім апамятаецца, разгледзіцца, скамандваў:

— Полк у атаку!

І бясстрашная чалавечая лава смяротным ураганам наляцела на ворага. Белыя ў паніцы, мітусні і беспарадку кінуліся на другі бок вёскі, у агароды, сады. Праз некалькі хвілін яны былі зусім выбіты з вёскі і адступілі ў бярозавы гаёк. У вёсцы чырвоныя рашылі зрабіць перадышку. Шырокаплечы прысадзісты камандзір упэўнена і цвёрда праходзіў па вуліцы, аддаючы загады аб размяшчэнні байцоў. Ён ласкава і цёпла ўсміхаўся ім светлымі вачыма і дзякаваў за храбрасць і адвагу.

Вёска Вішнёвая загаманіла радасцю перамогі.

І толькі цяпер байцы заўважылі, што ўжо, над бяскрайнім прасцягам стэпу, па-вясенняму яркае і маладое, узышло сонца, вітаючы іх ласкавымі праменнямі. А вёска нібы танула ў маладым лебядзіным пуху, яркім, срабрыстым, густым: над вокнамі хат у па-

лісадніках, у зялёных густых садах малочна-белым колерам прыгожа квітнелі вішні, расцвіталі бэз і чаромха, красавалі маладымі залацістымі лісткамі стройныя таполі.

І гэты імклівы поступ вясны, і перамога над ворагам, радавалі камандзіра чырвонага палка.

* * *

Як толькі адступілі белыя, Кацл кінулася да роднае хаты. Яшчэ з вуліцы яна пачула, як у хаце хтосьці галасіў. Яна ўскочыла на двор. Спынілася. На двары стаяў конь, запрэжаны ў невялікую каляску. Яна спасцярожліва агледзела двор, але, нічога падазронага не прыкмеціўшы, рашыла, што каня забыліся белыя. Ускочыла ў хату. Па хаце, моцна галосячы, поўзала, білася аб падлогу старая маці. Яна прычытвала надрыўным голасам:

— Ой, божанька мій...

А на падлозе, распластаўшыся на ўсю хату, доўгі і сухі ляжаў Кацін бацька. Твар яго быў скрываўлены, у сіняках. Кацл кінулася да бацькі. Хлынулі слёзы, горкія, нястрымныя. Прыцісну́ўшыся да пабітых грудзей бацькі, яна закрычала:

— Татанька, мой родны!

Маці, пазнаўшы дачку, галасіла:

— Доню мая, сэрдэнька! Дзе-ж ты была? Адкуль з'явілася?

І зноў па яе маршчыністым твары паліліся горкія слёзы.

— Ой, Доню! Забілі бацьку белыя, зусім забілі.

— За што?—упоўголаса спыталася Кацл.

— Казалі, стрэльбу каб аддаў. А дзе-ж яе ўзяць, калі няма?!

У гэты час за сялом з боку гаю зноў зашчоўкалі вінтоўкі, зайшоўся лаянкай кулямёт. Яшчэ больш застагнаў стары бацька. А пабітыя, акрываўленыя вусны ціха прашапталі:

— Вады...

Кацл падала вады. Стары з прагнасцю выпіў, а потым ціха вымавіў:

— Кацярынка, дачка, гэта ты?—і змоўк, цяжка дыхаючы.

А за сялом не змаўкала страляніна. Тады Кацл хуценька нагнулася над бацькам.

У вачах старога ўспыхнуў аганёк нейкай затоенай радасці. Ён паспрабаваў усміхнуцца цёпла, па-бацькоўску сваёй дачцы, ён раптам прыўзняўся, але гаварыць не мог і толькі прашаптаў:

— Кацярынка... у хлеве, пад саломаю... вазьмі...—і зноў зваліўся.

Кацл кінулася ў хлеў. У адным кутку ляжала бярэмя саломы. Яна хутка раскідала яе, пачала раскапваць гной. Вілы глуха аб штосьці шкрабнулі. Яна яшчэ больш старанна ўзялася за работу. Адкапала скрынку. Аглядзела. Скрынка была с патронамі. Хутка адкапала і вінтоўку, абверчаную анучамі. Кацл выбегла на двор да запрэжанага каня.

* * *

Яшчэ не паспеў умацавацца чырвоны полк, яшчэ не адпачылі байцы, яшчэ не вырашыў камандзір, як дзейнічаць далей, калі белыя пачалі наступленне. Гэтага якраз і баяўся камандзір. Ён ведаў

што вораг, хоць і быў пераможаны, але меў яшчэ шмат сілы. У яго-ж палку не засталося ні аднаго патрона ні для вінтовак, ні для кулямётаў, а байцы былі змораныя, знясіленыя.

Але камандзір рашыў выступіць яшчэ раз у бой. Быў адзін выхад: або памерці, або канчаткова разграміць ворага ў рукапашным. І пайшлі байцы ў бой без адзінага патрона, толькі ў кожнага з іх былі чырвонаармейская воля і стойкасць, вера ў сваю справу, ды моцныя жалезныя рукі і грудзі.

Толькі вышлі з ваколіцы, полк па камандзе рассыпаўся па стэпу. Байцы, прыгнуўшыся, паўзком, набліжаліся да ворага. Белыя ўзмацнілі страляніну; некалькі кулямётаў, захлёбваючыся, лілі свінцовы град па стэпу, ім уторылі вінтоўкі. Час ад часу падалі чырвоныя байцы. Смяртэльныя-ж кулі, нібы раі разгневаных пчол, усё гусцей і гусцей пелі над галовамі.

Камандзір бясстрашна і мужна вёў полк уперад.

— Толькі-б бліжэй падпусцілі, толькі-б, тады ў рукапашную, інакш смерць,—шаптаў ён.

Белыя, здагадаўшыся, што ў чырвоных няма патронаў, яшчэ больш засыпалі кулямі.

— Здагадаліся, гады!—вымавіў са злосцю камандзір.

Раптам нейкая гарачыня апаліла яго руку і штосьці ліпкае і цёплае пацякло па скуры. Але ён не страціў прытомнасці, толькі, на хвіліну прыпыніўшыся, моцна перавязаў руку куском бінта.

Падалі байцы. Жывыя-ж прабіваліся праз смерць і беглі, беглі наперад.

Наставаў рашучы момант. Здавалася, вось-вось белыя яшчэ адным ударам канчаткова пакончаць з чырвоным палком. Але раптам на хвіліну страляніна замоўкла. Потым зноў разразілася з новай сілай. Кулі шалёна рваліся кудысьці ў стэп і радзей гулі над галовамі байцоў. Міжволі, не спыняючы ходу, байцы аглядзелі кругом стэп. Па неабсяжнай роўнядзі з боку вёскі маланкава каціўся нейкі чорны клубок. Хутка клубок вырас у фігуру каня, які, нібы птушка, ляцеў па стэпу. А яшчэ праз некалькі хвілін байцы заўважылі за канём на калясцы і Кацю. Параўняўшыся з пярэднімі радамі байцоў, Каця пачала раскідваць патроны. Байцы радасна заляскалі затворамі вінтовак.

— Ура!—загрымела па ўсяму стэпу. І байцы з бяспрыкладным геройствам рынуліся ў бой. А Каця, схапіўшы вінтоўку, імчала ўперад на ворага.

— Вось вам, гады, за бацьку! Вось вам, бандыты праклятыя, за родную вёску, за Украіну!

На гэты раз белыя былі канчаткова разбіты і ўзяты ў палон. У агульнай гарачцы атакі, ні камандзір, ні байцы не заўважылі, як пахіснулася і ўпала Каця. Толькі крыху пасля знайшлі яе ў павозцы, цяжка параненай.

А ў Вішнёвай яшчэ прыгажэй квітнелі малочна-белыя вішні і расцвіталі бэз і чаромха.

*В. Рагуцкі*

# Хвоя

Цябе любіць ранак золкі,
Любіць ясная зара;
Пасля дождыка вясёлка
Абнімае, як сястра.

Ї, як вечарам паволі
Захвалюецца імжа,
На тваім шырокім голлі
Зоры спелыя дрыжаць.

Ї стаіш ты, а ні дбаеш,
Над глыбокаю ракой;
У люстэрка пазіраеш,
Умываешся расой.

Рэюць песні над табою,
Спеюць ягады вакол.
Але заўтра, раніцою,
Ты павалішся на дол.

Не аслабіць твая слава
Загрубелую руку...
Адшукаю пераправу
І на золаку ссяку.

А як скоцішся з абрыва,
Я скажу:
— Шчаслівы пуць!
За табою, над вадою
Мае мары паплывуць.

Па імклівых водах нашых
Будзе шлях твой да пары:
Мае мары разгадаўшы,
Спыняць дзесь цябе сябры.

Змераць поглядам любоўным...
Ї тады—у іх руках—
Станеш скрыпкаю цудоўнай,
Небывалай у вяках.

Для прыгожай, гордай мэты
Зберагуць цябе як след,—
Ї на конкурсе сусветным
Здзівіш музыкаю свет.

Будзе дзень вялікі гушкаць
Тваю песню на руках.
Запяюць чароўна птушкі
Пад узмахамі смычка.

Нават пушчы загамоняць,
Зашумяць на ўсе лады.
Гучна ў яблыкі зазвоніць
Сад багаты, малады.

Ї ў такую вось хвіліну
Ты ўваскрэснеш і сама:
У палёце сакалiным
Захаплення не стрымаць.

Будзе сэрца калыхацца
На высокіх хвалях струн.
Акрыляе гром авацый
Славы нашае зару.

Бо растуць у нас таланты
Пад зарніцамі Крэмля!
Бо совецкім музыкантам
Рукаплешча ўся зямля!

Ї авацый дружных хвалі
Будуць доўга не змаўкаць...
А з Крэмля вялікі Сталін

Выйдзе песню сустракаць.

Менск—1938.

*Альфрэд Радзюк*

## УЗЫЙДЗЕ РАНАК СРЭБНЫ НА ЛУГІ...

Узыйдзе ранак срэбны на лугі,
Пашле святло сваё празрыстае ў прасторы.
І ў росах заіскрацца мурагі,
На грудзі поўныя дыхне ржаное мора.

Пачую я: зязюля за ракой
Куваць пачне. І гучна дзяцел будзе стукаць.
Разбудзяць ціхі ранішні спакой
Птушыных галасоў прыветлівыя гукі.

Ля нізкіх і зялёных берагоў
Крыніца жвавая ключом жывым зазвоніць.
Зявеяў хмар—нябесных караблёў
Парывы ветра буйнага разгоняць.

І сонца яснае з вышынь тады
Пальe агністы сок цурком, нібы праз сіта;
Нап'юцца соку гэтага сады,
Памочыць вус у ім багаты колас жыта.

Туды, дзе поле шэпча збажыной,
Дзе рэчкі светлая вада цячэ, бруіцца,
Пайду я з хаты светлае сваёй
Халоднае вады з крыніцы той напіцца.

То скарб я п'ю радзімае зямлі,
Дзе нівы, рэкі і сады—усё жывое...
Як добра жыць, дзе краскі расцвілі,
Дзе Сталін напісаў Закон сваёй рукою

*Канстанцін Рэвін*

# КАМІСАР АВОЦІН

Пякучыя сібірскія маразы, шырокія снежныя прасторы давалі вялікую перавагу ворагу: ён абараняўся ў насельных пунктах. І ўсё-ж ні жорсткі мароз, ні ўмацаванні, ні цёплыя хаты, у якіх адседжваліся белыя гадзінамі,—нічога не дапамагло. Скрозь і ўсюды былі біты—белыя.

Наступалі...

Пальцы дубянелі, не слухаліся. Пранозлівы вецер залазіў пад шынель. Прабірала да касцей. На кароткіх прыпынках адольвала прыемная дрымота—хацелася заснуць. Але за гэтую слабасць плацілі смерцю.

— Ваня! Глядзі, каб нос не адваліўся!

— А ты тры хутчэй шчаку.

— Цябе ні адна дзяўчына бязносага цалаваць не стане.

— А ты на сябе паглядзі—прыгажун.

Так, падбадзёрваючы адзін другога, наступалі спешаныя кавалерысты ў кубанскай дывізіі, выконваючы загад: з фронту ў пешым страю захапіць белых у станіцы, а ў конным—з фланга і тылу адрэзаць ім шлях адыходу і знішчыць.

Жарты і задорны смех наступаючых, неабсяжныя прасторы снежных палёў, маўклівы лясок у далечыні, ветракі на ўскраіне станіцы, што незграбна махалі абдзёртымі крыламі, сінія дымкі над дахамі дамоў, адзіночныя выстралы з вінтовак, падобныя на сухі трэск ламачча,—усё гэта стварала карціну вялікага тактычнага вучэння, і здавалася, тут не можа быць і гаворкі пра смерць.

Але памылковае ўражанне рассейваецца, калі на ўскраі маўклівага лесу, на роўным полі, і нават ля комінаў, і ля ветракоў,—па адзіночцы і па некалькі адразу ўзнікаюць усюды маленькія клубкі шэравата-белага дыму. Яны, нібы спалохаўшыся чагосьці, гэтак-жа хутка, як і з'яўляюцца,—знікаюць.

Адкрыла агонь артылерыя. Яе снарады разарваліся над станіцай і прыкметна ажывілі наступленне. Больш упэўненымі сталі вінтовачныя выстралы, адгукнуліся, спяшаючыся і захліпаючыся, станкавыя кулямёты.

Камісар Авоцін увесь час сярод байцоў. Ён не можа пабыць доўга на адным месцы. Яго высокая постаць мільгала ў розных месцах. І там, дзе віднелася яго белая заечая шапка, энергічней рухаліся калоны, неяк запальней успыхвалі вінтовачныя выстралы, весялей перакліка́ліся кулямёты.

Авоцін у палку другі месяц, а ў баі першы раз. Ён прыбыў, калі полк стаяў на адпачынку, і неяк адразу, з першых-жа дзён, адчуўся яго ўплыў на рознастайнае жыццё палка. Камісар арганізаваў партыйную вучобу, ажывіў палітзаняткі і стварыў моцны актыў. Сваёй распарадчасцю, уменнем знаходзіць галоўнае, а не распыляцца на дробязі, выключнай руплівасцю аб байцы ён за кароткі час набыў любоў і павагу. Аб Авоціне гаварылі так: „Наш піцерскі камісар усё можа", або: „Наш пуцілаўскі камісар гэта забараніў". Авоцін прыбыў з Петраграда. Сляды масляных плям на яго старой ватоўцы сведчылі, што ён да апошніх дзён не парываў сувязі з вытворчасцю.

... Вось і млыны. Чуваць асобныя словы каманды, крык, лаянка. Станіца ашчацінілася дзесяткамі кулямётаў, якія ўвесь час маўчалі, а цяпер, быццам здзекуючыся над храбрасцю наступаючых, крышучы іх упартае імкненне рухацца наперад, абрушыліся густым смяротным дажджом.

Вінтовачная страляніна, выбухі снарадаў, рогат кулямётаў—усё змяшалася ў агульны гул, і, здавалася, ад гэтага гула на імгненне замерла станіца, лес, маўклівыя ветракі, паветра і нават людзі.

Заляглі. Акапаліся. Артылерыя перанесла агонь і яе снарады рвуцца за станіцай. Кулямёты, не спыняючы агню, мяняюць пазіцыі. Конніца з тылу і флангу вось-вось нечакана абрушыцца на ворага.

Набліжаецца час атакі.

Камісар Авоцін з групай байцоў ля крайняга ветрака. Перад млынам шырокая вуліца. Гэта давала магчымасць праверыць глыбіню распалажэння супрацьўніка і весці назіранне за яго паводзінамі. Увагу звярнуў на сябе выбегшы на дарогу афіцэр. Ён махаў рэвольверам, некаму пагражаў, крычаў. Відаць было, як за афіцэрам нерашуча выходзілі са сваіх сховішчаў салдаты і перабягалі цераз дарогу.

Авоцін ніколі не разлучаўся з карабінам. Не спяшаючыся, ён нацэліўся, злавіў на мушку маленькую бегаючую фігурку, прытаіў дыханне—і націснуў на спускавы курок.

Выстрал. Фігурка пахіснулася, узмахнула рукамі і ўпала на спіну. Але што гэта так апаліла плячо? Чаго стала раптам так млосна і закружылася галава? Карабін споўз з пляча на снег. Левая рука апусцілася, стала непаслухмянай...

З хуткасцю маланкі ляцела па ланцугу трывожная вестка: „паранен камісар палка... Піцерскі... Пуцілаўскі... таварыш Авоцін..." Дзесяткі рук працягнулі бінты, каб дапамагчы таварышу. Прыбеглі з насілкамі.

Белыя перайшлі ў контрнаступленне. Па колькасці іх было ўтрая больш, чым чырвоных. Густымі ланцугамі яны заходзілі ў тыл, левы фланг чырвоных стаў адступаць.

Гэтае адступленне можа перадацца на ўвесь участак. Адыходзіць тут, перад станіцай—нельга. Гэта зразумеў камісар, слухаючы данясенне. Калі пакінуць ускраіну станіцы, дык удар галоўнымі сіламі не дасягне свае мэты. Гэтага дапусціць нельга. Столькі затрачана энергіі, і няўжо ўсё зноў пачынаць спачатку?—думаў Авоцін, разрываючы бінты для перавязкі. Трэба затрымацца тут

яшчэ на некалькі хвілін. Забываючы пра боль, Авоцін устаў на ногі, узяў карабін і пайшоў. Высокі, добра бачымы здалёк і сваім і супрацiўнiку, бясстрашна ішоў камісар палка насустрач ворагу. Яго голас, заклік і жменька храбрацоў, якая кінулася следам за ім, ашаламілі супрацiўнiка. Здалося, на імгненне ён сумеўся. Але гэта было толькі адно імгненне. Левы фланг спыніўся. Байцы залеглі і адкрылі дружны агонь. Белыя, не змяншаючы тэмпа наступлення, рушылі наперад.

Цяпер у кожным байцы—поспех боя. Уся ўвага—на камісара. А ён, высока ўзняўшы руку, крыкнуў нешта, пахіснуўся і павольна апускаючыся, прысеў на правую нагу, а потым сагнуўся і ўпаў тварам уніз.

Зноў схіляюцца твары байцоў, зноў паслужліва працягваюць рукі бінты, зноў трывожна і сумна ляцiць па ланцугу: „У другі раз паранен камісар палка... Паранен тавaрыш Авоцін... Піцерскі.. наш Пуцілаўскі...“

І нібы скарыстаўшы часовае замяшанне, адсутнасць таго, хто сваёй бясстрашнасцю натхняў на перамогу, белыя пайшлі ў штыкі. На левым флангзе адказалі контрударам. Але ні гераізм, ні ўпартасць байцоў не маглі спыніць ярасць ворага, па ўсім участку сталі адступаць байцы, пакідаючы на полі сваіх забітых і параненых тавырышоў.

Без шынелі, у лёгкім пінжачку, хутка бег да байцоў сакратар партбюро Іваноў. Ен паказваў рукой на ляжачага ў снягу Авоціна. Іваноў рушыў байцоў за сабою, але сам хутка зваліўся, праткнёны штыком ворагаў.

Здавалася, усё страчана,—і імклівая атака белых, і падаспеўшая іх конніца, і адыход байцоў, і страты ў штыкавым баі— усё гаварыла за зрыў плана наступлення.

Авоцін, сцiснуўшы зубы ад болю, падняў галаву. Паглядзеў направа, налева—і зразумеў усё. Абапіраючыся на здаровую руку і астаўляючы за сабой крывавы след, ён папоўз насустрач ап'янеўшаму ад перамогі ворагу. Часамі ён прыўзнімаўся, уздымаў высока галаву, азіраўся назад, на ішоўшых за ім байцоў, падбадзёрваў іх сваім голасам, знясілены падаў, зноў падымаўся і поўз наперад, наперад.

—Таварышы! Камісар двойчы паранен. Але ён ідзе на ворага. А мы?

— Уперад за камісарам! За камісарам!— пранялося па ланцугу, напаўняючы сэрцы мужнасцю, нараджаючы ўпэўненасць у перамогу.

Прыпыніліся. Ашчаціліліся зноў штыкі. І байцы зноў ідуць у атаку. Усё змяшалася. Спынілі агонь кулямёты. У адзін клубок перапляліся чалавечыя целы: штыком і прыкладам, кулаком, нагамі і зубамі баранілі адны—жыццё, другія—рэвалюцыю.

Усё менш і менш застаецца байцоў. Авоцін нерухома ляжыць у тылу ў белых. А яны, рассыпаўшыся шырока па полі чорнай саранчой, ідуць наперад, знішчаючы ўсё на сваім шляху.

І раптам недзе далёка, у канцы станіцы, пачуліся крыкі „ура! конніца!“ І з ляска бліснула халодная сталь клінкоў.

— Конніца чырвоных!

— Акружаны! Адрэзаны!

— Конніца чырвоных у станіцы! — пабегла па радах белых. Гэтая навіна выклікала страх і замяшанне.

Справа—конніца, злева—кулямёты абрушыліся на ворага. Вакол раскатамі грымела чырвонаармейскае „ура“.

Смерць ішла на белых з усіх бакоў. І паімчаліся яны—на агароды, за парканы, у паграбы—назад па знаёмай дарозе.

Позна. Станіца ўзята з тылу конніцай. Але дзе-ж Авоцін? Знік. Абшуканы ўсе хаты і падстрэшшы. Абшуканы ўсе хутары—няма камісара.

Мінула зіма. Сібір ачысцілася ад белай нечысці. Ад былых баёў засталіся ўспаміны, памяць аб загінуўшых таварышах. Зазелянелі дрэвы, сям-там на парыжэлых і прыгрэтых сонцам узгорках прабілася першая зелянь. Толькі ў ярах ляжаў яшчэ снег. Удзень ярка свяціла сонца...

У адзін з такіх дзён нечакана знайшлі Авоціна на хутары ў паграбе.

... Выкалатыя вочы, знявечаны твар, нажавая рана на горле, сляды ўдараў на грудзях і шчоках, садраная скура на пальцах—усё гаварыла аб цяжкіх пакутах, якія перанёс гэты чалавек, абараняючы званне і годнасць члена бальшэвіцкай партыі.

Таварыша Авоціна пахавалі на агульным могільніку станіцы. На яго магіле стаіць слупок з чырвонай зоркай, а на слупку дошчачка з кароткім надпісам: „Камісар Авоцін, 1919 год“.

*Мікола Жук*

## НА СТАДЫЕНЕ

Валасоў тваіх на скроні
Пасмы светлыя ляглі...
Мы прасторным стадыёнам
Разам к фінішу ішлі.
Нам насустрач свежы вецер
Яблык пах з садоў прынёс,
Красавалі ў жоўтым цвеце
Строі белыя бяроз.
Павуціна лёгкім ценем
Праплыла над галавой...
Я твае гадаю ймкненні,
Поплеч ты бяжыш са мной.
Я цябе яшчэ не знаю—
Мы сышліся першы дзень,
Ты-ж найболей дарагая
Між знаёмых мне людзей.
Дабяжым. Ў вачах няспынна
Лента фініша гарыць.
Мы не страцім ні хвіліны
Вызначанай нам пары.

Ўзлёт рытмічны рук і ног,
Лёгка дышуць грудзі.
Пойдуць ворагі вайной,
Бараніцца будзем.
Ўсе нязломнаю сцяной
Ў грозны час устанем,
Мы гатовы выйсці ў бой
Цёмнай ноччу, раннем.
Ў горкім дыме, у агні
Мо' цябе сустрэну.
І вучобы ўспомнім дні
Ў рокаце ваенным.
Загарыцца ў сэрцах гнеў,
Палкая нянавісць
К тым, хто хоча у вайне
Знішчыць нашу славу,

Хто вучобу супыніў,
Адарваў ад працы,
Каб таптаць багацце ніў,
Руйнаваць палацы.
І не ўстоіць вораг, не,
Перад нашай сілай—
Ў самай жудаснай вайне
Знойдзе ён магілу.

Блізка так перад вачыма
Лента фініша дрыжыць,
Вецер бегу не суніме,—
Хутка, хутка, дабяжым.
Вось апошняя хвіліна,
Думы ціхія плывуць:
Грудзі русае дзяўчыны
Ленту фініша парвуць.
Выйшлі ўперад адным крокам,
Косы біліснулі агнём...
Дай мне руку. Недалёка
Пройдзем разам, адпачнём.
Ля дарожкі з боку станем,
Паглядзім-жа колькі іх,
Ў самай сіле красавання
Смелых, дужых, маладых.
Не акіне погляд ўсіх
Ў майках сініх, белых,
У праменнях залатых
Бронзавеюць целы.
Лёгка так яны бягуць,
Іх нічым не спыніш.
З кожным крокам па кругу
Бліжай, бліжай фініш.
І прыгожыя-ж яны,
Стройным сваім станам,
Сонцам сталінскай вясны
Ўсе узгадаваны.
Яго сэрцам на вякі
Ўсе яны сагрэты—
Камандзіры, маракі,
Лётчыкі, паэты.
Доўга хочацца глядзець
Бег іх несупынны—
Дужасць свежую людзей,
Дужасць ўсёй краіны.

в. Паўстынь, 1938 г.

*В. Казлоў*

# ЭПІЗОД

Цёплы чэрвеньскі вечар 1918 года. Паўз берагі Волгі паўзуць сівыя туманы. У пасёлку вые сабака, недзе скрыпіць воз, у прыбярэжных трысняках крычыць спалоханая птушка. Дзе-ні-дзе чутны адзіночныя вінтовачныя выстралы, але пазней і яны замаўкаюць. Жыццё засынае глыбокім сном, толькі неўгамаваная Волга вядзе вечныя спрэчкі са сваімі берагамі.

У адным з дамоў пасёлка ля чыгуначнага маста мігціцца агеньчык лямпы. З вуліцы відаць, як у доме рухаюцца людзі, чуваць незнаёмая мова. Гэта штаб чэха-славакаў, які вырашае— як перабрацца ўранні на левы бераг ракі, заняты атрадамі чырвоных.

Тут былі згрупаваны войскі чэха-славакаў, якія праследвалі чырвоных ад Кузнецка. Рака прыпыніла іх націск.

— Дзіўна, чаму іх так доўга няма?—хваляваўся палкоўнік Ніколо.—Лейтэнант Крос упэўніваў мяне, што не пазней дванаццаці гадзін ён будзе тут.

Зірнуўшы на насценны гадзіннік, палкоўнік прадаўжаў:

— Першая гадзіна ўжо, а іх няма.—І ён нервова захадзіў па пакоі, курыў, выпускаючы густымі кольцамі дым.

— Не трэба хвалявацца, пане палкоўнік, бог дасць усё будзе добра, — заспакойваў яго капітан Юрых.—Наглоўскі — чалавек надзейны, ён нам ніколі не здрадзіць... Падумайце толькі: у яго забралі ўвесь набытак, жывёлу, зямлю; лёгка сказаць, а як вытрываць?

— Так то яно так,—пацвердзіў палкоўнік,—але... —Ён зацягнуўся папяросным дымам і закашляўся.

А тым часам у цемры ночы паўз правы бераг ракі ішла лодка, у якой ехаў Наглоўскі са сваім другам Шкурайло. Калі лодка падышла да маста і кранулася носам берага, як з-пад зямлі вынырнуў вартавы з вінтоўкай.

— Ваш пароль?

— Затвор,—пачулася з лодкі.

— Калі ласка, просім.

Прыехаўшыя адразу накіраваліся ў штаб.

— Я, пане Наглоўскі, падумаў ужо нядобрае пра вас...—сказаў палкоўнік, сустракаючы прыехаўшых.

— Добры вечар, пане палкоўнік!—раўнуў басам Наглоўскі.— І вам, панове, добры вечар!—пакланіўся ён астатнім.

— Прашу садзіцца.—Палкоўнік падсунуў крэсла. Усе зараз-жа расселіся вакол стала. На стале з'явілася карта левага берага Волгі з паметкамі размяшчэння чырвоных. Змоўшчыкі, ахутаныя заслонай тутунёвага дыму, упоўголаса вялі нараду.

— Панове! Сёння разважаць нам шмат не прыдзецца,—раўнуў Наглоўскі. Ён падцягнуў да сябе карту і, тыцкаючы пальцам у паметкі, сказаў:

— Вось лес. На ўскраі яго стаіць высокае дрэва з буславым гняздом. Мы вырашалі, што пан Шкурайло ўзлезе туды і будзе карэктыраваць стральбу нашых гармат. Неабходна паставіць на мосце сігналіста для сувязі з гняздом...

Здаволены сваёй вынаходлівасцю, ён запытальна зірнуў на прысутных.

— Пан Наглоўскі прыдумаў так разумна, што лепшага нічога нельга прапанаваць,—сказаў палкоўнік, моцна паціскаючы яму руку.— Геніяльная думка.

— Та-а-ак...—пацвердзіў капітан.

Вочы Наглоўскага ўспыхнулі аганьком. Нібы ў таракана заварушыліся вусы.

— Ваш назіральнік з маста раніцай падасць сігнал белым флагам, я буду ўпэўнены, што мяне ўбачаць,—прамовіў Шкурайло, ухмыляючыся палкоўніку.

— Будзьце спакойны, пане Шкурайло!—запэўніваў лейтэнант.— Зараз я вам дам нашы сігнальныя флагі. Чырвоны сігнал азначае патрапленне ў цэль, белы—недалёт, жоўты—пералёт, чырвоны з белым—направа, чырвоны з жоўтым—налева... Толькі будзьце асцярожны, каб вас ніхто не заўважыў.

— За яго я ручаюся, пане лейтэнант,—прабасіў Наглоўскі.— Хоць ён на від і непрыглядны, але вынаходлівы і рашучы.

Здаволены пахвалой, Шкурайло, акінуў усіх вачыма, ухмыльнуўся.

— Мы такіх людзей цэнім і наша ўзнагарода за працу будзе вялікай,—сказаў палкоўнік.

— А я, як толькі даляцяць вашы снарады да станцыі Абшараўкі, узніму там паніку,—прадаўжаў сваё Наглоўскі.—Вы, пане палкоўнік, толькі снарадаў не шкадуйце...

— Панове!—пастукаў па сталу капітан.—Час не чакае. Трэба спяшацца. Да світання мы павінны быць на сваіх месцах. Я прапаную кончыць нашу нараду.

— Так, сапраўды,—пацвердзіў Наглоўскі.—Да шчаслівай сустрэчы на тым беразе Волгі.—І яны, развітаўшыся, разышліся.

Наглоўскі са Шкурайлом зноў селі ў лодку. Цяпер яны ішлі ўверх па цячэнню, з усяе сілы налягаючы на вёслы, каб выканаць свой план да світання.

Яны вылезлі з лодкі на тым беразе і схаваліся ў кустах, потым разышліся—кожны па сваёй справе. Яны былі поўны надзей на поспех. На ўзлеску Шкурайло пачуў размову разводзячага вартавых. Ён прынік да куста і вёрткай гадзюкай папоўз па мокрай

траве. У лесе ён зноў падняўся і пайшоў да высокага дрэва. Буслоў не было. Ён узлез на дрэва і замаскіраваўся ў гняздзе.

Наглоўскі, прышоўшы дадому, збрыў бараду, астрыг вусы, дастаў з кладовай вопратку чырвонагвардзейца, пераапрануўся, насунуў на галаву палатняны шлём і прылёг на канапу, пачакаць раніцы.

Як толькі пачало брацца на дзень, у лесе заварушылася чырвоная пяхота, яна групавалася ў адну грозную баявую калону. Каля батарэі палявых гармат заклапочана ўвіхаліся артылерысты, ля палатак ляжалі нарыхтаваныя скрынкі са снарадамі, на лафетах—конская вупраж.

У густым галлі на ўскраі леса сядзелі са сваімі прыладамі сувязісты Разонны, прысадзісты, пажылы салдат і Бягунцоў—высокі, з хударлявым тварам, малады партызан.

Праверыўшы сувязь, Разонны паклаў трубку. Пачулася страляніна з вінтовак, потым з правага берагу грымнуў гарматны выстрал. Уздрыганулася зямля. Далёка па крутых берагах Волгі пракацілася рэха. Спалоханая чарада птушак з крыкам узляцела над лесам і закружылася ў паветры.

— Пачалося...—прамовіў Разонны.

Пасля некалькіх адзіночных выстралаў раздаўся залп батарэі, за ім другі, трэці. Ад выбухаў снарадаў ляцелі ўгору зямля, ламачча і трэскі, мяшаючыся з шэрым парахавым дымам.

Часці чырвоных вымушаны былі пакінуць свае пазіцыі. Яны не маглі пусціць у ход артылерыю, бо ад яе снарадаў пацярпела-б мірнае насельніцтва правага ўзбярэжжа. У лесе засталіся толькі заградзжальныя атрады ды сувязісты Разонны і Бягунцоў, але і яны пачалі зматваць провад. Падышоўшы да дрэва з буславым гняздом, Бягунцоў заўважыў, як на катушку ўпала зверху сухая галінка. Зірнуўшы ўгару, ён убачыў, як з гнязда мільганула нейкая чырвоная істужка. Бягунцоў штурхнуў пад бок Разоннага:

— Сеня! Ці бываюць буслы з чырвонымі хвастамі?

Разонны пакрыўдзіўся.

— Табе, мусіць, прысніліся чырвонахвостыя буслы.

— А чаму толькі што мільгануў чырвоны хвост там, у гняздзе,— і ён паказаў рукой на дрэва.

Разонны прыгледзеўся і шапнуў Бягунцову.

— Не буслы гэта, а шпіён залез і сігналізуе сваім. Хутчэй у штаб.

Яны дапаўзлі да тоўстага старога дрэва і выклікалі штаб.

— Ало, ало! Слухайце...—засопшыся перадаваў Разонны.

Камандарм Мінезін адразу-ж загадаў камбату Сізаву—збіць гняздо. Сізаў перадаў загад наводчыку Правораву. Той акінуў хуткім позіркам адлегласць і навёў гармату.

— Малайчына!—крыкнуў Сізаў.—Паляцела! На шматкі разляцелася, а шпіён павіс на суку.

Пасля знішчэння гнязда вораг не мог ужо назіраць за сваім агнём і адразу спыніў страляніну. Ён выслаў бронепоезд і той адкрыў агонь па станцыі Абшараўка, калеі якой былі запоўнены ваеннымі паяздамі.

Гэты нечаканы напад выклікаў на станцыі вялікае замяшанне. Служачыя, пакінуўшы пасты, кінуліся хавацца. Замітусіліся чырвонагвардзейцы. Разгублена бегаў па станцыі дзяжурны, а за ім па пятах тэлеграфіст.

— Матрохін, Матрохін, што гэта дзеецца?

Станцыйны вартаўнік ударыў у звон трывогу.

Камандарм Мінезін ускочыў на каня, каб спыніць адступаючых байцоў. Яго з'яўленне прымусіла людзей апамятацца. Аб'ехаўшы часці, камандарм павярнуў назад—на станцыю. Каля станцыі ён заўважыў чалавека ў вайсковай форме, які корпаўся ля ўваходнай стрэлкі.

Камандарму гэта здалося падазроным.

— Ты што тут робіш?

— Ды вось нейкі чорт разабраў стрэлку,—не ўзнімаючы галавы, адказаў той.

— Ты хіба чырвонаармеец?—і, выняўшы нагу са стрэмя, рашыў праверыць чалавека. Але як толькі памкнуўся злезці з сядла, салдат выхапіў з кішэні рэвальвер. Стрэлачнік, які хаваўся за штабелем шпал, пачуўшы размову, выглянуў са свайго сховішча і, убачыўшы незнаёмага, што кінуўся на камандарма, хутка падбег ззаду бандыта і гаечным ключом стукнуў яго па галаве.

— Малайчына, вельмі дарэчы,—сказаў камандарм. І абодвы нагнуліся над забітым.

— Ды гэта-ж памешчык Наглоўскі!—ускрыкнуў стрэлачнік.— Вось гадзіна, у каго пераапрануўся. Вунь яго маёнтак!—паказаў стрэлачнік рукой на сядзібу, якую добра можна было бачыць адсюль.

— Ну, браток, дзякую!—камандарм ускочыў у сядло і паскакаў на станцыю. Не даязджаючы станцыйнага будынку, камандарм напаткаў начальніка штаба.

— Што чуваць з фронта?—спытаўся ён.

— Сувязь перадае, што непрыяцельскі бронепоезд пачаў наступленне.

— Няхай наступаюць. Падрыхтуем добрую сустрэчу.

На калеях станцыі стаяў поезд, які прыбыў з Самары. Машыніст Катлоў усю імперыялістычную вайну ездзіў у прыфрантавой паласе з рознымі вайсковымі паяздамі і ў якіх толькі перапалках ён ні быў. Убачыўшы такую завaруху, ён злез з паравоза і пайшоў даведацца на станцыю. У гэтую хвіліну раздаўся выбух снарада, аскалепкам якога моцна параніла камандарма ў руку. Катлоў падбег да параненага, каб дапамагчы.

— Пакуль выклічуць урача, я зраблю вам, таварыш, перавязку, добра што бінт у мяне якраз у кішэні.

— А вы хто будзеце?

— Я машыніст,—паказаўшы на паравоз, адказаў Катлоў.

— Перавязка—гэта поўбяды, а вось ворага трэба разбіць, знішчыць усіх да аднаго.

У гэты час падбег адзін з сувязістаў:

— Таварыш камандарм, непрыяцельскі бронепоезд падыходзіць да станцыі.

— Непрыяцельскі бронепоезд?—міжвольна перапытаў машыніст.

— Таварыш камандарм, дазвольце мне затрымаць яго, а ўдасца— і разбіць.

— Як?—здзівіўся камандарм.—Вы адзін хочаце затрымаць?

Катлоў каратка расказаў свой план.

— Ну, дзейнічайце. Скажыце начальніку станцыі, што я дазваляю...

Паравоз Катлова стаяў нагатове. Машыніст вывеў яго на галоўную калею, даў поўны ход, а сам выскачыў з паравознай будкі. Толькі віхор пылу закруціўся ззаду паравоза.

Усе прыціхлі і напружана ўслухоўваліся ў далёкі перастук колаў, які станавіўся ўсё слабей і слабей і нарэшце зусім змоўк.

— Паравоз ужо ў лесе,—паціху сказаў нехта. І тут магутны выбух трасянуў паветра. Над лесам узвіліся густыя клубы пары, потым глуха загулі частыя выбухі.

— Рвуцца снарады ў разбітым бронепоездзе.

Усхваляваны камандарм падышоў да Катлова, парыўна паціснуў яму руку.

— Ну, дзякую, таварыш, за рабочую дапамогу. Няхай ведаюць ворагі, што перамагчы нашага брата ў іх рукі кароткія. Ну, за справу!

Часці чырвоных перайшлі ў наступленне.

г. Магілёў.

*Б. Сасноўскі*

## БРЫГАДЗІР

Дзень снуе над полем залатыя кросны
Ноч, як дым растала—ружавее шыр.
Раніцой ліпнёвай, раніцою роснай
Аглядаць палеткі вышаў брыгадзір.

У прасторы вышаў. Між далін шагае
Гаспадар руплівы—хлопец маладызы.
Лёгкакрылы, цёплы вецер патыхае,
І звіняць ад песень неба і сады.

А вакол, як глянуць,—шырыня, раздолле
Разліліся ў далеч ячмяні, жыты.
Цяжкае калоссе хіліцца далолу,
Ўраджай гамоніць рослы, залаты.

Там, за гаем-гаем, дзе уецца рэчка,
Стужкай серабрыстай праз палі, лясы,—
Лён густы жаўцее і квітнее грэчка,
Паспяваюць зернем стройныя аўсы.

Брыгадзір быў рады і такі шчаслівы
За людзей, за працу, за сваё сяло.
Ён праходзіў далей. Шалясцелі нівы
І насустрач сонца яснае плыло.

*Б. Гузарэвіч*

# ПАМЫЛКА

Вадэвіль у адной дзеі

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

| | |
|---|---|
| ВАСЮЦІНА | АКУШЭРКА |
| СКРЫПКІН | ГАЛОЎУРАЧ |
| СТУПІН | ПУШКАРОЎ |
| СТУПНІН | СОНЦАЎ |

Дзея адбываецца ў чакальні радзільнага дому. Сцэна ўяўляе сабой багата абсталяваны пакой, пасярод якога стаіць стол. На стале раскладзены журналы, кнігі, газеты. Бюст Сталіна з дзяўчынкай на руках. На сценах карціны. Шмат кветак. Каля дзвярэй, што вядуць у палаты, вісіць тэлефон.

У чакальні **Васюціна**, **Скрыпкін** і **Ступін**.

**Васюціна** (*да ўсіх*). Дачушка мая раджае. Першыя роды. Яшчэ сама дзіця, а ўжо раджае. (*З усмешкай*). Маладыя цяпер не жывуць, а бягуць. І куды спяшаюцца.

**Ступін**. А чаго, бабуня, глядзець? Лепш раджаць маладой, чым калі зубы выпадуць.

**Скрыпкін**. Правільна. Вось я са старою. Задумалі мы на старасці дзіцянё прыдбаць. Цяпер вось старая расплачваецца. Пятыя суткі раджае. (*Уздыхнуўшы*). Чым яшчэ роды скончацца,—невядома.

**Ступін**. Дазвольце даведацца—па якой такой прычыне ў вашым жыцці непарадак гэты выйшаў?

**Скрыпкін**. Па глупству, вядома. То кватэры харошай не было, а то так розныя акалічнасці. За акалічнасцямі і не заўважылі, як па сорак гадкоў стукнула.

**Ступін**. Так за акалічнасцямі і ўсё жыццё мінае. А яно, жыццё гэтае, мінае хутка.

**Васюціна.** Ох, дзетачкі, хутка. Праляціць жыццё і не заўважыш яго. Гэтая, што раджае, самая малодшая. Здаецца нядаўна ў школу хадзіла, а глядзі—ужо раджае.

**Ступін.** Унучка чакаеце?

**Васюціна.** А што будзе. Што будзе, то і добра. Яно, вядома, хацелася-б унучку. Першая дочка для маткі, што смычок для

скрыпкі. А тым часам і ад унучка не адмоўлюся. Унукі ў мяне ўсе харошыя, удалыя.

(Імкліва ўваходзіць **Ступнін**. Ён абвешаны кулькамі, каробкамі. У руках трымае велізарны букет кветак. Пакупкі кідае на стол, здымае шапку, выцірае з ілба пот і пераводзіць дыханне).

**Ступнін** (*заліваючыся шчаслівым смехам*). Ха-ха-ха! А ў мяне дзяўчынка. Тры разбойнікі ёсць, а цяпер вось дзяўчынка! (*Шырока ўсміхаецца і стукае сябе рукамі па бёдрах*).

**Скрыпкін**. Да трох хлопчыкаў дзяўчынка нібы гайка да вінта.

**Ступнін** (*шчасліва смяецца*). Ха-ха-ха! Не помню, як тут апынуўся. Усю раніцу па магазінах круціўся, два разы траха пад аўтамабіль не трапіў. Дзяўчынка! Гэтакае дзіва прыроды! Дзяўчынка, ах ты, індык копчаны. Вы толькі падумайце—дзяўчынка! Жывая дзяўчынка! І ў мяне ёсць гэтакае дзіва. (*Падыходзіць да дзвярэй і націскае кнопку званка*). Дзяўчынка! Ах ты, індык копчаны!

(Дзверы адчыняюцца і ў чакальню ўваходзіць **акушэрка**.)

**Акушэрка**. Хто званіў?

**Ступнін**. Даруйце, я патурбаваў. Вось жонцы перадача.

**Акушэрка**. Перадачы прымаюцца з чатырох да сямі гадзін.

**Ступнін**. Ах ты, індык копчаны!

**Акушэрка** (*здзіўлена*). Што?

**Ступнін**. Гэта я не на вас. Гэта ў мяне пагаворка такая. Мілая, цудоўная жанчына, мне чакаць ніяк немагчыма. Мне жонка нарадзіла дзяўчынку, а я буду чакаць.

**Акушэрка**. У нас правілы аднолькавы, як для хлопчыкаў, так і для дзяўчынак.

**Ступнін**. Што за парадак—не разумею. Родная вы мая, харошая, скажыце, павінен я ўвагу да жонкі праявіць ці не. Яна мне дзяўчынку, а я ёй што? Што я—пень ці слуп тэлеграфны? Вазьміце перадачу, абрадуйце жонку.

**Акушэрка**. Перадам у чатыры гадзіны.

**Ступнін**. Ах ты, індык копчаны! Можа жонка цяпер ляжыць і думае: я вось нагаравалася, дзяўчынку нарадзіла, а муж, гэта значыцца—я, і не думае пра мяне. Скажыце, мілая, будзе крыўдна жонцы ці не?

**Акушэрка** (*нерашуча*). У нас, ведаеце, парадкі строгія, ледзь што...

**Ступнін**. Парадкі людзьмі і для людзей робяцца. Па выпадку дзяўчынкі, парадкі можна перамяніць. Вы толькі падумайце, у мяне дома тры хлапчукі, тры разбойнікі. Паверыце, іншы раз страшна ў дом зайсці. І раптам—гэтакае кволае стварэнне. І ў вас дзяўчынка будзе.

**Акушэрка** (*усміхаючыся*). Я хлопчыка хачу.

**Ступнін** (*рашуча*). Дарэмна. Чэснае слова, дарэмна. Вы не ведаеце, што гэта за народ—хлапчукі.

**Акушэрка** (*дабрадушна*). Давайце вашу перадачу. Вазьму грэх на душу, а то вы мяне яшчэ на дзяўчынку з'агітуеце.

**Ступнін** (*шчаслiва*). Вельмі вам удзячны. Перш на перш— кветкі. (*Да ўсіх*). Дванцаць пяць рублёў заплаціў! Па такому выпадку не шкада. Ах ты, індык копчаны, якая справа выйшла! (*Усміхаецца*).

**Акушэрка**. Давайце, давайце хутчэй.

**Ступнін**. Гэта—шакалад малочны, гэта—апельсіны, вельмі дактары раілі, а гэта—віно.

**Акушэрка**. Віна не трэба. Калі вашай жонцы спатрэбіцца віно— мы ёй дадзім. У нас віно для хворых ёсць.

**Ступнін**. Сваё віно другім давайце, а жонка няхай маім карыстаецца.

**Акушэрка** (*здзіўлена паказвае на ќулькі*). Гэта ўсё перадача?

**Ступнін**. Перадача. Гэта—цукеркі. Мішкі маскоўскія. Гэта— духі. Вы панюхайце, як пахнуць!

**Акушэрка**. Няўжо вы думаеце, што ваша жонка з усім гэтым управіцца?

**Ступнін**. Калі сама не з'есць, няхай суседак пачастуе, гэта нават мне прыемна будзе.

**Акушэрка**. Не данясу. (*Збіраецца выйсці, Ступнін яе затрымлівае*).

**Ступнін**. Родная вы мая, як бы мне на дачушку зірнуць. Хоць-бы адным вокам, хоць-бы праз шчылінку. Паміраю, так зірнуць хочацца.

**Акушэрка** (*рашуча*). Нельга.

**Ступнін**. Адным вокам.

**Акушэрка**. Не можна.

**Ступнін**. Праз шчылінку, мне-б толькі на аблічча зірнуць. Эх ты, індык копчаны! Я можа яе дзесяць год чакаў.

**Усе** (*да акушэркі*). Пакажыце яму гэтае дзіва прыроды.

**Акушэрка**. Што з вамі зробіш. Грашыць, дык грашыць. Толькі ўмова—глядзець адным вокам і праз шчылінку. (*Выходзіць*).

**Ступнін** (*да ўсіх*). Ад нецярпення ўвесь дрыжу. Адвёз учора жонку ў радзільню і з таго часу вокам не звёў. Што, думаю, калі зноў хлопчык? Тры разбойнікі ў мяне ўжо ёсць. Адзін—музыкант. Ад гармоніка, гітары, труб нікуды не схаваешся. Другі—дрэсіроўшчык і ўсмірыцель. Хоча Дуравым быць. Повен дом звярыны. Там на труса наступіш, там на вожыка павалішся, каты ва ўсіх кутках яўкаюць, а пра сабак і казаць няма чаго, усіх масцей ёсць. Трэці—хімік. Таго і глядзі, што альбо дом падпаліць, альбо газамі задушыць. Бяда! А тут—дзяўчынка! Гэтакая ружовая плямачка ў доме будзе. Учора званю ў радзільню і пытаюся: што чуваць, а ў самога душа ў пятках.—Дзяўчынка, адказваюць. Як пачуў, казлом заскакаў і крычу ў трубку: дзякуй, доктар, дзякуй, душэўны чалавек! А як, пытаюся, ці ўсё ў яе ў парадку, як вочкі? Ці на месцы хаця носік? Як, пытаюся, супруга дарагая сябе адчувае? — Добра, адказваюць. Ах ты, індык копчаны! (*Акушэрка прыадчыняе дзверы*).

**Акушэрка** (*Ступніну*). Прасуньце галаву, заплюшчыце адно вока і глядзіце на сваё дзіва.

**Ступнін** (*прасоўваючы галаву*). Ах ты, індык копчаны! Носік мой, чэснае слова, мой. А якія вочкі! Усміхаецца, чэснае слова ўсміхаецца,—бацьку пазнала. (*Чуецца „уга, уга, уга“*). Які голас! Спявачкай будзе.

**Голас акушэркі.** Хопіць, налюбаваліся.

**Ступнін** (*звяртаецца да ўсіх*). За такі, значыцца, выпадак у гонар паяўлення на зямным шары новай дзяўчынкі даю звыш плана 300 працантаў! А носік мой, чэснае слова мой! Ах ты, індык копчаны. Бывайце, пабягу па торт для жонкі. (*Выбягае*).

**Скрыпкін.** Здзяцінеў чалавек ад радасці.

**Васюціна.** Ад такой радасці здзяцінееш. Што можа быць у жыцці шчаслівей, чым дзеткі.

**Скрыпкін** (*глядзіць на гадзіннік*). Нешта галоўурач позніцца. (*Звоніць. Уваходзіць акушэрка*).

**Акушэрка.** Хто званіў?

**Скрыпкін.** Галоўурач да наведвальнікаў хутка выйдзе?

**Акушэрка.** Хутка. Ён затрымаўся ў палатах. (*Адчыняюцца дзверы і ўваходзіць галоўурач*). Вось і галоўурач.

**Галоўурач.** Добры дзень. (*Садзіцца за стол і раскладвае папкі з гісторыямі хвароб*). Якія будуць да мяне пытанні?

**Васюціна.** Як мая дачушка маецца? Ці радзіла?

**Галоўурач.** Як прозвішча?

**Васюціна.** Быстрова, Ольга.

**Галоўурач.** Віншую вас з унукам.

**Васюціна.** Хацелася-б унучку, але і ад унука не адмоўлюся. Для сэрца бабулі і ўнукі і ўнучкі аднолькава дарагія. Толькі-б пабольш іх было. Як сябе адчувае мая дачушка?

**Галоўурач.** Адчувае сябе добра. Ужо забылася пра роды.

**Васюціна.** Унучак, дык унучак, праз гадок і ўнучка будзе. (*Добрадушна*). Яны ў мяне старанныя. (*Збіраецца ісці*).

**Галоўурач.** Пачакайце, дачка піша вам пісьмо.

**Скрыпкін** (*з хваляваннем*). Скрыпкіна яшчэ не радзіла?

**Галоўурач.** Яшчэ не. Падрыхтуйцеся да ўсяго. Магчыма давядзецца рабіць аперацыю. Пачакаем да вечара. Калі не родзіць, то... аперацыя немінуча.

**Скрыпкін.** Так, так, так...

**Галоўурач.** Усё можа быць.

**Скрыпкін** (*умольна*). Доктар! Зрабіце ўсё, што можна, калі трэба—мяне рэжце, але дзіця павінна быць жывым.

**Галоўурач.** Не ўпадайце ў роспач. Пачакаем да вечара, можа яшчэ сама родзіць.

**Ступін** (*галоўурачу*). Дазвольце ў вас спытацца.

**Галоўурач.** Калі ласка, калі ласка.

**Ступін.** Ступіна радзіла?

**Галоўурач.** Ступіна? Радзіла, радзіла. Віншую вас з трайнёй.

**Ступін** (*жахліва*). Трайнёй?! Вы, доктар, жартуеце? У мяне і без трайні пяцёра. (*Жаласліва*). Скажыце, доктар, што вы пажартавалі.

**Галоўурач.** Такімі навінамі не жартуюць.

**Ступін** (*хапаючыся за галаву*). Што-ж мне цяпер рабіць?! Як быць?!

**Галоўурач**. Супакойцеся. Цудоўныя дзеці.

**Ступін** (*не слухаючы*). Трайня! Якое няшчасце! (*Бегае па пакоі*).

**Галоўурач**. Пачакайце...

**Ступін**. Што я буду з імі рабіць? Куды іх дзену? Да столі падвешу? Іншага месца ў маёй кватэры няма.

**Галоўурач**. Дайце слова сказаць.

**Ступін**. Не дам! Не мучайце мяне! (*Бегае па пакоі*). Ад аднаго крыку не абярэшся. Прапаў! Зарэзала жонка.

**Галоўурач**. Чым-жа вінавата ваша жонка.

**Ступін**. А хто трайню нарадзіў? Я хіба? Другая жанчына разумее кватэрныя ўмовы і іншыя абставіны, а яна—трайню! Падумала-б навошта нам тая трайня?

**Галоўурач**. Паслухайце.

**Ступін**. І слухаць нічога не хачу. Трайня! Не радзіўся-б я на свет. Прапаў!

**Скрыпкін**. Гэта ўжо сапраўды... Небарака.

**Васюціна**. А чаго небарака? Ад прыбытку галава не баліць.

**Ступін**. У вачах чорцікі скачуць!

**Галоўурач**. У вас дрэнная кватэра?

**Ступін**. Якая там кватэра! Каюта.

**Галоўурач**. Не хвалюйцеся. Хіба няма выхаду?

**Ступін**. Які ўжо тут выхад. Зарэзала жонка, без нажа зарэзала. Ой, мне млосна!

**Галоўурач**. Я пазваню старшыні горсовета (*Падыходзіць да тэлефона і звоніць*). Таварыш Агнёў? Гаворыць галоўурач ЦРД. Побач са мной стаіць найшчасліўшы бацька. Яму жонка падарыла трайню. Так, так. Цудоўныя дзеці. Справа ў тым, што ў яго адзін пакой. Так, так. Добра. (*Ступіну*). У вас дома хлопчыкі ці дзяўчынкі?

**Ступін**. Пяць дзяўчынак.

**Галоўурач** (*усміхаючыся*). Значыцца да пяці дзяўчынак прыбавілася тры хлопчыкі. Гэта-ж надзвычайна, проста цудоўна!

**Ступін** (*радасна*). Хлопчыкі?

**Галоўурач**. Хлопчыкі!

**Ступін** (*чухае патыліцу*). Яно хоць і хлопчыкі, ды ўжо-ж я занадта многасямейны.

**Васюціна**. Ты чаго патыліцу скрабеш? Табе не нос вешаць, а радавацца трэба. Гэтакую кучу грошай атрымаеш. Тры тысячы!

**Ступін** (*радасна*). Гэта-ж сапраўды тры тысячы атрымаю! Як гэта я забыўся?

**Галоўурач**. Вы дзе працуеце?

**Ступін**. На заводзе „Ударнік".

**Галоўурач** (*ідзе да тэлефона і звоніць*). Гэта заўком завода „Ударнік"? Гаворыць галоўурач ЦРД. Жонка вашага рабочага нарадзіла трайню. Так, так. Я не жартую. Вы разумееце, што такая радасная падзея не можа прайсці міма вас. Возьмеце шэфства? Я ў гэтым не сумняваўся. Што? Выяздаеце? Чакаем. (*Ступіну*).

Завод бярэ шэфства над трайнёй. Вы разумееце, што азначае такое шэфства?

**Ступін** (*радасна*). Разумею.

**Галоўурач**. То-та-ж.

**Скрыпкін**. Ён цяпер будзе прасіць жонку, каб яна трайню кожны год нараджала.

**Ступін** (*галоўурачу*). Дык, гаворыце, хлопчыкі?

**Васюціна**. Цяпер і кватэра будзе харошая і процьму грошай атрымаеш і ад усіх гонар і павага. Ты толькі бяры кватэру ў цэнтры і каб з паравым ацяпленнем і ваннай.

**Скрыпкін**. І на другім паверсе. Лепш за ўсё на другім паверсе жыць. Таксама наконт трамвайнай астаноўкі прыкінь.

**Ступін** (*бадзёра*). Ды я што. Я, вядома, не супраць і наогул не ведаў, што хлопчыкі. Доктар, дазвольце пацiснуць вашу руку.

**Галоўурач**. З прыемнасцю. (*Ціснуць адзін другому рукі*).

**Ступін** (*галоўурачу*). Як сябе жонка адчувае? Нагаравалася, відаць, бедная.

**Галоўурач**. Гэтае гора хутка забываецца. (*Чуецца аўтамабільны гудок, уваходзіць Пушкароў з велізарным букетам кветак*).

**Пушкароў**. Добры дзень. Хто шчаслівы бацька?

**Галоўурач** (*паказваючы на Ступіна*). Вось ён.

**Пушкароў** (*Ступіну*). Таварыш Агнёў прасіў прабачэння, што сам не змог прыехаць і прасіў перадаць разам са сваім прабачэннем гэты букет вашай жонцы ад імя Горсовета. А гэта (*падае ключ*) вам абодвым падарунак. Кватэра з чатырох пакояў.

**Скрыпкін**. З чатырох пакояў! Шанцуе-ж людзям.

**Ступін** (*беручы ключ*). Дзякуй.

**Скрыпкін** (*лятуценна*). Можа і ў маёй жонкі трайня, што так доўга...

**Ступін** (*пагардліва*). Дзе ўжо табе са свіным лычам ды абаранкі есці. (*Уваходзіць Сонцаў з букетам кветак*).

**Сонцаў** (*Ступіну*). Дазволь, Паўлуша, павіншаваць цябе ад імя завода і свайго. На лятучым паседжанні заўкома парашылі выдаць табе дапамогу ў размеры 500 рублёў і ўзяць шэфства над тваёй трайнёй.

**Ступін** (*радасна*). Дзякуй. (*Да галоўурача*). Дазвольце напісаць запіску жонцы. Няхай ведае, якая да нас увага рабочага класа і медыцыны.

**Галоўурач**. Дазваляю, пішыце.

**Ступін** (*піша і чытае ўслых*). Дарагая і, можна сказаць, ненаглядная жонка, Саша. Ад таго, што мы з табой нарадзілі трайню— не сумуй. Яшчэ табе магу паведаміць, што па такому радаснаму выпадку мы атрымалі кватэру з чатырох пакояў. Ключык ад новай кватэры тым часам у мяне ў кішэні. Завод нам выдаў прэмію— 500 рублёў. Кветкі табе ад Горсовета і заўкома. Твой муж Павел, які любіць цябе не менш, а яшчэ больш. (*Складае пісьмо, піша прозвішча і аддае галоўурачу. Галоўурач бярэ пісьмо і механічна глядзіць на прозвішча*).

**Галоўурач** (*сумеўшыся, Ступіну*). Як ваша прозвішча?

**Ступін**. Ступін.

**Галоўурач**. Ступін ці Ступнін?
**Ступін**. Ступін.
**Галоўурач**. Імя жонкі?
**Ступін**. Александра.
**Галоўурач** (*усхвалявана праглядае гісторыю хваробы*). Александра?
**Ступін** (*здзіўлена*). Міхайлаўна.
**Галоўурач**. Даруйце, галубок, здарылася прыкрая памылка. Трайню нарадзіла Ступніна Лідзія Пятроўна.
**Ступін** (*разгублена*). А мая жонка колькі-ж нарадзіла?
**Галоўурач** (*глядзіць у гісторыю хваробы*). Ваша жонка нарадзіла дзяўчынку дзесяці фунтаў.
**Ступін** (*жахліва*). Шостая дзяўчынка!

(Расчыняюцца дзверы і ўбягае **Ступнін** з велізарным тортам).

**Ступнін** (*шырока ўсміхаючыся*). Вось, індык копчаны, і я. Самы вялізны торт, большага не знойдзеце. (*Галоўурачу*). Дазвольце перадаць жонцы?
**Галоўурач**. Як прозвішча?
**Ступнін**. Ступніна, Лідзія Пятроўна.
**Галоўурач** (*Пушкарову*). Вось шчаслівы бацька.
**Ступнін** (*усміхаючыся*). Самы шчаслівы ў свеце.
**Галоўурач** (*паціскаючы руку Ступніну*). Віншую вас, надзвычайная трайня!
**Ступнін** (*здзіўлена*). Якая трайня!
**Ступін** (*жаласліва*). Доктар, вы добра паглядзіце, можа вы памыляецеся. Можа трайня—мая.
**Галоўурач**. Не, не памыляюся. (*Ступніну*). Ваша жонка падарыла вам трайню, трох цудоўных хлопчыкаў.
**Ступнін** (*падаючы на крэсла*). Трох разбойнікаў! Прапаў! Цяпер усю кватэру разнясуць. Вось дык індык копчаны! (*Хусцінкай выцірае твар і ўсміхаецца*). Гэтыя, мусіць, будуць лётчыкамі.

*ЗАСЛОНА*

**Менск.**

*М. Дзядзюля*

# СЫН

Расцвітала ў лесе стройная каліна,
Расцвітала ярка ў маладым гаі.
Маладая маці гадавала сына,
Цешылася сынам дарагім сваім.

— Пагляддзі, сыночак, узыходзіць сонца,
Пагляддзі, любімы, расцвітае край.
У савецкай слаўнай, сонечнай старонцы
Дужым і здаровым, сынку, вырастай.

Падрасцеш і пойдзеш маладым у людзі,
І шчаслівы будзеш працаваць і жыць,
Чэсна і аддана, мой сыночак, будзеш
Вольнаму народу нашаму служыць.

Да грудзей туліла свайго сына маці,
І гарэў у сэрцы радасці агонь,
Пагляддала ў вочы роднаму дзіцяці,
Цалавала сына слаўнага свайго.

У зялёным лесе расцвіла каліна,
Расцвіла каліна ў маладым гаі.
Узрасціла маці дарагога сына,
Цешыцца сыночкам дарагім сваім.

Малады і дужы, стройны і высокі,
Гаспадар багатай сонечнай зямлі,
Горда ў паднябессі, лёгкакрылы сокал,
Водзіць баявыя птушкі-караблі.

Пракладае ў небе новыя пуціны
Праз снягі, туманы, к поўначы глухой,
Сцеражэ граніцы нашае краіны,
Сцеражэ народаў працу і спакой.

Кідае арліны пагляд з паднябесся
На палеткі нашы, рэкі і лясы.
Ганарыцца маці і спявае песні,—
У яе бясстрашны і прыгожы сын.

*А. Марцінові‍ч*

## ЖНІВО

Даспеў авёс,
Да долу хіліцца цяжкімі каласамі.
Цвіце трава агнямі срэбных рос,
Ідуць у поле жнеі раніцай з сярпамі.

А там які прастор!
Хвалююцца жыты, як акіян бясконцы.
І сэрцы поўніць юнасці задор,
І песня ўзлётная пра радасць кажа сонцу,

Пра радасць у жыцці,
Пра шыр бязмежную, бяскрайняе раздолле...
Жняярка крыллямі махае, і ляціць
Вялікай, казачнаю птушкай полем.

Іскрыстыя сярпы
Між збажыны праворна так мільгаюць,
І нараджаюцца багатыя снапы.
На пожні хутка копны узрастаюць.

Вялікі ураджай!
Яго мы цёплымі абдымкамі страчаем,
Яго чакае наш савецкі край,
І Сталін-правадыр з Крэмля яго вітае.

*Г. Няхай*

## ПАСЛЯ ДАЖЫНАК

Тонкі пах разліт кары смалістай.
Ля пажоўклых вішань дрэмле клён.
І дзяўчаты клічуць гарманіста,
Каб сыграў юнацкіх песен ён.

Час прайшоў дажынкавы, гарачы,
Цішынёю вее ад палёў.
Па балотах б'юць крыламі качкі,
І ключы ўзлятаюць жураўлёў.

Па садах гуляе цёплы вецер,
Нашы песні з ветрам, як сябры,
Паплылі за птушкамі па свеце
Да барвовай сонечнай зары.

За сялом пра ураджай багаты
Пад гармонь калгасніцы пяюць.
Пралятае самалёт над хатай.
Жоўты ліст лажыцца на зямлю.

Жнівень 1938 г.

*Янка Казека*

# МАЛАДОЕ ПАКАЛЕННЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Апошнія гады ў жыцці беларускай савецкай літаратуры прайшлі пад знакам яе росквіту, ідэйна-палітычнага росту і мастацкай удасканаленасці, ачышчэння ад варожага нацыянал-фашысцкага зброду. Адна знамянальная рыса асабліва вызначае і характарызуе гэты росквіт: з гушчаў народа растуць і выхоўваюцца новыя кадры паэтаў і пісьменнікаў, мастакоў слова.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя вызваліла беларускі народ ад жудаснага нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту, вызваліла ўсе яго фізічныя і інтэлектуальныя сілы і здольнасці, выклікала да жыцця і творчасці незлічоныя народныя таленты, лёс якіх да рэвалюцыі быў жахлівым, пакутлівым. Наша радзіма клапатліва збірае, беражэ і росціць кожнае дараванне і талент у народзе. У краіне хутка і плённа развіваецца народная творчасць, мастацтва, літаратура. За апошнія тры-чатыры гады ў літаратуры выявіліся дзесяткі маладых даравітых аўтароў, якія многа і ўдумліва вучацца на лепшых творах класічнай і савецкай літаратуры, паспяхова авалодваюць паэтычным майстэрствам, абяцаючы стаць у будучым добрымі паэтамі і пісьменнікамі. Сярод іх асабліва вылучаюцца Уладзімір Кандраценя, Алесь Жаўрук, Пімен Панчанка, М. Дзехцяр, Усевалад Краўчанка, Іван Грамовіч, Міхась Калачынскі, Рыгор Няхай, Алесь Бачыла і інш. Іх узгадавала і выхавала радзіма. Творы іх усё часцей і часцей з'яўляюцца ў друку. Маладыя паэты і пісьменнікі пішуць на самыя рознастайныя тэмы нашага сёнешняга жыцця. Радасцю і свежасцю прасякнуты іх творы пра калгасную працу і заможнасць, пра нашу радзіму і Чырвоную Армію, пра мужнасць і магутнасць савецкага народа, пра шчаслівую вясёлую моладзь. Поўныя глыбокай любві і натхнення, пішуць яны пра Вялікага Сталіна.

Расце маладая літаратура Беларусі.

## I

Увосень 1935 года на старонках перыядычных літаратурных выданняў упершыню з'явілася імя маладога празаіка Уладзіміра Кандраценi. Ён надрукаваў свой першы твор „Днямі асеннімі"— невялікі мастацкі эскіз. Напісаны сырой і цяжкай мовай з няэграбна пабудаваным сюжэтам, эскіз застаўся незаўважаным чытачом.

Уладзімір Кандрацеця зразумеў, што трэба дабівацца прастаты і яснасці кожнага слова ў творы, бо толькі простае слова можа перадаць паўней і выразней глыбіню ўражання, думкі, пачуцця аўтара. Прастаце і яснасці апавядання пра жыццёвыя з'явы, літаратурнай тэхніцы Кандрацеця вучыцца ў вялікага рускага пісьменніка Льва Талстога. Ужо ў апавяданнях „Крык гневу“ і „Фінал“, напісаных неўзабаве за эскізам „Днямі асеннімі“, малады пісьменнік здолеў цікава і стройна разгарнуць узятыя тэмы. Ён строга прадумаў сюжэт, адабраў для апавяданняў найбольш яркія эпізоды, характэрныя сітуацыі.

У апавяданні „Крык гневу“ Уладзімір Кандрацеця апісвае бяспраўнае і безабароннае становішча працоўнага сялянства ў Заходняй Беларусі. Паасобныя дэталі і эпізоды ствараюць закончаную карціну страшэннай галечы ў вёсцы. У апавяданні паказаны бясчынствы, якія твораць там паны і ўлады, забіраючы сялянскае дабро, разбураючы ўшчэнт занапалую сялянскую гаспадарку. Чытач бачыць, як нарастае ў сялян абурэнне і гнеў супроць паноў.

„Фінал“—твор пра жорсткую класавую барацьбу ў нашы дні. Апавяданне чытаецца з хваляваннем. Сюжэт яго пабудаваны на цікавых эпізодах з жыцця калгаснікаў у прыгранічны і барацьбы іх са шкоднікамі і дыверсантамі. Пісьменнік драматызаваў сюжэт радам вострых напружаных калізій. Яму ўдаліся вобразы кулакоў-дыверсантаў Аркадзя і Владэка, якіх лютая нечалавечая злоба на працоўны народ за сваё страчанае панаванне прывяла з-за мяжы ў нашу краіну, каб тут шкодзіць, забіваць лепшых сыноў савецкага народа па ўказцы замежных разведак. Бледным атрымаўся ў апавяданні вобраз калгаснага брыгадзіра Адама. Твор мабілізуе пільнасць да ворагаў, вучыць ненавідзець іх, змагацца з імі.

На тэму класавай пільнасці напісана і невялікае апавяданне „Каля граніцы“, у якім Кандрацеця паказвае, як калгаснікі прыгранічнага калгаса штодзённа дапамагаюць пагранічнікам зорка ахоўваць рубяжы савецкай дзяржавы, каб ні адзін шпіён і дыверсант не перабраўся на нашу зямлю. Пачуццё глыбокага савецкага патрыятызма і радасці жыцця пранізвае твор ад пачатку да канца. З любоўю напісаны вобраз старога калгасніка дзеда Ахрэма—сумленнага, працавітага чалавека. Кандрацеця знайшоў трапныя, індувідуальныя рысачкі, каб паўней раскрыць характар дзеда Ахрэма. Дзед Ахрэм—жвавы чалавек, любіць моладзь і жарты. Калі моладзь спявае песню, то і яму маўчаць няёмка, „ён раскрывае маленькі рот і, не ведаючы слоў, напявае матыў, шавеліць тонкімі выгаленымі губамі“. Маленькі рот, смешны кірпаты нос і іншыя дэталі вонкавага партрэта дзеда Ахрэма надзвычайна ўдала імпануюць яго характару. Пра сябе дзед кажа: „Хай сабе стары, а яшчэ такую штуку адпалю, што маладыя пазайздросціць. Тут от граніца пад бокам, рознае здараецца“. Ён любіць расказваць, як узімку злавіў буйнага шпіёна. Кандрацеця многа працуе над удасканаленнем мовы сваіх апавяданняў, дамагаючыся точнасці слова і багатай яго вобразнасці. У апавяданні „Каля граніцы“ ён здолеў індывідуалізаваць мову дзеда Ахрэма, надаўшы яго гаворцы характэрную адразняльную асаблівасць. Апавяданне дзеда пра тое, як ён злавіў

шпіёна, насычана яркімі народнымі зваротамі, пагаворкамі, накшталт „каб прымеў, дык разарваў бы на месцы“, „а цяпер гадаў гэтых ловім, каб на іх зямля“ і інш. Дзед Ахрэм некаторыя словы не можа правільна вымавіць і гэта яшчэ больш ажыўляе яго гутарку, выпукляе вобраз. (Напрыклад „Ды яшчэ ўсякія ён пры сабе лярвары носіць“).

Тэматыка апавяданняў Кандрацені рознастайная. Пісьменнік старанна вывучае жыццё і быт новай вёскі, штодзённыя інтарэсы калгаснікаў. Гэта дапамагае яму абраць для твора яркую актуальную тэму. У апавяданні „Капа сена“ на маленькіх жыццёвых прыкладах пераканаўча паказана, як выхоўваюцца новыя, соцыялістычныя адносіны да працы ў калгасе, якую радасць і асалоду прыносіць чалавеку калектыўная праца. Кандраценя любоўна апаэтызоўвае працу чалавека, як і некаторыя іншыя факты жыцця. Нездарма ў апавяданні „Каля граніцы“ ён піша: „Мы касілі сёння дальнюю сенажаць, касілі ўвесь дзень пад гарачым сонцам каля самай граніцы. Шчымліва ныюць звярэджаныя мускулы. Ва ўсім целе— стомленасць, цяжкая, як каменная глыба, і прыемная, як пякучая, ясная радасць. Весела, і на душы крылатая лёгкасць,—пэўна такія адчуванні поўняць чалавека, які зрабіў і для другіх людзей і для самога сябе нешта вельмі каштоўнае. Хто цураецца працы, таму ніколі не адчуць багатай радасці адпачынку!“

Амаль ва ўсіх апавяданнях Кандрацені ёсць шчырая лірычная цеплыня. У аповесці „Каханне“ заўважаецца імкненне пісьменніка да рытмічнай прозы.

Для аповесці „Каханне“ Кандраценя ўзяў складаную і шырокую тэму: перамаганне перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей. Тэма не новая ў нашай літаратуры, але ён распрацаваў яе пасвойму, свежа і арыгінальна. На ясным фоне адлюстравання шчаслівага заможнага жыцця ў калгасе і новых узаемаадносін моладзі пісьменнік паказаў і цёмныя плямы, пакінутыя ў спадчыну старым жыццём, як сквапнасць, цяга да ўласнасці і інш. Мы бачым, чытаючы твор, што цяга да ўласнасці ў наш час страціла сваю аснову і сілу, а людзі, у якіх умовы ранейшага жыцця выхавалі ўласніцкія імкненні і погляды, паступова перамагаюць іх, ачышчаюць сваю свядомасць ад перажыткаў капіталізма, гэтай „сажы, што асела са старога коміна“, як назваў іх аўтар.

„Каханне“—аповесць пра станаўленне новага чалавека, новага быту і маралі ў вёсцы. У аснове яе сюжэта ляжыць востры канфлікт у псіхалогіі галоўнага героя Арцёма—канфлікт між яго ўласніцкімі імкненнямі і новымі поглядамі, адносінамі да ўласнасці, народжанымі на глебе калектыўнай працы. Вастрыня канфлікта вызначыла шматлікія цікавыя, напружаныя сітуацыі ў творы. Лінія кахання і вяселля Марынкі, Арцёмавай дачкі, і Алеся яшчэ больш паглыбляе, ускладняе канфлікт у псіхалогіі Арцёма, паскараючы яго вырашэнне.

Добра, акрэслена выведзен у творы вобраз Арцёма. Арцём надзелены тыповымі рысамі селяніна. Ён жыве ў калгасе заможна, сумленна працуе, але ў яго яшчэ трымаюцца ўласніцкія погляды. Скнарасць, ашчаднасць Арцёма падкрэсліваецца такімі дэталямі: Арцём

паліць невялічкую газнічку, шкадуючы газы, ён латае старыя атопкі—чаравікі, якія варта было-б выкінуць на сметнік. Гледзячы на калгаснае дабро, ён думае: „Каб аднаму гэтулькі багацця... От жыў-бы. Ну, але ўсякаму трэба". Аднойчы ён знаходзіць партфель з грашыма, які згубіў Алесь, жаніх Марынкі. Пісьменнік перадае адчуванні, якія ахапілі ў гэту мінуту Арцёма. „Грошы! Грошы!—і збянтэжана, і ўзрадавана, і здзіўлена шэптам крыкнуў Арцём". Алесю, які папытаў, ці не бачыў ён згубленага партфеля, Арцём хацеў сказаць „аддам", а сказаў „не". Але ў свядомасці Арцёма нарадзіліся, жылі і ўсталёўваліся ўжо новыя якасці, погляды. Новая свядомасць перамагла старую. Вобраз Арцёма раскрываецца ўсебакова: і праз вонкавыя дэталі, і праз яго псіхалагічныя перажыванні.

Цёпла, любоўна напісаны вобразы Саўкі, Алеся, Марынкі. Яны не разгорнуты, хутчэй толькі вызначаны, акрэслены ў творы.

Аповесць „Каханне"—значны поспех у творчасці Кандрацені.

## 2

Задушэўнай цеплынёй, глыбокай лірычнасцю авеяны вершы маладога паэта Пімена Панчанкі.

У літаратуры Пімен Панчанка выступіў параўнаўча нядаўна, але яго вершы карыстаюцца заслужанай павагай у чытача. Яны падкупляюць шчырасцю пачуцця і хвалявання аўтара, глыбокага і чыстага. У Панчанкі сваё асабістае ўспрыняцце жыцця: непасрэднае, светлае. Яго паэзія адлюстроўвае шчаслівае жыццё нашага народа. Панчанка піша на актуальныя грамадскія тэмы і на тэмы глыбока асабістыя, суб'ектыўныя. Але радасць, маладосць жыцця з'яўляецца асноўным матывам і суб'ектыўнай лірыкі паэта, таму і гэта лірыка становіцца грамадскай.

У сваёй паэзіі Панчанка выказвае лепшыя пачуцці беларускага народа: пачуццё бязмежнай любві да радзімы, да комуністычнай партыі і вялікага Сталіна, пачуццё беззаветнай адданасці сыноў беларускага народа справе вялікага Сталіна, пачуццё гордасці за сваю слаўную бацькаўшчыну. Яго вершы прасякнуты гневам, нянавісцю да ворагаў соцыялістычнай дзяржавы.

З вершаў, напісаных на грамадскія тэмы, асабліва вылучаюцца „Радзіме", „Пяе беларускі народ", „Кіраву", „Балада пра Васілька і правадыра", „Мацеры". Паэт знайшоў яркія светлыя фарбы і паэтычныя вобразы, каб адлюстраваць веліч нашай радзімы і магутнасць савецкага народа, каб выказаць вялікія думы і пачуцці народа. Вось верш „Радзіме"—клятва маладога паэта:

> Я малым хлапчуком палюбіў твае пушчы і нівы,
> І блакітныя рэкі, і глыб серабрыстых азёр.
> Ты мяне гадавала, як маці, і рос я шчаслівым
> Пад шырокім разлівам вячэрніх і ранішніх зор.
>
> Я не веру, што ў небе мая пуцяводная зорка—
> Мне асвечвае шлях свет Крамлёўскіх рубінавых зор.
> Маё шчасце і радасць стварылі ў саюзе братэрскім
> Адзінаццаць багатых і дужых рэспублік—сясцёр.

О, радзіма! Табою напоўнена сэрца да краю,
І заўжды—ці працую, ці пільна ў дазоры стаю—
Я твой велічны вобраз у думках сваіх уяўляю
І люблю, як жыццё, я—зямлю маладую тваю.

Бо на гэтай зямлі малаком мяне маці карміла,
Тут хадзіць я вучыўся і першыя кнігі чытаў.
Што-ж мне можа быць больш за радзіму любімую міла?
Хто-ж мне будзе радней за таго, хто радзіму стварыў?

Я спакойны юнак. Можа, нават, крыху сарамлівы.
Не пакрыўджу і птушкі, бо знаю—ёй хочацца жыць.
Але тых, хто жадае напасці на край мой шчаслівы,
Я сваімі рукамі без жалю гатоў задушыць.

Верш напісан рукою ўдумлівага, сталага паэта-мастака. У ім гарманічна спалучылася глыбокая думка і светлае пачуццё аўтара. Гэта-ж светлае пачуццё радасці за магутную маці-радзіму напаўняе і верш „Пяе беларускі народ“, у якім выказана падзяка нашага народа вялікаму Сталіну за яго ўвагу і клопаты. Верш насычан багатымі ўражаннямі, канкрэтнымі фактамі.

У вершах П. Панчанкі многа рамантыкі, рэальнай, зямной. Ён апаэтызоўвае кожную жыццёвую з'яву і рэч, пра якую піша, імкнучыся перадаць яе праз свежую новую метафару, параўнальны эпітэт. Паэт шукае новых паэтычных вобразаў, каб паўней выказаць свае match розныя ўражанні, захапленне жыццём. Ён пераходзіць і да больш буйнага жанра, напісаў цікавую паэму „Сувей“, у якой малюе жыццё і барацьбу працоўнага народа ў Заходняй Беларусі.

Пімен Панчанка піша і сюжэтныя вершы. З іх асабліва ўдалым з'яўляецца верш „Яблыня“. У полі расла адзінокая яблыня. Калгаснікі перавезлі яе ў свой сад, і яблыня ўвесну пышна расцвіла. Вось і ўвесь змест верша. Але паэт аб гэтым расказаў з непадробным захапленнем і верш атрымаўся цікавым, вобразным.

Большасць вершаў Пімена Панчанкі напісаны на тэмы яго асабістых перажыванняў. Добрае ўражанне пакідаюць лірычныя вершы „Упэўненасць“, „Вішня“ і „Лірычнае“.

### 3

Усевалад Краўчанка—здольны малады пісьменнік. Ім напісана больш дзесятка апавяданняў і п'еса „Торныя дарогі“.

Апавяданні Усевалада Краўчанкі сабраны ў невялікія зборнікі „Таямніца адной вышкі“ і „На крутым павароце“, а частка іх змешчана ў перыядычных літаратурных выданнях. У зборніку „На крутым павароце“ адабраны найбольш удалыя і апрацаваныя творы пісьменніка.

Як і Уладзімір Кандраце볼ня, Краўчанка піша пра радаснае, заможнае жыццё ў калгасе, пра вясковую моладзь. Шматграннае жыццё калгаснай вёскі, новы быт і псіхалогія сялянства, рост яго культурных інтарэсаў, жыццё моладзі і дзетвары, будаванне новай сям'і і маралі—вось тэматыка апавяданняў Краўчанкі, прасякнутых любоўю да радзімы. З усіх твораў Усевалада Краўчанкі асабліва

вылучаецца апавяданне „На крутым навароце“, у якім апісваецца канец вандроўнага жыцця цыганоў, пераход іх на аседлае жыццё ў калгасе. Добра намалявана цяжкае табарнае жыццё цыганоў. Вобраз галоўнага героя апавядання, маладога цыгана Алека найбольш яркі ў творы. Алек праходзіць цяжкую суровую школу жыцця. З маленства насіў ён у сваім сэрцы нездавальненне нікчэмным цыганскім лёсам, думаў аб тым, каб змяніць, палепшыць жыццё цыганоў свайго племені: „Няўжо так яно і павінна быць, як вялося спакон вякоў, як звязалі жыццё старыя цыганы бідай і? Няўжо нельга парваць гэту пупавіну?“ Алек парывае з табарам, ідзе ў Чырвоную Армію з гарачай надзеяй пазнаць там сэнс жыцця, каб, вярнуўшыся, навучыць цыганоў жыць па-новаму, вывесці іх да шчасця. Рост свядомасці маладога цыгана— асноўная сюжэтная лінія яго апавядання. Цыганскі лёс навучыў Алека красці, дрыжэць за жыццё. Служачы ў Чырвонай Арміі, Алек стаў непазнаваемым, адкрыў „у сабе новага Алека, дружнага, добрага, які не мог браць чужога“. Вярнуўшыся ў табар, Алек становіцца палкім агітатарам за новае жыццё. Але ён сутыкаецца з косчасцю векавой цыганскай звычкі. Канфлікт Алека з бацькам Франекам—гэта сутычка новага і старога, кульмінацыйны пункт у апавяданні. Перамагае Алек, ён ідзе працаваць у калгас, прымусіўшы бацьку і ўсіх цыганоў агляну цца на сваё жыццё, ацаніць яго. Алек запаліў у сэрцы цыганоў нездавальненне вандроўным табарным жыццём. Усе цыганы пераходзяць у калгас.

Апавяданне дынамічнае, вобразнае, напісанае жывой простай мовай.

Светлае ўражанне пакідае і апавяданне „Радасць“, дзе паказваецца рост жанчыны ў наш час, сталінскія клопаты пра чалавека. Хрысціна, у мінулым забітая горам і бяспраўем жанчына, знаходзіць у калгасе шчасце і долю. Аўтар паказаў ранейшае і сучаснае жыццё сялянкі. Яркія малюнкі гора, безабароннасці жанчыны ў мінулым, паўстаюць у апавяданні. А па кантрасту з імі пісьменнік апавядае, як заможна і шчасліва жывуць сёння калгасніцы.

Па-мастацку напісана і добра апрацавана невялічкае апавяданне „Дзедаў прынцып“. У ім сцісла паданы паасобныя эпізоды, многа маляўнічых, гумарыстычных дэталяў. Вобраз старога дзеда, інспектара па якасці ў калгасе, жывы і цікавы.

Большасць твораў Усевалада Краўчанкі пабудаваны на вострым грамадскім канфлікце. У аснове апавядання „Прыкрае здарэнне“ ляжыць соцыяльны канфлікт між братамі Тамашом і Цімохам, якія пайшлі ў жыцці рознымі шляхамі: Тамаш—дарогай калгаснага жыцця, а Цімох застаўся аднаасобнікам. Ён не жадаў развітацца з сваімі ўласніцкімі імкненнямі, пайшоў у прымы да заможніцы Юстыны, захаваўшы ў сэрцы непрыхільнасць да брата. Але моцна завязаны канфлікт не вырашан аўтарам да канца.

Правільнай сюжэтнай будовай апавяданняў Краўчанка яшчэ не валодае. Не заўсёды яму ўдаецца стройна разгарнуць апісанне падзей. Сюжэты паасобных яго твораў абцяжараны непатрэбнымі эпізодамі і дэталямі. У апавяданні „Радасць“ лішнім з'яўляецца эпізод з уяўным пісьмом. Калі-б не гэты эпізод, твор быў-бы гар-

манічным, удала закончаным. Апавяданне на „Палубе“—зусім бессюжэтнае. Часта Краўчанка вядзе апавяданне ад імя сваіх герояў. Гэты кампазіцыйны прыём скарыстаны ім у апавяданні „Каменныя валы“ і „Застольная Селівестра Наўныкі“. Але мовы герояў аўтар не змог індывідуалізаваць. Ніводнай трапнай рысачкі, характэрнай асаблівасці не надаў Краўчанка герою свайму Селівестру Наўныку. Селівестр пазваў да сябе гасцей на наваселле і апавядае ім аб тым „як жыў на свеце Селівестр Наўныка“. Доўгая, аднастайная застольная прамова ні разу не ажыўляецца адступленнямі аўтара, рэплікамі гасцей. Уласна, госці спатрэбіліся пісьменніку для таго, каб Селівестр меў каму расказваць аб сваім жыцці. Бессюжэтнага і штучнага апавядання не выратоўваюць нават цікавыя эпізоды, аб якіх расказвае Селівестр.

Усеваладу Краўчанку трэба яшчэ больш працаваць над сваімі творамі, над мастацкім удасканаленнем вобразаў. Трэба больш аддаваць увагі чыстаце мовы, адбору слоў. Нельга пісаць „ніхто яшчэ ніколі не сарваў кветку папараці ў купалаўскую ноч“ („Застольная Селівестра Наўныкі“), бо гэта ноч завецца купальскай. Краўчанка піша: „Ён цяпер буйны вайсковы камісар“ не задумваючыся аб сапраўдным значэнні слова „буйны“. „Буйным“ можна назваць чалавека, які „буйствуе“. Трэба дабівацца, каб слова ў творы мела сапраўднае сэнсавае і вобразнае значэнне, каб яно дакладна адпавядала той рэчы або з'яве, аб якой гаворыць аўтар. У тым-жа апавяданні Краўчанка так апісвае псіхалагічны стан чалавека, спалоханага знянацку: „я дрыгануў“. Дрыгануць можна нагой, рукой. Або: „апрача спраў на дубу, я варыў кашу для плытнікаў“. Якія ў Селівестра былі справы на дубу? Ён-жа працаваў па сплаве дуба.

4

Малады пісьменнік Іван Грамовіч пачаў друкавацца зусім нядаўна. У альманаху „Аднагодкі“ ён змясціў першае сваё апавяданне „Ружовіўся ўсход“. Пасля гэтага надрукаваў яшчэ апавяданне „Кашміровая хустка“ і „Шавец Вульф“ і напісаў аповесць „Чужы грунт“, урыўкі з якой друкаваліся ў газеце „Літаратура і Мастацтва“.

Іван Грамовіч з поспехам авалодвае літаратурнай тэхнікай. Яго апавяданні вызначаюцца прадуманасцю мастацкай дэталі, майстэрскі зробленым сюжэтам. Гэта асабліва датычыцца апавядання „Кашміровая хустка“. Аўтар імкнецца да рэалістычнага пісьма, жадаючы паўней раскрыць праўду жыццёвых з'яў. Няма ў яго творах пагоні за вонкавым эфектам, лірычных адступленняў і сантыментальна-саладкавых малюнкаў. Апавяданне вядзецца роўна, спакойна. Вось якім удалым рэалістычным апісаннем пачынаецца „Кашміровая хустка“.

„Бадай што ў поўдні, а можа крыху пазней, на трэці дзень вярнуўся з горада Лявон Буртын. Са станцыі яго прывезлі не аднаго; з ім прыехаў высокі чарнявы чалавек у сінім плашчы. Усе бачылі, як ідучы вуліцай, Буртын паказваў гэтаму невядомаму

зруб пабудовы. Яны прыпыніліся і каля новай лазні над рэчкай; прыезджы, мусіць, цікавіўся гэтым, а можа была так якая патрэба“.

У апавяданні паказваецца класавая барацьба ў вёсцы. Заможнік Свірыноўскі, разбазарыўшы сваю гаспадарку, падае заяву ў калгас. Да калгасаў ён становіцца варожа, крадзе грамадскае дабро, але баіцца раскулачвання. Каб пралезці ў калгас, ён скарыстоўвае зручныя абставіны: яго дачку Ніну кахае старшыня калгаса Лявон Буртын і „нават гатоў браць замуж“, як кажа сама Ніна. Але з горада якраз прыязджае прадстаўнік з рэдакцыі, бацьку якога яшчэ ў вайну Свірыноўскі не заплаціў за 18 вырабленых шкур. Свірыноўскі баіцца расплаты і парашыў забіць яго. Дачку ён пасылае на праўленне калгаса, каб яна заманіла ў сваю хату Лявона, а сам з абрэзам пайшоў на балота чакаць карэспандэнта. Праўленне якраз скончылася, і Лявон, хуценька апрануўшы карэспандэнтаў плашч, цераз балота спяшаўся да Ніны, каб паведаміць, што бацьку яе прынялі ў калгас. Свірыноўскі, палічыўшы Лявона за карэспандэнта, выстраліў у яго. Ранены, Лявон крычаў аб паратунку. На балота беглі калгаснікі, бегла і Ніна, пазнаўшы Лявонаў голас. Яна спаткалася з бацькам, які сарваў у яе з галавы кашміровую хустку (падарунак Лявона з горада), укруціў ёю штосьці цяжкае і загадаў асцярожна аднесці дамоў. Ніна сустрэла карэспандэнта і, ускрыкнуўшы ад нечаканасці, выраніла з рук скрутак, а сама уцякла. Абрэз падняў карэспандэнт і перадаў начальніку міліцыі, які вёў следства. Вылячыўшыся, Лявон прыязджае ў калгас і жэніцца з Нінай. На вяселлі карэспандэнт Каган заўважыў, што голас Ніны вельмі падобны да голасу той дзяўчыны, якая на балоце выраніла з рук абрэз. Раніцай прыехаў начальнік міліцыі і прывёз для следства кашміровую хустку. Яе пазнаў Буртын і ўсё стала ясным. Так паслядоўна развіваецца складаная сюжэтная інтрыга ў апавяданні. Кожны эпізод і падзея прадуманы аўтарам і апраўданы. Кашміровая хустка—мастацкая дэталь, якая ўдала абыгрываецца ў творы і ў сюжэтным развіцці апавядання набывае вялікую ролю.

Іван Грамовіч умее наглядаць за жыццём, адбіраць найбольш тыповыя рысы для стварэння вобраза героя, для паказу яго псіхалогіі. Падаючы вобраз кулака Свірыноўскага, ён увесь час падкрэслівае, выпукляе дзве рысы: сквапнасць Свірыноўскага і ненавісць яго да беднякоў. Рыса сквапнасці і скаредначці Свірыноўскага падкрэсліваецца мноствам мастацкіх дэталей. Напрыклад: Свірыноўскі адрэзаў лусту хлеба, саскроб з нажа захлебліва і крошкі ўкінуў у рот“. „На дне аставалася страва, дык ён, узяўшы аберуч міску, задраў галаву як гусак, і выпіў“. Свірыноўскаму здалося, што на двары стаяла карыта і ён доўга шукае яго ўпоцемку, думаючы: „Каліва якое цеста, дык заўтра курам будзе“. Для паўнейшага раскрыцця вобраза Свірыноўскага Грамовіч карыстаецца трапнай аўтарскай характарыстыкай: „Ён быў вялікі, цыбаты і крывы, ляўшак. Нават левай рукой еў, а калі хадзіў, дык адно плячо насіў ніжэй, правая рука матлялася, як маятнік у гадзінніку“. Аўтар прыводзіць і характарыстыкі, якія даюць Свіры-

ноўскаму другія героі. „У такога чалавека вады напіцца не дастанеш“,—казаў пра яго Змітрок.

Пейзажныя малюнкі рэдка трапляюцца ў апавяданнях Грамовіча. Яны ўводзяцца толькі тады, калі аўтар хоча больш выразна перадаць настрой, псіхалагічны стан героя. Пейзажныя малюнкі імпануюць адчуванням герояў. „Ноч была суровая, падобная да настрою Свірыноўскага,—піша аўтар,—прамільгне за сялом маланка і тады трымцела пры святле начная сінь, а як патухала маланка, грымоты калацілі зямлю нутранымі выбухамі“.

У апавяданні „Шавец Вульф“ малюецца вобраз старога яўрэя шаўца, які многа пакутваў у жыцці, перанёс жахі белапольскай акупацыі і толькі цяпер стаў роўнапраўным паважаным чалавекам. Тут адлюстраваны трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, дружбы народаў.

Аповесць „Чужы грунт“, якую нядаўна напісаў Іван Грамовіч, сведчыць аб уменні аўтара абраць для твора актуальную грамадска-каштоўную тэму і вычарпаць яе ўсебакова. У творы выкрываецца падхалімства,—гэтая сацыяльная з‘ява, пакінутая ў спадчыну старым жыццём, калі пануючыя класы імкнуліся зняважыць, прынізіць чалавечую годнасць, выхаваць такія брыдкія, супярэчачыя прыродзе чалавека рысы характару, як угодлівасць, халуйства. У наш час рэшткі гэтай з‘явы яшчэ бытуюць, але гучаць, як прыкры дысананс усяму жыццю. Гэта „чужы грунт“, грунт для ворагаў. І вось аповесць мабілізуе грамадскую думку на барацьбу за выкараненне іх.

Пісьменнік выявіў тыповы вобраз падхаліма Стася Вілюевіча, кар‘ерыста, які не грэбвае ніякімі сродкамі падхалімажа, каб толькі прабрацца да кіраўніцтва калгаса. Хітрасцю ён уціраецца ў давер‘е старшыні калгаса Вароніча, выкарыстоўваючы гэта ў сваіх інтарэсах. У калгас прыязджае з варожымі мэтамі дыверсант, Вілюевіч падхалімнічае перад ім і лёгка пападае ў лапы ворага, становіцца завербаваным замежнай разведкай. Аўтар паказаў, да якіх вынікаў прыводзіць падхалімства.

Удаліся пісьменніку і іншыя вобразы ў аповесці. У падачы вобразаў комсамольца-брыгадзіра Неруша і калгасніка дзеда Ермалая многа цяплыні, гумару, свежага і сакавітага, народнага. Пісьменнік скарыстоўвае для стварэння вобразаў шматлікія мастацкія прыёмы, не выключаючы нават прыёма гаворачых імён. Падхалім надзяляецца прозвішчам Вілюевіч (віляе, „без мыла ўсюды ўлезе“), старшыня калгаса, у якога была прытуплена пільнасць,—Вароніч, удава, у якой жыў Вілюевіч,—Пагуляйская і інш.

Грамовіч валодае сюжэтнай пабудовай сваіх твораў, але яму трэба больш працаваць над іх мовай: не перасыпаць занадта правінцыялізмамі, адбіраць толькі найбольш характэрныя словы з жывой народнай гутаркі.

5

У 1935 годзе надрукаваў першыя лірычныя вершы малады паэт Рыгор Няхай. Гады напружанай літаратурнай вучобы далі свае вынікі: паэт авалодаў рознастайнымі жанрамі лірыкі, удасканаліў

вобразныя сродкі і тэхніку сваіх вершаў, узбагаціў мову. Кожны новы верш паэта сведчыць аб няспынным росце яго здольнасцей, аб сур'ёзнай удумлівай працы над сабой.

У апошні час Рыгор Няхай усё больш і больш аддае ўвагі грамадскім матывам, пашыраючы гэтым самым тэматыку сваёй творчасці. Яго тэматыка ў пераважнасці калгасная. Малады паэт піша пра заможнае жыццё калгаснага сялянства, пра яго працу, пра савецкую шчаслівую моладзь і яе імкненні.

Радаснае жыццё беларускага народа хвалюе паэта, дае яму багаты матэрыял для творчасці. Рыгор Няхай імкнецца глыбей і паўней успрыняць і асэнсаваць усе сучасныя падзеі, адлюстраваць у сваіх вершах нашу цудоўную эпоху.

Ён славіць у вершах сваю радзіму, магутную Чырвоную армію і яе маршалаў. Ён піша пра ленінскі комсамол, пра мужны іспанскі народ, выражаючы братнюю салідарнасць з ім народаў нашай радзімы. Рыгор Няхай пяе славу вялікаму правадыру і другу народаў Сталіну.

Стагоддзяў прамінуць гады—
Ты будзеш жыць, таварыш Сталін,
Народаў мудры правадыр.
Цябе вялікага, вітаюць
Палеткі, нівы, гарады.
Ты будзеш жыць, таварыш Сталін,
Народаў мудры правадыр.
Цябе вітаюць нашы сёлы—
Усёй душой стары, малы.
І гай шуміць і бор вясёлы
І пушчаў векавечных глыб.
Не моўкнуць песні сіняй далі,
Пяюць заводы, гарады.
Ты будзеш жыць, таварыш Сталін,
Народаў мудры правадыр.

*(„Віншаванне правадыру").*

Надзвычайна цёпла і задушэўна напісан верш „Сыну". У ім адлюстроўваецца ўпэўненасць савецкага народа ў жыцці, вера ў тое, што шчасце будзе вечна жыць на нашай зямлі. Маці ў вёсцы „шчаслівай часінай нарадзіла харошага сына". Над калыскай свайго дзіцяці яна спявае такую песню:

Угадаць не магу твае долі,
Толькі знаю: ніколі, ніколі
Ты не будзеш, мой сын, у няволі.
Угадаць не магу твае долі.

Маці марыць аб долі свайго сына, аб яго будучыні:

Можа будзеш ты плаваць на моры,
Дзе так ззяюць паўночныя зоры;
Можа будзеш ты смелым героем,—
Пойдзе слава твая над зямлёю.

З такой-жа шчырасцю апяваецца шчасце савецкага народа і ў вершах „Гаспадар", „Зялёныя матывы", „Пасля дажынак". Улюбёным жанрам у творчасці Рыгора Нехая з'яўляецца кароткі прыродаапісальны верш. У большасці гэта сюжэтныя вершы. Паэт

успрымае радасны сонечны пейзаж, адлюстроўваючы праз пейзажныя малюнкі шчасце жыцця ў наш час. Ён умее знайсці цікавыя аб'екты для свайго жанра. Паэт з захапленнем апісвае росную сенажаць, дзе дружнай грамадой працуюць касцы, жоўтыя спелыя нівы, ціхія палі пасля дажынак, лясы, сонечныя ўзгоркі і нізіны нашай бацькаўшчыны Пейзаж у Рыгора Нехая адчувальны, каларытны. Лепшымі з прыродаапісальных вершаў паэта з'яўляюцца наступныя: „Па сонечных узгорках, па ярах“, „Хутка навальніца“, „На палянку лажыцца змрок“ і інш. Выпішам верш „На палянку лажыцца змрок“, як добры ўзор прыродаапісальнага жанра.

На палянку лажыцца змрок,
На палянцы аўсы зажаты.
Падымаецца к небу дымок
Над калгаснаю новаю хатай.

Закіпае густая ноч
Нейк ціха, як бляск зараніцы.
Прагным позіркам цьмяных воч
Паглядаюць з травы крыніцы.

Залатыя цвітуць верасы.
Вось пара тапалінай песні!
Добра мне ад такой красы,
Родным песням у сэрцы цесна.

Запылала раса агнём,
Барвянеюць кляны у полі
І красы той ні ноччу, ні днём
Не запляміць ніхто, ніколі!

Так малюецца пачатак залатой восені.

Рыгор Нехай шукае новых мастацкіх фарбаў, пазбаўляючыся слоўных прымітываў, якія часта сустракаліся ў яго ранніх вершах. Апошнія вершы паэта вызначаюцца метафарычнасцю, у іх ёсць цікавыя паэтычныя ўвасабленні. Лірыка Рыгора Нехая—песенная, у большасці яго вершы маюць у сабе прыгожы песенны лад, мелодыю („Пагранічная“, „Я каня напаіў“ і інш.).

Маладому паэту трэба смялей пашырыць тэматыку сваёй творчасці, не замыкацца ў кола прыродаапісальнай і суб'ектыўнай лірыкі, а паднімаць актуальныя грамадскія тэмы нашых дзён.

6

Алесь Бачыла—адзін са здольных маладых беларускіх паэтаў. Ён напісаў шэраг добрых аптымістычных вершаў, якія характарызуюцца навізнай свеёй тэматыкі. глыбокай ідэйнай накіраванасцю. Яго вершы пра наша сонечнае жыццё—лірычныя і шчырыя. Надзвычайна добрае ўражанне пакідаюць вершы „Праз год“, „Ад'езд пагранічніка“, „Цвілі сады“, „Смерць Разіна“ і „Пасаг“.

У вершы „Ад'езд пагранічніка“ малююцца провады маладога калгасніка ў Чырвоную Армію на службу па ахове граніц совец-

кай дзяржавы. Малады патрыёт савецкай радзімы клянецца ў вернасці свайму народу:

Сеў ён спрытна, ухваціста, не ўтрымаць каня:
— Ну, бывайце, блізкія, родныя, сям'я!
Спюжы не сагнуць мяне, не асіліць сон,
Праз мяжу не пройдзе к нам ні адзін шпіён.

Паэт выказвае ў вершы лепшыя патрыятычныя пачуцці савецкага народа, моладзі.

З сардэчным замілаваннем піша Алесь Бачыла ў вершы „Цвілі сады“ вобраз старога калгасніка-садоўніка, які клапатліва даглядае сад, а ўвосень пасылае ў Крэмль правадыру падарунак—багаты скарб свае працы.

Цудоўны сад,—казаў стары часамі,—
Яго я сталінскім ад сэрца назаву.
І ўжо надумаў, кажучы між намі,
Пасдаць ігруш і яблык у Маскву.

Хай пакаштуюць нашага ўраджаю
Маёй радзімы лепшыя сыны.
Хай к нам у госці ўвосень завітаюць.

Вершы „Пасаг“ і „Калі вецер абходзіць палі“ найбольш мастацкія творы Алеся Бачылы. Яны вобразныя, метафарычныя. Алесю Бачылу трэба развіваць свае паэтычныя здольнасці, знайсці сталы голас. Калі паэт будзе аддаваць больш увагі адшліфаванню вершаў, яны стануць поўнакроўнымі, высокамастацкімі. Паэту трэба пазбягаць выкарыстоўвання старых перажытых вобразаў і метафар, бо праз іх нельга выказаць глыбокую новую думку. Трэба ствараць свае яркія вобразы, метафары, увасабленні.

* * *

Цяжка ахарактарызаваць у кароткім артыкуле ўсе поспехі маладой беларускай літаратуры. Адно можна сказаць упэўнена: гэта надзвычайна светлая з'ява ў нашым жыцці. Кожны дзень вылучаюцца ўсё новыя і новыя імёны маладых і пачынаючых пісьменнікаў: Бурдзель, Сасноўскі, Дзядзюля, Хадарэнка, Алешко, Радзюк, Лупсякоў, М. Жук і многа іншых уваходзяць сёння ў літаратуру. Наш народ багат талентамі, аб гэтым сведчыць маладая беларуская літаратура.

*Міх. Бекер*

# ПЕСНІ СТАЛІНСКАЙ ЭПОХІ

*(Аб творчасці Лебядзева-Кумача)*

На нарадзе стаханаўцаў у Крэмлі, пасля выканання вялікага пролетарскага гімна „Інтэрнацыянал", уся зала, не згаварваючыся, запела „Легко на сердце от песни веселой". Гэта было магутнае і незабыўнае відовішча. Спявалі стаханаўцы і члены ўрада ўрачыстым шматгалосым хорам.

Ці ёсць такі куток у Совецкім Саюзе, дзе не гучэла-б песня Лебядзева-Кумача! У гарадах і вёсках, на далёкім раз'ездзе, у стэпах, у суровай тайзе,—усюды можна пачуць „Марш веселых ребят", „Песню о родине", „Если завтра война". Песня Лебядзева-Кумача ўвайшла поўнапраўнай і жаданай госцяй у дом, яна магутна гучыць і на вуліцы ў час дэманстрацыі, у будні і святы.

У „Испанском дневнике" М. Кальцоў расказвае аб іспанскіх дзецях, якія набылі другую радзіму ў Совецкім Саюзе. „Мадрыдская професора" Хуліта Родрыгес, тоненькая, з высокімі, смяшліва здзіўленымі броўкамі, паўтарае з імі рускія песні:

„Три—чигири!.. Если са-втра война, если са-втра в паход"...

Ёсць штосьці чуллівае і глыбока павучальнае ў тым, што маленькія астурыйцы, баскі, андалузцы і мадрыдцы вывучаюць рускую мову па песнях совецкага паэта. Дзеці змагаючагася за сваю незалежнасць гераічнага народа моцна запомняць гэтыя песні, з якімі іх бацькі ідуць у бой з крывавым фашызмам.

Песні Лебядзева-Кумача вядомы не толькі ў Іспаніі. На далёкіх палях Шаньдуня, побач з кітайскімі народнымі песнямі гучыць „Песня о родине". А ў Лондане, пасля закрыцця кангрэса культуры, усе дэлегаты на розных мовах спявалі „Марш веселых ребят". Інтэрнацыянальная па свайму зместу совецкая песня не ведае граніц. Яна—здабытак свету.

Такому поспеху совецкай песні можна толькі радавацца. Тым больш, што поспех гэты раздзяляюць многія паэты: Асееў, Галодны, Суркоў, Гусеў, Святлоў, Рудэрман, Ісакоўскі, Рыльскі, і інш. Песні гэтых паэтаў моцна і надоўга ўвайшлі ў жыццё. Іх спявае ўся краіна.

Лебядзеў-Кумач некалькі гадоў працуе з шчырым захапленнем над песенным жанрам. Яго пяру належаць дзесяткі песень і ўсе яны пакладзены на музыку. У хоры совецкіх песеннікаў ён выконвае ганаровую ролю запявалы.

Белінскі вызначае песню, „як мелодыю сэрца"... „Песня жыве духам часу", заўважае Беранжэ. Вялікі паэт бачыць у песні „выраз народнага пачуцця".

Песні Лебядзева-Кумача жывуць духам нашага часу. Лепшыя пачуцці новага чалавека соцыялістычнай эпохі выражаны ў іх з той падкупаючай шчырасцю і непасрэднасцю, якія характарызуюць сапраўдную песню.

Бадай, усяго ярчэй і мацней выражаюць яны свяшчэннае пачуццё любові да соцыялістычнай радзімы мільёнаў людзей нашай краіны. Папулярнейшая „Песня о родине", побач з „Стихами о советском паспорте" В. Маякоўскага, стала паэтычнай дэкларацыяй совецкага патрыятызма. Самыя першыя радкі гэтай песні даюць адчуванне размаху і велічы краіны соцыялізма: „Широка страна моя родная, много в ней лесов, полей и рек". Наступныя строфы ўзмацняюць уражанне магутнасці і велічы. Неабсяжная радзіма раскінулася „от Москвы до самых до окраин, с южных гор до северных морей".

Магутна гучыць у песні матыў аб шчасці новага чалавека, які мае права на „ученье, отдых и на труд". Ён вызвален ад нацыянальных і расавых забабонаў, ён умее працаваць, смяяцца і любіць. Яго любоў да соцыялістычнай радзімы паэт перадае вобразамі, якія сваёй інтымнасцю і лірычнасцю вызначаюць гэта пачуццё, як самае глыбокае і моцнае: „Как невесту родину мы любим, бережём как ласковую мать".

„Песня о родине" жыве ў свядомасці сучаснікаў, як паэтычная споведзь народа, які асазнаў сябе гаспадаром гісторыі, гаспадаром свайго лёсу. Гэта песня блізка і зразумела сваім інтэрнацыянальным пафасам усяму прагрэсіўнаму чалавецтву.

* * *

У эміграцыі Ленін з вялікім захапленнем вывучаў песенны рэпертуар рэволюцыйных паэтаў Шансон'е. Мантэгюс быў адным з любімых паэтаў Леніна. Тут-жа, у эміграцыі, Ленін пачуў і запісаў са слоў прыбіральшчыцы нацыянальную эльзаскую песню, якая канчалася словамі: „Вы взяли Эльзас и Лотарингию, но вопреки вам мы остаемся французами. Вы могли онемечить наши поля, но наше сердце—вы никогда не будете его иметь".

„Быў гэта 1909 год, час рэакцыі, партыя была разгромлена, але рэволюцыйны дух яе не быў зломлены. І сугучна была гэта песня з настроем Ільіча. Трэба было слухаць, як пераможна гучалі ў яго вуснах словы песні:

Mais notre coeur—vous ne l'aurez jamais!

У гэтыя цяжкія годы эміграцыі... Ленін больш за ўсё марыў, размаўляючы з Мантэгюсам, пераможна распяваючы эльзаскую песню і ў бяссонныя ночы зачытваючыся Верхарнам. (Н. Крупская „Успаміны аб Леніне")".

Вялікае пачуццё, якое апанавала Леніна ў тыя далёкія годы, было пачуццём усяго народа, які не сцярпеў лёсу раба і ў 1917 го-

дзе скінуў панаванне буржуазіі. За дваццаць год совецкай улады народ прайшоў вялікую школу палітычнай свядомасці. Кожны дзень, кожную гадзіну партыя Леніна—Сталіна ўмацоўвала ў народзе пачуццё сапраўднай незалежнасці і свабоды. Гэта пачуццё стала яго другой натурай. Яно натхняе ўсіх нашых спевакоў. Яно натхняе і Лебядзева-Кумача, які заяўляе ад імя народа:

Никогда нас рабами не сделать
Никому, ни за что, никогда.

У песні „Волга-Волга“ паэт усклікае:

Пусть враги как голодные волки
У границ оставляют следы.
Не видать им красавицы Волги,
И не пить им из Волги воды.

На тэму аб маральна-палітычным адзінстве совецкага народа напісана песня „Если завтра война“.

Если завтра война—всколыхнется страна
От Кронштадта до Владивостока,
Всколыхнется страна, велика и сильна,
И врага разобьем мы жестоко.

Лебядзеў-Кумач з вялікай паэтычнай сілай выразіў у сваёй песні баявы дух совецкага народа, яго гатоўнасць абараніць сваё шчасце ад брудных намераў ворагаў. З велізарным натхненнем спявае народ гэтую песню, якая гучыць заклікам да ўзмацнення пільнасці.

З вялікай любоўю піша паэт аб Чырвонай Арміі. Лётчыкам, пагранічнікам, чырвонаармейцам, чырвонафлотцам ён прысвячае лепшыя свае песні.

У дарэволюцыйным фальклоры ярка прадстаўлены песні, якія адлюстроўваюць нянавісць салдат царскай арміі да яе парадкаў. Уход у салдаты ўспрымаецца навабранцам як цяжкая драма жыцця, як суровае выпрабаванне.

Якім яркім кантрастам з'яўляюцца нашы песні, у якіх адлюстраваны прынцыпова іншыя адносіны да арміі з боку прызыўнікаў і іх родных. В. Лебядзеў-Кумач паказаў адзінства народа і Чырвонай Арміі ў радзе выдатных песень.

Мы любовью родины богаты,
Мы закалкой сталинской сильны,
Мы не темные наемные солдаты,
Мы—защита радостной страны.

У гэтых словах мера іх асабістай і грамадзянскай годнасці.

* * *

Лебядзеў-Кумач, як ніхто з совецкіх паэтаў, перадае песенным радком пачуццё маладосці, уласцівае людзям сталінскай эпохі—эпохі творчага ўзлёту і вялікіх соцыялістычных работ, яго бяс-

спрэчнай заслугай з'яўляецца стварэнне жанра вясёлай, жыццерадаснай песні. Бадзёрасцю, маладосцю вее ад кожнага яе радка:

Ну как не запеть, если счастье в руках
И его никому не отнять,
Ну как не запеть, если мы в облаках,
Точно соколы можем летать.
Ну как не запеть, если все впереди
И дорога пряма и светла.
Ну как не запеть, если ждут на пути
И любовь и большие дела.

Які аптымізм адчуваецца ў гэтых радках! Нават прырода падзяляе з паэтам яго радасць, вось гэтым сваім сонечным аптымізмам, які арганічна выцякае з светаадчування новага чалавека. Лебядзеў-Кумач асабліва дарагі свайму чытачу. Ён перадаў радасць савецкага чалавека, які жыве шчаслівым жыццём.

Тры вобраза паслядоўна праходзяць праз творчасць паэта. Асноўны вобраз—гэта вобраз песні. Паэт улюбёны ў песню. Прырода, праца, барацьба—усё асацыіруецца з песняй і праламляецца праз яе прызму. „Работа, как песня звучит". „Вся пшеница кругом подпевает, подпевает высокая рожь". Спяваюць і людзі: „по колхозным просторам бескрайним, отирая с улыбкою пот, молодой комбайнер на комбайне раз'езжает и песню поет".

Часта ўпамінаецца ў яго песнях Волга. Ва ўспрыйманні паэта поўнаводная прыгажуня Волга—сімвал багацця і шчасця. „Всюду жизнь и вольно и широко, точно Волга полная течет". І яшчэ „Разорвали мы серую тучу, над страною весна расцвела, и, как Волга, рекою могучей наша вольная жизнь легла".

Усе гэтыя вобразы—Волгі, песні, дзіцяці набываюць у Лебядзева-Кумача сімвалічнае значэнне. Яны адпавядаюць асноўнай тэме яго паэзіі—тэме шчасця і маладосці чалавецтва, уступіўшага ў сваю гістарычную вясну. Зззяючая жыццерадаснасць гэтай паэзіі не мае нічога агульнага з так званым „бодрячеством". Гэта сапраўды глыбокі аптымізм народа, упэўненага ў моцнасці і непахіснасці свайго шчасця: „нигде на свете нет силы, чтобы сломила молодость нашей страны".

* * *

Радзіма—гэта не толькі рэкі, моры, лясы і горы. Радзіма—гэта, перш за ўсё, людзі. У гонар савецкага чалавека, які адчувае сябе гаспадаром новага жыцця, паэт складае песні і гімны. Людзі, простыя савецкія людзі, з песняй крочаць па жыццю. Гэта—чырвонаармейцы, пагранічнікі, маракі, калгаснікі, лётчыкі, трактарысты, чыгуначнікі, лыжнікі, турысты, вясёлыя нашы сяброўкі, гэта вялікая савецкая сям'я, у якой кожны ажыццяўляе свае права на вучэнне, адпачынак і на працу. У гэтай дружнай сям'і ўсе ахоплены адным імкненнем, „нарком с кочегаром и смазчиком вместе, чтобы бороться за каждый успех". Лебядзеў-Кумач ганарыцца савецкім чалавекам, ён прапаноўвае тост за яго асаблівыя ўласцівасці: за дасціпнасць і цвёрдасць, за мужнасць, гонар і геройства.

З вялікай любоўю і цеплынёй піша ён аб маленькіх грамадзя-

нах нашай вялікай краіны. Паэт добра разумее, што гуманізм эпохі, яе высокая чалавечнасць праяўляюцца ў адносінах да дзяцей. Сталінская эпоха вярнула маленству ўсе прыгажосці, аднятыя капіталізмам. Яна забяспечвае дзецям сапраўды шчаслівае жыццё. Аб гэтым і расказвае паэт мовай мастацкіх вобразаў. Ён адносіцца з вялікай павагай да сваёй юнай аудыторыі. Яго песні аб дзецях пазбаўлены сюсюкання і салодзенькай сантыментальнасці. Гэта бадзёрыя, мужныя песні, якія выхоўваюць у дзецях якасці поўнацэнных совецкіх грамадзян.

Калону совецкіх людзей вянчае „простой советский человек"— таварыш Сталін. Велічны, і ў той-жа час—просты, поўны глыбокай чалавечнасці, геніяльны вобраз Сталіна паўстае ў яго песнях такім, якім яго бачаць, ведаюць і любяць народы.

Цепи яблонь протянулись
Там, где были пустыри...
Садовод глядит прищурясь
И тихонько говорит:
—Не напрасно люди наши
Проливали пот и кровь.—
Что ни день—светлей и краше
Всходит радостная новь;
День и ночь с веселым шумом
Сад невиданный растет.
День и ночь трудам и думам
Отдается садовод.

Многія песні напісаны на словы таварыша Сталіна („Жить стало лучше, жить стало веселей"). Але і ў тых песнях, дзе імя Сталіна не ўпамінаецца, яно адчуваецца як сімвал шчасця і радасці совецкага народа. *Песні Лебядзева-Кумача—гэта песні сталінскай эпохі, напісаныя на славу соцыялістычнай радзімы і яе чалавека.*

* * *

Стыхія песні—паэзія высокай і мудрай прастаты. Песня не церпіць ускладнёных метафар, штучнай інверсіі, усяго, што сціскае яе свабоднае дыханне. І Лебядзеў-Кумач не гоніцца за слоўнай навізной і гукавымі эфектамі. Яго рыфмы незацейлівы, а слоўнік просты.

Песні Кумача не свабодны ад літаратурных уплываў. У некаторых з іх адчуваецца ўплыў вясёлых строф Беранжэ. Але больш за ўсё адчуваецца ў іх дух рускай народнай творчасці.

Прадаўжаючы традыцыі народных песень, Лебядзеў-Кумач выкарыстоўвае ў сваёй творчасці сталыя эпітэты. Помста ў яго пякучая, сум палкі, туман сівы, дарогі прасторныя, сябры баявыя, песня гучная, ласка цёплая, позірк радасны.

Шырока ўжывае ён прыём адмоўнага параўнання, вельмі характэрны для народнай паэзіі:

То не ветер по полю гуляя,
По дороге пыль метет,—
Это наша удалая,
Удалая конница идет.

Шырока выкарыстоўвае Лебядзеў-Кумач народную мову аж да прыказак і пагаворак:

> Нас не трогайте, мы не тронем,
> А затронешь—спуска не дадим:
> И в воде мы не утонем,
> И в огне мы не сгорим.

Змагаючыся за народнасць у мастацтве, Белінскі праводзіў рэзкую грань паміж народнасцю і плошчаднасцю. Ён здекваўся над гора-пісакамі, якія думалі, „что все дело тут в личной обуви, сермяжной одежде, бородах и плоских поговорках действующих лиц". На жаль, і цяпер не перавяліся паэты, у якіх народнасць выяўляецца ў момантах вонкавай стылізацыі.

Песні Лебядзева-Кумача не маюць нічога агульнага з гэтай тэндэнцыяй. Яны народныя ў лепшым сэнсе гэтага слова. Народныя па зместу і па форме.

Возьмем яго чырвонаармейскую песню „Эх, ты, яблочко". Народнасць у самой „крыві" гэтай песні, у яе размоўных інтанацыях („знайте, девушки, знайте, бабоньки, не видать врагу нашей яблоньки"), у гранічнай прастаце і выразнасці яе асноўнага вобраза (яблынька—сімвал радзімы), у дзёрзкім чыста-народным гумары. („Мы врага кормить станем пулями, вместо яблочка—только „дулями").

Канчаецца песня гэтак:

> Не сломать тебе
> Враг, уродина,—
> Нашей яблоньки,
> Нашей родины.

Песні Лебядзева-Кумача не заўсёды з'яўляюцца строга сюжэтнымі, але ў іх ёсць свая кампазіцыя—простая і ясная. „Эх, ты, яблочко", „Наследство", „Песня о родине" і інш. з'яўляюцца гэтаму яркім сцверджаннем.

Аднак-жа знаходзяцца такія крытыкі, якім песні Лебядзева-Кумача ўяўляюцца „калоніяй аднаклетачных".

Вянцом іх безадказнейшай крытычнай мазні з'яўляецца сцверджанне, што „песні Лебядзева-Кумача не маюць ні пачатка, ні канца".

Ці можна ўсур'ёз спрачацца з гэтым сцверджаннем, якое журнал „Знамя" падаў сваім чытачам, як бясспрэчную ісціну?

Далёка не ўсе песні Лебядзева-Кумача маюць сюжэт. Гэта так. Але трэба быць „лянівым і не дапытлівым", каб не заўважыць у яго песнях унутранага сцержня, сваёй асаблівай кампазіцыі, абумоўленай логікай вобраза і развіццём думкі.

Лебядзеў-Кумач з'яўляецца майстрам паэтычнага афарызма. Ён узбагаціў нашу мову дзесяткамі крылатых фраз, прычым кожная з іх здзіўляе адвагай і глыбінёй абагульненняў:

> Где бы мы сейчас ни жили,—
> Все мы сердцем москвичи.

> Мы не строили замков воздушных
> Мы воздушный построили флот.

Когда страна прикажет быть героем,—
У нас героем становится любой.

---

Никогда, никогда не погибнет страна,
Где так пламенно любят детей.

---

Куда ни пойдешь—
Везде молодежь,—
И все от рожденья крылаты.

---

Три слова заветными стали
Большие родные слова:
Нет имени выше чем Ленин и Сталин,
Нет слова теплей чем Москва.

„Вось думкі майго народа“,—сказаў на мітынгу ў Нью-Йорку герой Совецкага Саюза В. Чкалаў, працытаваўшы ў сваім выступленні радкі Лебядзева-Кумача.

— Гэта мае і майго народа думы,—скажа кожны з нас, паўтараючы гэтыя радкі.

Песні Лебядзева-Кумача не ведаюць стандартных, застылых метрарытмаў. Вясёлы, рытмічны ўзор, match, рознастайнасць інтанацый адпавядаюць зместу песень, якія з'яўляюцца ў сваёй большасці маршамі бадзёрасці і магутнасці. Паэт часта іграе словам, гукам, але ў гэтай слоўнай ігры няма і ценю фармалістычнага трукацтва. Так, радок „физкульт-ура-ура-ура! Будь готов!“ у „Спортивном марше“ гарманіруе з усім стылем песні бадзёрасці і сілы.

Майстэрства Лебядзева-Кумача ярка праяўляецца ў прыпевах. Яны рознастайныя па рытму і заўсёды лёгка запамінаюцца:

Не скосить нас саблей острой,
Вражьей пулей не убить,—
Мы врага встречаем просто:
Били, бьем и будем бить.

Насычаны дзеясловамі апошні радок—поўны сілы і благароднай энергіі. Радок б'е ў цэль, ён „страляе“.

Надзвычай лёгка запамінаецца і гэты прыпеў:

Высота ли, та ли, та ли,
Широта ли, та ли, та ли,
Разве это, братцы, высота?
Мы не так еще летали,
Мы не то еще видали,
Не такая будет красота!..

Лёгкасць, „паветранасць“ гэтага рэфрэна знаходзіцца ў поўнай адпаведнасці з тэмай песні.

А колькі імкнёнасці, гукавой ігры ў гэтым прыпеве:

По лесам, по горам, по долинам
Нашу песню неси, паровоз,
Чтобы пела страна,
Чтоб гудела она
Миллионами вагонных колес.

А вось яшчэ прыпеў з песні „Морские волки“, задуманай, як дзіцячая гульня:

Якора мы поднимем вот так!
Паруса мы поставим вот так!
Веселее, моряк!
Веселее, моряк!
Делай так, делай так и вот так!

Тут кожнае слова з'яўляецца сігналам да дзеяння, заклікам да гульні. Рытм не з'яўляецца нечым самадаўлеючым, ён дапамагае замыслу аўтара.

Не ўсе песні паэта аднолькава добрыя. „Прыдзірлівы“ крытык адзначыць у іх рад зрываў. Так, радок „Если враг захочет нас сломать“ яўна немілагучны („насломать“). Аналагічны парок у радку „Не скосить нас саблей острой“; „Красавица народная“ (у прымяненні да Волгі) вобраз не зусім удалы. Дарэчы, дарэмна аўтар так падкрэслена карыстаецца традыцыйнымі эпітэтамі і параўнаннямі. Свежы эпітэт, трапнае параўнанне песню не псуе. А аўтар-жа ўмее знаходзіць і надзвычай свежыя, добра запамінаючыяся эпітэты напрыклад: „Хвойная одежка, смоляная ножка, мохнатая лапа, зеленая шляпа, свежая морозная, елочка колхозная“.

„Книга песен“ не толькі падводзіць вынік (у яе ўключаны песні, напісаныя за 1934—1937 гг.) Гэта кніга творчых пошукаў. Паэт любоўна працуе над рознымі песеннымі жанрамі, у прыватнасці, стварае рад песень жартаўлівага і сатырычнага стыля. Некаторыя песні з гэтага цыкла мала выразныя, недастаткова соцыяльна завостраныя.

Пісьменнік Шамфор ахарактарызаваў уладу бурбонаў, звергнутую вялікай французскай рэволюцыяй, як „абсалютную манархію, звергнутую песняй“. У гэтым афарызме няма нічога парадаксальнага. Песня—грозная зброя. „Жартаўлівыя“ песні Беранжэ адрозніваюцца вялікай выбуховай сілай—і гэтым асабліва павучальны для паэтаў. Хацелася-б, каб совецкія паэты ў барацьбе з фашызмам, з цёмнымі сіламі старога свету выкарысталі вострую і паражаючую зброю сатырычнай песні. Хацелася-б, каб сатырычныя песні Лебядзева-Кумача былі больш мэтаімкнёнымі, больш „злымі“...

* * *

Паэт будзе ўпарта працаваць над сабой, каб апраўдаць высокае давер'е народа. Але ўжо тое, што ім зроблена, выклікае шчырае захапленне. Будзем лічыцца з бясспрэчным фактам: на паэзіі Лебядзева-Кумача выхоўваюцца мільёны людзей.

Аб выхаваўчым значэнні гэтай паэзіі гавораць пісьмы чытачоў—дакументы дружбы паэта з яго шматлікай аудыторыяй.

Свярдлоўшчык А. Бабайкін піша:

Паважаны Васілій Іванавіч! Я, як чытач Вашых песень, якія чытаюць усе, якія распяваюць усюды, хачу вынесці Вам вялікую падзяку і вітаць вас, растучага паэта эпохі соцыялізма; паэта, які вельмі таленавіта працуе над сваёй паэзіяй, аддае для ўвесялення душы народа ўсе веды і сілы; паэта, творы якога клічуць да радасці, да жыцця, да творчасці, работы і барацьбы.

... Я часта сустракаю людзей, якія, саступаючы месца, дарогу, гавораць пажылым: „Молодым везде у нас дорога, старикам везде почет". Ці яшчэ такі прыклад: чалавека пытаюцца, як гэта ты зрабіў? Як гэта ты дасягнуў? А чалавек горда адказвае: „Кто весел—тот смеется, кто хочет—тот добьется, кто ищет—тот всегда найдет!"

Кажу Вам шчыра, Васілій Іванавіч, Вашы песні—надзвычайныя песні. Вашы вершы—гэта вершы, у якіх жыве кожная літара, рыфма, быццам цудоўныя акорды так і гучаць. Міжвольна цягне да такой лірычнай, вельмі праўдзівай, разумнай, народна-мудрай паэзіі.

Я прасіў-бы Вас выдаць зборнік Вашых песень, а то ў бібліятэках мала Вашых вершаў. Прывітанне! Паціскаю Вашу руку. І няхай мацней палыхае полымя Вашай творчасці, якое па-новаму асвятляе новы наш свет".

Такое пісьмо чытача—адно з тых, якія так часта атрымлівае аўтар.

Колькі хвалюючай сілы і непасрэднасці ў гэтым прызнанні чытача. „Я вельмі люблю Вашы песні. Калі-б мне было восемнаццаць год, я выбірала-б вас у Вярхоўны Совет" (Н. Чэрнышова).

Камандзір запаса тав. Орлоў, праслухаўшы па радыё песню „Если завтра война", напісаў аўтару такія ўсхваляваныя радкі: „Ваша песня прысароміла мяне як камандзіра запаса. Я буду займацца нанава ваеннай справай".

Часам чытач выступае ў ролі рэдактара: „Я думаю,—піша П. Барэноў,—што ў прыпеву песні патрэбна было-б замяніць адзін радок, а іменна: „будь сегодня к походу готов", замяніць: „мы сегодня к походу готовы". Гэта будзе пераканальней для ворагаў, а для нас прыемней і гучней".

Чытач, вядома, памыляецца. Змяніць радок па яго ўказаннях—значыць парушыць рыфму і самы памер. Але цікава і каштоўна тое, што чытач прымае блізка да сэрца кожны радок паэта.

Артыст, выконваючы „Москву майскую", дапусціў нейкую вольнасць. Замест Масква—„непобедимая", ён праспяваў: „никем неповторимая". Слухач нездаволен і ён піша аб гэтым паэту: чаму „неповторимая"? Хто сказаў, што вопыт Масквы непаўтарымы?

Кожная песня выклікае дзесяткі водгукаў. І, як правіла, кожнае пісьмо канчаецца просьбай напісаць новыя песні.

Чытаеш пісьмы, адрасаваныя да Лебядзева-Кумача, і думаеш: якім шчаслівым павінен адчуваць сябе паэт, на долю якога выпала такая велізарная ўвага.

Вялікі Беранжэ быў цанімы і любімы народам, але якую горкую чашу пакут прышлося выпрабаваць выдатнаму песенніку французскага народа. Нямала перажываў і Ружэ-дэ-Ліль,—аўтар „Марсельезы", Дюпон,—аўтар „Песни рабочих".

20 ліпеня 1826 года Беранжэ пісаў Ружэ-дэ-Лілю:

„Я хачу звярнуцца да Вас з навучаннямі. Не чырванейце ад таго, што Вас арыштавалі за даўгі. Хутчэй уся нацыя павінна чырванець за тыя ліхія прыгоды, якім увесь час падвяргаецца аўтар „Марсельезы". Я не раз крычаў аб гэтым у салонах эгаістаў".

У другім пісьме Беранжэ пісаў:

„Мой дарагі сябра, я атрымаў пісьмо ад Дюпона. Ён далёка не ўпэўнен у сваім абранні ні у Л'Эры, ні ў Берне“.

Совецкая краіна акружае сваіх песняроў выключнай увагай. Дзе яшчэ можна бачыць такое грандыёзнае і захапляючае відовішча: дзесяткі тысяч людзей, дэманструючы любоў да партыі, да ўрада, з найвялікшым энтузіязмам выконваюць „Песню о родине“—гэты сапраўдны патрыятычны гімн совецкага народа.

Паэт шчаслівы. Абраны народам у Вярхоўны Совет РСФСР, акружаны ўвагай партыі і ўрада, ён з поўным правам усклікваю:

Как весело мне, граждане,
В моей большой стране,—
Я нужен всем и каждому,
И каждый нужен мне.

Как радостно мне, граждане,
В моей большой стране,—
Пою я песни каждому,
И каждый вторит мне.

---



АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая 76, Дом Пісьменніка. Тэлефон 22-792.**

ЗМЕСТ

